# ЗМЕСТ

## ПАСХА

Пасхальнае віншаванне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
Пропаведзь у Нядзелю 2-ю пасля Пасхі.
Пра Фаму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 14
Пропаведзь у Нядзелю 3-ю пасля Пасхі.
Святых жанчын-міраносіц . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 19
Пропаведзь у Нядзелю 4-ю пасля Пасхі.
Пра паралізаванага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 25
Пропаведзь у Нядзелю 5-ю пасля Пасхі.
Пра самаранку . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 30
Пропаведзь у Нядзелю 6-ю пасля Пасхі.
Пра сляпога . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 34
Пропаведзь у Нядзелю 7-ю пасля Пасхі.
Памяць айцоў Першага Усяленскага Сабору . . . . . . . . . . . 37

## ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦА

Віншаванне ў Дзень Святой Троіцы, Пяцідзесятніцы . . . . . . . . 43
Пропаведзь у Нядзелю 1-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Дзень усіх святых . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 47
Пропаведзь у Нядзелю 2-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Дзень святых Рускай Зямлі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 51
Пропаведзь у Нядзелю 3-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Дзень усіх беларускіх святых . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 55
Пропаведзь у Нядзелю 4-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра сотніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 58
Пропаведзь у Нядзелю 5-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра гергесінскіх апантаных . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 66
Пропаведзь у Нядзелю 6-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра паралізаванага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 68
Пропаведзь у Нядзелю 7-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Двое сляпых і апантаны нямы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 73
Пропаведзь у Нядзелю 8-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Насычэнне пяццю хлябамі пяці тысяч чалавек у пустыні . . . . 79
Пропаведзь у Нядзелю 9-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра суцішэнне буры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 83
Пропаведзь у Нядзелю 10-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апантаны хлопец . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 87
Пропаведзь у Нядзелю 11-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Прытча пра літасцівага цара і жорсткага пазыкадаўца . . . . . . 92

Пропаведзь у Нядзелю 12-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Багаты юнак. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 97
Пропаведзь у Нядзелю 13-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Вінаграднік і вінаградары . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 100
Пропаведзь у Нядзелю 14-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра пакліканых на пір . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 104
Пропаведзь у Нядзелю 15-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра найбольшую запаведзь . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 108
Пропаведзь у Нядзелю 15-ю пасля Пяцідзесятніцы
і нядзеля перад Уздзвіжаннем . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 112
Пропаведзь у Нядзелю 16-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Прытча аб талантах . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 115
Пропаведзь у Нядзелю 16-ю пасля Пяцідзесятніцы
і нядзеля пасля Уздзвіжання . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 120
Пропаведзь у Нядзелю 17-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра ацаленне дачкі хананеянкі. . . . . . . . . . . . . . . . . . . 123
Пропаведзь у Нядзелю 18-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Цудоўны ўлоў рыбы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 127
Пропаведзь у Нядзелю 19-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апостальскае чытанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 131
Пропаведзь у Нядзелю 19-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Шлях у Царства Нябеснае . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 136
Пропаведзь у Нядзелю 20-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апостальскае чытанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 141
Пропаведзь у Нядзелю 20-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Уваскрашэнне сына Наінскай удавы . . . . . . . . . . . . . . . 145
Пропаведзь у Нядзелю 21-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Прытча пра сейбіта . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 149
Пропаведзь у Нядзелю 22-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Прытча пра багацея і Лазара . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 153
Пропаведзь у Нядзелю 23-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра апантанага у Гадарынскай краіне . . . . . . . . . . . . . 158
Пропаведзь у Нядзелю 24-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Ацаленне хворай жанчыны і ўваскрашэнне дачкі Іаіра . . . . . . . 162
Пропаведзь у Нядзелю 25-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апостальскае чытанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 167
Пропаведзь у Нядзелю 25-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Прытча пра міласцівага самараніна . . . . . . . . . . . . . . . 171
Пропаведзь у Нядзелю 26-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апостальскае чытанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 175

Пропаведзь у Нядзелю 26-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Прытча пра неразумнага багацея . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 179
Пропаведзь у Нядзелю 27-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апостальскае чытанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 183
Пропаведзь у Нядзелю 27-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра скрыўленую жанчыну . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 190
Пропаведзь у Нядзелю 28-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Апостальскае чытанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 198
Пропаведзь у Нядзелю 28-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра пакліканых на святочную вячэру (нядзеля святых праайцоў) . 204
Пропаведзь у Нядзелю 29-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Ацаленне дзесяці хворых . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 209
Пропаведзь у Нядзелю 30-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Як дасягнуць жыцця вечнага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 213
Пропаведзь у Нядзелю 31-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Вяртанне зроку сляпому . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 216
Пропаведзь у Нядзелю 32-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра Закхея . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 219
Пропаведзь у Нядзелю 33-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра мытара і фарысея . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 223
Пропаведзь у Нядзелю 34-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра блуднага сына . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 228
Пропаведзь у Нядзелю 35-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Пра Страшны Суд. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 232
Пропаведзь у Нядзелю 36-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Успамін пра Адамава выгнанне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 236
Пропаведзь у Нядзелю 36-ю пасля Пяцідзесятніцы.
Чын прабачэння . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 240

## ВЯЛІКІ ПОСТ

Пропаведзь у Нядзелю 1-ю Вялікага посту.
Перамога Праваслаўя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 246
Пропаведзь у Нядзелю 2-ю Вялікага посту.
Свяціцель Грыгорый Палама . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 250
Пропаведзь у Нядзелю 3-ю Вялікага посту.
Крыжапаклонная Нядзеля . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 255
Пропаведзь у Нядзелю 4-ю Вялікага посту.
Прападобны Іаан Лесвічнік . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 261
Пропаведзь у Нядзелю 5-ю Вялікага посту.
Памяць Марыі Егіпецкай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 266

## ДВУНАДЗЕСЯТЫЯ НЕПЕРАХОДЗЯЧЫЯ, ВЯЛІКІЯ СВЯТЫ І АСОБНЫЯ ДНІ

Пропаведзь на Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы . . . . . . . .271
Пропаведзь на Увядзенне ў храм Божай Маці . . . . . . . . . . . . . .273
Пропаведзь на Увядзенне ў храм Божай Маці . . . . . . . . . . . . . .276
Пропаведзь на Увядзенне ў храм Божай Маці . . . . . . . . . . . . . .280
Пропаведзь на Благавешчанне Прасвятой Багародзіцы. . . . . . .283
Пропаведзь у нядзелю перад Нараджэннем Хрыстовым . . . . . .289
Віншаванне з Нараджэннем Хрыстовым. . . . . . . . . . . . . . . . . . .294
Пропаведзь у нядзелю пасля Нараджэння Хрыстова . . . . . . . .299
Пропаведзь на Абрэзанне Гасподне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .303
Пропаведзь на Стрэчанне Гасподне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .306
Пропаведзь у нядзелю перад Богаяўленнем . . . . . . . . . . . . . . .311
Пропаведзь на Святое Богаяўленне, Хрышчэнне Госпада
і Бога нашага Іісуса Хрыста. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 315
Пропаведзь у нядзелю пасля Богаяўлення . . . . . . . . . . . . . . . .318
Пропаведзь на Праабражэнне Гасподне. . . . . . . . . . . . . . . . . . .325
Пропаведзь на асвячэнне пладоў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .328
Пропаведзь у дзень памяці святых навамучанікаў . . . . . . . . . .331
Пропаведзь у дзень Уважода Гасподня ў Іерусалім. . . . . . . . . .335
Пропаведзь у Вялікі Чацвер. Тайная вячэра . . . . . . . . . . . . . .340
Пропаведзь перад Плашчаніцай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .342
Пропаведзь перад Плашчаніцай . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .344
Пропаведзь у дзень Узнясення Гасподня . . . . . . . . . . . . . . . . .349
Пропаведзь у дзень Святой Троіцы, Пяцідзесятніцы . . . . . . . .351
Пропаведзь на Успенне Прасвятой Багародзіцы . . . . . . . . . . . .355
Пропаведзь у нядзелю перад Уздвіжаннем . . . . . . . . . . . . . . . .359
Пропаведзь на Уздвіжанне Крыжа Госпадняга . . . . . . . . . . . . .360
Пропаведзь у нядзелю пасля Уздвіжання . . . . . . . . . . . . . . . . .364
Пропаведзь на Пакроў Божай Маці . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .366
Пропаведзь у дзень памяці свяціцеля і цудатворца Мікалая. . . .369
Пропаведзь у дзень памяці сарака мучанікаў Севасційскіх . . . . .377

# ПАСХАЛЬНАЕ ВІНШАВАННЕ

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Віншую вас, дарагія браты і сёстры, з вялікім і радасным святам - сусветнай радасцю Светлага Хрыстова Уваскрасення! Царква ў сваіх песнапеннях называе гэту падзею - паўстанне з мёртвых Сына Божага і Госпада нашага Ісуса Хрыста - Святам са святаў і Урачыстасцю з урачыстасцяў, якія сцвярджаюць у нашым жыцці ідэалы дабрыні і святасці, нараджаюць у душы самыя светлыя і высакародныя пачуцці. Пасха - гэта не проста свята. Гэта - сутнасць хрысціянства. Якою свабодай і якою бясстрашнасцю надзяліў Збавіцель хрысціянаў! Якую магутнасць усяляе Ён у душы Сваіх паслядоўнікаў! Мы не сіроты ў гэтым свеце. З намі - Айцец Нябесны! Няхай прыгнятаюць нас штодзённыя клопаты і турботы, няхай пануюць на зямлі хваробы, гора і нястачы, няхай лютуе

«князь свету гэтага» - з намі Гасподзь Усемагутны! Няхай пагражаюць нам тысячы смерцяў - з намі Бог, Які ўваскрашае з мёртвых!

Смерць на зямлі цяпер для нас не страшная: яна - сон, яна - успенне, яна - часовая з'ява ў нашым быцці.

«Смерць, дзе тваё джала?! Пекла, дзе твая перамога?!» Царква сцвярджае, што Сын Божы смерць нашуператварыў у сустрэчу з Сабой, у пярэдадзень уваскрасення. Таму не баімся больш мы, хрысціяне, нікога, хто можа пазбавіць нас зямнога жыцця - нам у Хрысце належыць жыццё вечнае. Пра гэта сведчыць прыклад мільёнаў мучанікаў старажытнасці і нашых дзён: яны сустрэлі смерць і перамаглі яе вераю і любоўю...

Мы жывем у свеце, які адрокся ад Бога і заняты толькі самім сабою. І амаль няма месца ў ім любові Божай, Божаму святлу. Але вось у гэты дзень мы гаворым самі сабе, і гаворым свету, і сведчым: не памерла, не загінула, не знікла, не адышло ў нябыт Царства Хрыстова.

«Святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго.» (Іаан.1:4) «Вароты пякельныя не адолеюць Царкву» (Мф.16:18), не перамогуць Царства Божага - Царства жыцця і Царства любові, перамогі

над злом і над смерцю. І радасці гэтай веры ніхто не адыме ад нас.

Хрыстос уваскрэс для таго, каб гэтае пасхальнае лікаванне было бясконцым не толькі ў нашым зямным, але і ў будучым жыцці.

Уваскрасенне ў любові Божай - вось мэта, вось найвышэйшы сэнс чалавечага жыцця.

У светлы дзень Пасхі Гасподняй малітоўна жадаю усім вам найвялікшай радасці - узаемнай любові і яднання ў Хрысце, Які перамог смерць і ўваскрэс. І жыць, і памерці, і ўваскрэснуць у любові Збавіцеля, праслаўляючы Яго за вялікія міласці да роду чалавечага, - вось шчасце хрысціянскае.

З Пасхаю Гасподняй вас, праваслаўныя! Хрыстос уваскрос!

***2008***

## ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Якой нябеснай светлай радасцю звіняць гэтыя два словы і адгукаюцца ў кожнай хрысціянскай душы. Хрысціянства – рэлігія радасці.

Пасха – гэта не ўспамін, гэта не мара. Пасха – гэта рэальнасць! Пропаведзь Уваскрасення Хрыстова – пропаведзь жывых сведкаў. Апосталы прапаведуюць факт, падзею, сведкамі якой яны былі.

Першыя хрысціяне сваю веру называлі не рэлігіяй, а Добрай Весткай, і сваё прызначэнне ў свеце бачылі ў яе абвяшчэнні і распаўсюджанні. Першыя хрысціяне ведалі і верылі, што Уваскрасенне Хрыстова – не проста прычына штогадовага святкавання, а крыніца сілы і перамянення жыцця.

Хрысціянства сцвярджае, што адзін чалавек можа быць мацнейшы за ўсіх. І менавіта ў гэтым сцверджанні добрая вестка пра Хрыста. Хрыста без улады, без супрацьборства, без якой бы та ні было зямной моцы. Здраджаны, пакінуты ўсімі і – Пераможца.

Ад пустой магілы святло Уваскрасення стала нястрымна разлівацца па ўсім свеце, выганяючы смерць і робячы жыццё сапраўды жыццём.

Пасха Хрыстова – гэта свята дзівоснай перамогі над смерцю і цялеснай, і духоўнай. Смерць на зямлі цяпер не палохае нас. Царк-

ва сцвярджае, што ў смерці мы сустракаем Хрыста, што Ён смерць ператварыў у сустрэчу з Сабой, у пачатак уваскрасення.

Таму і няма месца тужлівай безнадзейнасці і роспачы ў душы хрысціянскай. Што б ні здаралася ў свеце, не бойцеся нічога. Мы жывем там, дзе Уваскрэслы Хрыстос. Мы не сіроты ў гэтым свеце. З намі Айцец Нябесны!

Уваскрасенне Хрыстова напаўняе наша жыццё сэнсам, усяляе веру ў будучае. Светлая радасць Уваскрасення Хрыстова злучаецца сёння з цвёрдай надзеяй на перамогу праўды і святла ў нашым жыцці. Гэта перамога неабходна нам заўсёды і, асабліва, у сённяшні няпросты час.

«Не прыйдзе Царства Божае бачным чынам», - сказаў Хрыстос. Царства Божае прыходзіць кожны раз – у сіле, святле і перамозе, – калі я, калі кожны вернік выносіць яго з храма і пачынае ім жыць у сваім жыцці.

І ў жыцці кожнага з нас, хто хаця б на імгненне адчуў блізасць нябеснага свету, адбываецца сустрэча з Уваскрэслым Госпадам, і Ён прыходзіць да кожнага, стукаючы ў дзверы яго сэрца, знаходзячы для кожнага свае словы. І мы павінны пачуць іх і адгукнуцца на іх, таму што Гасподзь прыйшоў выратаваць, адухатварыць і змяніць жыццё не толькі ўсіх, але і кожнага з нас. Таму сёння, у пасхальны дзень, вяртаючыся дадому, няхай кожны з вас нясе ў сэрцы сваім гэту радасць і думку, што Гасподзь явіўся і мне. Ён і для мяне паўстаў з мёртвых, і для мяне гаворыць, і са мной застаецца, і будзе заўсёды мой Гасподзь, мой Збавіцель, мой Бог.

Хацелася б шчыра пажадаць вам такой пасхальнай радасці, якая б ніколі ў вас не змяншалася і не страчвалася б. Няхай гэтая пасхальная радасць умацоўвае ў нашых сэрцах і веру, і надзею, і любоў і да Бога, і да ўсіх тых людзей, якія знаходзяцца побач з намі. З Пасхай Гасподняй вас, праваслаўныя!

Хрыстос уваскрэс!

***2009***

## ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Якой нябеснай светлай радасцю гучаць гэтыя два словы ў кожнай хрысціянскай душы. Хрысціянства – рэлігія радасці. Пасха – гэта не ўспамін, гэта не мара. Пасха – гэта рэальнасць!

Старажытныя хрысціяне сваю веру называлі не рэлігіяй, а Добрай Весткай, і сваё прызначэнне ў свеце бачылі ў яе абвяшчэнні. Яны верылі і ведалі, што Уваскрасенне Хрыстова – не проста прычына штогадовага святкавання, а крыніца сілы і перамяненння жыцця. Гасподзь перамог смерць для таго, каб нас усіх без выключэння паклікаць да вечнага блажэннага жыцця, а значыць, да Самога Бога. Наша часовае зямное жыццё далучаецца да жыцця Божага і ў ім набывае вечнасць.

Уваскрасенне Госпада азарыла чалавецтва святлом ісціны и паказала сапраўднасць усіх Божых абяцанняў.

Уваскрасенне Хрыстова напаўняе наша жыццё сэнсам, дорыць веру ў будучае. Светлая радасць Уваскрасення Хрыстова аб'ядноўваецца сёння з цвёрдай надзеяй на перамогу праўды і святла ў нашым жыцці, якая так неабходна нам заўсёды і, асабліва, у цяперашні няпросты час.

Пасха Хрыстова – гэта свята дзівоснай перамогі над смерцю і цялеснай, і духоўнай. Таму і няма месца скрушнай безнадзейнасці і роспачы ў душы хрысціянскай.

Пасха – гэта не проста свята. Гэта – сутнасць хрысціянства.

Няхай цяжкія выпрабаванні, якія трапляюцца на нашым жыццёвым шляху, няхай пакутлівыя зямныя хваробы, няхай лютуе сусветнае зло – з намі Гасподзь Усемагутны! Няхай пагражаюць нам тысячы смерцяў – з намі Бог, Які ўваскрашае памерлых!

Смерць на зямлі цяпер для нас не страшная; яна – сон, яна – успенне. Царква сцвярджае, што ў смерці мы сустракаем Хрыста, што Ён смерць ператварыў у сустрэчу з Сабой. Таму не баімся больш мы, хрысціяне, нікога, хто можа адняць у нас зямное жыццё – нам у Хрысце належыць жыццё вечнае. Сведкі гэтаму мільёны мучанікаў старажытнасці і нашых дзён: яны сустрэлі смерць і перамаглі яе верай і любоўю...

Мы жывем у свеце, які адрокся ад Бога і заняты толькі самім сабой.

І амаль няма месца ў свеце гэтым любві Божай, Божаму святлу. Але ў гэты дзень мы гаворым сабе, і гаворым свету і сведчым: не памерла, не загінула, не знікла з твару зямлі Царства Хрыстова. Святло ў цемры свеціць, і цемра перамагчы яго не можа; вароты пякельныя не пераможуць Царкву, не пераможуць Царства Божае, Царства жыцця і Царства любві. Ніхто не адыме ад нас перамогу над злом і смерцю і радасць веры.

Хрыстос уваскрэс для таго, каб гэта пасхальная радасць была бясконцай не толькі ў нашым зямным, але і ў будучым жыцці.

Уваскрасенне ў любві Божай – такая мэта, такі найвышэйшы сэнс чалавечага жыцця.

У светлы дзень Пасхі Гасподняй малітоўна жадаю ўсім вам найвялікшай радасці – узаемнай любві і адзінства ў Хрысце Уваскрэслым. І жыць, і памерці, і ўваскрэснуць у любві Збавіцеля, “Пасху праслаўляючы вечную”, – вось шчасце хрысціянскае.

З Пасхай Гасподняй вас, праваслаўныя! Хрыстос уваскрэс!

***2010***

## ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Сёння Дзень сусветнай і ўсеагульнай радасці і нашай светлай Урачыстасці. Над змрокам нянавісці і пакутаў ззяе чалавецтву Уваскрасенне Хрыстова.

З пустой магілы святло Уваскрасення няспынна распаўсюджваецца па ўсім свеце, перамагаючы смерць і ператвараючы наша існаванне ў сапраўднае жыццё.

У пасхальную ноч мы святкуем магчымасць карэннага перамянення ўсяго нашага жыцця.

У свеце пануе ўлада і моц, страх і прыгнёт. Ад іх вызваляе нас Хрыстос.

Пасха Хрыстова – гэта свята дзівоснай перамогі над смерцю і цела, і душы. Смерць на зямлі цяпер не страшная для нас: яна – сон, яна – успенне, яна – чаканне нашага ўваскрасення з мёртвых... Не выпадкова святы апостал Павел гаворыць: “Для мяне жыццё – Хрыстос, і смерць – набытак” (Флп.1:21).

Царква сцвярджае, што ў смерці мы сустракаем Хрыста, што Ён смерць ператварыў у сустрэчу з Сабой, у пярэдадзень Уваскрасення.

Таму не баімся больш мы, хрысціяне, нікога, хто можа нас пазбавіць зямнога жыцця – нам у Хрысце належыць жыццё вечнае. Пра гэта сведчаць цяпер мільёны мучанікаў старажытнасці і нашага часу: яны сустрэлі смерць і перамаглі яе верай і любоўю... Іх подзвіг стаў жывым сведчаннем слоў Святога Пісання: “Калі жывём – дзеля Госпада жывём, калі паміраем – дзеля Госпада паміраем. І таму, ці жывём, ці паміраем – заўсёды Гасподнія” (Рым.14:7-8).

Таму і няма месца тужлівай безнадзейнасці і роспачы ў душы хрысціянскай.

Што б ні здаралася ў свеце – нічога не бойцеся!

Мы жывем там, дзе Хрыстос уваскрэслы. Мы не сіроты ў гэтым свеце. З намі Айцец Нябесны!

Таму, хто знаходзіцца ў роспачы, упаў духам і знясілены пад цяжарам жыццёвых выпрабаванняў, неабходна пазбавіцца маркоты і знайсці ў сабе новыя сілы, каб цярпліва несці дадзены Богам жыццёвы крыж.

Няхай прыгнятаюць нас штодзённыя клопаты і турботы, няхай пануюць на зямлі хваробы, гора і нястачы, няхай лютуе «князь свету гэтага» – з намі Гасподзь Усемагутны! Няхай пагражаюць нам тысячы смярцей – з намі Бог, Які ўваскрашае з мёртвых!

Уваскрасенне Хрыстова напаўняе наша жыццё сэнсам, дорыць веру ў будучыню.

Светлая радасць Уваскрасення Хрыстова спалучаецца сёння з цвёрдай надзеяй на перамогу праўды і святла ў нашым жыцці. Перамога гэта неабходна нам заўсёды і, асабліва, у цяперашні няпросты час.

Уваскрасенне ў любві Божай – такая мэта, такі найвышэйшы сэнс чалавечага жыцця.

У светлы дзень Пасхі Гасподняй малітоўна жадаю вам найвялікшай радасці – узаемнай любві і адзінства ў Хрысце.

І жыць, і памерці, і ўваскрэснуць у любві Божай – вось шчасце хрысціянскае.

З Пасхай Гасподняй! Сапраўды Хрыстос уваскрэс!

***2011.***

## *Пропаведзь у Нядзелю 2-ю пасля Пасхі*

## ПРА ФАМУ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Ні Евангелле, ні Царква не вучаць, што памерлы Хрыстос быў біялагічна вернуты да жыцця такім самым, якім быў Ён да Сваёй смерці. Ён уваскрэс у новым і слаўным вобразе: Яго чалавечая прырода, паўстаўшая з мёртвых, была напоўнена вечным жыццём Царства Божага.

Цела Хрыстова пасля Уваскрасення стала іншым, набыло новыя якасці: стала перамянённым, праслаўленым, духоўным – гэта значыць, цалкам падпарадкаваным Духу. Прастора і час не абмяжоўвалі Уваскрэслага Госпада. Збавіцель адначасова з'яўляўся ў розных месцах, праходзіў скрозь замкнёныя дзверы. Відавочна, Ён ужо не меў патрэбы ў зямной ежы, але, каб пераканаць вучняў у сваёй рэальнасці, спажываў яе перад імі. Цела Паўстаўшага з мёртвых Госпада захавала нанесеныя Яму раны і знявечанні. У гэтым мы бачым указанне на тое, што пакуты, подзвігі і ўсе годныя ўчынкі, зробленыя добрымі людзьмі, знойдуць сваё месца пры іх вечным праслаўленні.

У гэтыя светлыя дні, поўныя радасных перажыванняў, калі апосталы пераканаліся ў тым, што Сын Божы сапраўды ўваскрос, Збавіцель настойліва падкрэслівае ім, што перад імі не здань, не прывід, не дух, што уваскрэсла Яго цела, узышоўшы на найвышэйшую ступень духоўнай цялеснасці, якая не ведае перашкодаў і абмежаванняў, уласцівых грубай матэрыі.

Жывы Гасподзь – у гэтым пераконваліся вучні. Але вось з адзінаццаці толькі адзін Фама застаецца як бы ў баку ад гэтага. Горыччу крыўды сціскаецца сэрца Фамы, і ён усклікае: "Калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўкладу рукі маёй у бок Яго, не паверу." (Іаан. 20:25) І ў гэтым "калі не ўбачу – не паверу" было выражана, як заўважае Святая Царква, "добрае нявер'е Фамы" – гэта

значыць, жаданне хутчэй самому ўбачыць Паўстаўшага з мёртвых Настаўніка.

І вось на восьмы дзень пасля Уваскрасення зноў з'явіўся Ісус сярод вучняў, зноў пачуўся Яго ціхі голас: "Мір вам" (Іаан. 20:26) і звернуты да Фамы ласкавы дакор: "Дай палец твой сюды і паглядзі на рукі Мае; і дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, а будзь веруючым." (Іаан. 20:27) – "Гасподзь мой і Бог мой"(Іаан. 20:28), трапечучы ад радасці ўсклікнуў Фама.

Звярніце ўвагу на тое, што Уваскрэслы Хрыстос не з'явіўся ні Анне, ні Каіафе, ні каму-небудзь іншаму са Сваіх мучыцеляў. Чаму? Ды таму, што іх злая воля не прымала відавочнага факта паўстання з мёртвых Таго, Каго яны асудзілі на смерць. Да іх цалкам адносіліся словы Аўраама: " Калі б хто з мёртвых уваскрэс – не павераць." (Лк. 16:31) Але Ён з'явіўся "добраму няверʼю Фамы", з'явіўся і Свайму ганіцелю Саўлу, заклікаўшы яго да дабравешчання, бо душа Саўла сумавала па Богу, шукала Ісціну. Саўл не толькі не дакранаўся да ран Уваскрэслага, але нават не бачыў Яго аблічча. Праз тры гады пасля крыжовых пакутаў Збавіцеля з вышыні Нябёсаў прагучаў заклік Сына Божага і перамяніў душу Саўла так, што былы ганіцель стаў святым першавярхоўным апосталам Паўлам.

Прызнаваць існаванне нейкага найвышэйшага абсалюта, якога можна назваць богам, напэўна, лёгка. Сёння можна знайсці вельмі мала людзей, якія б не верылі ў тое, што Бог сапраўды існуе. Лёгка, відаць, верыць у якогасьці там трансцэндэнтнага Бога.

Мы павінны не проста верыць у быццё Бога, а паверыць у Таго Бога, Які дзеля нас, людзей, і дзеля нашага збаўлення стаў чалавекам, пацярпеў пакуты і прыняў смерць, праліў Сваю Пачэсную Кроў, а затым уваскрэс, каб і ўсе мы разам з Ім уваскрэслі і былі ўзнесены на неба.

На гэтым будуецца ўсё жыццё Царквы, увесь хрысціянскі светапогляд, уся веліч чалавека, усё бязмежнае змірэнне Божае. У Хрысце нам раскрыта і тое, і другое; і мы радуемся не толькі аб тым, што Бог ёсць Бог любві, што Бог ёсць Збавіцель наш, але радуемся і з тае нагоды, што ў Ім нам адкрыта ўся веліч чалавека. Чалавек такі

вялікі, што Бог можа ўмясціцца ў ім; чалавек настолькі вялікі, што Хрыстос можа прайсці праз вароты смерці і ўвайсці ў жыццё вечнае і з Сабою захапіць і ўвесці нас у вечнасць. Чалавек настолькі вялікі, што Хрыстос, далучыўшыся да нашай чалавечай прыроды ва ўсіх адносінах, акрамя граху, цалкам далучае нас да Сваёй Боскай сутнасці, калі толькі мы адкрываемся Яго ўздзеянню. Але наша ўваскрасенне і наша ўзнясенне на неба будуць немагчымыя, калі мы самі не зменімся, калі з намі не адбудзецца перамяненне ўласнай грахоўнай сутнасці.. Менавіта ў гэтым і ёсць тая цяжкасць, з якой сутыкаецца шмат хто з людзей. Аказваецца, мы не проста павінны верыць, а павінны ЖЫЦЬ у адпаведнасці са сваёй верай. А гэта не проста, таму што прызнаваць быццё Бога, Які недзе там існуе, могуць усе, а вось верыць у Бога, Які не толькі існуе, але і любіць мяне і чакае ад мяне любові ў адказ, можа далёка не кожны. Нам неабходна не проста паверыць у існаванне або быццё Бога, а імкнуцца сустрэць Яго як доўгачаканага госця, як такую дарагую істоту, без Якой жыць немагчыма, без Якой страчвае сэнс ўсё жыццё.

Апосталы зачыніліся ў Сіонскай святліцы “з-за страху перад іудзеямі” (Іаан. 20:19). Хоць Хрыстос ім ўжо з’яўляўся і яны ведалі, што Ён уваскрэс, але страх яшчэ ўсё роўна знаходзіўся ў іх сэрцах. За ўсю гісторыю хрысціянскай царквы вось ужо амаль дзве тысячы гадоў і, хутчэй за ўсё, да другога прышэсця ў славе Госпада нашага Ісуса Хрыста хрысціяне збіраліся і будуць збірацца “пры зачыненых дзвярах”. Гэта значыць, што ўвесь час яны будуць у нейкім страху перад моцнымі свету гэтага, перад грамадствам свету гэтага; увесь час яны будуць у меншасці, і для таго, каб ім верыць, вызнаваць сваю веру, маліцца, каб жыць ім хрысціянскім жыццём, заўсёды прыходзіцца быць пры “дзверах зачыненых”. Хіба гэта не адбываецца і ў нашым з вамі жыцці? Хіба і мы не жывем так, як жылі першыя хрысціяне – пры “зачыненых дзвярах”? Мы збіраемся, молімся, святкуем, вызнаем сваю веру, верым у Хрыста і праслаўляем Яго, імкнемся выконваць запаведзі Божыя, жыць згодна з Яго вучэннем – і ўсё гэта ў сваім асабістым жыцці, у сваім сямейным жыцці, у сваім вузкім коле аднадумцаў. А ў знешнім свеце, які адмаўляецца ад Хрыста, з-за вызнання сва-

ёй веры мы церпім розныя абмежаванні. Сапраўды, усё жыццё хрысціянскай царквы – і наша з вамі таксама – адбываецца “пры зачыненых дзвярах з-за страху перад іудземі ”: з-за страху перад атэістычным грамадствам, з-за страху перад іншымі людзьмі ў свеце гэтым.

А Збавіцель заўсёды прыходзіць да нас і кажа нам: “Мір вам! Не бойся, малы статак, у свеце гора зазнаеце, але мужайцеся, будзьце смелымі – Я перамог свет.” “Ідзіце ў свет, – казаў Ён апосталам, – ідзіце, прапаведуйце, вучыце ўсе народы, прыводзьце іх да веры, дабравесціце ім Евангелле, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Святога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаваў вам, а Я заўсёды буду з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку.”



І зараз гучыць Яго голас, звернуты да нас, і цяпер Сын Божы кажа нам: ” Нягледзячы на тое, што жывяце вы за зачыненымі дзвярымі, што паддаецеся страху, адчыняйце дзверы і выходзьце, ідзіце ў свет, прапаведуйце Евангелле, хрысціце, вучыце людзей выконваць усё, што Я запаведаў, чаму Я вучыў, далучайце людзей да Майго вучэння. Што б ні здарылася – Я буду з вамі.”

Гісторыя апостала Фамы – гэта гісторыя ўсёй хрысціянскай царквы.І наша з вамі гісторыя таксама.. З намі адбывалася і адбываецца тое ж, што адбылося з апосталам Фамою.Мы верай сваёй перамагаем слабасць, спакусу, нявер’е, малавер’е. Пасля ўпадку веры, пасля крызісу мы зноў знаходзім у сабе сілы глыбока, аддана і свядома верыць у Госпада і гаворым Яму: “Гасподзь мой і Бог мой!” І мы маем большае абяцанне, чым апостал Фама, таму што Гасподзь сказаў: “Ты ўвераваў, таму што ўбачыў Мяне, блажэнныя тыя, якія не бачылі і ўверавалі” (Іаан. 20:29). Мы не бачым фізічна, мы не маем ніякіх рэчавых доказаў, але мы верым усёй сваёй душой. Бо калі

не верым ва Уваскрасенне Хрыстова, то, як кажа апостал Павел, вера наша будзе пустая і дарэмная. Бо калі Хрыстос не уваскрос, тады наша дабравешчанне, наша хрысціянскае вучэнне будзе проста адной са шматлікіх філасофскіх, ідэалагічных сістэмаў, якіх ужо шмат было, ёсць і будзе. Але мы не толькі верым, але і ведаем, браты і сёстры, ведаем, як ведалі апосталы, якія бачылі Збавіцеля, якія дакраналіся да Яго, якія пераканаліся, што Хрыстос сапраўды уваскрос. І мы з Ім уваскрэснем, уваскрэсне і ўсё чалавецтва.

Апостал Фама ўбачыў Хрыста і забыў пра свой страх. Ён смела і адкрыта вызнае сваю веру ў Хрыста Уваскрэслага: “Гасподзь мой і Бог мой!

Ісціна Хрыстова Уваскрасення ёсць Ісціна абсалютная, дасканалая. Гэта не толькі Ісціна веры, але таксама і Ісціна розуму, перамога Праўды і Дабра. За гэтую Ісціну былі распятыя апосталы Пётр і Андрэй, за Яе адсеклі галовы апосталам Іакаву і Паўлу, пакаралі смерцю апосталаў Філіпа і Нафанаіла. Апостал Фама трапіў у цямніцу, прайшоў праз катаванні і, нарэшце, працяты пяццю дзідамі, адышоў да Госпада. За Паўстаўшага з мёртвых Царква Яго прайшла праз ганенні. За Імя Яго ішлі і ідуць на пакуты тысячы і тысячы мучанікаў. Калі б і мы з вамі заўсёды маглі падобным чынам вызнаваць Хрыста ў сваім жыцці!

Вера – гэта такі стан чалавека, які дапамагае яму заўсёды адчуваць прысутнасць Бога ў сваім уласным жыцці. Шлях веры – цяжкі шлях, на якім сустракаюцца шматлікія перашкоды. Дзеля мяне асабіста, дзеля кожнага з нас прыходзіў на гэтую зямлю Гасподзь. У такога Бога мы павінны верыць. І калі дзеля мяне асабіста Гасподзь прыйшоў на гэту зямлю, калі Гасподзь хоча, каб я быў разам з Ім, калі Гасподзь жадае мне збаўлення, жадае выратаваць маю душу і хоча зрабіць мяне Сваім сынам або дачкою, – то я таксама павінен адгукнуцца на Яго любоў і не быць да яе абыякавым, пасіўным, інэртным. Самае страшнае – гэта абыякавасць і раўнадушша да Ісціны. Будзем жа пазбягаць іх! Гасподзь наш Іісус Хрыстос у Сваім Адкрыцці святому апосталу і евангелісту Іаану Багаслову выразна і ясна паказвае нам, якім небяспечным з’яўляецца абыякавасць і раўнадушша ў справах веры. Ён звяртаецца да Ангела,

прадстаўніка Лаадыкійскай Царквы, і гаворыць: "Ведаю твае дзеі. Ты ні халодны, ні гарачы. О, калі б ты быў халодны альбо гарачы! Але так, як ты ні халодны, ні гарачы, дык выкіну цябе з вуснаў Маіх!" (Адкр.3:14-16) Больш рэзка сказана ў царкоўнаславянскім тэксце: "Изблевати тя имам из уст Моих", быццам арганізм рашуча пазбаўляецца і выдаляе з сябе нешта яму карэнным чынам чужароднае і шкоднае.

Мы павінны быць гарачымі, каб заўсёды ў сэрцы трымаць жывое полымя веры ў Таго Бога, Які нас любіць. Дай Бог, браты і сёстры, каб мы з вамі зразумелі і ўсвядомілі гэта; зразумелі і ўсвядомілі не толькі розумам, але – перш за ўсё – сваім сэрцам. І, усвядоміўшы гэта, прыклалі ўсе намаганні для таго, каб кожны з нас не проста лічыў сябе веруючым чалавекам, але і сапраўды жыў у адпаведнасці са сваёй верай – гэта значыць, адгукаўся на тую любоў, якой кожнага з нас любіць Гасподзь. І тады мы ўсе, без выключэнняў, разам з апосталам Фамою зможам заўсёды ўсклікаць: "Гасподзь мой і Бог мой!" Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 3-ю пасля Пасхі*

## СВЯТЫХ ЖАНЧЫН-МІРАНОСІЦ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння, у Нядзелю трэцюю пасля Пасхі, Праваслаўная Царква адзначае свята ў гонар святых жанчын-міраносіц і святых праведных Іосіфа Арымафейскага і Нікадзіма. Са Святога Пісання мы ведаем, што ўсе яны былі вучнямі Гаспада нашага Іісуса Хрыста. Праўда, што да Іосіфа і Нікадзіма, то яны былі тайнымі вучнямі Збавіцеля з-за страху перад іудзеямі.

...Набліжаліся пакуты Сына Божага і Яго смерць на Крыжы. І мы бачым, што нават самыя набліжаныя да Хрыста вучні пакінулі свайго Настаўніка. І той, хто казаў усім: "Пойдзем і мы,

каб памерці з Ім" (Іаан.11:16), апостал Фама, напужаны, уцёк з іншымі, ды і той, хто схапіў нож і адсёк вуха рабу першасвятара, – Пётр, таксама тройчы адрокся ад Хрыста. Не пакінулі Яго толькі гэтыя слабыя і, канешне ж, баязлівыя жанчыны, якія настолькі ўзлюбілі свайго Госпада, што нават тады, калі, здавалася б, разам з Ім на Крыжы памірала іх надзея і іх вера, яны працягвалі верыць, спадзявацца і любіць насуперак усяму.

Як мы ведаем, на Галгофе, побач з Крыжам, знаходзіліся Прачыстая Маці Божая, Іаан, адзіны з Яго вучняў, і жанчыны-міраносіцы. Калі Хрыстос памёр, праведны Іосіф Арымафейскі папрасіў дазволу ў Пілата зняць з Крыжа Цела Ісуса і пахаваць Яго ў сваім фамільным склепе. Была пятніца – пярэдадзень суботы. Тая субота была асабліва значнай для іудзеяў, бо гэта была не проста субота спакою, але гэта быў яшчэ і дзень Пасхі. Таму вельмі хутка, каб выканаць усе патрабаванні старазапаветнага закона, быў пахаваны Гасподзь наш Ісус Хрыстос. І яшчэ не наступіла раніца наступнага за суботай дня, а жанчыны-міраносіцы ўжо спяшаліся да склепа, дзе спачываў Сын Божы. Яны ішлі, каб намазаць мірам Цела іх любімага Настаўніка.

Можна меркаваць, што гэтыя жанчыны не ведалі, што каля магілы Збавіцеля стаіць варта, бо яны нічога пра гэта не кажуць. І нам пра гэта нічога не вядома са старонак Святога Пісання. Адзіным болем іх сэрца была думка пра тое, хто ж адваліць ім вялікі камень ад увахода ў склеп. Заклапочаныя ёю, спяшаліся яны ў начной цемры да магілы, у якой знаходзілася Прачыстае Цела Сына Божага. Якое ж было іх здзіўленне, калі яны ўбачылі, што нехта адваліў камень. Але яшчэ больш здзівіліся яны і, разам з тым, спалохаліся, калі ў глыбіні склепа ўбачылі светлага юнака, які абвясціў ім найвялікшую радасць – вестку аб Уваскрасенні Хрыстовым – і загадаў ісці да астатніх вучняў і расказаць ім пра гэта найвялікшае цуда. І мы ведаем, як хутка вярнуліся жанчыны ў Ерусалім, сярод якіх была і Марыя Магдаліна, узвясціўшая вучням пра Паўстанне з мёртвых Хрыста.

Нядзіўна, браты і сёстры, нам бачыць вялікія натоўпы людзей, якія ішлі за Хрыстом, слухаючы Яго зямную пропаведзь.

Нядзіўна таму, што гэта была не толькі незвычайная прапаведзь, але яна яшчэ суправаджалася і рознымі цудамі. Гасподзь здзяйсняў мноства ацаленняў і нават вяртаў жыццё памерлым, сярод якіх была і дачка Іаіра, і сын наінскай удавы, і праведны Лазар. Нядзіўна было ісці за Хрыстом, калі Ён двойчы здзейсніў цуда насычэння некалькіх тысяч людзей нязначнай колькасцю ежы. Але ўражвае нас тое, што мы бачым гэтых жанчынаў і апостала Іаана Багаслова разам з праведнымі Іосіфам і Нікадзімам у момант найвялікшай знявагі Госпада, калі Ён паміраў на Крыжы. Таму не выпадкова менавіта святыя жанчыны-міраносіцы першымі пачулі ад ангелаў пра Уваскрасенне Хрыстова, бо іх любоў, іх вера і іх надзея былі настолькі вялікімі, што, дзякуючы гэтым сваім дабрадзейнасцям, яны першыя з людзей даведаліся, што Хрыстос уваскрос. І менавіта яны першыя пачулі ад Яго тое “Радуйцеся”, якое навекі стала сутнасцю хрысціянства. Гэтай любові, гэтай адданасці першай дадзена было даведацца, што не трэба больш плакаць, што пераможана смерць і няма і не будзе ўжо ніколі гэтага безнадзейнага расстання. Вось у чым сэнс гэтай Нядзелі жанчын-міраносіц. Яна нагадвае нам, што адны любоў і вернасць ззялі тады, у той безнадзейнай цемры. Яна кліча нас да таго, каб не памерлі і не зніклі ні любоў, ні вернасць у свеце. Яна судзіць наша маладушша, наш страх, наша вечнае і рабскае самаапраўданне. Гэтыя жанчыны, якія на досвітку ідуць да магілы Збавіцеля, – так мала месца займаюць у Евангеллі, але аднак менавіта тут вырашаецца вечны лёс кожнага з нас. Жыццё чалавечае не мае ніякага сэнсу, акрамя такой любві.

У гэты дзень усім нам, браты і сёстры, неабходна зноў і зноў задумацца над вялікай роллю і значэннем жанчыны-хрысціянкі. У гэты нядзельны дзень усім нам, браты і сёстры, неабходна зноў і зноў задумацца над той вялікай роллю і значэннем жанчыны-хрысціянкі. Служэнне жанчыны ўжо ў старажытнай Царкве набыло свае асаблівыя формы. Вядомыя сваім праведным жыццём дыяканісы дапамагалі прасвітарам у здзяйсненні таінства хрышчэння. Першыя ж хрысціянскія абшчыны мелі ўжо ў сваім складзе жанчын, якія справамі міласэрнасці, клопатам пра

надзённыя патрэбы тых, хто быў побач з імі і меў у гэтым неабходнасць, не маючы магчымасць самастойна забяспечваць сваё жыццё, садзейнічалі хрысціянскай пропаведзі. Іх подзвігі набожнасці выклікалі захапленне нават у язычнікаў. Так адзін з іх, настаўнік свяціцеля Іаана Златавуста, у захапленні ўсклікнуў: "Якія жанчыны ў хрысціян!" Святыя жанчыны былі сярод першых хрысціянскіх мучанікаў за веру і сваёй святой крывёю сцвярджалі сапраўднасць евангельскай пропаведзі.

Дзякуючы жанчыне Царква Хрыстова працягвае сваё існаванне і сёння, у дваццаць першым стагоддзі. Канешне, вера існуе на зямлі дзякуючы той благадаці і міласці Божай, якая была, ёсць і будзе ў Царкве да сканчэння часоў. Але не будзем забываць, што ў самыя цяжкія і небяспечныя часы менавіта жанчыны не пакідалі Яе – а значыць, не пакідалі і Самога Госпада. Свяцейшы патрыярх і вызнаўца праваслаўнай веры Ціхан казаў у тыя страшныя і крывавыя дваццатыя гады мінулага стагоддзя, што Царква захавалася дзякуючы тым "белым хустачкам", якія былі прыхаджанамі нашых святых храмаў. І нават калі ў шматпакутнай Расіі засталося ўсяго некалькі архірэяў і ўсяго некалькі дзесяткаў незачыненых храмаў (толькі ўявіце сабе: вялікая Расія – і некалькі дзесяткаў незачыненых храмаў! ) у гэтыя ўцалелыя храмы хадзілі, канешне ж, баючыся, як і сёння мы чулі ў Святым Пісанні, але ўсё ж такі хадзілі вернікі, сярод якіх большасць складалі жанчыны. Яны неслі ў сваіх руках не міра... А што тады неслі яны? Хтосьці – кавалачак хлеба, хтосьці – некалькі бульбін, хтосьці – некалькі яек. Навошта яны гэта неслі? – Каб аддаць гэтую ежу, гэтыя прадукты святару, каб той не памёр з голаду і мог працягваць сваё служэнне, каб Слова Божае працягвала гучаць на нашай зямлі. І так было заўсёды: і ў часы Хрыста, і зусім нядаўна, літаральна некалькі дзесяцігоддзяў назад. І сёння ўсім нам, для каго шырока адчыненыя дзверы храмаў, неабходна помніць пра подзвіг святых жанчынаў, вучыцца ў іх веры, надзеі і любві да Гаспада нашага і Яго Святой Праваслаўнай Царквы.

У гэты дзень узгадваюцца словы аднаго нашага царкоўнага іерарха. У той страшны час, калі дзяржавай кіравалі людзі, вырашыўшыя знішчыць Царкву Хрыстову, калі дамоклавым мячом вісела над Ёю пагроза знікнення, мала каму з архірэяў дазвалялі выязджаць за мяжу. Усякі раз, калі хто-небудзь трапляў у замежжа, ён мог пачуць прыкладна наступнае: вось памруць апошнія прыхаджанкі і некаму будзе хадзіць у царкву. А той архірэй, які чуў усё гэта, так адказваў на падобныя словы: “А нашы бабулі несмяротныя!” І сапраўды, яны – несмяротныя, неўміручыя, а значыць – несмяротная, неўміручая і Святая Праваслаўная Царква. І пакуль будуць нашы і бабулі, і маці, і сёстры, і жонкі захоўваць і зберагаць у сваіх сэрцах тую ж веру, тую ж надзею,тую ж любоў да Госпада, якія былі ў сэрцах святых жанчын-міраносіц, будзе існаваць Царква – а значыць, будзе стаяць і гэты свет! У гэта трэба верыць. Свяшчэннамучанік Серафім (Чычагоў) звяртаў увагу савецкіх жанчын: “Яны ўсе тым больш дарагія нам і блізкія нашаму сэрцу, што былі такімі ж простымі людзьмі, як і мы, з усімі чалавечымі слабасцямі і недахопамі, але з прычыны бязмежнай любові да Хрыста духоўна адрадзіліся, дасягнулі праведнасці і выканалі на сабе кожнае слова вучэння Сына Божага. Гэтым сваім унутраным перамяненнем святыя жанчыны-міраносіцы яскрава паказалі і даказалі ўсім паслядоўнікам Хрыста, што такое ж выратавальнае духоўнае адраджэнне і ўнутранае перамяненне не толькі магчымае для тых, хто хоча ісці ўслед за Збавіцелем, але і абавязковае пры ўмове іх гарачай і шчырай веры, і што здзяйсняецца яно благадатнаю сілай евангельскага аблічэння, настаўлення, умацавання, натхнення і пабуджэння да духоўных подзвігаў, а падзвіжнікі набываюць Царства Божае, якое ёсць праўда, мір і радасць у Святым Духу.” Яны дасягнулі гэтага з-за любві сваёй да Хрыста і з дапамогай шчырага пакаяння пазбавіліся ад грахоў сваіх і ацаліліся ад сваіх грахоўных страсцей, што ўладарылі над кволай чалавечай прыродай. І вечна яны будуць служыць усяму хрысціянскаму свету прыкладам моцнай і жывой любві, хрысціянскага жаночага клопату пра чалавека, узорам дасканалага пакаяння!

Сённяшні дзень з’яўляецца вялікім жаночым хрысціянскім святам. Міжнародны жаночы дзень 8 сакавіка – гэта штучная дата, якая па сваім унутраным змесце карэнным чынам адрозніваецца ад таго жаночага свята, што прапануе нам Праваслаўная Царква. Пра гэта адрозненне вельмі добра казаў нядаўна далучаны да ліку святых угоднікаў Божых епіскап Крымскі Лука (Война-Ясенецкі), адзін з вызнаўцаў праваслаўнай веры дваццатага стагоддзя. Уладыка называў дзень святых жанчын-міраносіц – “вялікім хрысціянскім жаночым днём. Ушаноўваем мы ў гэты дзень святое права ўсіх жанчын на дасягненне самай вялікай чалавечай годнасці, непамерна больш вышэйшай, чым любая годнасць палітычная або грамадзянская”. У чым жа бачыць гэтую годнасць епіскап Лука? Гэта – права на святасць, права на самае блізкае сяброўства з Госпадам Ісусам Хрыстом. І ў гэтым сутнасць сённяшняга свята для ўсіх жанчын-хрысціянак. Яны – узор клопату, самааднанасці, самаахвярнасці, любові, спачування. І калі б не было іх прысутнасці сярод нас, не было б гэтага святла чысціні і дабрыні, зыходзячага ад іх, наш свет, нягледзячы на ўсе яго поспехі і дасягненні, быў бы ўсяго толькі страшным светам. Можна без перабольшання сказаць, што чалавечнасць чалавека выратавала і выратоўвае жанчына, і выратоўвае не словамі, не ідэямі, а проста тым, што яна ёсць, гэтай сваёй прысутнасцю і існаваннем.

Адзін гэты факт робіць сённяшняе свята не проста “жаночым” днём, а днём малітоўнага памінавення ўсіх тых, хто абраў сваім лёсам ахвярнае служэнне Госпаду. Па прыкладу святых жанчын-міраносіц зробім сваёй галоўнай і першай справай шлях за Хрыстом – у любых абставінах, якія з намі здарацца. Як і гэтыя вялікія жанчыны, будзем крочыць гэтым шляхам і зможам атрымаць у сваёй душы вестку пра Уваскрасенне Хрыстова, каб новае жыццё Уваскрасення Хрыстова адкрылася нам як наша ўласнае уваскрасенне, і мы даведаліся, што гэты адзіны сэнс жыцця – любоў. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 4-ю пасля Пасхі*

## ПРА ПАРАЛІЗАВАНАГА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

"Ісус сустрэў яго ў храме і сказаў яму: вось, ты стаў здаровым; больш не грашы, каб не здарылася з табою чаго горшага" (Іаан.5:14). Гэтыя словы Збавіцеля, звернутыя да ацалёнага Ім паралізаванага чалавека, указваюць на прычынна-выніковую сувязь паміж нашымі немачамі і грахамі. Пры гэтым неабходна помніць, што не Бог карае нас хваробай за кожны здзейснены грэх: калі б гэта было сапраўды так, напэўна, кожны з нас не дажыў бы і да трыццаці гадоў. Відавочна, што, здзяйсняючы грэх, мы самі, у адпаведнасці са сваёй свабоднай воляй, трапляем пад уладу смерці.

Грэх – прычына ўсіх нягод чалавека і ў яго часовым жыцці, і ў жыцці вечным. Тры пакаранні вызначаны былі правасуддзем Божым за саграшэнні ўсяго чалавецтва. Два з іх ужо адбыліся, адно – яшчэ наперадзе. Першым пакараннем была смерць, якая пачала ўладарыць над чалавецтвам з моманту яго грэхападзення, калі людзі страцілі жывую сувязь з Богам – Крыніцаю жыцця. Другое пакаранне – гэта сусветны патоп, які здарыўся з чалавецтвам з-за таго, што людзі замест жыцця духоўнага абралі цялесныя ўцехі і асалоды, страціўшы сваю чалавечую годнасць і апусціўшыся да жывёльнага ладу жыцця. Апошняй карай павінна быць знішчэнне гэтага бачнага свету за яго адступленне ад Госпада Бога нашага Ісуса Хрыста і канчатковае ўхіленне чалавецтва ва ўзаемаадносіны з дэманамі.

Часта бывае так, што нейкі род граху становіцца ўласцівым пэўнаму народу або асобнаму грамадству і тым самым наклікае на яго гнеў Божы. Так жыхары старажытных гарадоў Садома і Гаморы за сваю злачынную разбэшчанасць, маральную сапсаванасць і заганнае дагаджэнне сваёй плоці былі спалены агнём, які сышоў з неба; так камня на камені не засталося ад прыгожага Ерусаліма,

жыхары якога загінулі ад рымскіх мячоў за тое, што выракліся Збавіцеля і асудзілі на смерць Сына Божага.

Заразлівы грэх, цяжка ад яго ўстрымацца асобнаму чалавеку, асабліва калі грэх гэты пануе ў цэлым грамадстве. Тыя ж, хто пад кіраўніцтвам Слова Божага змагаюцца з грахом і супраціўляюцца яму, атрымліваюць перамогу над грахоўнасцю, якая адначасова з'яўляецца і перамогай над вечнай смерцю. Яны здольны тады супрацьстаяць і ўсеагульным грахоўным заганам. Гэта мы бачым на прыкладзе святых мучанікаў. Захоплены ж уласнымі грахамі чалавек не можа не паддацца і граху, які пануе ў грамадстве, бо ён не здольны будзе яго своечасова разгледзець і распазнаць. Сутнасць подзвігу супраць граху – у перамозе над ім у сваёй уласнай душы, у розуме і ў сэрцы, у адмаўленні ад яго ўсёй сваёй сутнасцю.

Канешне, і ў евангельскім апавяданні пра ацаленне паралізаванага, і ў іншых месцах Святога Пісання Бог проста папярэджвае нас аб небяспецы дапушчэння граху і захаплення ім, а не пагражае нам Сваёй помстай за здзяйсненне грахоўных учынкаў. Выкліканы намі да жыцця грэх нараджае смерць. А тое, што пасля кожнага нашага грахоўнага ўчынку мы ўсё ж такі не паміраем, – проста цуд незвычайнай Божай міласэрнасці, Божай любві да нас, грэшных і нявартых Яго міласці, воля і свядомасць якіх паралізавана грахом – хваробай духоўнай, як некалі быў паралізаваны і хворы чалавек з сённяшняга евангельскага чытання.

Таму дзеля ацалення ад нашых шматлікіх немачаў зусім не абавязкова ехаць у далёкі Іерусалім і шукаць там купальню каля Авечых варот. Для таго, каб не здарылася з намі "чаго горшага", трэба ісці ў храм Божы – і не на край свету, не ў суседні раён, а ў той, які бліжэй за ўсё да нашай хаты. Ісці туды трэба за вельмі простай рэччу: за лекавым сродкам ад граху, які даецца ўсім жадаючым у неабмежаванай колькасці, і пры гэтым якасць лячэння зусім не залежыць ад сценаў, у якіх яно адбываецца, і абсалютна не звязана з асабістымі якасцямі святароў – тых, каму Богам даверана быць пры гэтым лячэнні сведкамі.

Лякарства ад граху – Пакаянне, адно з найвялікшых Таінстваў Царквы. Пакаянне – гэта стан чалавечай душы, унутраны яе

рух, накіраванасць да Неба, імкненне да Бога, працэс яе перамянення, які адбываецца напрацягу ўсяго жыцця чалавека і не абмяжоўваецца адным толькі ўдзелам у споведзі, таму што Пакаянне – гэта і штодзённая напружаная барацьба з самім сабою, са сваімі ўласнымі грахамі і грахоўнымі звычкамі, са сваёй лянотай у справе дасягнення Царства Божага, з тым духам тугі, адчаю і маркоты, што імкнецца нас перамагчы; Пакаянне – гэта і развагі пра Бога, пра навакольны свет, пра сваё месца ў ім і наша стаўленне да яго, пра нашы мэты ў гэтым свеце і гэтым жыцці; Пакаянне – гэта, канешне ж, і цяжкая навука жыць у згодзе з тымі людзьмі, якія вакол нас, і імкнуцца іх палюбіць. Усё гэта – Пакаянне.



Шмат хто з нас думае, што споведзь – гэта момант, калі можна паскардзіцца на жыццё, калі можна абмеркаваць надзённыя клопаты, калі можна і трэба паслухаць мудрага і шматвопытнага духоўніка, набрацца ад яго розуму і прамудрасці. Некаторым здаецца, што на споведзі неабходна самым падрабязным чынам пералічыць усе свае правіннасці, заганы і дрэнныя думкі, і не дай бог пры гэтым пра што-небудзь забыцца. І вось бярэ такі чалавек – пачынаючы хрысціянін – кнігу вядомага праваслаўнага пастыра, манаха-аскета, якую той напісаў, зыходзячы са свайго ўласнага саліднага жыццёвага вопыту, і старана перапісвае яе, наіўна мяркуючы, што духоўны вопыт старца-манаха і яго ўласны жыццёвы вопыт супадаюць і з’яўляюцца тоеснымі, ды яшчэ і кажа духоўніку: “Гэта пра мяне напісана!” Не цеш сябе дарэмнай надзеяй, дружа! Гэта не пра цябе. Гэта вопыт яго, старца, жыцця. Гэта яму, вялікаму аскету, грэшна спяваць мірскія песні. Гэта ён, шчыры малітвеннік, можа каяцца на споведзі ў пабочных думках і заклапочанасці мірскімі справамі. А нам, што толькі

сталі на шлях духоўнага жыцця, рана непрыкметны пыл з душы пэндзлікам змахваць. Нам трэба глыбы грахоўныя з душы выкарчаваць і выдаліць. Тут ужо, прабачце, не да шліфоўкі, не да тонкасцяў.

Не, споведзь – не гутарка аб "духоўным", не багаслоўская дыскусія. Споведзь – гэта Страшны Суд, які для цябе, грэшнік, настаў вось зараз, у гэты самы момант. І менавіта цяпер – твой апошні шанс, твая апошняя магчымасць пачаць жыццё з чыстай старонкі. Перад табою, грэшнік, Пачэсны Крыж Госпада, на якім Сын Божы прыняў смерць за нас, і Яго Святое Евангелле. Перад табою – Сам Хрыстос. І ты прыходзіш да Яго не для таго, каб проста пагутарыць пра тое, пра сёе... Ты, паколькі табе дадзены апошні шанс, прыходзіш, каб папрасіць: "Павер мне, Госпадзі, яшчэ раз. Апошні раз! Я ніколі, чуеш, ніколі больш не здзейсню гэтага граху! Я не здолею пераадолець усе мае недахопы і заганы. Я не змагу перамагчы ўсе свае грахі, але вось гэты грэх я сёння з душы выкарчую. Гэтую адзіную, самую галоўную на дадзены момант сваю слабасць я з сябе выдаляю рашуча і канчаткова. Так, такім чынам я ўжо больш не саграшу! І ў якасці падмацавання гэтай вялікай клятвы, у знак сваёй рашучасці пазбавіцца ад гэтага хай малога, хай аднаго, але – граху, я цалую Святы Крыж і Тваё Слова." Вось гэта і ёсць самы эфектыўны лекавы сродак супраць самай небяспечнай духоўнай хваробы – граху.

Усё часцей і часцей на споведзь прыходзяць людзі, якія жывуць з самімі сабой у міры і гармоніі. Так, я – грэшнік, думае такі чалавек – і грэшны і тым, і гэтым, і пятым, і дзесятым... Што ж тут зробіш! Сапраўды, калі ў чалавека сотні грахоў, тысячы дробных заганаў і недахопаў, яму гэтае сатанінскае полчышча ніколі не перамагчы. Змагайся спачатку з адным, а, калі дасягнеш поспеху, бярыся за другі. Перш чым перамагчы грэх шматслоўя, паспрабуй спачатку пазбавіцца ад граху вымаўлення брудных словаў. Інакш кажучы, споведзь нармальнага хрысціяніна павінна быць максімальна лаканічнай і сціслай, таму што кожны з нас добра ведае свой самы страшны для яго на сённяшні дзень грэх. Той, перад якім усе астатнія трымцяць і бляднеюць. Вось на яго і кінь усе сілы

сваёй душы, вось аб ім і плач на споведзі. Вось ад яго і адракайся з самай страшнай клятвай. І тады, магчыма, праз шмат гадоў – ты пераможаш! Пераможаш, каб Гасподзь дапамог табе ўбачыць наступны твой грэх.

Тут нам неабходна прыгадаць паралізаванага чалавека: ён 38 гадоў чакаў свайго ацалення і дачакаўся яго! Будзем цярпліва чакаць ацалення і пры гэтым прыкладваць усе магчымыя намаганні са свайго боку дзеля дасягнення канчатковага мэты – вызвалення ад граху. І тады Гасподзь, убачыўшы нашы добрыя намеры, абавязкова дапаможа нам і скажа: “Устань, вазьмі пасцель тваю і хадзі” (Іаан.5:8).

Нагадваючы, як Гасподзь ацаліў паралізаванага, Царква папярэджвае нас ад упадзення ў адчай. Калі мы заўважаем у сабе хаця б адзін грэх, калі пакутуем і перажываем з-за яго і калі імкнемся з ім змагацца і яго перамагчы, – значыць, мы яшчэ духоўна жывыя. І нават калі мы не бачым відавочных вынікаў, – мы не павінны губляць надзею. Гасподзь бачыць і ведае ўсе нашы справы і думкі, як бачыў Ён веру і надзею таго няшчаснага паралізаванага чалавека. Ён бачыць нават слабыя спробы барацьбы з грахом. Самае галоўнае, каб у нас ніколі не знікала надзея на тое, што па міласці Божай (не сваімі сіламі: на іх спадзявацца нельга, бо яны слабыя і кволыя!) мы атрымаем ацаленне!

Вось тыя ўрокі, якія нам прапануе сёння Святая Царква ў гэты дзень, названы Нядзеляй пра паралізаванага. Дай Бог, каб па малітвах усіх падзвіжнікаў веры Гасподзь умацаваў у сэрцах нашых веру ў Яго і даў нам непарушную надзею на тое, што, калі Гасподзь дазволіць і будзе на тое Яго Святая Воля, мы з вамі рана ці позна атрымаем ацаленне ад усіх сваіх хваробаў і душы, і цела. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 5-ю пасля Пасхі*

# ПРА САМАРАНКУ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння мы з вамі чулі ўрывак са Святога Евангелля, дзе апавядаецца пра гутарку Збавіцеля з самаранкай, якая адбылася каля старажытнага калодзежа. Святое Пісанне не называе нам імя гэтай жанчыны, але з Падання вядома, што звалі яе па-грэчаску Фаціна, што ў перакладзе азначае Святлана. І гэта не выпадкова, бо, сустрэўшыся з Хрыстом і прасвяціўшыся ад Яго святлом Ісціны, яна сама стала святлом і несла яго ў сваім жыцці, прасвятляючы ім усякага чалавека, які сустракаўся на яе жыццёвым шляху.

Гэта адзіная сустрэча Хрыста і самаранкі для жанчыны-грэшніцы і для ўсяго свету стала сустрэчай з Жывым Богам, бо тут, побач з калодзежам жыцця часовага, упершыню для свету забруіла невядомая дагэтуль на зямлі крыніца Жыцця Вечнага – Святая Царква Божая, а яе жывая вада – гэта сіла благадаці Божай, якая асвячае, прасвятляе, ачышчае ад грахоў і даруе іх кожнаму чалавеку, што прыпадае да яе.

Але чаму пра гэтую старажытную па часе Крыніцу Жыцця сёння шмат хто забыўся, а многія наогул адмаўляюцца ад яе?

Хлусня! – ці не гэта і ёсць цяпер і для нас тая страшная хвароба, што ставіць сучасны свет на мяжу катастрофы?! Ці не яна выцясняе ісціну з жыцця, а неадпаведнасць паміж словамі і справамі, што нараджаецца ўсё з той жа хлусні, забівае дух жыцця ў нас?! Мы можам быць дрэннымі, мы можам быць шмат у чым больш грэшныя за жанчыну-самаранку, але мы не можам быць ілжывымі і не павінны быць такімі. Бог здольны ратаваць кожнага чалавека, але Ён бяссільны перад нашай хлуснёю, калі мы ўжо заблытваемся ў ёй, ілжэм перад сабою, перад людзьмі, ілжэм перад Богам. Хрыстос можа выратаваць самага апошняга грэшніка, які каецца

ў сваіх грахах, але не можа дапамагчы псеўдаправедніку, якім мы любім выстаўляць сябе.

І вось цяпер, калі “сучасныя самаране і паганцы” – знясіленыя духоўнай прагай і атручаныя муццю ядавітых бязбожных вучэнняў людзі – шукаюць сапраўдную ваду жыцця, каб ажывіць паміраючы дух і умацаваць аслабелае цела, кожнаму неабходна знайсці ў сабе праўдзівасць і магчымасць ўбачыць сябе такімі, якія мы ёсць на самой справе – без фальшывай аздобы і хлусні. Бо толькі тады Гасподзь – Ісціна, Праўда і Жыццё – зможа адгукнуцца на нашу горкую праўду і навучыць нас пакланяцца Яму ў духу і ісціне.



Прага жыцця – вось першая ўмова, неабходная нам, каб, як тое здарылася і з самаранкай, сустрэць Жывога Бога. І ісціна святасці Божай і Яго міласэрнасці дасягне нашага сэрца, і ў святле гэтай ісціны мы ўбачым і ісціну свайго падзення, ісціну сваёй грахоўнасці. І жывое пачуццё гора прывядзе нас да Крыніцы жывой вады, і Божая благадаць сваёй гаючай сілай адновіць пашкоджаную грэхападзеннем чалавечую сутнасць, дасць духоўную свабоду розуму, вызваліць ад кайданоў граху.

Следам за прагай ісціны хутка, вельмі хутка пачынае з’яўляцца і пазнанне ісціны, бо Гасподзь адкрываецца таму, хто шукае сустрэчы з Ім.

Прага імкнення за Хрыстом патрабуе ад нас некаторага подзвігу, які абавязкова спалучаецца з перанясеннем без нараканняў жыццёвых выпрабаванняў, наканаваных нам Промыслам Божым. Часам нам здаецца, што ўсё ў нашым жыцці павінна быць лёгка і атрымлівацца без асаблівай працы, без асаблівых намаганняў. Але ў Святым Пісанні Гасподзь гаворыць, звяртаючыся да кожнага з нас: “У свеце гора зазнаеце, але мужайцеся: Я перамог свет” (Іаан.16:33), ”Хто выцерпіць да канца, той спасё-

ны будзе" (Мф.24:13). Цярпець павінны мы, цярпець да канца – вось чаму вучыць нас Святая Хрыстова Праваслаўная Царква. І мы знаходзім яшчэ і іншае сведчанне, таксама ўзятае са Свято-га Пісання: "Ад дзён жа Іаана Хрысціцеля да сёння Царства Божае дасягаецца сілаю, і тыя, што сілу ўжываюць, здабываюць яго" (Мф.11:12). Гасподзь многае дае кожнаму з нас, але кожны з нас павінен папрацаваць, каб прыняць гэты Божы дар.

Сведчанне самаранкі пра Бога прывяло яе да святасці. Яна прыняла пакутніцкую смерць за сваю пропаведзь пра Хрыста: яе кінулі ў калодзеж.

З першых часоў у Царкве хрысціянскай існуюць апавяданні пра жыццё і справы святых падзвіжнікаў і вызнаўцаў веры. Пачатак гэтаму быў пакладзены евангелістам Лукою. У Дзяяннях Святых Апосталаў ён апісвае подзвіг і пакуты першавярхоўных вучняў Збавіцеля і іншых Яго паслядоўнікаў.

Царква стаіць на крыві мучанікаў. Мучанікі засведчылі сваю веру ў Хрыста самым радыкальным чынам: яны аддалі за Яго сваё жыццё.

За дваццаць стагоддзяў жыцця Царквы пакутніцкую смерць прынялі тысячы хрысціянаў. Але самую вялікую колькасць мучанікаў і вызнаўцаў веры дала наша Царква ў 20-м стагоддзі. Усе яны называюцца навамучанікамі і вызнаўцамі веры Зямлі Расійскай. Колькасць іх вялікая. Ніколі яшчэ ў гісторыі хрысціянскай Царквы не было такога жорсткага і працяглага ганення. Ніколі яшчэ антыхрысціянская ўлада не здзяйсняла такіх масавых злачынстваў і такой яўнай дэманстрацыі нянавісці да Праваслаўя і Царквы Хрыстовай. З мільёнаў забітых сотні тысяч памерлі з верай, малітвай і пакаяннем на вуснах і ў сэрцы.

Ісціна Божая з'явілася на цяпер у асобах святых, некалі зняважаных і абражаных, паказаўшы свету іх праўду. І цемра паглынула тых, хто супрацьстаяў ісціне, і памяць іх згінула.

Сёння нам надзвычай важна ведаць нашу веру, бо зноў надыходзіць час барацьбы за Праваслаўе.

Мы заклікаваны ў меру сваіх сілаў, у адпаведнасці са сваімі здольнасцямі, якія дадзены кожнаму з нас Госпадам, вучыцца таму хрысціянскаму подзвігу, які здзяйснялі ўсе святыя падзвіжнікі

веры, а не сядзець склаўшы рукі і не плыць па цячэнні, бо па цячэнні плыве толькі дохлая рыбіна.

Сёння Гасподзь кліча нас абараняць Ісціну Праваслаўя ад памножыўшыхся прапаведнікаў цемры. Кліча нас сёння Хрыстос: заклікае нас быць падобнымі да падзвіжнікаў, узнагароджаных Богам вянцамі славы. Недастаткова захоўваць асабістую ўнутраную прыстойнасць, патрэбна таксама бачыць і разумець усю духоўную карціну, якая навокал нас.

Гасподзь даў нам магчымасць убачыць і пазнаць Шлях Жыцця і шлях смерці і быць вольнымі ў сваім выбары паміж імі. Давайце ж прыгледзімся да сябе і запытаем у свайго сумлення: ці не ідзем мы шляхам здрадніка Іуды? Хіба не робім мы часта свядома супрацьлеглае таму, пра што гаворыць і што падказвае нам наша сумленне?

У самаранцы Гасподзь знайшоў такую душу, якая, хоць і была яшчэ ў цемры змяшанай з паганскімі забабонамі веры і грахоўнага жыцця, але, як толькі дасягнулі яе промні святла Хрыстова, увесь гэты змрок рассеяўся. І яна, да гэтай пары чужая, у адно імгненне стала бліжэй за тых, што здаваліся сваімі...

Больш простыя і здаровыя душы самаран, не забрудзіўшыя веру палітыкай, аказаліся больш здольнымі прыняць Месію, чым апантаныя гардыняю душы іудзеяў, якія лічылі выключна сябе сынамі Аўраама і прамымі спадкаемцамі Богам дадзеных яму абяцанняў. З гэтага евангельскага апавядання вынікае ўрок і нам, праваслаўным, якія ў гардыні сваёй выхваляюцца прыналежнасцю да Ісціны, але не валодаюць унутранай прыстойнасцю і годнасцю.

Самаранка вучыць усіх нас быць у жыцці адкрытымі і здольнымі прыняць Слова Божае, стаць ачышчанымі Яго духоўнай прастатой, быць прасвятлёнымі Боскім святлом і прыняць яго ў глыбіні нашага сэрца, прыняць яго ўсім сваім жыццём так, каб людзі бачылі, кім мы сталі, і змаглі паверыць, што сапраўднае Святло прыйшло ў свет.

Будзем жа маліцца да самаранкі, каб яна навучыла нас, прывяла нас да Хрыста, як і сама яна прыйшла да Яго, і мы змаглі паслужыць Яму, як і яна паслужыла Сыну Божаму, стаўшы выратаваннем для ўсіх, хто быў побач з ёю. Амінь!

## *Пропаведзь у Нядзелю 6-ю пасля Пасхі*

## ПРА СЛЯПОГА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Мы чулі сёння апавяданне пра сляпога ад нараджэння чалавека. Самі мы не ведаем, зыходзячы са свайго ўласнага жыццёвага вопыту, што такое цялесная слепата, але мы можам уявіць, наколькі гэты чалавек быў быццам бы наглуха замураваным у самім сабе.

Мы не сляпыя фізічна, але шмат хто з нас замыкаецца ў сабе і становіцца зацятым.

Калі мы звернем увагу на сваё жыццё, то зробім сумныя высновы: мы ўбачым, што ў адносінах да маральнага, духоўнага, у тым, што тычыцца разумення ісціны, мы, па сутнасці, з'яўляемся сляпымі ад нараджэння. Мы сляпыя, мы глухія, мы абыякавыя да ўсяго, што адбываецца вакол нас. Мы ўсе – пакаленне слепанароджаных, сляпых ад самага нараджэння. У сваёй большасці народжаныя мы па-за верай у Госпада. Нашы духоўныя вочы, згодна з адпаведным планам, складзеным яшчэ ў старажытнасці, павінны былі застацца заплюшчанымі аж да самага смяротнага часу. І мільёны, мільёны людзей павінны былі адысці ў жыццё вечнае, так нічога не даведаўшыся ў сваім часовым зямным жыцці ні пра Бога, ні пра жыццё духоўнае, ні пра сваю ўласную душу, ні пра духоўны свет. Было зроблена ўсё, каб мы, якія прышлі ў свет гэты слепанароджанымі ад сваіх, вельмі часта таксама сляпых ад нараджэння, бацькоў, засталіся такімі назаўсёды.

На самым пачатку мінулага стагоддзя святому праведнаму Іаану Кранштацкаму было паслана відзенне пра лёс нашага народа: "Вось я бачу мноства людзей, яны ідуць і пакутуюць ад моцнай смагі, на лбах – зоры. Яны ўбачылі нас і моцна закрычалі: "Святыя айцы, памаліцеся за нас. Вельмі цяжка нам, а самі мы не можам. Бацькі не вучылі нас закону Божаму. Нават імені Хрыстова няма ў нас, мы не атрымалі дара Духа Святога і адмовіліся ад крыжовага знамення". І заплакалі.

Але з намі здарыўся цуд Божы. Гасподзь, нават не пытаючыся ў нас, ці верым мы ў Яго (а, наадварот, хутчэй за ўсё ведаючы, што ніякай веры ў нашых душах якраз і няма) глеем і няпростымі жыццёвымі выпрабаваннямі, быццам святым мірам, памазаў нас, і мільёны, мільёны людзей у нашай краіне ацаліліся. Яны пачалі бачыць, у іх раскрыліся духоўныя вочы.

Нашы сучаснікі, ацалённыя сляпыя, як і той сляпы ад нараджэння жабрак, перанеслі нялёгкія выпрабаванні допытамі і здзекамі ад фарысеяў веку гэтага, і шмат хто з нас быў ізаляваны ад сваіх сяброў і сваякоў, нібыта апынуўся ў духоўным вакууме. Тое, што адбылося з евангельскім сляпым, адбылося і шмат з кім з нас. Наша здольнасць бачыць азначае, што мы пачынаем заўважаць свае ўласныя грахі і здольнасць здзейсніць любое зло, любую здраду. Мы сталі відушчымі – і пачынаем бачыць свет такім, якім ён ёсць на самой справе: апанаваным злом і грахом. І калі да нас вяртаецца зрок, мы пачынаем бачыць і больш за ўсё шанаваць у свеце гэтым Божую міласэрнасць і праявы міласці Божай да ўсяго невідушчага чалавецтва.

Усё наша жыццё гэта суцэльныя пакуты! Кожны з нас у свеце гэтым пакутуе і вакол сябе бачыць адныя пакуты. Іх значна больш, чым радасці і шчасця у жыцці.

Канешне, пакуты нашы гэта наступствы граху, наступствы зла, але зусім не толькі "за штосьці" яны пасылаюцца чалавеку. Яны пасылаюцца "для чагосьці", даюцца з пэўнаю мэтай, маюць пэўны сэнс. Пакуты сляпога былі пасланыя яму, "каб выявіліся дзеі Божыя на ім" (Іаан.9:3). Гэта, канешне, не значыць, што чалавек страціў зрок для таго, каб пасля на ім праявілася дзеянне ўсемагутнай сілы Божай. Хрыстос хоча толькі сказаць, што на сляпым жабраку праявіўся ўвогуле глабальны Промысел Божы і Яго клопат пра людзей, якія ў большасці сваёй застаюцца нябачнымі для чалавечых вачэй. Ацаленне сляпога, якое здзейсніў Хрыстос, Ён разглядаў як адну з праяваў дзеяння Промысла Божага аб людзях. Гэта значыць, што пакуты і выпрабаванні пасылаюцца нам з пэўнай мэтай. А калі яны маюць мэту, то, адпаведна, маюць і пэўны сэнс.

Сам добраахвотна прымаючы пакуты, аддаючы, у адпаведнасці са Сваёй уласнай воляй, ім Сябе, Хрыстос – Сын Божы – увайшоў у нашыя пакуты, цалкам прыняў іх, прыняў іх да канца. Паказаўшы, такім чынам, Сваімі пакутамі і для нас магчымасць нашыя пакуты ператварыць у духоўны подзвіг, у духоўную барацьбу, у духоўную перамогу. Для нас, хрысціян, пакуты заўсёды напоўнены сэнсам. Мы ведаем, што да адраджэння, да аднаўлення, да адкуплення, да пераадолення зла заўсёды вядзе вузкі шлях – шлях Хрыста, шлях пакутаў – крыжовы шлях, Крыж. Прыняцце пакутаў ёсць прыняцце Крыжу.

“Жыццёвыя выпрабавінні – добры знак: яны паказваюць, што мы на цесным шляху знаходзімся” – гаворыць прападобны Іосіф Опцінскі.



Свяціцель Феафан, затворнік Вышынскі, павучае: ”Ведайце, што калі да нас прыходзяць выпрабаванні, гэта нам Сам Гасподзь паказвае шлях у Царства Сваё, ці нават больш – бярэ за руку і вядзе туды. Таму не крычыце і не тупайце нагамі, а з удзячнасцю пераносце ўсе выпрабаванні”.

Часта мы бянтэжымся і гаворым, што з намі не адбываюцца такія цуды, як ацаленне ад духоўнай слепаты, духоўнае перамяненне. З намі доўга не адбываецца нічога з таго, пра што гавораць нашы духоўныя настаўнікі, святыя айцы, апосталы і само Евангелле. Мы здзіўляемся: чаму? Па той простай прычыне, што мы не паводзім сябе так, як той сляпы ад нараджэння чалавек, не маем такой жа веры, такой жа паслухмянасці Богу і спадзявання на Яго, як у сляпога жабрака. Нам, магчыма, здаецца, што нельга параўноўваць яго і нас ва ўсіх адносінах, аднак у адносінах цвёрдасці і рашучасці, якія былі ў яго пасля ацалення, дзякуючы якім ён і стаў духоўна відушчым, кожны з нас павінен параўнаць сябе з ім.

Вось так і мы павінны рабіць. Каму Гасподзь з’яўляецца і каму

адкрывае Сябе? Толькі тым, хто мае адвагу Яго вызнаваць. А што гэта азначае? Гэта пэўная жыццёвая пазіцыя. І сутнасць гэтай жыццёвай пазіцыі ў тым, каб не быць, як усе.

"Будзь уважлівы да сябе", – так гаворыць Закон Божы, а закон свету гэтага гаворыць процілеглае: "Глядзі навокал, і тады жыццё тваё будзе добрым і прыгожым". Святіцель Ігнацій Бранчанінаў кажа: "Дзейнасць – неабходны шлях да пільнасці, і гэты шлях святыя айцы раяць усім, хто хоча навучыцца ўважлівасці да сябе".

Мы не знойдзем Хрыста ў сучасным свеце, калі не станем вернымі чадамі Святой Царквы.

Хрыстос ацаляе сляпога і кажа: "Я раблю справы Таго, Хто паслаў Мяне". І мы з вамі пасланыя ў гэты свет, мы з вамі жывём у гэтым свеце як пасланцы самога Хрыста, і таму мы з вамі павінны браць з Яго прыклад, рабіць Яго справы – гэта значыць, заўсёды, заўсёды дапамагаць, заўсёды спачуваць, заўсёды быць спагадлівымі ў адносінах да тых, хто побач з намі. І глядзіце, браты і сёстры, рабіце гэта, пакуль ёсць дзень, выконвайце справы Хрыстовы; прыйдзе ноч – смерць, калі ўжо рабіць гэтага будзе нельга. І пакуль ёсць такая магчымасць, будзем іх выконваць, таму што гэтыя справы – справы Божыя, справы, якімі мы зможам выратаваць сябе ў вечнасці і ў гэтым жыцці. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 7-ю пасля Пасхі*

## ПАМЯЦЬ АЙЦОЎ ПЕРШАГА УСЯЛЕНСКАГА САБОРУ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Пасля святкавання Узнясення Гасподняга Святая Царква адзначае памяць айцоў Першага Усяленскага Сабору.

Сёння мы чулі евангельскае чытанне і чытанне з кнігі Дзеянняў святых апосталаў. Збавіцель наш, Гасподзь Іісус Хрыстос, у Сваёй першасвятарскай малітве перад крыжовымім пакутамі са

слязьмі маліўся, каб сабраны Ім статак верных не быў разагнаны тымі ганеннямі, якія Ён прадбачыў у будучым, і з'яўленнем ў хрысціянскім асяроддзі ерэтыкоў.

З часоў апостальскіх у хрысціянскай Царкве пачалі ўзнікаць ерасі і расколы. Святы апостал Павел, як мы чулі, пераконваючы пастыраў Эфескай Царквы пільна пасці статак Хрыстовы, казаў: "Бо я ведаю, што пасля адыходу майго ўвойдуць да вас лютыя ваўкі, якія не шкадуюць статку; і з вас саміх паўстануць людзі, якія будуць казаць навыварат, каб павесці вучняў за сабою." (Дз.20:29,30).

Вораг роду чалавечага, вораг ісціны і дабрыні, узброіўшы поўных паклёпаў і хітрыкаў сыноў чалавечых супраць Самога Збавіцеля, не пакінуў у спакоі і Яго паслядоўнікаў і спачатку арганізаваў ганенні на хрысціянаў, якія цягнуліся амаль трыста гадоў, потым імкнуўся занесці ўсярэдзіну самой хрысціянскай абшчыны разбуральную заразу дарэмнага мудрагельства і непадпарадкавання дадзенаму праз святых апосталаў вучэнню Божаму.

Прэсвітэр Арый, які жыў у той час у Александрыі, пачаў вучыць, што Хрыстос Сын Божы па благадаці, а не па прыродзе – гэта значыць, у выніку свайго зямнога жыцця, служэння і вернасці Богу Ісус стаў Сынам Божым. За тое, што Ён здзейсніў на зямлі, Бог узвысіў Яго, уваскрасіў з мёртвых і ўзнёс на Нябёсы. Такой была, у агульных рысах, ідэя Арыя, прапанаваная ім хрысціянам чацвёртага стагоддзя. Тады гэтая ідэя шмат каму спадабалася. Сапраўды, яе лёгка было прыняць і зразумець. Згодна з вучэннем Арыя, Ісус Хрыстос ва ўсім такі ж, як і ўсе іншыя людзі, палюбіў Бога больш за ўсіх, дасканалым чынам выканаў запаведзі Божыя, і Бог даў Яму моц здзяйсняць многія цуды. У канцы Свайго служэння, будучы распятым, Ён памёр, але Бог уваскрасіў Яго і ўзвёў Яго на неба, пасадзіўшы праваруч Сябе, як гэта і павінна быць з Наследнікам Царства Божага. Такім чынам, у якасці ўзнагароды за Яго зямное жыццё, па Сваёй благадаці, Бог усынавіў Ісуса Хрыста.

Узнікла вельмі сур'ёзная небяспека, якую, магчыма, мы нават не разумеем да канца. Богасыноўства належыць да вечнасці. Сын Божы стаў чалавекам. Ён Сам прыняў чалавечае аблічча, нарадзіўся, каб прынесці праўду і паказаць людзям Бога.

У свята Узнясення Гасподняга мы казалі, што Адкрыццё Божае сведчыць пра тое, што Сын Божы ўвайшоў у вечную славу, якая была Яму ўласціва яшчэ да стварэння свету і пачатку яго быцця. І здзейсніў гэта Гасподзь для таго, каб адкрыць для людзей, з'яўляючыся Хадайнікам за іх перад Богам Айцом, уваход у Царства Нябеснае і ўвесці разам з Сабою ў славу адкупленае Ім чалавецтва.Святое Пісанне гаворыць пра Узнясенне як пра вяртанне Сына туды, дзе Ён быў раней, – да Айца, але гэта вяртанне адбываецца ўжо з прынятаю на вечныя часы плоццю. Тым самым стан адзінства Сына з Айцом распаўсюджваецца і на Яго чалавечую прыроду. Чалавечая плоць, праслаўленая і абожаная, узышла на неба і стала далучанай да вечнай славы і сілы Сына Божыя.

У Хрысце на неба ўзнесены Чалавек, чалавек мае дачыненне да нябеснай праўды, і гэта значыць, што Ён вярнуўся да Бога, да ведання Бога, і ў Ім – да адзінага сапраўднага, а таму вечнага жыцця. Сваім Узнясеннем Гасподзь паказвае і нам, што наша чалавечая прырода – гэта значыць, тая самая чалавечая плоць, з якой мы і складаемся, узносіцца на прастол Божы. Дасягненне стану поўнага адзінства з Богам цяпер магчыма для ўсіх, хто верыць у Хрыста. Неба цяпер адчынена для чалавека.

Таму арыянская ідэя была небяспечнай. Калі казаць пра Хрыста не як пра Бога, ва ўсім роўнага Богу Айцу і Богу Духу Святому, а як пра найдасканалейшае стварэнне Божае, то пры гэтым парушаецца важны догмат хрысціянскай веры – вучэнне аб Святой Троіцы. Бо калі Хрыстос не Бог, то ўсё хрысціянства, як справа чалавечая, павісае ў паветры і павінна быць скасавана, як усякая справа чалавечая, а збаўленне нашае не мае пад сабою ніякага трывалага падмурка.

Тады праваслаўныя епіскапы, якія з'яўляліся прыхільнікамі ідэі спрадвечнага Богасыноўства Хрыста па прыродзе, а не па благадаці, склікалі Першы Усяленскі Сабор. Гэта было ў 325 годзе. На пасяджэннях гэтага Сабору прысутнічалі такія свяціцелі Царквы Хрыстовай, як Спірыдон Трыміфунцкі, цудатворца, Мікалай Мірлікійскі, цудатворца, свяціцель Афанасій і іншыя. Саборным рашэннем было сфармулявана праваслаўнае вучэнне

пра Хрыста Збавіцеля як пра Сына Божага, Другую Асобу Прасвятой Троіцы, спрадвечнага Бога, Адзінасутнага і ва ўсім роўнага Богу Айцу. Упершыню ў гісторыі Царквы быў абвешчаны адзіны Сімвал хрысціянскай веры. І кожны раз, калі народ Божы, які ў імя свайго Збавіцеля збіраецца, каб здзейсніць вялікае Таінства Святой Еўхарыстыі, гучыць і будзе гучаць да сканчэння веку гэты Сімвал. Сэнс у тым, што вера не павінна быць пашкоджана або скажона, і менавіта гэта прагучала на Саборы.

Здавалася б, даўно мінулі часы і праблемы, якія турбавалі Царкву ў часы Арыя. Але і зараз, на жаль, Царква Хрыстова таксама страсаюць розныя ерасі. І хіба без болю ў сэрцы мы сведчым аб тым, як многа сёння розных сектаў. І да гэтага дня ворагі хрысціянства (напрыклад, секта "Сведкі Іеговы"), узяўшы за аснову ерась Арыя і даўшы ёй іншую назву, бянтэжаць і ўводзяць у спакусу многіх людзей.

Сёння нам надзвычай важна ведаць сваю веру, бо зноў надыходзіць час барацьбы за Ісціну. Адныя ўпэўніваюць сябе і нас у тым, што Праваслаўе - гэта нейкая нацыянальная ідэалогія. Існуе тэндэнцыя ператварыць яго ў ідэалогію, якою можна было б замяніць марксізм. Жыццё дастаткова часта спалучае здавалася б неспалучальныя рэчы. Мы ж павінны ведаць, што Праваслаўе - гэта пошук жыцця ў Богу і што ўсялякае дзяржаўнае і нацыянальнае ўладкаванне жыцця для нас другаснае. Іншыя кажуць, што гэта наша культурная спадчына. Мы ж павінны ведаць, што Праваслаўе - гэта не стварэнне культурных формаў, а сакральнае спасціжэнне і набыццё дара Духа Святога.

Хрысціянства – рэлігія збаўлення; а гэта значыць не проста "паляпшэння" жыцця, дапамогі ў жыццёвых нягодах, раскрыцця нормаў і прынцыпаў паводзін, а менавіта збаўлення. Неабходна выратаванне самога жыцця, так безнадзейна адарванага ад свайго ўласнага зместу, ад Святла, ад Ісціны, ад Вечнасці.

Адметнай рысай нашага часу з'яўляецца утылітарызм: нам усё роўна, каму маліцца, каму служыць - была б толькі з усяго гэтага нам асабістая карысць. Але чалавечае жыццё - не проста сытае і спакойнае існаванне, а адухоўленае быццё, напоўненае сэнсам

і вышэйшай праўдай. А хіба можа быць праведным жыццё, калі ўяўленні ў нас пра яго ілжывыя? Такім чынам, абараняючы Ісціну ад скажэнняў, Царква клапоціцца не аб незразумелых і абстрактных багаслоўскіх ідэях, а пра нашу далучанасць да жыцця вечнага, якое і ёсць веданне адзінага сапраўднага Бога. Таму галоўнае ў Праваслаўі не веданне на памяць зместу Евангелля і асваенне дагматычнага багаслоўя, а далучанасць да таго вопыту, які стаіць за словамі Кнігі Жыцця.

Хацелася б прывесці ўрывак са Слова аднаго з навамучанікаў нашай Царквы свяціцеля Фадзея, архіепіскапа Цвярскога, які менавіта ў гэты дзень у 1930 годзе казаў наступнае: “Праслаўім памяць айцоў Першага Сусветнага Сабору, і не столькі пахвальнымі словамі вуснаў нашых, колькі вернасцю запаветам айцоў у жыцці. Айцы Сабору не ад сябе выказвалі ісціну, а саткалі яе ў Сімвале веры са старажытных і спрадвечных словаў Пісання Божага. Ці не таму мы павінны нязменна захоўваць “Нікейскую” веру як запавет жыцця, нязменны залог збаўлення?”

Дарагія браты і сёстры, праслаўляючы сёння Святых Айцоў, умацаваўшых праваслаўную веру, будзем маліць Госпада, каб Ён дапамог і ўсім нам захаваць святую і правую веру да канца нашага жыцця і з гэтай верай дасягнуць жаданай блажэннай вечнасці. Амінь.

# ВІНШАВАННЕ Ў ДЗЕНЬ СВЯТОЙ ТРОІЦЫ, ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У свята Пяцідзесятніцы мы ўзгадваем падзею, якой завяршылася справа выратавання рода чалавечага. У гэты дзень Гасподзь паслаў на Сваіх вучняў Святы Дух, Які сышоў на іх у выглядзе вогненных языкоў. Хрыстос вучыў пра Царства Божае – і вось яно раскрылася! Хрыстос абяцаў, што Дух Божы адкрые Ісціну – і вось гэта здзейснілася.

Сёння мы адзначаем дзень Святога Духа. Святы Дух усё Сабою напаўняе і падае жыццё ўсяму існаму. Напаўняе Ён і сэрцы чалавечыя. Святы Дух з намі, Ён ажыватварае ўсё наша жыццё, якасна перамяняе і змяняе яго, робіць зусім іншым. Пры ўздзеянні Духа Святога чалавеку падаецца ўся блажэнная паўната самых цесных дачыненняў і стасункаў з Богам. Адзінасутны і непадзельны ў Прасвятой Троіцы Гасподзь Бог, менавіта таму той, хто далучаны да благадаці Святога Духа, парадняецца з Сынам Божым і ўсынаўляецца Нябеснаму Айцу. Менавіта такую паўнату благадатных дароў атрымалі апосталы Хрыстовы ў згаданы дзень Пяцідзесятніцы.

“Як Сын Божы з’явіўся на зямлі бачным вобразам, так і Духу Святому таксама трэба было з’явіцца такім чынам”, – гаворыць святцель Грыгорый Багаслоў. У Сіонскую святліцу, дзе чакалі абяцанага Суцяшыцеля апосталы, з бурным подыхам ветру сышоў Дух Божы ў выглядзе вогненных языкоў. Так адбылося хрышчэнне Духам Святым і агнём (Лк.3:16), прадказанае найвялікшым са старазапаветных праведнікаў – Прадцечам і Хрысціцелем Гасподнім Іаанам.

Многія пакаленні людзей прайшлі праз гэты вопыт перамянення жыцця прысутнасцю Духа Святога. Успомнім рыбакоў, на

якіх Дух Святы сышоў у дзень Пяцідзесятніцы. Гэта былі простыя галілейскія рыбакі, людзі някніжныя. І толькі пасля таго, як Дух Святы сышоў на іх, калі яны пачалі размаўляць на іншых мовах, калі адчулі ў сабе новыя сілы і новыя здольнасці, яны пачалі набліжацца да разумення свайго сапраўды ўсяленскага паклікання: прапаведаваць Евангелле ўсім народам. Дух Святы перамяніў саму іх сутнасць і падрыхтаваў да подзвігу, асвяціў для атрымання прамяністых нябесных вянцоў.

Так у Сіонскай святліцы было заснавана нябачнае, але да сканчэння часоў непарушнае Царства Святога Духа на зямлі. Дух Гасподні спачыў на Царкве Хрыстовай – маці ўсіх хрысціянаў, якой, згодна з абяцаннем Главы яе – Госпада Ісуса, не страшныя ўсе сілы пекла.

Апранутая ў панцыр благадаці Божай, Святая Царква перамагла ўсё хітрыкі князя свету гэтага – дыявала і адданых яму сыноў пагібелі: выстаяла сярод лютых старажытнарымскіх і навейшых расійскіх ганенняў, пазбегла спакусаў ілжывых ерасей і бязбожных вучэнняў, паўстала ў чысціні і святасці вучэння Хрыстова і заветаў апостальскіх і ўзводзіць у Нябеснае Царства верных сыноў і дачок сваіх. Уставаць і падаць, падаць, але зноў уставаць з нечыстаты і брыдоты, спадзеючыся на міласэрнасць Божую, і не аслабець ў духоўнай бітве з унутраным і знешнім злом – вось справа сапраўднага воіна Хрыстова ў гэтым поўным спакусаў свеце.

Першым зваротам святога апостала Пятра да народа, узрушанага і ўражанага з’яўленнем вогненных языкоў Духа, было слова “Пакайцеся!”. Пакаянне – вось першы неабходны крок на цярністым шляху набыцця благадаці Духа Святога.

“Калі Усявышні, сышоўшы, змяшаў мовы,то Ён тым раздзяліў народы; а калі падаў вогненныя языкі, Ён заклікаў усіх да адзінства...” У гэтых словах кандака свята Пяцідзесятніцы праводзіцца паралель паміж тым, што адбывалася на досвітку чалавечай гісторыі, – будаўніцтвам Вавілонскай вежы, – і тым, што адбылося ў пяцідзесяты дзень пасля Уваскрасення Хрыстова – сашэсцем Духа Святога на апосталаў. Тады людзі, апантаныя вар’яцкай ідэяй пабудаваць вежу, якая дасягала б да нябёсаў,

былі пакараны Богам: яны пачалі размаўляць на розных мовах і перасталі разумець адзін аднаго. А ў дзень Пяцідзесятніцы кожны з соцень людзей, якія прыйшлі ў Іерусалім, пачуў апосталаў, якія гаварылі на яго роднай мове. Бязбожнае будаўніцтва стала прычынай раздзялення чалавецтва, а сыход Святога Духа аб'яднаў усіх людзей у адзінае Цела, адзіную Царкву, дзе ўсе разумеюць адзін аднаго таму, што прасякнуты адным духам і жывуць дзеля адной мэты.

З часоў будаўніцтва Вавілонскай вежы ўсё чалавецтва падзелена на розныя плямёны, розныя краіны, у кожнай з якіх свая мова, свая культура, свая цывілізацыя, свая духоўная традыцыя. І ўсе спробы ўніфікацыі мовы, культуры, светапогляду, як і ўзвядзенне Вавілонскай вежы, канчаліся ў лепшым выпадку няўдачай, у горшым – катастрофай. Мы ўсе былі сведкамі крушэння Вавілонскай вежы, якую будавалі напрацягу сямідзесяці гадоў: увесь гэты час людзей розных нацыянальнасцяў, розных культурнагістарычных традыцый прымушалі размаўляць на адной мове, вызнаваць адну ідэалогію, навязаную ім бязбожнай уладай. У імя ідэі перамогі бязбожнай камуністычнай ідэалогіі мільёны людзей былі рэпрэсаваны, загнаныя ў лагеры, знішчаныя фізічна або маральна. Але дасягнутае адзінства аказалася недастаткова трывалым: вежа абрушылася ад першага подыху свежага ветру. Усе народы, гвалтоўна і штучна аб'яднаныя, зноў раздзяліліся і пачалі будаваць жыццё кожны па-своему.



Відавочна, што пасля будаўніцтва Вавілонскай вежы і да Другога прышэсця Хрыста ў чалавецтва не можа быць адзінага цывілізацыйнага стандарту. Чалавецтва асуджана на тое, каб быць падзеленым у адпаведнасці з рознымі культурнымі, духоўнымі і палітычнымі традыцыямі розных народаў і краін. Толькі ў Царкве

Хрыстовай, дзе няма "ні эліна, ні іудзея", або ў эсхаталагічным Царстве Божым гэта раздзяленне пераадольваецца. Тут жа, на зямлі, ні адна ідэалогія не можа стаць агульнай для ўсіх, ні адна светапоглядная, рэлігійная, культурная, цывілізацыйная або палітычная дактрына не зможа аб'яднаць чалавецтва. І ўсе спробы прымусіць людзей прыняць такую дактрыну скончацца правалам, падобным на разбурэнне Вавілонскай вежы.

Баганосныя айцы Царквы называюць галоўную, адзіную сапраўдную мэту дадзенага нам часовага зямнога жыцця – набыццё і захаванне благадаці Святога Духа ў сэрцах нашых. Асабліва выразна і падрабязна распрацавана гэтае вучэнне прападобным аввам Макарыем Вялікім, які ў старажытнасці здзяйсняў свой подзвіг у пустынях Егіпта. Яго запаветы нагадаў нашаму народу прападобны старац Серафім, падзвіжнік пустыні Сароўскай. Святыя айцы вучаць, што пост, малітва і ўсе нашы добрыя справы зусім не самамэта, а толькі неабходныя сродкі, каб умаліць Духа Святога ўсяліцца ў нашыя сэрцы – менавіта да гэтага неабходна імкнуцца нам, менавіта аб гэтым трэба несупынна прасіць Усявышняга. "Здабудзь Дух спакою, і тысячы выратуюцца вакол цябе!" – гаворыць прападобны Серафім Сароўскі, які сам прасвятляе, акрыляе і да гэтай пары працягвае выратоўваць для Царства Нябеснага мноства душ чалавечых.

У духоўным плане мы павінны скіроўваць свае позіркі да Другога прышэсця Хрыстова, да Царства Нябеснага, дзе мы будзем аб'яднаны Духам Святым у адзінай Пасхе, адзінай Пяцідзесятніцы. Менавіта да гэтага павінны мы рыхтаваць сябе ўсім сваім жыццём, кожнай справай і кожным словам. «Непакорнасць сучаснаму, непрымірымасць з ім і вера ў будучае няхай натхняюць нас, – гаворыць айцец Сергій Булгакаў. – Пяцідзесятніца не абяцае нам спакою і перамогі на зямлі, не абяцае нам гэтага і Хрыстос, але Ён кліча нас да барацьбы, да творчых справаў.»

Будзем падыходзіць да жыцця творча, будзем прасіць Духа Святога, каб Ён прыйшоў і ўсяліўся ў нас, каб Ён перамяніў наша жыццё і – праз нас – жыццё тых, хто побач з намі. Хрысціяне, верныя евангельскаму слову, верныя Святой Апостальскай Царкве,

павінны і ў наш час усведамляць, што яны знаходзяцца сярод бяздушнага свету, варожага Хрысту. Іх вызначальнымі рысамі павінны быць непахісная вернасць Хрысту, адзінадушша ў вызнанні Апостальскай Веры, чысціня ў асабістым жыцці, пачуццё асаблівай адказнасці за Царкву і за лёс свету.

І, нарэшце, мы ніколі не павінны адыходзіць ад Царквы, страчваць жывую сувязь з Ёй. Бо што б ні здарылася з гэтым светам, з нашай краінай, з кожным з нас, Царква будзе стаяць да сканчэння часоў, і "вароты пекла не адолеюць яе." І для кожнага з нас яна будзе заставацца Маці, якая аб'ядноўвае ўсіх нас у адзінае Цела ўздзеяннем Духа Святога. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 1-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ДЗЕНЬ УСІХ СВЯТЫХ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

"Я пайду ад вас, але вы прымеце сілу, калі Дух Святы сыдзе на вас", – сказаў Хрыстос Сваім вучням перад Галгофай. І вось у дзень Пяцідзесятніцы Дух Святы сышоў на Апосталаў, увайшоў як сіла, якой прасякнута ўсё ўнутранае жыццё, і яны сталі далучанымі да Найвышэйшых Ведаў і прывялі да Хрыста свет. У гэты дзень рэальна ў бачным свеце адкрылася глыбіня і веліч свету нябачнага. З гэтага дня кіруемыя Духам Святым Апосталы і іх вучні – свяціцелі, мучанікі, вызнаўцы веры – адважна пайшлі ў свет і схілілі яго да ног Хрыста. Ім прысвечаны сённяшні нядзельны дзень. Збіраючы іх разам – тых, хто ўзаемна звязаны адзінай Верай і адзінай Любоўю да Хрыста, нягледзячы на тое, што належалі яны да розных расаў і народаў, да розных саслоўяў, – Царква ўслаўляе іх урачыстым гімнам, усклікаючы: "Дзіўны Бог у святых Сваіх".

Сённяшні дзень – Дзень усіх святых – гэта свята сусветнай Хрыстовай Сям'і. Гэта вялікая, Царквою ўшаноўваемая сусветная

сям'я, або, лепш сказаць, сусветнае хрыстова брацтва, сведчыць і пра тое, што і ва ўмовах знешняга фізічнага рабства можна дасягнуць духоўнай свабоды. Для гэтага патрэбна толькі цвёрдасць хрысціянскіх перакананняў, цвёрдасць характару і унутраная набожнасць.

Шанаванне ўсіх святых з'яўляецца як бы адказам Царквы на ўсё тое, што зрабіў дзеля выратавання чалавецтва Сын Божы, Які ўцялесніўся на зямлі, не перастаючы пры гэтым быць Богам, і навучыў людзей, як жыць, даў ім Сваё Слова, пацярпеў пакуты за нас, грэшных, узяўшы на Сябе ўсе нашы грахі, памёр для нашага збаўлення, уваскрэс у Славе, а потым узнёсся на Нябёсы і пасадзіў там нашу чалавечую прыроду, якую Ён навекі прыняў у Сваю Боскую Асобу, праваруч Бога Айца.

Святасць – гэта дар, пасланы нам з Крыжа, дар свабоды, дар адданасці і вернасці Богу, дар магчымасці быць далучаным да Яго быцця. Прыналежнасць да Яго Царства, Яго жыццё, дадзенае нам у нашай святасці, – гэта плод ахвяры Сына Божага, прынесенай на Крыжы за ўсіх без выключэння. Сонмы ўмацаваных Святым Духам падзвіжнікаў пайшлі па выратавальнаму крыжоваму шляху, указанаму Госпадам. Царква Хрыстова трымаецца на крыві мучанікаў, пралітай у імя Божае. Хрыстос жыве ў кожным прысвечаным Яму сэрцы, і ў нашай святасці адбываецца сёння Яго Уваскрасенне. Гасподзь даў кожнаму з нас магчымасць прыняць гэты дар. Святыя айцы вырашылі адзначаць гэта свята пасля Дня сашэсця Святога Духа, каб паказаць тыя плады, якія прынесла яно праз апосталаў, і як яно, асвяціўшы людзей, умудрыла іх, узвысіла і ўзвяло на ступень ангелаў і прывяло да Бога, узнагародзіўшы прамяністым вянцом адных за подзвігі мучаніцтва, другіх за праведнае жыццё, трэціх – за непахісную веру.

Для свету жыццё і подзвігі святых – заўсёды незразумелая для розуму таямніца. Свет здзіўляецца, калі чытае або чуе пра людзей, якія "верою перамагалі царствы, аказвалі справядлівасць, атрымлівалі абяцанні, закрывалі пашчы львам, тушылі полымя агню, усцерагаліся смерці ад вастрыя мяча, ачуньвалі ад немачы, былі стойкімі ў баях, змушаючы ўцякаць палкі ворагаў; ... нацярпеліся здзекаў і біцця ды яшчэ кайданоў ды астрогу.Камен-

нем пабітыя былі, перацертыя былі, спакушаемыя былі, гінулі яны ад мяча, туляліся ў авечых і казліных шкурах, жылі ў горы,нястачах і прыгнёце.Не варты быў іх увесь свет, а блукаліся па пустынях, па гарах, у пячорах і шчылінах зямлі." (Яўр.11: 33-34, 36-38). Так апостал Павел пісаў пра подзвігі, якія здзяйснялі ўсе святыя апосталы, ды і ён сам таксама. І не выпадкова гэтыя словы чыталіся сёння падчас літургіі: яны вельмі дакладна і справядліва сведчаць пра тыя ўчынкі, якія здзяйснялі святыя падзвіжнікі веры.

"Кожнага, хто вызнае Мяне перад людзьмі, таго вызнаю і Я перад Айцом Маім, Які ёсць у нябёсах; а хто адрачэцца ад Мяне перад людзьмі, ад таго адракуся і Я перад Айцом Маім, Які ёсць у нябёсах." (Мф.10:32-33). Гэта сказаў Гасподзь вучням Сваім, якія тады стаялі перад Ім; гэта сказаў усёведны Гасподзь, Які бачыў аддаленае будучае быццам сучаснае; сказаў ўсім без выключэння вучням Сваім усіх часоў і краінаў; сказаў Гасподзь гэта і нам – тым, хто стаіць сёння тут, у храме Ягоным, і хто ўпісаў сябе ў лік Яго вучняў, калі прымаў святое Хрышчэнне... Вучні Госпада – не тыя, хто толькі ад імені Яго называюць сябе хрысціянамі, вучні – гэта тыя, хто сапраўды вызнаюць Яго Госпадам сваім і кіруюцца ў жыцці Яго вучэннем, выконваючы запаведзі Божыя.

Вызнанне веры павінна здзяйсняцца розумам, словам, справамі, усім жыццём. Сорам, нерашучасць, ваганні – недапушчальныя ў справе вызнання веры. Вызнанне патрабуе рашучага самаадмаўлення. Яно павінна быць урачыстым. Яно павінна адбывацца ... перад чалавецтвам, перад ангеламі святымі і ангеламі падшымі, перад вачамі зямлі і неба... Устаноўленае Богам богаўгоднае вызнанне чалавекам Бога ёсць знак абрання Богам таго чалавека. Вызнанне слабое, двухсэнсоўнае не прымаецца, адмаўляецца як нявартае Бога. Недастаткова вызнаваць Бога ў глыбіні душы: неабходна вызнанне вуснамі і словамі. Недастатковае вызнанне словамі: неабходна вызнаваць Бога сваімі справамі і сваім жыццём. Таму адрачэнне ад Хрыста бывае поўнае і яўнае, калі чалавек яго прамаўляе сваімі вуснамі – не дай Бог зрабіць такое, – а бывае прыхаванае, таемнае, і, магчыма, яно больш небяспечнае. Размова ідзе пра той выпадак, калі мы саромеемся жыць у адпаведнасці з запаведзямі Божымі і хочам быць не сярод абраннікаў Божых,

сапраўдных хрысціянаў, пра якіх Гасподзь гаворыць: ”Не бойся, малы статак!” (Лк.12:32), – а хочам быць “як усе”.

Калі мы саромеемся жыць па-хрысціянскі, то павінны выразна ўсведамляць, што Гасподзь наш Ісус Хрыстос, Якога мы быццам бы любім, дзеля Якога нібыта жывем (а некаторыя з нас нават пакінулі свет дзеля Яго), пасаромеецца нас і адрачэцца ад нас перад Богам. Усё наша знешне хрысціянскае жыццё – жыццё марнае, калі няма шчырага ўнутранага, жыццёвага, сардэчнага імкнення да Бога, якое праяўляецца, канешне ж, і ў справах – не ў тых, якія адабраюць усе тыя, што вакол нас, а ў тых, здзяйсняць якіх загадвае нам наша сумленне.

”І хто не бярэ Крыжа свайго і не ідзе ўслед за Мною, той не варты Мяне”. Многія людзі хочуць ісці за Госпадам, але пры гэтым не жадаюць цярпець нічога непрыемнага. Аднак, як сказаў святціцель Ігнацій (Брнчанінаў), якім бы мудрым ні быў чалавек, жыццёвых непрыемнасцяў і пэўных выпрабаванняў пазбегнуць яму немагчыма. І каб ісці за Хрыстом, мы павінны быць гатовы выцярпець і пакуты – гэта значыць, панесці свой ўласны жыццёвы крыж, падобна да таго, як у старажытнасці асуджаныя на смерць праз распяцце на крыжы самі неслі на сабе крыж да месца пакарання (у Рымскай імперыі нясенне крыжа было часткай гэтага страшнага пакарання). Калі мы жадаем ісці ўслед за Госпадам, але не хочам несці свой уласны жыццёвы крыж – гэта значыць, што мы не падрыхтаваны да пакутаў і выпрабаванняў, загадзя не настроілі сябе на тое, што прыйдзецца нам выцярпець і цяжкія скорбі, і абразлівыя зняважанні дзеля таго, каб быць сапраўднымі вучнямі Хрыстовымі, – то мы не зможам быць вартымі Госпада Ісуса Хрыста і, канешне ж, не зможам выканаць Яго запаведзі.

Мы ведаем, што апосталаў выгналі з роднай краіны іх жа суайчыннікі – яўрэі, і што вучні Збавіцеля жылі сярод іншых народаў: грэкаў і рымлян, якія прытрымліваліся зусім іншых звычаяў. Аднак апосталы лічылі гэта радасцю, таму што цярпелі усё ў імя Хрыстова, і гэты іх подзвіг зусім не такі нязначны. Прападобныя айцы розных часоў пакідалі сваю радзіму і ішлі падвізацца ў далёкія краіны, як, скажам, напрыклад, Іаан Касіян Рымлянін, які з заходняй часткі Рымскай імперыі прыйшоў у Егіпет. Арсеній

Вялікі, адзін з самых адукаваных людзей свайго часу, які належаў да культурнай нацыі грэкаў,падвізаўся таксама ў Егіпце сярод манахаў, якія паходзілі з простых неадукаваных сялянаў і нават не ведалі агульнай культурнай мовы таго часу – мовы грэчаскай. Угоднікі Божыя дзеля выратавання сваёй душы былі гатовыя адмовіцца ад усяго. Мы ж, у параўнанні з імі, вельмі і вельмі нямоглыя, слабыя і кволыя і целам і духам, і наша адмаўленне вельмі сціплае, калі можна так сказаць, нават калі мы робім гэта шчыра і ад усёй душы. Фактычна, мы яшчэ ні ад чаго не адмовіліся нават знешне.

Будзем пільнымі, узлюбленыя, бо зараз час адступлення. Свет усё больш і больш адступае ад евангельскіх асноваў веравучэння і ад здаровых маральных пачаткаў жыцця чалавецтва. Яшчэ ніколі не адбывалася ў свеце таго, што адбываецца сёння на нашых вачах. Бачачы ўсё гэта, мы павінны помніць.

### *Пропаведзь у Нядзелю 2-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ДЗЕНЬ СВЯТЫХ РУСКАЙ ЗЯМЛІ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Праз два тыдні пасля свята Троіцы Царква ўшаноўвае памяць ўсіх святых Рускай зямлі, якое было ўсталявана ў 1918 годзе на Усерасійскім Царкоўным Саборы як адказ на пачаўшаяся тады адкрытае ганенне на рэлігію і Царкву ў нашай краіне.

У святле вышэй названых падзей яно набывае асаблівае значэнне. Я хачу зараз прывесці вам словы свяціцеля Уладзіміра, мітрапаліта Кіеўскага, навамучаніка нашай Святой Царквы: «Зірніце ўначы на неба, - звяртаецца да нас свяціцель Хрыстоў. – Якая прыгажосць! Якая бязмежная колькасць разнастайных зорак на небасхіле! Але ёсць іншае неба і іншыя зоркі. Гэта святыя ўгоднікі, ззяючыя вечнай

славай у Царстве Божым. Яны, быццам зоркі нябесныя, знаходзяцца вакол свайго Сонца – Хрыста, ззяюць святлом любові і моляцца за нас, грэшных, жадаючы, каб і мы дасягнулі Царства Нябеснага». «І хто ведае, - працягвае далей святіцель Уладзімір, - магчыма, за іх святыя малітвы Гасподзь Бог яшчэ церпіць нас, захоўвае нас ад пагібелі, ад кары нябеснай, чакаючы нашага вяртання да Яго».

Так, сапраўды, менавіта дзякуючы малітвам святых за зямлю нашу, за ўсіх нас, хто жыве на ёй, Гасподзь яшчэ пасылае нам Свае багатыя і шчодрыя міласці. Гасподзь па іх малітвах даруе нам многія саграшэнні нашыя і запавольвае Сваё прышэсце для таго, каб судзіць нас па справах нашых.

Углядаючыся ў выявы святых, мы павінны перш за ўсё навучыцца наследаваць іх прыкладу, іх подзвігу, іх любві, іх змірэнню, іх жаданню аддаць сваё жыцце за тое, каб не на словах, а на самой справе адбывалася выкананне запаведзяў Хрыстовых.

Паглядзім на падзвіжнікаў 20-га стагоддзя, амаль што нашых сучаснікаў, - я не кажу пра тых святых, якія падвізаліся тысячу гадоў назад! - яны ўмелі радавацца, нягледзячы на цяжкія выпрабаванні ў іх жыцці. Чытаючы іх жыціі, уражваешся, якія жорсткія ганенні, пакуты, ссылкі і турмы выпалі на іх лёс, але з імі быў Гасподзь і з імі была радасць. Яны не наракалі на волю Божую, не скардзіліся на сваю долю, мужна пераносячы ўсе выпрабаванні, за ўсё дзякавалі Богу і перамагалі, таму што ў іх сэрцах быў Хрыстос. Таксама дзякавалі Богу і ўсе старажытныя падзвіжнікі веры.

«Дзеля таго і мы, маючы вакол сябе такое мноства сведкаў, адкінуўшы ўсякі цяжар і грэх, што акручвае нас, будзем цярпліва трываць у вызначаным нам змаганні» (Яўр.12:1), – так апостал Павел умацоўвае і суцяшае нас, вернікаў Рускай Праваслаўнай Царквы ў дзень, калі мы малітоўна ўзгадваем святых нашых суайчыннікаў.

Каб стаць святым Царквы Хрыстовай, неабходная стойкасць слабасці, мужнасць галечы.

Каб пераканацца ў гэтым, не трэба нават звяртацца ды гісторыі крывавага дваццатага стагоддзя. У любую эпоху «усе, хто хоча жыць у адпаведнасці з законам Божым», былі ганімыя ад

ўладатрымальнікаў, ганімыя ад ілжэбрацыі.

Абураныя строгімі парадкамі манаскага жыцця, насельнікі Троіцкага манастыра выгнала свайго ігумена – прападобнага і баганоснага айца нашага Сергія, Раданежскага цудатворца. Дзякуй Богу, што толькі выгналі! Таму што другога рускага святога, маскоўскага мітрапаліта Філіпа, па загаду «праваслаўнага цара Іаана Васільевіча» папросту задушылі ў манастыры толькі за тое, што ён асмеліўся звярнуцца ды Грознага цара з угаворамі спыніць вайну супраць уласнага народа, спыніць кровапраліццe. Іншага мітрапаліта, якога наша Царква кананізавала ў двухтысячным годзе як свяшчэннамучаніка, Арсенія (Мацяевіча), «праваслаўная матухна-гасударыня» Екацярына Аляксееўна, пазбавіўшы сану і манаства, замарыла голадам у вільготных падзямеллях Рэвельскага замка. «А яго ж за што?» - спытаеце вы. За тое ж, за што склалі сваю галаву ў дваццатым стагоддзі дзесяткі тысяч навамучанікаў і вызнаўцаў веры ў зямлі Расійскай: за спробу спыніць беззаконнае святатацтва: рэквізіцыю царкоўнай маёмасці на карысць дзяржавы.

Руская Царква - царква гнаных. І пакуль яна будзе такой, яна будзе і Хрыстовай, і праваслаўнай. Не дай нам Бог ператварыцца з гнаных у ганіцеляў, не дай нам Бог так здрадзіць Хрысту!

Заўсёды, калі народ забываў зварот Збавіцеля «Шукайце ж найперш Царства Божага і праўды Яго, і гэта ўсё дадасца вам» (Мф.6:33) і пачынаў замест прапанаванага Царства Нябеснага актыўна ўладкоўваць царства зямное, – памнажаліся смуты, расколы і міжусобныя сваркі, успыхвалі войны. Такое ўражанне, што шукальнікі нацыянальнай ідэі, барацьбіты за імперскую магутнасць ніколі Евангелля не чыталі і не чулі словаў Госпада нашага: «Кожны, хто ўзвышае сябе, будзе прыніжаны, а хто прыніжае сябе, будзе узвышаны» (Лк.14:11). І заўсёды, у адпаведнасці з гэтымі словамі Хрыста, калі краіна наша імкнулася павучаць іншыя народы, весці іх у «светлую будучыню», ганарліва называла сябе «авангардам усяго прагрэсіўнага чалавецтва» – гэта значыць, засвойвала сабе ролю правадыра і настаўніка, нас усіх спасцігала ацвераджальнае няшчасце: нашэсце іншаземцаў, смутны час або крывы вір рэвалюцыі. Але як толькі народ у пакоры прымаў пасланае Богам выпрабаванне, як

толькі ён, «седзячы ў валасяніцы і попеле» (Лк.10:13), прыносіў шчырае пакаянне, суд Божы «мяняўся на міласць» (2Макк.8:5), таму што сіла Божыя «здзяйсняецца ў немачы» (2Кор.12:9), таму што ганарлівым і тым, хто спадзяецца на саміх сябе, «Бог... супрацівіцца, а пакорлівым дае благадаць» (Іак.4.6).

Вось чаму нічога не атрымліваецца з нацыянальнай ідэяй: жадаючыя яе сфармуляваць імкнуцца сумясціць несумяшчальнае - дзяржаўную моц з лагоднаю праўдай Хрыстовай. Святыя зямлі Рускай, нашы крэўныя і духоўныя продкі, узнагародзілі нас адмысловай спадчыннасцю. Нам не падыходзяць сыты росквіт або імперская моц. Нам наогул глыбока чужы глабалізм ва ўсіх магчымых сэнсах гэтага паняцця. І усё таму, што ў цяжкія часы Ардынскага нашэсця святы дабраверны князь-схімнік Аляксандр Неўскі паказаў нам кірунак руху, сказаўшы: «Не ў сіле Бог, а ў праўдзе!»

Праўда Хрыстова, Сіла Хрыстова, якая здзяйсняецца ў немачы, сталі нашай зброяй у барацьбе не за землі або моры, а за душы і розумы. І у той момант нашай гісторыі, калі рускае войска пераможна адбіла нашэсце французаў і яшчэ дванаццаці іншых народаў, што ішлі разам з імі на Расію, і калі, здавалася, агнём і мячом з'явілася магчымасць паспяхова вырашыць любыя палітычныя задачы, з глухой глыбіні Мурамскіх лясоў прагучаў ціхі голас святога старца: «Здабудзь Дух Мірны, і вакол цябе выратуюцца тысячы!» Прападобны Серафім ізноў паказаў народу рускаму, якія мэты перад сабою ставіць і якія задачы вырашаць. І мэты і задачы гэтыя ізноў апынуліся не глабальнымі, не сусветнымі і ўжо, вядома, не імперскімі, а выключна асабістымі, інтымнымі, якія датычаць кожнай асобнай душы чалавечай, той душы, пра якую наш Збавіцель сказаў: «Бо хто хоча душу сваю ўратаваць, той загубіць яе; а хто загубіць душу сваю дзеля Мяне, той знойдзе яе; якая карысць чалавеку, калі ён ўвесь свет здабудзе, а душы сваёй пашкодзіць? альбо які выкуп дасць чалавек за душу сваю?» (Мф.16:25,26)

І калі святы прападобны Сергій Раданежскі, благадатны Ігумен усея Русі, адыходзіў да Бога свайго, ён пакінуў духоўным сваім чадам кароткую запаведзь, духоўнае сваё завяшчанне на ўсе часы: «Браты, да сябе прыслухвайцеся!» І толькі! Той, чыёй малітвай і благаславеннем было скінута Ардынскае ярмо, не заклікае нас зма-

гацца з іншаземнымі прыгнятальнікамі, не кліча абараняць веру і Бацькаўшчыну, таму што цвёрда ведае: «і гэта ўсё дадасца вам» (Мф.6:33). Усе – гэта значыць, перамогі вайсковыя і дыпламатычныя, поспех у гандлі і эканамічны росквіт, павага ворагаў і аддамасць сяброў, – усё мы атрымаем, калі выканаем галоўную ўмову, пастаўленую нам нашым Богам: зберажэм і захаваем душу сваю, тую самую душу, за якую Хрыстос узышоў на Крыж, – зберажэм і захаваем яе для Царства Нябеснага!

Няма і не можа быць у народа, ахрышчанага ў імя Хрыста, агульнанацыянальнай ідэі, як няма і не можа быць агульнанацыянальнай адказнасці на Страшным Судзе Гасподнім, бо там кожнаму прыйдзецца даваць адказ перад Госпадам не за грахі і дабрачыннасць народа, а за свае асабістыя грахі і сваю ўласную дабрачыннасць. Вось чаму святыя суайчыннікі нашы, чыю памяць мы цяпер радасна і з пачуццём глыбокай пашаны адзначалі, не пакінулі нам, убогім, ніякага распараджэння адносна нацыянальнай ідэі. Затое, паводле евангельскіх запаведзяў блаженства, якія мы ізноў успомнілі толькі што за літургіяй, яны сваім уласным прыкладам паказалі нам Царскі шлях выратавання: «Блажэнныя вы, калі будуць вас ганьбіць і гнаць і ўсякім словам ліхім несправядліва зневажаць за Мяне. Радуйцеся і весяліцеся, бо ўзнагарода вашая вялікая на нябёсах» (Мф. 5:11,12). Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 3-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ДЗЕНЬ УСІХ БЕЛАРУСКІХ СВЯТЫХ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сённяшні дзень – Дзень памяці ўсіх беларускіх святых. Гісторыя народу найбольш ярка ўвасоблена ў духоўных вобліках, справах і творчых плёнах яго лепшых сыноў і дачок... Мы не толькі павінны, але і абавязаны ведаць сваё мінулае, каб лепш убачыць сваё заўтра, каб ясней уяўляць, як да яго ісці.

Неабходна адзначыць спецыфічны характар беларускай святасці, якая ў значнай ступені адлюстроўвае і характар народу.

Незалежна ад таго, ці гутарка ідзе пра князёў, свяціцеляў, мучанікаў або прападобных, іх святасць была, як правіла, дзейная, накіраваная на грамадскае, агульнае дабро. Аскетніцтва, якое прынцыпова паклікана для ізаляванага, асабістага збаўлення, у беларускіх святых спалучалася з грамадскім служэннем. Яны не абмяжоўваліся закрыццём у манастырскіх келлях, але ахвоча неслі ў народ святло сваіх ведаў, сваю высокую мараль і ўласны прыклад праведнага жыцця. Дзякуючы гэтаму беларускія святыя былі сапраўднымі светачамі, соллю зямлі беларускай, яе святлом, розумам, гонарам і сумленнем.

Свята ў гонар беларускіх святых гэта не простае пералічэнне нейкіх дзіўных людзей, якія жылі на нашай зямлі ў старажытныя часы і не мелі ніякага дачынення да рэальнага жыцця, гэта сцвярджэнне менавіта душы, духоўнага стрыжню беларускага народа, яго гісторыі, яго самавызначэння і светаўспрымання. Гэта сцвярджэнне таго, што кожны народ мае душу – гэта значыць, усё тое самае высокае, чыстае і лепшае, адносна чаго ён сябе вызначае. І гэта самае высокае, чыстае і лепшае, што ёсць у беларускім народзе, увасабляюць яго святыя. Дзень усіх беларускіх святых перарастае сваё ўласна царкоўнае і богаслужбовае значэнне. Ён становіцца пытаннем, звернутым да народа, пытаннем аб душы, аб сэнсе жыцця, аб сапраўдных каштоўнасцях нашага народа.

Дзень святкавання памяці нашых святых у гэтым годзе супадае з днямі памяці вызвалення Беларусі ад фашыстаў.

Вялікая Айчынная вайна была адным з самых цяжкіх выпрабаванняў, якое выпала на долю нашага народа ў мінулым дваццатым стагоддзі.

Як вядома, перад пачаткам вайны Праваслаўная Царква перажыла самае страшнае ганенне ў сваёй гісторыі, якое не спынялася амаль чвэрць стагоддзя. Зачыняліся манастыры і храмы, апаганьваліся святыні, фізічна знішчаліся духоўныя асобы і актыўныя міране. У канцы 30-х гадоў царкоўная структура на тэрыторыі краіны была амаль цалкам знішчана.

Падзеі ваенных гадоў асабліва яскрава прадэманстравалі той факт, што значная частка насельніцтва, нягледзячы на гады рэпрэсій і спробы таталітарнай дзяржавы прымусова ўвесці атэістычную ідэалогію, засталася праваслаўнай і захавала вернасць Божым запаведзям і традыцыям продкаў. Забыўшы пра свае асабістыя трагедыі, крыўды і перанесеныя пакуты, пра сваё становішча “непаўнавартасных грамадзянаў”, якімі яны былі для савецкай улады, яны сапраўды ўзышлі на высокую ступень хрысціянскай свядомасці і паказалі сябе вернымі чадамі Царквы і зямной Бацькаўшчыны.

Гады вайны – гады духоўнага адраджэння нашага народа пасля доўгіх часоў панавання бязбожнага рэжыму. Многія людзі ў гады вайны вярталіся да бацькоўскай веры. Не выпадкова, што менавіта тады змяніліся царкоўна-дзяржаўныя адносіны.

Вельмі важна асэнсаванне таго гістарычнага факта, які яскрава сведчыць нам пра тое, што ў час драматычных выпрабаванняў значная частка нашага народа знайшла духоўную падтрымку ў Праваслаўнай Царкве.

Сталінская палітыка ў адносінах да Царквы ведала два пераломы. Сёння часцей прыгадваюць станоўчыя зрухі, якія адбыліся ў адносінах дзяржавы да Царквы ў 1944-га года, але забываюць, што ў пасляваенныя часы з другой паловы 1948-га года замест яўнага ганення на Царкву прыходзіць новае – прыхаванае.

Наша Айчына за гады бязбожжа ў духоўных адносінах страціла вельмі шмат з таго, што было здабыта за стагоддзі яе існавання. Святыя беларускай зямлі сёння моляцца за нас, каб гэтыя страшныя шматлікія чорныя старонкі нашай гісторыі ніколі не паўтарыліся.

Сёння, каб узнавіць нашу краіну, неабходна адрадзіць у ёй рэлігійны дух. Ні палітычныя планы, ні эканамічныя разлікі не дапамогуць, калі Гасподзь не ўбачыць, што народ звярнуўся да Яго. Збаўленне і паўната жыцця не могуць быць здабытыя сілаю дзяржаўнага, палітычнага, эканамічнага ўздзеяння.

Тым, хто хоча здабыць духоўную ісціну, вольную ад любога ідэалагічнага ўціску, патрэбна працяглы час з глыбокім пакаянным пачуццём даследаваць нашу шматпакутную гісторыю і зрабіць адпаведныя высновы з атрыманых урокаў.

Знамянальна, што памяць беларускіх святых адзначаецца ў дні Пятровага посту, устаноўленага ў памяць аб прыгатаванні апосталаў да вялікага служэння дабравешчання. Святыя зямлі Беларускай указваюць адзіную галоўную мэту нашага часовага зямнога існавання – набыццё благадаці Святога Духа ў сэрцах нашых. Пакліканыя да святла Хрыстовай веры, мы не павінны ўдзельнічаць у згубных справах цемры. Адноўленыя Духам, мы павінны прыносіць добрыя плады справаў духоўных – дабрату, справядлівасць, праўду (Эф.5:9).

Давайце памолімся, каб Гасподзь малітвамі святых падзвіжнікаў умацаваў у нашых сэрцах веру, каб іх малітвамі Гасподзь даў нам любоў да Царквы і да Радзімы, каб ніщто не змагло нас адлучыць ад любові Божай у Хрысце Іісусе. Будзем “сваякамі” беларускім святым не толькі па плоці, але і па духу! Усе святыя зямлі Беларускай, маліце Бога за нас! Амінь. Са святам!

## *Пропаведзь у Нядзелю 4-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА СОТНІКА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Усённяшні нядзельны дзень, браты і сёстры, Святая Царква прапанавала нашай увазе евангельскі сюжэт, які апавядае нам пра непахісную, я бы нават сказаў, каменную веру чалавека-язычніка – сотніка рымскага войска, у якога быў хворы слуга. Гэты чалавек, на радзіме якога больш за тысячу гадоў квітнела язычніцтва, пачуў пра Хрыста Месію, паверыў у Яго і тады, калі невылечна захварэў яго слуга, ён пайшоў да Хрыста, каб звярнуцца да Яго з просьбай аб ацаленні хворага. Гэтыя словы сотніка ўзгадвае нам сёння апостал і евангеліст Матфей: “Госпадзі! Слуга мой ляжыць дома спаралізаваны і моцна пакутуе.” (Мф.8:6) Іісус адказвае яму, што гатовы прыйсці ў яго дом і ацаліць хвора-

га, але тут сотнік прамаўляе дзіўныя словы: "Госпадзі! Я не варты, каб Ты ўвайшоў пад мой дах; але скажы толькі слова, і выздаравее слуга мой. Бо і я чалавек падуладны; але, маючы ў сябе падначаленых мне воінаў, кажу аднаму: "ідзі", і ідзе; і другому: "прыйдзі", і прыходзіць; і рабу майму: "зрабі гэта", і робіць." (Мф.8:8-9). Калі Гасподзь пачуў гэтыя словы, Ён, звяртаючыся не толькі да сотніка, але і да ўсіх, хто быў побач з Ім, сказаў: "Праўду кажу вам: і ў Ізраілі не знайшоў Я такое веры" (Мф.8:10).

Так, сапраўды, браты і сёстры, можна толькі здзіўляцца і ўражвацца той веліччу і цвёрдасцю веры, якая была ў гэтага чалавека перад Хрыстом Збавіцелем. Мы часта разважаем пра веру і гаворым пра яе, спасылаючыся на словы апостала Паўла, што "без веры дагадзіць Богу немагчыма" (Яўр.11:6). Але пры гэтым мала хто з нас, на жаль, задумваецца над тым, што вера – гэта толькі пачатковы этап, толькі першыя крокі чалавека ў накірунку да Бога. Затым жа ў жыцці кожнага чалавека вера павінна, калі хочаце, ператварыцца ў давер да Бога, а праз давер мы павінны набыць у нашым сэрцы і нашай душы вернасць Богу. І калі, хутчэй за ўсё, вера яшчэ жыве ў нашым сэрцы, то што да даверу да Бога і вернасці Яму – іх у нашым жыцці няма.

Мы павінны помніць, што для Бога няма перашкодаў, была б толькі наша вера і і наш давер да Яго! Вера і давер у кожным з нас павінны нарадзіць вернасць Богу, якая ні пры якіх абставінах не дасць нам усумніцца ў тым, што Гасподзь побач, што Ён заўсёды можа прыйсці нам на дапамогу, толькі б мы заўсёды звярталіся да Яго. Звярніце ўвагу на сённяшні евангельскі сюжэт. Сотнік кажа: "Госпадзі, скажы адно толькі слова! Аднаго Твайго слова дастаткова, каб слуга мой ачуняў".

Вось як бывае! Сотнік толькі папрасіў – і адразу яго слуга стаў здаровым, хоць ён цяжка хварэў, ляжаў спаралізаваны і не мог узняцца з ложка. А мы часта падоўгу молімся за хворых, і нічога не атрымліваецца. Гасподзь нам дае прыклад сотніка: калі малітва наша будзе падобна да ягонай, та яна гэтаксама будзе пачута і выканана. Таму трэба вельмі ўважліва ў гэта Евангелле ўчытацца, услухацца, угледзецца, каб мы змаглі сваю малітву зрабіць такою ж выніковай, як у сотніка.

Чым жа гэты сотнік нам цікавы? Ды шмат чым. Па-першае, ён прасіў не за сябе, не за ўласнага сына ці дачку, нават не за воіна, які яму падпарадкоўваецца, а за слугу свайго. Гэта гаворыць пра яго вялікую любоў, таму што рэдка які начальнік так любіць свайго падначаленага, што будзе пра яго клапаціцца, кудысьці пойдзе і стане за яго прасіць. Вось першая дабрадзейнасць: у яго вельмі міласцівае сэрца, здольнае на любоў да чалавека, які значна ніжэйшы за яго па сваім становішчы.

Далей, мы ведаем, што сотнік сказаў: " Госпадзі! Я не варты, каб Ты ўвайшоў пад мой дах; але скажы толькі слова, і выздаравее слуга мой" (Мф.8:8). Гэты чалавек валодаў вялікім змірэннем. Ён мог проста паслаць некалькі воінаў і загадаць ім: вось гэтага прывядзіце да мяне. Сотнік быў акупантам, камандзірам гарнізона – гэта значыць, у маштабе Капернаума ён быў буйным начальнікам. Але замест таго, каб накіраваць сваіх падначаленых да Іісуса, ён сам ідзе да Яго і просіць у Яго. Мала таго, што просіць. Больш за тое, калі Гасподзь сказаў: "Я зараз прыйду і ацалю твайго слугу" (Ён зрабіў гэта таму, што бачыў: гэты чалавек міласэрны і сапраўды спачувае хвораму), ён адказаў: "Я няварты таго, каб Ты да мяне прыйшоў". Гэта значыць, сотнік меў вялікае змірэнне, маючы пры гэтым такую вялікую ўладу. А ўлада страшэнна псуе людзей.

Мала хто з людзей можа вытрымаць выпрабаванне ўладай, таму што ўсе астатнія пачынаюць перад ім гнуць спіну, дагаджаць, ліслівіць, падхалімнічаць. І чалавек, калі яму не хапае розуму (а часцей за ўсё яго звычайна і не хапае), пачынае гэтыя знакі ўвагі прымаць на ўласны рахунак, хаця людзі схіляюцца перад уладай, а не перад ім. Таму што як толькі ён памрэ, яго адразу ж забудуць і ніколі больш не ўспомняць, а будуць толькі смяяцца. Гэта значыць, кланяюцца перад яго пасадай, а чалавек па сваёй неразумнасці, па сваёй грахоўнасці залічвае гэта асабіста сабе.

Але сотнік гэтай спакусе не паддаўся. Ён з вялікім змірэннем падышоў... зрэшты да каго ён падышоў? Да нейкага вандруючага прапаведніка, якога любы мог пакрыўдзіць, які нават і свайго ўласнага сталага жытла не меў, не меў, дзе галавы сваёй прыхіліць, быў проста жабраком. І вось гэтаму жабраку ён гаворыць: "Я ня-

варты, каб Ты ўвайшоў у дом мой". І далей: " Бо і я чалавек падуладны; але, маючы ў сябе падначаленых мне воінаў, кажу аднаму: "ідзі", і ідзе; і другому: "прыйдзі", і прыходзіць; і рабу майму: "зрабі гэта", і робіць" Гэтым сотнік паказаў, што падначаленыя слухаюцца яго без пярэчання, але тут улада Божая, і ён саступае перад ёй са сваёю зямною ўладаю, прызнаючы, што яна нішто ў параўнанні з той, якую мае Сын Божы. Так, будучы чалавекам, які мае вялікія магчымасці і паўнамоцтвы, ён, тым не менш, з глыбокай пакорай падышоў да Збавіцеля. Якое супрацьлеглае стаўленне да Царквы мы бачым часамі сёння з боку тых, хто сёння мае ўладу.

«Пачуўшы гэта, Ісус здзівіўся і сказаў тым, што ішлі за Ім: праўду кажу вам: і ў Ізраілі не знайшоў Я такое веры» (Мф.8:10). А ў чым была гэта вера? Ён сказаў: скажы толькі слова, і ачуняе слуга мой. Ён не гаварыў: трэба абавязкова зрабіць тое і тое, выканаць нейкія пэўныя дзеянні. Ён меў такую непахісную веру, што не патрабаваў ніякіх доказаў таго, што Ісус – Сын Божы. Скажы толькі слова – і ачуняе. І Гасподзь здзівіўся і сказаў: ва ўсім Ізраілі Я не знайшоў такой веры.

Такім чынам, мы бачым у сотніку самыя галоўныя хрысціянскія дабрадзейнасці: веру, прычым вельмі моцную; міласэрнасць і любоў да чалавека, не толькі чужога, але і падначаленага яму; і вялікае змірэнне. Таму і стаў ачуняў яго слуга.

Ён быў праведным, гэты сотнік, і Гасподзь адразу пачуў яго. І калі Гасподзь адразу не выконвае нашы малітвы, гэта не таму, што Ён нас не чуе. Гасподзь чуе ўсё, Ён ведае нават нашы думкі. А чаму ж Ён марудзіць? Таму што мы далёка не праведныя. Гасподзь любіць праведнікаў, а грэшнікаў мілуе. Таму, калі мы хочам заслужыць у Бога міласць, калі хочам схіліць Яго волю да нашай просьбы, мы павінны сваю волю аб'яднаць з воляй Божай. Мы часта хочам атрымаць ад Бога тое, другое, трэцяе... – і не атрымліваем не толькі таму, што ў нашай малітве няма пакорнасці волі Божай і веры, але ў нашай малітве часта няма і любві. У асноўным у ёй бывае себялюбства, таму што мы звычайна просім за сябе. І нават калі молімся за кагосьці, то гэта часцей не з-за спачування да гэтага чалавека, а таму, што яго цяжкая доля абцяжарвае наша

ўласнае жыццё, нам цяжка цярпець. Таму мы просім за яго, каб атрымаць сабе палёгку. І Гасподзь бачыць гэта і не спыняе выпрабавання. Ён чакае, калі ўмацуецца наша вера, калі ўзрасце наша міласэрнасць, калі наша змірэнне дасць дарогу благадаці Божай. І калі мы хочам, каб Гасподзь убачыў нас, і пахваліў нас, і рады быў нашым справам, думкам і словам, нам трэба ўзмацняцца ў гэтых трох дабрадзейнасцях.

Па-першае, у змірэнне. А змірэнне – гэта значыць заўсёды мець мірны, спакойны дух, лічыць сябе горшым за ўсіх, нявартым таго, што табе даецца.

Па-другое, у веры. Трэба безумоўна і цвёрда верыць кожнаму слову, якое сказаў Гасподзь, – не ў якіясьці магічныя дзеянні ці замовы, а ў тое, што раз Гасподзь сказаў, то, значыць, гэта ёсць ісціна. Гэта значыць, трэба сваю душу так звярнуць да Евангелля, каб кожнае слова сапраўды ўспрымалася намі як ісціна. Так, на словах мы быццам бы верым у Евангелле, а на справах – не. Мы жывем так, што калі б нам паказалі усё наша жыццё, мы б жахнуліся і памерлі ад разрыву сэрдца. Мы проста прывыклі да граху, жывем у ім і нам здаецца, што мы добрыя і праведныя. Мы аслеплены ўласным себялюбствам, але калі бачым гэты ж грэх у іншым, то абураемся: як жа так? ды як ён толькі так можа? Хоць самі робім не толькі так, а і ў тысячу разоў горш.

Ну і, канешне, няма ў нас міласэрнасці. Гасподзь даў галоўную запаведзь, без якой нельга ўвайсці ў Царства Нябеснае. Уласна кажучы, яна і адкрывае туды ўваход: узлюбі таго, хто побач з табою. І не проста ўзлюбі, а як самога сябе: не жадай нікому таго, чаго ты не хочаш, каб зрабілі табе. Як проста! Калі не хочаш, каб цябе забілі, – і ты нікога не забівай. Калі не хочаш, каб цябе пакрыўдзілі, – і ты нікога не крыўдзі. Аў нас атрымліваецца, што мы заўсёды аддаем перавагу сабе перад іншым. Нам неабходна навучыцца разумець становішча іншых, успрымаць людзей, якія навокал нас, не як біялагічныя аб'екты, што дапамагаюць або перашкаджаюць нам жыць у дадзены момант, а падумаць,што ў іх таксама ёсць пачуцці, клопаты, пэўныя скорбі. Трэба навучыцца ўспрымаць іншага чалавека як самога сябе.

Вось гэты сотнік: у яго хворы слуга. Ды хай ён памрэ, якая розніца? Іншага вазьму: падумаеш, слуга! Навошта ён патрэбны? Ды не. Ён яго боль успрыняў як свой. Хварэе адзін, а спачувае яму другі. Але ў нас так не атрымліваецца.

Гасподзь гаварыў: «Няхай усе будуць адно» (Іаан.17:21), і маліўся аб гэтым адзінстве. А яно можа здзейсніцца толькі праз любоў. Без яе нельга дасягнуць Царства Божага, таму што ўвайсці ў яго можна толькі тады, калі любіш Бога. А калі чалавек любіць Бога – гэта значыць, ён любіць наогул усіх.

Таму Гасподзь і сказаў, што другая запаведзь падобна да першай. Калі чалавек навучыўся любіць Бога, ён не выбірае, ён любіць усё: і дрэва, і насякомае, і тым больш чалавека як найвышэйшае і найдасканалейшае стварэнне Божае. Чаму чалавек не любіць Бога або чаму ён не любіць іншага чалавек, які знаходзіцца побач з ім? Ды таму, што ён ні пра Бога не мае ніякага ўяўлення, ні таго, хто знаходзіцца побач з ім, не адчувае.



Як жа ты, чалавек, не ходзіш у храм? Гэта гаворыць пра тое, што чалавек зусім не разумее, што тут адбываецца; у яго цалкам халоднае сэрца; ён абсалютна не адчувае прысутнасць Бога ў богаслужэнні. А калі ён не адчувае Бога, як ён можа любіць Яго? А калі ён не любіць Бога, як ён можа любіць чалавека, які знаходзіцца побач з ім? А калі няма любві – тады магчымы ўсякі грэх, усякае вар’яцтва, любыя страшныя ўчынкі, якія нават цяжка ўявіць.

Чаму так адбываецца? Таму, што чалавек жыве грахом, а не любоўю да Бога. Пагэтаму, натуральна, калі з ім нешта здараецца і ён пачынае маліцца, імкнецца неяк ухіліцца ад цяжкіх абставін – нічога не атрымліваецца. Ён кажа: ”Госпадзі, дапамажы!” – Маўчанне. Ён нічога не атрымлівае таму, што Гасподзь ведае: калі яму зараз дапа-

магчы, вызваліць яго ад таго, ад чаго ён пакутуе, даць тое, аб чым ён просіць, – гэты чалавек зноў вернецца да свайго звычайнага ранейшага грахоўнага ладу жыцця і да сваіх былых справаў. Няхай ён лепш знаходзіцца ў гэтых цяжкіх жыццёвых абставінах і пастаянна моліцца да Бога, стукаючыся то ў адныя дзверы, то ў другія, і, магчыма, ў гэтым пошуку паступова штосьці зразумее, у яго сэрца трапіць хаця б адзін праменьчык благадаці Божай.

Тое, што цяжка атрымліваецца, каштуе больш за ўсё. Маці любіць больш тое дзіця, з якім яна больш намучылася. Гэта натуральна. І мастак любіць менавіта тую карціну, якая яму не давалася і над стварэннем якой ён працаваў значны час. У што чалавек укладае больш працы, тое яму даражэй. Менавіта таму Гасподзь зрабіў так, што шлях да Царства Нябеснага такі цяжкі – каб мы цанілі тую благадаць, якую Гасподзь дае нам, бо гэта самая вялікая каштоўнасць.

І вобраз гэтага евангельскага сотніка сапраўды павінен захавацца ў нашым розуме і сэрцы. Нам неабходна зразумець: калі мы хочам адразу штосьці атрымаць ад Бога, то павінны мець, па-першае, моцную веру ў тое, што Гасподзь нас чуе. А калі Ён нам чагосьці і не дае ў дадзены момант, то, значыць, так нам трэба. Мы павінны мець вялікую пакору перад воляй Божай. Мы павінны быць гатовы прыняць тое, што Гасподзь дасць, нягледзячы на нашы просьбы, і нічога не патрабаваць ад Яго, як гэта звычайна бывае з намі.

І трэба абавязкова імкнуцца да міласэрнасці, старацца змякчаць сваё сэрца. І калі ў нас сапраўды гэта будзе атрымлівацца, тады малітва наша будзе пачута, Бог будзе нас чуць, таму што праз любоў да ўсіх мы будзем з Ім у непасрэдным дачыненні. Царква ставіць перад вачыма нашай душы нейкае люстэрка, каб мы, уважліва ўглядаючыся ў гэта люстэрка Евангелля, запыталіся ў сябе: ці так мы верым, як гэты рымскі сотнік, ці вера наша не большая за веру фарысеяў?

Што для нас на самой справе больш важнае: Смерць і Уваскрасенне нашага Збавіцеля або каменьчык з магілы святога, паясок з надрукаванай на ім малітвай ці вада са "святой крыніцы"?

Рымскі сотнік давярае Богу настолькі, што становіцца сведкам

цуда. А мы з вамі падобныя да тых, пра каго апостал Павел сказаў: "Іудзеі патрабуюць цудаў" (1Кар.1:22). Нам, як і іудзеям, патрэбны цуды! А калі іх няма, мы гатовы самі іх прыдумаць: на карысць жа справы працуем! І ўжо не цуд, што я прыйшоў ад няверʼя да веры, і ўжо не цуд, што ў раней бязбожным горадзе на пустым месцы ўзнік храм, і ўжо не цуд, што Царква, ганімая і знішчаемая, распятая і амаль загубленая, адраджаецца, быццам фенікс з попелу.

Рымскі сотнік, чужаземец і язычнік, просіць у Госпада: " скажы толькі слова, і выздаравее слуга мой" (Мф.8:8). А для нас, небаракаў, усе словы даўно сказаны, Евангелле запісана і раздрукавана мільярднымі тыражамі, а нам – усё мала. Нам падавай агонь з нябёсаў! Вось чаму так лёгка шмат хто з нас паверыў, што прычына пагібелі чалавека не ў яго свядома здзейсненых грахах, а ў тым, які нумар ён атрымае ў дакументах падатковай інспекцыі. Ледзь да расколу царкоўнага справа не дайшла! А ўсё таму, што замест простага сэрца ў нашай пашкоджанай грэхападзеннем прыродзе пануе лжэіменный разум, а ўсё таму, што мы не Богу давяраем, а "паданням старцаў"!

Так што не толькі да фарысеяў, але і да нас, тых, хто жыве ў дваццаць першым стагоддзі пасля Нараджэння Хрыстова, звернуты гэтыя словы Збавіцеля: "Сыны царства будуць выкінуты ў цемру знешнюю; там будзе плач і скрыгат зубоў" (Мф.8:12). І трэба зразумець нам: калі мы верым у збавіцельную сілу пяску ці каменя, то з пяском або камнем і застанемся, бо сказаў Гасподзь: "ідзі, і, як ты вераваў, няхай будзе табе": калі верыў у камні – з імі і застанешся, верыў у Айца Нябеснага – Ён не пакіне цябе.

Верце ў Госпада, Які заўсёды знаходзіцца побач з намі і будзе знаходзіцца ва ўсе дні да сканчэння веку, жывіце праведна, шчыра кайцеся ў сваіх саграшэннях, выпраўляйце жыццё ваша ў адпаведнасці з запаведзямі Божымі, прасіце ў Госпада з непахіснай верай добрага і карыснага – і атрымаеце. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 5-ю пасля Пяцідзесятніцы*

# ПРА ГЕРГЕСІНСКІХ АПАНТАНЫХ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Які адзінокі Бог на зямлі! Які адзінокі Гасподзь наш Ісус Хрыстос сярод людзей, да якіх прышоў Ён, каб збавіць іх ад вечнай смерці! Двое гергесінскіх небаракаў, апанаваныя лютымі дэманамі, гоняць Яго: "Пакінь нас, што Табе да нас!" (Мф.8:29). Цэлы горад выйшаў насустрач Яму і просіць, каб Ён "адышоў ад межаў іх" (Мф.8:34). Уявіце толькі сабе: усе гараджане сабраліся для таго, каб прагнаць Сына Божага!

На радзіме – там, дзе Ён вырас, дзе кожны ведаў Яго як Сына цесляра Іосіфа, як Сына Чалавечага, – у Назарэце Галілейскім, людзі, якія слухалі пропаведзь Яго ў сінагоге і, ураженыя розумам і прамудрасцю Таго, Хто гаварыў, "дзівіліся словам благадаці, якія выходзілі з вуснаў Яго, і гаварылі: ці не Іосіфаў гэта Сын?" (Лк.4:44), літаральна праз хвіліну "выгналі Яго прэч з горада, і павялі Яго на верх гары, на якой горад іх быў пабудаваны, каб скінуць Яго" (Лк.4:29) – "Прыйшоў да сваіх, і свае Яго не прынялі..." (Ін.1:11). "Ідзі, ідзі прэч ад нас, адыдзі ад межаў нашых!" – казалі людзі, якія аддалі перавагу таму, што для іх было даражэй: багацце, гаспадарку, бестурботны і спакойны лад жыцця яны абралі замест здароўя і ацалення чалавека ад яго грахоўных немачаў і духоўных хваробаў; адыдзі – Ты нас пазбаўляеш таго, што нам даражэйшае за чалавека... "Ідзі ад нас, – гаварыў Вялікі Інквізітар. – Ты перашкаджаеш нам клапаціцца пра зямны дабрабыт, перашкаджаеш забяспечваць шчасцем маўклівы і безадказны статак – адыдзі! Ты ім адкрываеш шляхі, па якіх ім вельмі цяжка будзе ісці..." "Ідзі ад нас! – казалі Яму правадыры яўрэйскага народа перад тварам Пілата. – А калі Ты Сам не адыходзіш, няхай зямная ўлада і грубая сіла пазбавіць нас ад Цябе..." І да Пілата звярталіся са словамі: "Распні, распні Яго! – каб не гучала больш на вуліцах нашых гэта страшная пропа-

ведзь пра любоў, якая аддае ўсю сябе дарэшты, гэта вар'яцтва пра лагоднасць і змірэнне, пра самаадрачэнне, бо няма нічога больш важнага і істотнага за чалавека..."

І праз усю гісторыю гучыць гэты крык: "Адыдзі ад нас! Ідзі прэч! Ты стаіш на нашым шляху да дабрабыту, бестурботнага жыцця, да забыцця ў зямных асалодах..." Гэтыя словы гаворыць чалавечы род напрацягу ўсёй сваёй гісторыі. А мы? Няўжо мы адзіныя, хто з невялікай жменькай вучняў гэтых страшных словаў напрамую або ўскосна ніколі не сказалі і ніколі не скажам? Прыгадаем, што зусім нядаўна быць чалавекам веруючым лічылася злачынствам. І мы не толькі саромеліся сваёй веры, але і адракаліся ад Хрыста. З нашай маўклівай згоды разбураліся храмы, знішчалася Царква. А хіба сёння хрысціянства стала галоўным сэнсам нашага жыцця? Існуе тэндэнцыя ператварыць праваслаўе ў ідэалогію, якою можна было б замяніць марксізм. Жыццё дастаткова часта аб'ядноўвае зусім, здавалася б, несумяшчальныя рэчы.

Мы так і не прынеслі пакаяння ў нашым Богаадступніцтве і Багаборніцтве. І мы абсалютна спакойна з гэтым пагаджаемся. Жыццё без Хрыста – гэта шлях да прыняцця антыхрыста. Ты нас пазбаўляеш таго, што нам даражэй за Тваю прысутнасць у нашым жыцці. Ты нас узлюбіў, Ты за нас аддаў Сваё жыццё, прыняўшы жудасную смерць на крыжы, перажыўшы страшэнныя хвіліны пакінутасці Богам у той момант, – усё гэта мяне ні кропелькі не кранае: мне ўсё роўна.

Адзінокі і чалавек, які вызнае Хрыста сваім Богам і Збавіцелем. Адзінокі перш за ўсё таму, што "раб не большы за гаспадара свайго" (Ін.15:20), бо, калі мы вырашылі аднойчы ісці за Хрыстом, нам непазбежна прыдзецца падзяляць з Ім усе цяжкасці, якія сустракаюцца на гэтым шляху. У сённяшнім апостальскім чытанні мы чулі словы апостала Паўла: "Калі вуснамі тваімі будзеш вызнаваць Ісуса Хрыста Госпадам і сэрцам сваім верыць, што Бог уваскрасіў Яго з мёртвых, то выратуешся" (Рым.10:9). Не толькі трэба верыць сэрцам, але і вуснамі сваімі вызнаваць і сведчыць жыццём сваім, не саромеючыся гэтага і нічога не баючыся. А інакш будзеш крывадушнікам, у якога ў сэрцы – адно, а на вуснах – другое. Або,

яшчэ горш: будзеш усё ведаць пра Хрыста, але без усякай карысці для сябе. Як тыя дэманы, пра якіх сёння ўзгадвалася ў Евангеллі: яны ведалі, што Хрыстос – Сын Божы, і ўсё ж не назвалі Яго сваім Госпадам. Уражвае наша прыкрая абыякавасць у справе выратавання душы!

Вераю ў Распятага і Уваскрэслага Ісуса Хрыста, Яго Крыжам пазбаўляемся мы ад уплыву і ўздзеяння на нас духаў зла, наводзячых на чалавека зацямненне свядомасці і сумятню думак. І няхай бягуць нячыстыя духі ад аблічча «тых, хто любіць Бога і асяняе сябе знаменнем Крыжа».

«Ідзі, – сказаў Хрыстос ацалённаму Ім апанаванаму дэманамі – і раскажы, што з табою адбылося і як Гасподзь памілаваў цябе.» Такім чынам, былы апантаны гадарынец стаў першым дабравеснікам Царства Божага ў сваёй краіне. І мы, тыя, хто імем Хрыста ацаляецца і выратоўваецца, як і ацалённы гадарынец, павінны несці добрую вестку аб Хрысце ў той абездухоўлены свет, які вакол нас. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 6-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА ПАРАЛІЗАВАНАГА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння на літургіі мы чулі апавяданне пра тое, як Гасподзь наш Ісус Хрыстос ацаліў паралізаванага чалавека. Пры гэтай страшэннай хваробе чалавек, які не здольны самастойна паварушыць ні адной часткай цела, становіцца абсалютна бездапаможным і цалкам, нават у дробязях, залежыць ад людзей, якія яго даглядаюць. Самая дробная нядбайнасць ці неахайнасць у адносінах да хворага, магчыма, нават і не заўважаная імі, можа глыбока пакрыўдзіць чалавека.

Людзі, якія прынеслі паралізаванага да Збавіцеля, відавочна, ставіліся да яго з любоўю (магчыма, ён быў іх сваяком ці сябрам) і жадалі яму ўсяго самага лепшага. І вось яны ў надзеі на тое, што

хворы атрымае ацаленне, знайшлі магчымасць прынесці яго да Хрыста. Дзеля веры тых людзей, якія яго прынеслі, Гасподзь сказаў яму : «Мацуйся, сыне! Даруюцца табе грахі твае» (Мф.9:2).

Гасподзь дасылае Сваю міласэрнасць на жыццё ўсяго чалавека. Ён гаворыць пра тое, што там, дзе знішчаны грэх – самая галоўная хвароба чалавека, там лёгка ацаліць і хваробу цела. Гасподзь убачыў веру тых людзей, якія прынеслі да Яго паралізаванага, і па гэтай веры даў дараванне грахоў і ацаленне ад хваробы яму самаму. Тут вера адных прыцягвае благадаць Божую да другіх. Душы тых, якия прынеслі хворага, праз веру становяцца здольнымі да прыняцця благадаці, але, маючы чалавекалюбства і спачуванне да душы хворага, яны на яе праводзяць ток гэтай благадаці і становяцца ўдзельнікамі даравання грахоў паралізаванаму і яго ацалення. Так усталёўваецца сувязь паміж душамі людзей і ўзаемная падтрымка іх у справе выратавання, вядомая кожнаму, хто жыве духоўным жыццём. Таму трэба клапаціцца адзін пра аднаго, просячы ў сваіх малітвах усякага дабра ўсім, хто побач з намі.

Царква – адзінае Цела Хрыстова. І калі ў чалавечым целе ўсё органы і сістэмы органаў нармальна функцыянуюць і ўзаемадзейнічаюць, то арганізм хутка спраўляецца з захворваннем. Так і людзі, аб'яднаныя ў Богу любоўю, маюць бязмежныя магчымасці дапамагаць адзін аднаму. Тут усё залежыць ад іх саміх. Вось што значыць – прыйсці да Хрыста.

Сённяшняе Евангелле, як заўсёды, прымушае нас задумацца пра тое, што адбываецца асабіста з кожным з нас і што адбываецца сёння з нашым народам. Відавочна, што і вызваленне нашай Бацькаўшчыны з палону бязбожжа здзейснена Госпадам не па нашым кволым малітвам, а дзякуючы несупыннаму заступніцтву і хадайніцтву за народ старажытных падзвіжнікаў і новых мучанікаў за веру.

Аднак, што можна было б сказаць пра такога паралізаванага чалавека, які і пасля свайго ацалення ад хваробы ўпарта застаўся б ляжаць на сваім ложку і патрабаваў бы, каб яго па-ранейшаму кармілі з лыжачкі, умывалі і прычэсвалі? Ці не палічыў бы Гасподзь такога чалавека нявартым таго цудоўнага ацалення, якое адбылося з ім?

І мы з вамі вельмі марудна і павольна, быццам бы не хочучы, уздымаемся сёння з ложка духоўнага амярцвення і нібы не чуем словы Збавіцеля : "Устань і ідзі". Вось таму і працягваюць скалынаць краіну духоўныя і эканамічныя немачы.

Тая спаралізаванасць, паралюш, якім ахоплены і разбіты наш народ, ёсць толькі сімптом, – гаворыць сёння Хрыстос, – той хваробы, якая называецца грахом. Але ў нашага хворага народа няма сіл самому прыйсці да Хрыста. Што ж рабіць?

Па-першае, Царква заклікае да таго, каб яна зрабілася здольнай панесці народ на сабе, на сваіх плячах да Хрыста. Для гэтага неабходна мець спачуванне да іншых людзей.

І, па-другое, сам народ павінен быць здольным, як і той паралізаваны чалавек і не супраціўляцца.

Дзе ўзяць гэты давер да Царквы Хрыстовай у народа, які ў пераважнай большасці сваёй сёння няверуючы?

Трэба клапаціцца пра тое, каб наш народ не страціў сваю ўласцівую яму ад прыроды здольнасць быць народам, у якога яшчэ жывое сумленне і пачуццё сораму. Калі мы з сапраўдным пакаяннем у грахах даверымся таму, што здзяйсняе з намі ў Царкве Гасподзь і Яго святыя, тады адбудзецца цуд ацалення.

Хацелася б спыніцца і на іншым вельмі важным моманце, на які мы не адразу звяртаем сваю ўвагу, калі чытаем або слухаем гэты евангельскі ўрывак. Гэтым момантам з'яўляецца тая непахісная воля людзей, якія, нягледзячы ні на якія цяжкасці, імкнуцца да мэты, пастаўленай перад імі. А мэтай іх было выздараўленне хворага сябра. І паглядзіце, яны ідуць да Хрыста, але падысці да Яго не маюць магчымасці. Але гэтыя людзі не адмаўляюцца ад задуманага. Не маючы магчымасці прайсці праз дзверы і вокны, яны ўздымаюцца на дах, разбіраюць яго і ўсё роўна дасягаюць сваёй мэты.

І ў нашым духоўным жыцці таксама павінна быць так: вызначана мэта, а мэтай нашага духоўнага жыцця з'яўляецца наша выратаванне, і ўсе намаганні павінны быць скіраваны на дасягненне гэтай мэты. І часта вельмі працяглы адрэзак часу, цэлае жыццё неабходна ісці гэтым шляхам, няспынна набліжаючыся да дасягнення вызначанай мэты.

Але як бывае ў нашым жыцці? Пачынаем аб нечым прасіць Бога, хаця б пра ацаленне ад той жа хваробы, старанна молімся дзень, два – і праз некаторы час астывае наша сэрца, згасае агонь нашай малітвы – смутак і адчай запаўняюць нашу душу.

А вось сённяшні прыклад, узяты з Евангелля, гаворыць нам, што наша вера не павінна згасаць. І калі ёсць у дасягненні нашай духоўнай мэты нейкая перашкода ў адным, то мы павінны паспытаць свае сілы крышку ў іншым, спрабуючы пераадолець гэтую перашкоду, і не спыняцца да тае пары, пакуль наша мэта не будзе дасягнута. Штодзённа, хай невялікімі крокамі – але наперад! Толькі тады можна спадзявацца на вынік праз пэўны час, але пры той умове, што наша воля будзе суладна з воляй Божай.

Апостал Павел у пасланні да Рымлянаў, якое мы чулі сёння падчас літургіі, павучае нас: “У руплівасці не слабейце; духам успалымляйцеся; Госпаду служыце; суцяшайцеся надзеяю; у горы будзьце цярплівыя, у малітве трывалыя” (Рым. 12; 11,12).

Мы не павінны шукаць чагосьці звышнатуральнага, таму што Гасподзь заўсёды, нават калі мы знаходзімся ў цяжкіх жыццёвых абставінах, жадае нам аднаго, таго, што пойдзе на карысць нашай душы, – яе ачышчэння і ацалення, даравання і адпушчэння грахоў, а праз гэта – вечнага блажэннага жыцця. Не будзем шукаць цудаў, не будзем шукаць знешняга пацвярджэння праўдзівасці нашага вучэння. Будзем шукаць гэтага пацвярджэння толькі ўнутры сябе, таму што ачышчэнне душы і дараванне грахоў для сапраўднага хрысціяніна такія ж відавочныя, як і яўны, бачны цуд. Духоўнае жыццё не ёсць нешта абстрактнае і эфемернае, пра што нельга сказаць нічога канкрэтнага. Гэта памылкоўнае меркаванне нявопытных і малаверных людзей. . Сапраўды веруючы чалавек жыве духоўным жыццём і кіруецца ў ім сваёй верай. Ён бачыць шматлікія і рэальныя змены, якія адбываюцца ў ім пад уздзеяннем благадаці Божай, што ачышчае яго ад страсцей або паслабляе іх, а таксама захоўвае ад уплываў злой сілы, якая спакушае яго на той ці іншы грэх. Наша жыццёвая задача – зрабіць сваё ўнутранае духоўнае жыццё плённым і пазбаўленым усякай няпраўды супраць закону Божага, каб наша ўнутраная духоўная немач ацалілася пад

уздзеяннем благадаці Божіей, каб мы сталі людзьмі, якім ўжо не патрэбна дапамога іншых, духоўна больш здаровых за нас людзей, і якія здольныя дзейнічаць самастойна.

Пакуль існуе Праваслаўная Царква, а яна будзе існаваць да сканчэння свету, у ёй будуць святары, якія ад імя Госпада Ісуса Хрыста будуць дараваць грахі людзям пры ўмове іх шчырага пакаяння.. І няма на зямлі нідзе іншага такога месца, дзе чалавек мог бы атрымаць дараванне грахоў і ацаліць сваю душу. Але не будзем забываць пра тое, што неабходны і нашы ўласныя намаганні, каб нам атрымаць дараванне грахоў і душэўную палёгку. Мы павінны не толькі прасіць святара, каб ён памаліўся за нас на малебне або літургіі ці падчас споведзі, але і самі павінны звяртацца да Таго, Хто адзіны мае ўладу дараваць грахі, – да Госпада Ісуса Хрыста, каб Ён памілаваў нас, – і Ён здзейсніць з намі цуд.

Мы павінны заўсёды каяцца, заўсёды прасіць Міласэрнага, Усяміласцівага Госпада Ісуса Хрыста даць нам дараванне грахоў – тады мы будзем адчуваць і ад Таінстваў большую карысць, у параўнанні з тым, калі б мы не прымушалі сябе да штодзённага і, можна сказаць, беспрастаннага пакаяння. Вось пра гэта мы павінны памятаць.

Наша збаўленне і выратаванне адбываецца не толькі дзякуючы тым Таінствам і абрадам, якія існуюць у Царкве, але і дзякуючы нашай ўласнай стараннасці і, галоўным чынам, нашаму пакаянню. Гасподзь Ісус Хрыстос кранецца ўсякага нядбайнага, чэрствага і, магчыма, захопленага штодзённаю побытавай мітуснёю чалавека. Галоўнае, каб ён шчыра імкнуўся да праўды Божай. Калі Гасподзь наблізіцца да нас, і мы адчуем у сваёй душы тое, што адчуваў паралізаваны, – мы ацалімся ад сваіх духоўных немачаў і будзем здольныя да выканання справаў дабра, любві і міласэрнасці. Як той паралізаваны, які змог узяць свой ложак і пайсці дадому, так і мы паздаравеем і зможам выконваць евангельскія запаведзі. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 7-ю пасля Пяцідзесятніцы*

# ДВОЕ СЛЯПЫХ І АПАНТАНЫ НЯМЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У апостальскім пасланні мы чулі сёння словы, якія накіраваныя не толькі да рымлянаў, але і да кожнага з нас: «Таму прымайце адзін аднаго, як і Хрыстос прыняў вас у славу Божыю» (Рым.15:7).

Хрыстос прыняў нас такімі, якія мы ёсць: сляпымі, храмымі, хворымі, апантанымі. Ён, не грэбуючы недасканаласцю чалавека пасля яго грэхападзення, дакранаецца да нашай апаганенай плоці, Ён уваходзіць у наш лёс не затым, каб асудзіць і пакараць, «бо Сын Чалавечы прыйшоў не загубіць душы чалавечыя» (Лк.9:56), а затым, каб «знайсці і выратаваць тое, што загінула» (Лк.19:11).

Святыя айцы часта паказваюць на існаванне ў нашым духу здольнасці непасрэдна адчуваць дзеянне і прысутнасць у нас Бажаства і на залежнасць гэтай здольнасці ад дабрадзейнага і набожнага жыцця.

Няшчасныя калекі, пазбаўленыя найвялікшага дара – бачыць дасканалае тварэнне Стваральніка вачамі цела – благадаццю Божай надзелены былі здольнасцю вачамі духоўнымі бачыць Ісціну, якая была нябачная для многіх іх відушчых суайчыннікаў: гэтым сляпым адкрылася, што Ісус з Назарэта – Сын Давідаў, гэта значыць Той Самы прадказаны пракамі Месія, Хрыстос Збавіцель! «Памілуй нас, Ісусе, Сыне Давідаў!» (Мф.9:27) – крычалі яны ўслед Госпаду, вызнаючы не толькі сваю веру ў ацаленне, але і спадзяванне ўсяго народа Божага на збаўленне і жыццё вечнае.

З прачытанага цяпер Евангелля для нас павучальная вера двух гэтых сляпых, іх нястомная, несупынная, дбайная просьба аб ацаленні і памілаванні. Гасподзь, бачачы іх веру і жадаючы паказаць гэту веру народу, пытае іх: "Ці верыце, што Я магу гэта

зрабіць?" І яны адказваюць: "Так, Госпадзі!" І Ён, каб паказаць, што таму, хто мае веру, усё магчыма, кранаецца іх вачэй і кажа: "Па веры вашай няхай будзе вам." І яны пачалі бачыць. Вось якая сіла веры, яе значэнне для нашага ацалення.

Вера ёсць сіла нашай душы, якая рухае горы. Таму, хто верыць, усё магчыма. І для нас з вамі, і ў нашы дні сіла веры не зменшылася. І да нас Гасподзь блізкі і заўсёды гатовы ў адпаведнасці з нашай верай выконваць нашы прашэнні. І ў нашы дні Гасподзь гаворыць нам: "Прасіце, і дадзена будзе вам; шукайце, і знойдзеце; стукайцеся, і адчыняць вам. Бо кожны, хто просіць, атрымлівае, і хто шукае, знаходзіць, і, хто стукаецца, таму адчыняць"(Мф.7: 7-8). Бо Гасподзь сказаў нам: "Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку" (Мф.28: 20).

Ацаленне апанаванага дэманамі нямога стала «момантам ісціны» не толькі для яго самога, але і для многіх іншых людзей, убачыўшых у гэтым, здавалася б, асобным выпадку, які мае значэнне толькі для сям'і ацалённага, падзею велізарнага масштаба, якая тычыцца ўсяго народа Божага: «І люд, дзіву даючыся, казаў: ніколі такога не здаралася ў Ізраілі» (Мф.9:33). А ўсё з-за таго, што Гасподзь прыйшоў на зямлю, каб выратаваць кожнага чалавека. Таму радасць аднога становіцца радасцю многіх.

Радасці, як і страсці, здольныя перадавацца іншым, зроблены грэх уздзейнічае не толькі на самога грэшніка, але і на тых, хто побач з ім, а маркота і туга, быццам вірус грыпу, можа перадавацца ад душы да душы, заражаючы сваім смяротным подыхам цэлыя супольнасці людзей. І калі Ісус вылечвае ўсяго трох з бясконцай колькасці хворых, Ён тым самым усяляе спадзяванне і надзею ў мноства іншых людзей, якія разумеюць, што не ўсё яшчэ страчана, што нельга паддавацца роспачы, таму што «Бог наведаў народ Свой» (Лк.7:16).

Калі б цуды, апісаныя ў сённяшнім Евангеллі, тычыліся толькі сляпых, якія пачалі бачыць, і нямога, які пачаў гаварыць, не было б у Царквы патрэбы з году ў год, са стагоддзя ў стагоддзе прапаноўваць усім астатнім, зусім не сляпым і не нямым, вернікам гэта чытанне.

Нейкі іншы, нейкі больш глыбокі сэнс заключаны ў гэтых дзвюх падзеях, сэнс, які, відавочна, не ў чыста клінічнай праблеме ацалення ад хваробы.

Справа, вядома, не ў вылячэнні цела. Хаця б ужо таму, «што плоць і кроў не могуць атрымліваць у спадчыну Царства Божае, і тое, што знішчальнае, не можа мець спадчыны ў незнішчальным» (1Кар.15:50), а значыць – куды больш важнае тое, што бессмяротнае і вечнае. Важней за ўсё – неўміручая чалавечая душа, дзеля вечнага быцця якой уцялесніўся, памёр і ўваскрэс наш Збавіцель.

Аднак ёсць хвароба сапраўды жахлівая: гэта душэўнае захворванне людзей цялесна здаровых і паспяховых у жыцці, але якія страцілі здольнасць жадаць нечага больш высокага. Такая хвароба вядзе не проста да смерці, а да вечнай пагібелі.

Невідушчасць і немата з апанаванасцю дэманамі. Ці не характэрныя гэтыя немачы для большасці сучасных хрысціян? Ёсць слепата фізічная, але існуе і невідушчасць духоўная. Гэта – наша нявер'е і малавер'е, гэта – бессэнсоўнасць жыцця і душэўная спустошанасць, гэта – акамянеласць нашага сэрца, нуда і пачуцце пакінутасці Богам і тужлівай адзіноты.

Існуе і немата духоўная. Што ж гэта? А гэта – першым чынам – адсутнасць малітвы; няўменне прыняць удзел, – добрым словам, малітвай і ахвярай, – у пакуце і ў горы чужога нам чалавека.

Нуда, туга, сум і смутак, заняпад волі да жыцця, тамленне духу, разгубленасць – ці не характэрна ўсё гэта для большасці, для пераважнай большасці сучасных людзей, і, на жаль, моладзі? Адкуль жа гэтыя немачы духоўныя, як не ад слепаты? Слепата нараджае бессэнсоўнасць жыцця, а ад бессэнсоўнасці, ад страты сэнсу працы і самога жыцця, нараджаюцца гэтыя страшныя хваробы. Для чаго жыць, для барацьбы? Працаваць толькі для таго, каб існаваць? Але – у імя чаго, у імя якой мэты? У імя могілкаў і смерці? «Бальніца, турма і могілкі – вось тры ўстановы, якія пануюць у жыцці,» – гаворыць Бердзяеў. Але калі гэта так, то жыццё з'яўляецца злою насмешкай над чалавекам.

Толькі мэта, аб'ектыўная і вечная, можа сабраць млявыя сілы чалавека, неразведзенай зрабіць волю чалавека, накіраваць сілы яе

да дасягнення мэты. Але гэта мэта страчана сучасным чалавекам. Ён, магчыма, і ўсведамляе існаванне яе, але, з прычыны духоўнай слепаты і падпарадкаванасці плоці, недаступнае яму святло, што зыходзіць ад гэтай Мэты. Сэрца яго шчыльна зачынена, таму не можа пракрасціся ў яго святло страчанай Мэты, святло вечнага Сэнсу. А паколькі жыццё не выносіць спустошанасці, мітусіцца чалавек, каб запоўніць жыццё сваё, і, таму што сляпы і невідушчы, запаўняе яго міражамі, «каштоўнасцямі могілкаў» – тленам і прахам.

Незадаволены, забівае ён час у забавах, не ствараючых, а раз'ядаючых асобу яго, адзінства волі, думкі і пачуцця.

Той, хто не ведае Бога, не жыве, а неасэнсавана існуе ў якасці драпежнай або праследуемай, сытай або загнанай жывёлы.

Шалее сучасны чалавек, які страціў гармонію сілаў сваіх унутры сябе, хварэе ён на спустошанасць душы. Шалее ад слепаты духоўнай. Ды і як быць відушчым яму, калі сэрца яго засмечана, калі страсці і пажадлівасці моцна ў ім гняздо звілі? Каб атрымаць здольнасць сэрцам успрыняць святло, а затым і пачаць бачыць, неабходна вымесці смецце з сэрца, покаяннымі слязьмі і подзвігам звароту да Бога, подзвігам ачышчэння, аднавіць у сабе сілы духоўныя; толькі сэрца, якое імкнецца да чысціні, здольна ўспрыняць святло і зразумець Мэту. Ведаючы гэта, мы павінны ўсёй душой захацець вызвалення ад граху, цвёрда увераваць, што Гасподзь здольны ацаліць нас, і, падобна да сляпых, нястомна заклікаць да Яго аб памілаванні. І Гасподь, па вялікай Сваёй дабрыні, змілуецца і ацаліць нашу слепату і адкрые нашы душэўныя вочы, каб мы ўбачылі глыбіню сваіх грахоў і ачысціліся ад іх пакаяннем і слязьмі. А хто ўбачыў свае грахі, той, па словах святога Ісаака Сірына, больш шчаслівы, чым той, хто ўбачыў ангела. «Блажэнныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць,» – гаворыць Хрыстос.

Калі згаданыя евангельскія сляпыя былі сляпымі цялесна, то мы, маючы разумныя вочы цела, хварэем на невідушчасць сардэчных вачэй. Мітусня і клопаты жыццёвыя, а таксама смутак свету гэтага і ўсе грахоўныя жаданні і пачуцці азмрочылі наша сэрца, і мы пакутуем ад унутранай слепаты і духоўнай нематы. І таму яшчэ

больш павінны звяртацца да Крыніцы нашага жыцця – Госпада Ісуса Хрыста, адзінага і хуткага Лекара душ і целаў нашых.

Ацаліць нас, нашу сляпую і нямую душу, вярнуць чалавеку зрок, вярнуць яму святло можа толькі Хрыстос – Святло Сапраўднае, гэтак жа як і насыціць і наталіць бессмяротную душу можа толькі Бог – не ідэя Бога, а Бог жывы, Сапраўдны. Бога недастаткова мець у розуме, у мысленні, трэба даць Яму месца ў нашым сэрцы, у нашай волі, у жыцці паўсядзённым. Вось, гэта шлях да прасвятлення, шлях да святла і набыцця сэнсу для тых, хто згубіў сапраўдную вартасць жыцця, у каго змрок на душы.

«Так, Госпадзі, верым,» – адказалі сляпыя. Веру і намаганні прыклалі тыя, якія прывялі да Хрыста нямога апантанага. І нам трэба прыкласці веру і пэўныя намаганні.

Вера – гэта дар Божы, які чалавек або культывуе і развівае, або губляе. Задатак веры мы атрымліваем у час святога хрышчэння. Мы павінны яго множыць, а гэта патрабуе вялікай працы, часта самаахвярнасці. Паўната веры – не тэорыя, а жыццё, згоднае з праўдай Божай.

«Будзь заўсёды заняты Богам, бо Бог усяму навучыць цябе і адчыніць Святым Духам высокае – нябеснае, і ніжняе – зямное», – гаворыць прападобны старац Паісій Велічкоўскі. «Заўсёды рабі так, каб у кожным тваім учынку неба з зямлёй спалучалася,» – гаворыць У. Салаўёў. Так паступаючы, мы знаходзім Хрыста, а «знаходзячы Хрыста, мы знаходзім сябе,» – гаворыць Ф. М. Дастаеўскі.

Без веры ў Хрыста і без нязменнай, узмоцненай працы над сваім сэрцам немагчыма чалавеку пачаць бачыць. Без гэтага ў пошуках мэты і сэнсу жыцця заўсёды ён будзе блукаць у прыцемках думак, пустых забаў і мітусні.

Справа нашага збаўлення адбываецца пры таямнічай сустрэчы благадаці Божай і нашай уласнай волі, якая імкнецца да Госпада.

На тое і дадзена нам свабодная воля, каб мы ўсімі сіламі шукалі Госпада, а, знайшоўшы, – ішлі ўслед за Ім.

Калі Гасподзь гаворыць Сваім вучням пра «закваску фарысейскую» (Мф.16:6), Ён, вядома, мае на ўвазе рэальную для іх небяспе-

ку заразіцца самім і заразіць іншых крывадушнай набожнасцю, якая асабліва страшная таму, што падмяняе сапраўдную працу душы – пакаянне – сімуляцыяй такой працы, своеасаблівай духоўнай паказухай.

І нам з вамі заўсёды хочацца стаць сведкамі нейкай незвычайнай падзеі, цуда. Хочацца нам, каму таемна, несвядома, а каму і відавочна, каб заміраточылі раптам іконы, каб ацаліліся ад цяжкіх хваробаў сваякі і знаёмыя, каб Сіла Божая яўным чынам праявілася абавязкова на нашых вачах, пры нашым экспертным удзеле.

Марым мы, каб раз і назаўсёды, у выніку цудоўнай падзеі, зрабіліся мы праведнікамі, без спецыяльных намаганняў, без празмерных высілкаў.

А Гасподзь наш на ўсе нашыя шуканні цуду і мудрасці адказвае нам у пасланні апостала Паўла да Рымлянаў, якое чыталася сёння за Літургіяй: «Мы, дужэйшыя, павінны цярпліва зносіць недахопы слабых, а не сабе дагаджаць» (Рым.15:1).

«Зносіць недахопы слабых» – гэта значыць успрымаць паклёп у адказ на дабро без жалобы і засмучэння. Гэта значыць прымаць кпіны і зло без крыўды. Гэта значыць, у канчатковым выніку, адказваць на зло – дабром. Бо апостал Павел у сваім пасланні да Рымлянаў нямоглымі і слабымі заве не проста грэшнікаў, не! Нямоглыя і слабыя – гэта ворагі Хрыста, людзі, не здольныя прыняць пропаведзь аб Распятым Збавіцелі свету

Мы акружаны такімі людзьмі. Мы і самі часам такія. І вось сапраўдны цуд, ды і сапраўдная мудрасць: жыць у гэтым свеце і заставацца хрысціянамі. Жыць сярод грахоў і не злавацца, не асуджаць, не праклінаць бязбожнікаў, але памятаць усякі раз, калі лёс сутыкае са злосцю, грахом, непаразуменням і кпінамі, як наш Бог маліўся на Крыжы: «Ойча! Прабач ім, бо не ведаюць, што робяць». Вось цуд! Вось мудрасць!

Не бянтэжцеся, калі прыйдзецца зазнаць мноства няўдачаў на гэтым шляху, калі ў жалобе душэўнай скажаце: «Беды мне ад разбойнікаў і ад сваякоў, беды і ад чужых і ад сваіх». Гэтыя беды – барацьба дабра са злом; у самой магчымасці барацьбы ўжо ёсць радасць і прадчуванне перамогі.

Вялікае спадзяванне хрысціянскае, вышэйшая за ўсякае чалавечае разуменне ўзнагарода Нябесная, якая чакае нас. Памятаючы пра гэта, будзем жа праходзіць зямное жыццё ў нястомным служэнні Богу, узрастаючы ў дабрыні і пазнанні Госпада і Збавіцеля нашага Іісуса Хрыста (2 Пятр. 3: 18). Амінь.

### *Пропаведзь у Нядзелю 8-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## НАСЫЧЭННЕ ПЯЦЦЮ ХЛЯБАМІ ПЯЦІ ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК У ПУСТЫНІ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Цуд памнажэння хлябоў, аб якім мы сёння чулі ў евангельскім чытанні (Мк. 6:34-44), вучыць нас некалькім рэчам. Перш за ўсё таму, што Гасподзь можа насыціць нас, нават калі ў нас нічога – або амаль нічога – няма. Наша жыццё і смерць у руках Божых, і нашая ежа – тое, што мы завем хлебам надзённым – таксама ў Яго руках. Яно вучыць нас той ісціне, што Гасподзь Іісус Хрыстос ёсць Творца ўсяго, Які даў нам жыццё і падтрымлівае яго. Лекар душы і цела, Ён стварыў і стварае ў дастатковай колькасці ўсякія плады зямныя для спажывання ў ежу і для асалоды.

Гасподзь заўсёды гатовы наталіць наш голад, у Яго заўсёды дастаткова шчодрасці, каб кожны быў насычаны. Узнагароджваючы народ, ахоплены прагай слухаць Яго слова, Гасподзь цудоўным чынам памножыў прапанаваную ежу, так што «елі ўсе і насыціліся; і назбіралі кавалкаў хлеба дванаццаць поўных кашоў і рэшты ад рыбы, а было тых, што елі хлябы, каля пяці тысяч чалавек, акрамя жанчын і дзяцей». Так было выканана абяцанне Збавіцеля, сказанае Ім у Нагорнай пропаведзі: «Шукайце ж найперш Царства Божага і праўды Яго, і гэта ўсё (гэта значыць, што есць і піць і ў што

апранацца) дадасца вам» (Мф.6: 33). Выконваецца яно і над кожным веруючым, які ўзлюбіў Царства Божае і прысвяціў усё жыццё яго набыццю.

Вельмі часта чалавек збіраецца ў храм, але не ідзе таму, што баіцца не паспець зрабіць важныя справы. Евангелле ўпэўнівае нас, што, калі чалавек ідзе за Госпадам, пакідаючы ўсё, Гасподзь не пакіне яго, і ўсе яго справы ўладкуюцца, часам нават цудоўным чынам. Такі давер да Бога ніколі не будзе зняважаны... Так было, калі Гасподзь накарміў у пустыні пяць тысяч чалавек, так здараецца і ў нашым жыцці, калі мы выбіраем не дробныя жыццёвыя справы і клопаты, якія здаюцца нам важнымі, а служэнне Богу.

Гэта справядліва ў дачыненні ежы не толькі для цела, але і для душы. Чалавеку недастаткова аднаго матэрыяльнага дабрабыту, каб быць шчаслівым, каб душа яго была напоўнена; яму неабходны Сам Бог. І Гасподзь стварыў чалавека такім, што душа яго заўсёды імкнецца да Яго. Толькі Бог можа душу людскую напоўніць і насыціць Сабой. І да даго часу, пакуль Гасподзь не прыйшоў да нас, не ўсяліўся ў нас, мы жадаем і прагнем Яго прысутнасці ў нашым жыцці. Але калі Ён прыходзіць, мы адчуваем паўнату жыцця – тое, пра што Хрыстос сказаў: «Я прыйшоў для таго, каб жыццё мелі, і ўдосталь мелі» (Ін.10:10). Сапраўднае жыццё магчыма толькі ў Хрысце і праз Хрыста.

Хлеб, якім насычае нас Гасподзь, – гэта не толькі хлеб зямны, які дае жыццё нашаму зямному целу, але гэта і Хлеб, Які сыходзіць з нябёсаў, гэта значыць – Сам Гасподзь, да Якога мы далучаемся ў таінстве Еўхарыстыі падчас Літургіі.

Тут мы бачым правобраз Еўхарыстыі – Таінства Цела і Крыві Хрыстовых. Еўхарыстыя – гэта той самы цуд памнажэння хлябоў, які адбываецца ўсякі раз, калі мы збіраемся ў храме Божым на Літургію, усякі раз, калі мы прычашчаемся Святых Дароў. У Прычасці Сам Гасподзь уваходзіць у нас, Ён становіцца адзіным целам і адзінай крывёй з намі, Яго Цела становіцца нашым целам, Яго Кроў – нашай крывёй. А таму ўсе мы павінны як мага часцей у сваім жыцці прыступаць да прычашчэння Святых Хрыстовых Тайнаў.

Нездарма літургічны сход верных, які мы з вамі зараз і ўтвараем, завецца Пірам Божым. Невыпадкова і слова «абедня» азначае не проста спажыванне зямной ежы, а далучэнне да Хлеба жыцця, які сыходзіць з нябёсаў (Ін.6:48, 50), гэта значыць служэнне Еўхарыстыі, якое нельга здзейсніць аднаму, а толькі разам з братамі ў Хрысце, толькі саборным чынам.

Гэты святочны Пір Божы павінен аб'ядноўваць людзей, служыць таму, пра што пісаў у сваім пасланні ў Карынф, якое мы толькі што чыталі, апостал Павел: "Браты, у імя Госпада нашага Ісуса Хрыста малю вас, каб усе вы гаварылі адно і каб не было сярод вас падзелаў, каб вы былі дасканалымі, аднаго духа і аднае думкі" (1Кар.1:10).

Вядомая справа, што і цяпер некаторыя людзі з адпаведным сумленнем, з непамернай дбайнасцю за веравучэнне і за абрад лічаць сябе асобымі пасланнікамі – сапраўднымі вучнямі Хрыстовымі, вылучаюцца з натоўпу і з гонарам і пагардай ставяцца да іншых. Гасподзь Уладыка адзін – адзінымі павінны быць і тыя, хто верыць у Яго, і Яму аднаму трэба і служыць; не трэба абіраць сабе каго-небудзь з людзей у якасці правадыра, прыніжаючы Хрыста; не карысна прывязвацца да чалавека ў такой ступені, каб забываць пра Бога.

Хрыстос аднойчы і назаўсёды ў цяжкую хвіліну растання з вучнямі, настаўляючы іх быць адзінадумнымі з Ім, вучыў, што, пакуль яны будуць захоўваць з Ім адзінае цэлае, да тых часоў у грамадстве хрысціян будзе жыццё і сіла.

Вялікая і свяшчэнная запаведзь пра ўзаемны мір і адзінадушша ў хрысціянскім грамадстве... Як здабыць такі духоўны стан? Галоўная крыніца ўсіх нязгодаў і разыходжанняў – самалюбства і гардыня... Лічы сябе самым горшым з усіх перад Богам, самым грэшным з людзей, і ўбачыш, ці будзе тады месца сваркам.

Рыхтуючыся да прычашчэння, мы павінны "выпрабоўваць сябе", каб Прычасце не было для нас "у суд або ў асуджэнне", каб не атрымалася, як кажа апостал Павел, што мы целы нашы, якія "ёсць члены Хрыстовы", адымаем у Хрыста, "каб зрабіць іх членамі распусніцы" (1Кар.6:15). А гэта адбываецца, калі чалавек, які

прычашчаецца Святых Хрыстовых Тайнаў, вядзе жыццё не евангельскае, жыве не ў адпаведнасці з запаведзямі Божымі. Калі мы прычашчаемся, мы прымаем ў сябе не толькі Хрыста пад відам хлеба і віна, а ўвесь евангельскі закон, усе маральныя, духоўныя і іншыя нормы, якія ўтрымліваюцца ў Евангеллі.

Няхай кожны з нас будзе ўважлівы да сябе, каб паўстаць перад страшным судом уласнага сумлення яшчэ да таго, як наступіць апошні Страшны Суд. Няхай кожны нядзельны і святочны дзень дасць нам магчымасць праверыць сваё жыццё на адпаведнасць евангельскаму ідэалу, ачысціцца ад грахоў у таінстве споведзі, у пакаяннай малітве і ўдзячнасці Богу за тое, што Ён дапускае нас да ўдзелу ў гэтым таінстве. Няхай прычашчэнне Святых Хрыстовых Тайнаў дапаможа нам, аднавіўшыся духоўна і цялесна, аб'яднацца з Богам, таму што толькі жыццё з Богам можа нас насыціць і наталіць. Няма іншага хлеба і іншай рыбы, якія б маглі насыціць нас, акрамя Самога Хрыста. І да тых часоў, пакуль мы не далучыліся да Яго, душа наша працягвае жадаць і прагнуць Бога. Але пасля прыняцця Святых Хрыстовых Тайнаў душа набывае тую блажэнную цішыню, той унутраны спакой, які ёсць Царства Нябеснае. І ўваходзім мы ў гэта Царства перш за ўсё праз Прычашчэнне Цела і Крыві Збавіцеля. Будзем як мага часцей прымаць Святое Прычасце з думкай і малітвай пра тое, каб Хрыстос дапамагаў нам жыць у адпаведнасці з Евангеллем і дасягнуць таго духоўнага стану, пра які апостал Павел гаварыў: "Ужо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос"(Гал. 2:20).

У евангельскім апавяданні пра цудоўнае насычэнне Хрыстом многіх тысяч даецца нам вобраз Царквы. Тут глава Царквы – Хрыстос, Яе Стваральнік, тут і апосталы – Хрыстом прызначаныя пастыры, тут і народ. І дарэчы прыгадаць словы Евангелля: сказаўшы Апосталам: "Вы дайце ім есці", – "Ісус, узяўшы хлябы ... раздаў вучням, а вучні – усім астатнім", і успомніць словы Хрыста, сказаныя Ім на тайнай Вячэры: "Рабіце гэта на ўспамін пра Мяне". У абодвух выпадках Хрыстос быццам падкрэслівае, што ствараемая Ім Царква з'яўляецца і павінна быць Апостальскай. Пачынаючы з дня Святой Троіцы, з дня Сашэсця Святога Духа,

Апосталы і ўся Хрыстова Апостальская Царква выконваюць загаданае Збавіцелем: духоўна акармляюць увесь свет, насычаюць усіх, хто шукае Бога і праўды Яго, тымі дарамі, якія даў Хрыстос Царкве Сваёй: словам Божым, святымі Таінствамі, малітвай за ўсё чалавецтва. Да гэтай Апостальскай Царквы належым і мы з вамі, як жывыя клеткі Хрыстова Цела. Няхай кожнаму з нас дапаможа Хрыстос не толькі фізічна належаць Яго Целу – Яго Царкве, але і душою жыць у Ёй. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 9-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА СУЦІШЭННЕ БУРЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

За літургіяй, калі чыталася Евангелле, мы з вамі чулі апавяданне пра тое, як Гасподзь Іісус Хрыстос глыбокай ноччу пайшоў да сваіх апосталаў па вадзе Галілейскага возера і як апостал Пётр паспрабаваў здзейсніць той жа цуд хаджэння па вадзе, які здзейсніў яго Настаўнік. Трэба мець на ўвазе, што перад гэтым таксама здарылася неверагодная падзея – адбыўся дзівосны цуд насычэння хлябамі некалькіх тысяч чалавек.

Пасля гэтага Гасподзь паслаў сваіх вучняў увайсці ў лодку і плыць на іншы бераг Галілейскага возера, а Сам узышоў на гару памаліцца і быў там адзін.

Наступіла ноч. Апосталы плывуць у лодцы. На возеры паднялася бура. Галілейскае возера тым і характэрна, што яно – неспакойнае і што большасць бур на ім бывае або ў вячэрнюю пару, або ўначы. І вось, калі яны так плылі, іх і заспела бура. Несумненна, у барацьбе з ветрам і хвалямі, з небяспекай, якая ім пагражала, апосталы не раз і не два ўспомнілі аб тым, што не так даўно быў іншы выпадак, калі яны таксама плылі ў лодцы, але Настаўнік быў з імі, і калі ўзнялася бура, то Ён супакоіў і вецер і мора двума словамі: «Змоўкні, перастань.» Аднак тады яны былі разам з Ім, а зараз

Яго няма...

Але Гасподзь Сваім усёвідушчым позіркам бачыў іх, якія бядуюць у плаванні, бачыў іх барацьбу з узняўшайся стыхіяй і, нарэшце, глыбокай ноччу, ужо перад самым світанкам, прама пайшоў да іх, ідучы па вадзе, як па суху, бо водная стыхія, быццам цвёрдая зямлі, трымала на сабе свайго Творцу і Уладара. Гасподзь ідзе па хвалях, якія бушуюць ад моцнага ветра, і паступова набліжаецца да іх. Але калі апосталы ўбачылі ў цемры нейкую постаць, то падумалі, што перад імі з'явіўся прывід, і спалохаліся, таму што ў іудзеяў было павер'е, быццам бы чалавек перад смерцю бачыць ангела смерці. І вось яны вырашылі, што такі ангел смерці набліжаецца да іх і, значыць, ім пагражае немінучая пагібель, і, спалоханыя, закрычалі ў прадсмяротным жаху.




І раптам вучні чуюць знаёмы і дарагі для іх голас: «Супакойцеся; гэта Я, не бойцеся!» (Мф.14:27). – Поўная перамена ад роспачу і жаху на спакой і радасць, бо Ён – з імі, і больш баяцца няма чаго, бо гэта Той, Хто двума словамі супакойвае буру. І апостал Пётр, як заўсёды самы імпэтны і імклівы з усіх, у захапленні жадаючы падбегчы да свайго Настаўніка, гаворыць Яму ў гарачым парыве: «Госпадзі! Калі гэта Ты, загадай мне прыйсці да Цябе па вадзе.» (Мф.14:28). Гасподзь Іісус Хрыстос ведаў наперад, чым скончыцца спроба Пятра, але, аднак, гаворыць яму: «Ідзі.» (Мф.14:29). Апостал выходзіць з лодкі на ваду, быццам на цвёрдую зямлю, і, не апускаючыся ў гэтую ваду, дзее той жа цуд, які здзейсніў яго Настаўнік: ідзе да Яго па вадзе, не тонучы ў ёй. Хрыстос-Збавіцель як Уладар усяго існага здзейсніў гэты цуд Сваёй Боскай сілаю, а апостал Пётр гэты ж цуд паўтарыў сілай сваёй апостальскай веры і любві да свайго Настаўніка.

Але гэта быў яшчэ чалавек не адроджаны благадаццю Духу Святога, як гэта адбылося потым, у дзень Св. Пяцідзесятніцы, калі апосталы прынялі ад Яго благадаць і сілу. Вецер бушуе, часамі за хвалямі хаваецца светлае аблічча Настаўніка. Пётр, як дасведчаны рыбак, ведаў, якая глыбіня ў яго пад нагамі, і, спалохаўшыся, засумняваўся. І як толькі пахіснулася яго ўпэўненасць і знікла вера, так зараз жа ён стаў звычайным смяротным, які падпарадкоўваецца ўсім уздзеянням і ўплывам стыхіяў свету гэтага, і пачаў тануць. «Госпадзі! Ратуй мяне!» (Мф.14:30) – у адчаі закрычаў Сіман Пётр, а Гасподзь, да Якога ён далёка яшчэ не дайшоў, ужо апынуўся каля яго, працягнуў яму руку дапамогі і з мяккім дакорам гаворыць яму: «Малаверны! Навошта ты засумняваўся?» (Мф.14:31). Звярніце ўвагу: Гасподзь папракае яго не за тое, што ён пайшоў па вадзе (бо Апостал пайшоў з благаславення Настаўніка, як і трэба рабіць усякую важную справу з благаславення старэйшага), а за сумненне: «Малаверны! Навошта ты засумняваўся?» (Мф.14:31). – Гэтым сумненнем ты ўсё сапсаваў, бо ты ішоў па вадзе, а пачаў сумнявацца – стаў тануць. І калі Ён увайшоў у лодку, то ўсе, хто быў у лодцы, узрушаныя цудам, пакланіліся сваіму Настаўніку, гаворачы: «Ты сапраўды Сын Божы» (Мф.14:33).

Як павучальны гэты цуд для нас! Па-першае, ён паказвае, што такое вера і якую сілу яна дае чалавеку, калі цалкам яго напаўняе. Па-другое, ён нагадвае, што Гасподзь з намі і тады, калі нам падаецца, што Ён нібыта нас пакінуў, а на самой справе Ён ведае, разумее і чуе ўсе нашы жальбы, усе нашы праблемы і цяжкасці. І калі будзе трэба, Збавіцель прыйдзе, каб нам дапамагчы, як Ён прыйшоў да апосталаў, калі яны патрапілі ў буру. І калі Сын Божы і не з'явіцца нам бачным чынам у зямным Сваім абліччы, як Ён з'явіўся ім, то, ва ўсякім разе, благадаццю і сілаю Сваёю абавязкова паспяшаецца нам на дапамогу. Гэта – станоўчы прыклад для нашай слабасці і нашай немачы.

Усе мы ходзім па зыбкіх хвалях жыццёвага мора, якое вагаецца і хвалюецца рознымі зменлівасцямі. Усе мы ходзім па хва-

ляхжыццёвага мора, ідзем па іх да брамы смерці на суд Божы. Якая каварная стыхія пад нагамі нашымі! Мы не можам ведаць, што здарыцца з намі праз нейкі час. Немагчыма прадбачыць, што прыдумае ліха, што паслужыць падставай і сродкам да бяды, адкуль паўстане спакуса. Па большай частцы ні папярэдзіць, ні адхіліць іх немагчыма.

І іншае мора, моры нябачнае – пад ступнямі нашымі. Іншымі вятрамі абураецца гэтае мора. Яно – наша сэрца, у якім бушуюць разнастайныя і шматлікія адчуванні і пачуцці. Яны знаходзяцца пад уплывам намераў, што ўзнікаюць у нас саміх або прычыняюцца нам духамі зла – ворагамі роду чалавечага. То апаноўвае нас туга і маркота, то абураныя мы гневам, то захопленыя юрам, то асепленыя славалюбствам і гонарам. Гэты вецер – напор спакуслівых думак і помыслаў – часта бывае такі моцны, што мы не знаходзім сродкаў, каб змагацца з ім і супрацьстаяць яму, губляемся, засмучваемся, трапляем у роспач, набліжаемся да пагібелі.

Спакусы неабходныя для нас. Яны прыходзяць да нас у адпаведнасці з Промыслам Божым, каб мы, прыгнечаныя імі, звярталіся да забытага намі Бога.

Усе нашы жыццёвыя цяжкасці – нішто ў параўнанні са спазнаннем Бога. Стомленасць ад выпрабаванняў – кароткачасовая; сапраўднае веданне Жывога Бога – скарб вечны, заклад усіх вечных выгод.

Таксама і мы павінны так паступаць, калі паўстане бура душэўная, калі парушыцца спакой сэрца намерамі грахоўнымі. Жудасная бура нашых прагных заганных жаданняў і грахоўных страсцей. Гэта найгоршая з усіх знешніх бедаў. Унутраная небяспека больш страшная за знешнюю..

Як і апостал Пётр, павінны мы ад усёй душы звятацца да Госпада і прасіць Яго дапамогі. Збавіцель свету падаў тапельцу Пятру Сваю руку, каб выратаваць яго з бяды; пасылае Ён верным Сваім благадаць Божую, яна цудоўным чынам уздзейнічае на дух іх і ратуе тапельцаў, якія гінуць ад раз’юшанай буры неўтаймаваных страсцей.

Не будзем бянтэжыцца, калі ўбачым у сабе іх паўстанне. Мы – пашкоджаныя грахом, і страсці зрабіліся нам натуральнымі, як

натуральныя хваробе розныя яе праявы. Пры паўстанні страсцей неабходна адразу ж звяртацца да Бога з малітваю і плачам, з цвёрдай рашучасцю супрацьстаяць спакушэнням і ў цярпенні чакаць дапамогі Божай. Страсці мучаюць не толькі тых, якія знаходзяцца пад іх уладай, але і тых, хто дасягнуў поспеху у дабрачыннасцях. Гэта здзяйсняецца з асаблівага дазволу Божага, каб само знаходжанне ў дабрачыннасці не паслужыла для слабога чалавека чыннікам да самаўзнашэння і гонару . Нярэдка пасля працяглага супакою паўстае страшная бура; хто лічыў сябе ў бяспечным прыстанку раптам аказваецца ў адкрытым моры з вялікімі хвалямі.

Апосталы самі калісьці адчулі слабасць, недастатковасць веры і гавораць Свайму Настаўніку: «Памнож у нас веру!» Калі яны так гаварылі (яны, якія ўсё пакінулі і пайшлі за Сваім Настаўнікам, таму што Ён быў для іх даражэй за ўсё), тым больш нам з вамі, малаверным, трэба заўсёды маліцца, каб Гасподзь і ўмацаваў веру ў нас.

У наш цяжкі час, багаты на розныя выпрабаванні, ад нас, безумоўна, патрабуецца моцная вера і адданасць нашаму Госпаду, мы павінны цалкам давяраць Яму. Таму маліся заўсёды, хрысціянская душа, каб Гасподзь прыйшоў табе на дапамогу і ўмацаваў веру, каб яна была сапраўды цвёрдаю верай хрысціянскай. Амінь.

### *Пропаведзь у Нядзелю 10-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## АПАНТАНЫ ХЛОПЕЦ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У літургійным евангельскім чытанні сённяшняга дня, апавядаецца пра тое, як Гасподзь Іісус Хрыстос на наступны дзень пасля Свайго Перамянення ацаліў у Галілеі хлопчыка, апантанага злым духам. Кароткае апісанне гэтага цуду дае апостал Матфей, іншыя сіноптыкі яго дапаўняюць.

Евангеліст Матфей гаворыць: «Калі яны» (гэта значыць, Хрыстос і Пётр, Іакаў і Іаан, якія суправаджалі Яго на Фавор), «прыйшлі да народу, падышоў да Яго чалавек і, стаўшы перад Ім на калені, сказаў: Госпадзі! памілуй сына майго: ён лунацік і цяжка пакутуе, бо часта падае ў агонь і часта ў ваду. Я прыводзіў яго да вучняў Тваіх, і яны не маглі ацаліць яго. А Ісус сказаў у адказ: о, родзе бязверны і разбэшчаны! дакуль буду з вамі? дакуль буду цярпець вас? прывядзіце яго да Мяне сюды. І забараніў яму Ісус; і выйшаў з яго дэман, і ацаліўся хлопец у тую ж хвіліну» (Мф.17:14-18).

Можна выказаць здагадку, што бацька хлопца некаторы час таму назад прыводзіў свайго сына менавіта да Хрыста, але, не застаўшы Яго, звярнуўся за дапамогай да вучняў, а тыя не змаглі выгнаць дэмана. Па сведчанні евангелістаў, хвароба прыпадачнага хлопца была настолькі цяжкая, што вучні Хрыста не маглі вылечыць яе.

Чаму апосталы, ужо атрымаўшыя ад Збавіцеля магчымасць цудатварэнняў, не змаглі ацаліць хлопца? Справа нават не ў тым, што моцны быў дэман, які ўсяліўся ў яго. Цуды ацаленняў складаюцца з двух сустрэчных струменяў: благадаці Божай і накіраванай да яе гарачай веры самога хворага, які імкнецца выздаравець, або яго блізкіх. Апосталы ж, спрабуючы ацаліць хлопца, натыкнуліся на глухую сцяну малавер’я. Не мог верыць сам падлетак, бо цалкам знаходзіўся пад уладаю злога духу, не верыў і бацька няшчаснага. Агароджаны гэтым бязвер'ем, быццам крэпасцю, дэман кпіў над высілкамі апосталаў, бо і іх вера яшчэ не была дасканалай.

Тады Хрыстос у скрушаным сэрцы, здзіўляючыся нявер’ю людзей, заняволеных духам зла, сказаў: «О, родзе бязверны і разбэшчаны! дакуль буду з вамі? дакуль буду цярпець вас? « І загадаў прывесці да Яго хворага хлопца. І калі той толькі яшчэ падыходзіў да Хрыста, «дух адразу затрос таго, і той, упаўшы на зямлю, качаўся, пускаючы пену». Пачаўся наймацнейшы прыпадак. «І запытаўся Ісус у бацькі яго: як даўно гэта здарылася з ім? Той жа сказаў: з дзяцінства». І тут жа звярнуўся да Збавіцеля з адчайнай просьбай: «...Як што можаш, дапамажы нам, зжаліўшыся над намі». І у гэтым маленні гучала хутчэй надзея, чым вера. Тады Гасподзь, па міласці Сваёй, умацаваў надзею бацькі і дапамог яму

знайсці ў сабе зародкі веры. «...Калі можаш вераваць, усё магчыма для таго, хто веруе», – сказаў Ён яму. І адразу бацька хлопца ўсклікнуў са слязьмі: «Веру, Госпадзі, памажы майму нявер'ю!» (Мк. 9:19-24).

Тады Ісус «забараніў духу нячыстаму, сказаўшы яму: дух нямы і глухі, Я загадваю табе, выйдзі з яго і больш не ўваходзь у яго! І, ускрыкнуўшы і моцна скалануўшы яго, той выйшаў; і: ён зрабіўся як мёртвы, так што многія гаварылі, што ён памёр». Але хлопец быў жывы, і Хрыстос «аддаў яго бацьку яго». (Лук. 9: 42).

Ужо пасля, калі натоўп разыйшоўся, вучні сам-насам пыталі Ісуса Хрыста, чаму яны не маглі самі выгнаць дэмана? І на гэта Хрыстос сказаў ім: «З-за нявер'я вашага; бо праўду кажу вам: калі вы будзеце мець веру з гарчычнае зерне і скажаце гары гэтай: "перайдзі адсюль туды", і яна пяройдзе; і нічога не будзе немагчыма для вас.» (Мф.17, 20). І да гэтага Гасподзь дадаў: «Гэты род ні ад чаго іншага не можа выйсці, толькі ад малітвы і посту». (Мк. 9:29).




Якія ж ўрокі для сябе можам мы атрымаць з пачутага сёння евангельскага апавядання?

Словы Збавіцеля: « О, родзе бязверны і разбэшчаны!» – гэта папрок тым, хто жадае атрымаць нешта ад Бога, але для Яго нічога не жадае рабіць. Бог патрэбны нам толькі для таго, каб нам добра жылося. Мы жадаем мець усе зямныя выгоды, перш за ўсё здароўе і дабрабыт, жадаем жыць бестурботным, амаль блажэнным жыццём. Але папрацаваць для Бога мы не жадаем, ні да чаго не жадаем сябе прымусіць. Працуючы на ніве духоўнай, асабліва прымушаючы сябе да малітвы, посту, пакаянню, удзелу ў набажэнстве, здзяйсненню добрых справаў і, наадварот, адхіляючыся ад грахоўных помыслаў і жаданняў, змагаючыся з дэманам, які спакушае нас, і

з ўласнай распуснай прыродай чалавечай, мы маглі б паступова ўмацоўваць сваю веру. Неабходна прымусіць сябе, неабходна праца над сабою. А мы жадаем атрымоўваць плён веры, працаваць жа для таго, каб узгадаваць гэту веру, мы не маем ніякага жадання і не праяўляем ў гэтым ніякай стараннасці.

Калі мы ўважліва паглядзім на саміх сябе, то мы ўбачым, што наша малітва слабая і нямоглая, і зразумеем, што ў нас сапраўды няма веры нават «з гарчычнае зерне». Яшчэ апосталамі і старажытнымі святымі айцамі было прадказана, што ў апошнія часы цуды знікнуць, таму што вычарпаецца вера. Вось таму ў наш час так шмат апантаных дэманамі і так мала тых, хто можа іх выганяць.

Доўгія дзесяцігоддзі над нашай Бацькаўшчынай панавалі дэманы ваяўнічай бязбожнасці. Зараз яны саслабелі. Царква атрымала магчымасць свабодна ўзвышаць голас для пропаведзі слова Божага. Але ці значыць гэта, што небяспека мінула, што народ выратаваны? На жаль, не. Тым, хто за знешнім бачыць таемнае, наша сучаснасць бачыцца арэнай адкрытай барацьбы сіл святла і д'ябальскіх полчышчаў.

Гасподзь сказаў Сваім вучням такія рэзкія словы не для таго, каб абразіць іх, а для таго, каб паказаць, як ім выправіцца, як выгнаць з сябе нявер'е – гэтае д'ябальскае насланне, якое мучыць чалавека, адводзіць ад Бога, заступаючы яго розуму шлях да Бога.

«Гэты ж род выганяецца толькі малітваю і постам». Малітва і пост! Пост і малітва! Двума крыламі веры назваў іх святціцель Іаан Златавуст. На гэтых крылах мы можам падняцца ўвысь і скінуць з сябе злых духаў, якія чапляюцца да нас.

Нястомная малітоўная праца –вось умова нашага вызвалення ад зневажальнага рабства загане, сцежка, вядучая ў Царства Нябеснага Айца. І сонмішчы злых духаў не спалохаюць таго, хто спрактыкаваны ў посце і малітве.

Пост гэта не проста ўстрыманне ў ежы. Святыя айцы разумеюць гэтае слова: адмова, або, дакладней, свабода, ад усяго таго, што нас занявольвае; свабода ад усяго таго, што нас спакушае, царская незалежнасць, пры якой мы можам да канца належаць Богу.

Хрыстос гаворыць пра тое, што Яму праз некалькі дзён нале-

жыць быць перададзеным у рукі людзей, якія Яго заб'юць, таму што такі сведка свабоды ў Богу невыносны для іх. Гэта тое, да чаго Ён кліча вучняў: адрачыцеся ад сябе да канца! Цалкам паяднайцеся з Богам. Прытрымлівайцеся Майго прыкладу; вазьміце свой крыж і ідзіце ўслед за Мной – але без страху!

Вучні «вельмі засмуціліся». З гэтага відаць, што яны тады ўсё ж такі не зразумелі, што значыць вера, пост і малітва. Потым, калі Дух Святой прасвяціў іх, яны не толькі перасталі баяцца шляху Хрыста, але і самі з радасцю пайшлі гэтым шляхам. Яны і ўсім указвалі на гэты шлях, як на адзіны магчымы: «Нам... Бог судзіў быць як бы прысуджанымі да смерці; таму што мы зрабіліся ганьбай для свету і чалавекаў. Мы неразумныя дзеля Хрыста.., мы нямоглыя.., мы ў ганьбе, мы як смецце для свету, як прах, які усімі папіраецца дагэтуль»(1Кар. 4:9,10,13).

Вось – сапраўдны пост: адмаўленне, непрызнанне ўлады свету над сабою. Вось – сапраўдная малітва: суцэльнае прысвячэнне сябе Богу. І вось – сапраўдная вера, ад якой нараджаецца і першае, і другое.

Хрысціяне закліканыя перамагаць дэманаў, і апостал звяртаўся да ўсіх, калі пісаў: «Будзьце маімі пераймальнікамі, як я – Хрыста».

У чым жа мы павінны і можам быць пераймальнікамі апостала? Па-першае, у змірэнным дзеля Хрыста перанясенні ўсякіх жыццёвых цяжкасцяў і выпрабаванняў, пасланых Промыслам Божым. Па-другое, мы павінны пераймаць святому апосталу Паўлу ў працавітасці і ў старанным выкананні кожным з нас сваіх абавязкаў.

Перад апосталамі быў жывы прыклад Хрыста, перад першымі хрысціянамі – жывы прыклад апосталаў, а перад намі – адны толькі кніжныя прыклады веры, паста і малітвы. Не бачачы таго, хто падаў бы руку і сказаў: « Будзьце маімі пераймальнікамі, як я – Хрыста «, – мы ўступаем у Царкву, як у цемры, навобмацак, а ўсё вакол імкнецца спакусіць і збіць са шляху. Кожны хрысціянін можа сустрэцца з такім упартым супрацьстаяннем сіл зла, пры якім ён адчуе сябе бездапаможным.

Таму, адчуўшы ў сабе хоць нейкую веру, не будзем адразу за-

махвацца перасоўваць горы, кідаць выклік дэманам, кардынальным чынам змяняць вакол сябе жыццё. Будзем брацца толькі за справы, адпаведныя нашым сілам. І тады зразумелым стане для нас глыбінны сэнс слоў Хрыста, сказаных Яго вучням падчас развітальнай гутаркі: «У свеце гора зазнаеце, але мужайцеся: Я перамог свет» (Ін. 16:33), і мы будзем выразна ўсведамляць, што толькі Сам Гасподзь ёсць сапраўдны Лекар душаў і целаў.

Мы заклікаהы змагацца са злом, «не даваць месца д'яблу» (Эфес. 4:27). Калі мы будзем дакладна выконваць гэты свой доўг, тады па благадаці Божай, у кожным з нас будзе ўзнікаць і памнажацца выратавальная вера, для якой няма нічога немагчымага і якая адкрые «свободны ўваход у вечнае Царства Госпада нашага і Збавіцеля Ісуса Хрыста» (2 Пятр. 1: 11). Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 11-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРЫТЧА ПРА ЛІТАСЦІВАГА ЦАРА І ЖОРСТКАГА ПАЗЫКАДАЎЦА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Святыя айцы паказалі нам розныя шляхі да збаўлення. Кожны з іх валодаў пэўнай дабрадзейнасцю: прападобны Макарый Вялікі – змірэннем; авва Агафон – дарам развагі; прападобны Сісой – гарачай малітвай, у час якой ззяў, як сонца, яго твар, і нават пальцы рук свяціліся, быццам запаленыя свечкі; прападобны Яфрэм Сірын – пакаянным плачам; прападобны Маісей Мурын – міласэрнасцю, клопатам пра састарэлых і хворых манахаў. Адныя служылі Госпаду ў маўклівасці і адзіноце, знаходзячыся ў малітве да Яго за ўвесь свет, іншыя служылі Богу праз асобу чалавека – таго, хто быў побач з імі, – свайго бліжняга.

Шмат шляхоў да збаўлення, але які з іх самы лёгкі? Ці можам мы выратавацца без асаблівых намаганняў, без абмежавання свай-

го цела? Ці ёсць такі шлях? Так, ёсць!

Жыў у адным манастыры недарэчны манах: ён часта спазняўся на набажэнствы, засмучаў гэтым іншых братоў і прымушаў гневацца ігумена. Інакі скардзіліся і нават прасілі настаяцеля выгнаць яго. І вось гэты манах захварэў, хвароба узмацнялася, і ён ужо набліжаўся да смерці. Засмучаныя былі браты, што загіне душа няшчаснага. Сабраліся яны каля ложка яго, каб палегчыць перадсмяротныя пакуты сваёй малітвай, але што ж бачаць яны? Гэты манах паміраў смерцю праведніка. Твар яго выказваў спакой і радасць. Калі да яго вярнулася прытомнасць, браты запыталі: «Якое суцяшэнне атрымаў ты ад Бога? З кім ты размаўляў, як з роднымі сваімі?» І паміраючы, сабраўшы апошнія сілы, адказаў: «Браты, вы ведаеце, што жыццё маё было нічога не вартае, і вось я ўбачыў, як дэманы прыйшлі і сталі вакол майго ложка, у руках яны трымалі харцію – ліст, на якім былі запісаны мае грахі; яны наблізіліся да мяне, Ангел жа ахоўнік мой стаяў удалечыні і плакаў. І раптам я пачуў голас з неба: «Не судзіце, каб і вас не судзілі! Гэты манах не асудзіў нікога, і Я дарую яму!» – і адразу харція ў руках дэманаў загарэлася, і яны з енкам зніклі. Падышоў да мяне Ангел і вітаў мяне, і я гаварыў з ім. Браты, – працягваў ён, – пасля прыняцця манаства я не асудзіў ні аднаго чалавека!» «Браты – сказаў ён яшчэ, – вы асуджалі мяне і асуджалі справядліва, а я, грэшны, не судзіў нікога». І так ён спачыў смерцю праведніка.

У сённяшнім Евангеллі чытаецца прытча пра літасцівага цара і жорсткага пазыкадаўца. У прытчы, якую мы толькі што чулі, дзве асноўныя тэмы: нашы ўзаемаадносіны з Богам і нашы ўзаемаадносіны з бліжнімі – гэта значыць, адзін з адным.

Мы перад Богам у вялікім даўгу, але ёсць людзі, якія і перад намі вінаватыя, хаця б і ў дробязях. Ці ўмеем мы даравацъ гэтыя даўгі, ці ўмеем мы быць для людзей тым, чым Бог з'яўляецца для нас? Бо шлях да абожання ляжыць не праз абстрактныя духоўныя пачуцці і адчуванні, а праз рэальную дабрадзейнасць. Кожны дзень у малітве «Ойча наш» мы звяртаемся да Бога са словамі: «І даруй нам даўгі нашы, як і мы даруем даўжнікам нашым». Але ці жывем мы ў адпаведнасці з гэтым прашэннем? Ці ставімся мы да тых, хто

знаходзіцца побач з намі, так, як вучыць нас Хрыстос?

Аднак некаторыя гавораць: «Калі мы будзем прабачаць усе грахі, тады зло памножыцца, грэшнікі будуць станавіцца яшчэ больш нахабнымі». Але часцей бывае наадварот: калі да чалавека ставяцца з міласэрнасцю, у душы яго абуджаецца сумленне, а зло толькі памнажае зло. Гасподзь да нас ставіцца несправядліва, і менавіта ў гэтай «несправядлівасці» Божай і ёсць наша надзея. Надзея не на тое, што мы атрымаем узнагароду за сваю працу, таму што вынікаў працы нашай вельмі мала, дабрадзейнасці нашыя нікчэмныя, а на тое, што, насуперак справядлівасці, і закону, нягледзячы на нашыя грахі і здраду Бога, Ён памілуе нас. Наша спадзяванне на Царства Божае грунтуецца менавіта на гэтай надзеі, пра што гаварыў прападобны Ісаак Сірын: «Не называй Бога справядлівым, таму што, калі б Ён быў справядлівым, ты даўно за свае грахі быў бы асуджаны на вечныя пакуты. Дзе ж справядлівасць, калі ты саграшыў, а Ён паслаў Сына Свайго Адзінароднага для таго, каб Ён узяў на Сябе твае грахі і дзеля цябе і замест цябе панёс заслужанае табою пакаранне?» У гэтым і ёсць таямніца нашых узаемаадносін з Богам: мы спадзяемся на Яго міласэрнасць.

Пра святога епіскапа Амона расказваюць, што прыйшлі да яго інакі аднога манастыра і сталі скардзіцца на манаха, які апусціўся так нізка, што да яго ўначы прыходзіла жанчына, і сталі патрабаваць ад прападобнага Амона, каб ён прагнаў гэтага манаха, зняўшы з яго манаскае адзенне. Епіскап адказаў: «Я не паверу, пакуль не пераканаюся ў гэтым сам». І вось манахі прасачылі, як блудніца зайшла ў келлю гэтага няшчаснага інака, і паведамілі пра гэта епіскапу, а ён сказаў: «Пойдзем разам». Пастукаліся ў дзверы да манаха; той, калоцячыся ад страху, выйшаў ім насустрач. Епіскап з інакамі ўвайшоў у келлю. Амон здагадаўся, што манах схаваў сваю начную госцю пад бочку, якая стаяла ў келлі; ён сеў на гэтую бочку і сказаў інакам: «Шукайце па ўсіх кутах у пакоі». Тыя пачалі шукаць, але нікога, вядома, знайсці не змаглі. Ніхто з іх не асмеліўся папрасіць: «Устань, Уладыка, мы паглядзім пад бочкай». Пастаяўшы, яны сказалі: «Мы нікога не знайшлі». Амон адказаў

ім: «Бачыце, як вы саграшылі. Ідзіце і кайцеся». А сам застаўся з тым манахам, падышоў да яго, не прамовіўшы ні слова ў дакаранне, а толькі, узяўшы яго за руку, з любоўю ціха сказаў яму: «Браце, браце, сачы за душой сваёй, памятай, якое кароткае гэтае жыццё», – і выйшаў. Гэтыя словы так уразілі грэшніка, што ён тут жа даў слова ніколі больш не грашыць і, прагнаўшы тую жанчыну, пасля стаў добрым падзвіжнікам і сваё збаўленне прыпісваў міласэрнасці Амона: яго маглі з ганьбай прагнаць, і тады, пайшоўшы ў свет, ён канчаткова бессаромна апусціўся б у бездань грахоў.

Але ёсць і зусім іншы прыклад! У нейкім храме служылі дзве цнатлівыя жанчыны. Служылі дбайна, з маладых гадоў прысвяціўшы сябе Богу. Яны амаль не выходзілі за агароджу храма. Але пакутавалі пры гэтым заганай асуджэння. Асуджалі яны багамольцаў, асуджалі святароў, нахабнасць іх пашыралася нават да асуджэння епіскапа, як быццам дыявал трымаў у руцэ сваёй іх языкі... Амаль у кожным прыходзе ёсць такія істоты – нейкі гібрыд паміж чалавекам і змяёй, калі дазволіце сказаць: тулава чалавека, а галава змяі. Браты і сёстры, вы, напэўна, самі часта сустракаліся з такімі людзьмі, апантанымі духам зласлоўя і асуджэння, але якія лічаць сябе барацьбітамі за праўду...

Епіскап той вобласці ўгаворваў сёстраў, але нічога не дапамагала. Тады ён даў ім епітым'ю. І вось, знаходзячыся пад епітым'ёй архіерэя, гэтыя дзевы захварэлі і памерлі. Так як яны ўсё жыццё прысвяцілі служэнню ў храме, іх пахавалі ўсярэдзіне царквы. І што ж? Калі ішла Літургія і дыякан прамаўляў: «Аглашэнныя, выйдзіце!», то многія з тых, хто маліўся ў гэтым храме, бачылі, як два цені выходзілі з грабніцы. Прыхіліўшыся нізка да зямлі, як злачынцы, нібы саромеючыся нават паглядзець на свет Божы, яны ціха выходзілі з храма. Гэта працягвалася доўгі час. Святар зразумеў, што гэтыя няшчасныя душы не маюць месца ў Царкве Нябеснай, і таму Гасподзь бачным чынам выганяе іх з храма, але яшчэ і тое, што Ён выганяе іх з міласці да іх, каб тыя вернікі, якія бачылі гэта, узмацнілі малітву за іх. Ён паведаміў пра гэта архіерэю, той прыйшоў у царкву і прасіў, каб усе прысутныя ўсталі на малітву; яны маліліся за ўпакаенне душаў гэтых жанчын. Епіскап

папрасіў, каб вернікі прабачылі спачылым усе іх абразы. І ўвесь народ сказаў: «Няхай даруе ім Гасподзь.» Тады архіерэй падышоў да грабніцы і прачытаў адпушчальную малітву. Пасля гэтага ў час Літургіі цені ўжо больш не з'яўляліся.

Пра некага святога старца расказваюць, што, калі ён спыніўся на начлег у адной вёсцы, вяртаючыся ў манастыр, то пачуў, як сяляне сварацца паміж сабой, ужываючы самыя брудныя словы. Адразу ён устаў на калені і пачаў горача маліцца. І з'явіўся перад ім Ангел Божы з вялікім мячом і сказаў: «Гэтым мячом будуць пакараныя ўсё, хто асуджае бліжніх сваіх: шчаслівы ты, што пачуўшы гэтую сварку, якая была прызначана табе ў выпрабаванне, нікога не асудзіў, а стаў маліцца! За гэта благаславенне Божае будзе на табе».

Неасуджэнне – вось самы лёгкі шлях да збаўлення, і як часта мы забываем пра яго! Не толькі дараванне нашых грахоў, браты і сёстры, але нават мера благадаці ў нашых руках, таму што Гасподзь сказаў:"Якім судом судзіце, такім вас судзіць будуць; і якою мераю мераеце, такою і вам адмераецца" (Мф. 7:2). Збаўленне і благадаць – гэта дар Божы, але ўмова для прыняцця яго – прабачэнне ўсіх людзей. Той, хто шчыра даруе чалавеку і першы ідзе да яго, каб з ім памірыцца, той ужо больш ніколі ў жыцці не ўспамінае несправядлівасці, прычыненай яму. Хто шчыра прабачае, той гэтак жа шчыра жадае дабра таму, каго ён прабачыў, як лепшаму свайму сябру. А самая галоўная прымета таго, што мы прабачылі нашага праціўніка, – мы горача молімся за яго і жадаем яму ў глыбіні свайго сэрца ўсяго лепшага і ў вечным, і ў часовым зямным яго жыцці.

«Навошта ты ненавідзіш чалавека, які абразіў цябе, – гаворыць прападобная маці Сінкліцікія, – не ён пакрыўдзіў цябе, а д'явал; ненавідзь хваробу, а не хворага». Напрыканцы нашай гутаркі, прыгадаем самі сабе словы святога апостала Паўла: "Будзьце ў згодзе з усімі людзьмі. Сонца хай не заходзіць у гневе вашым." (пар.: Рым.12: 21,18; Эф. 4:26). Даруйце – і вам даруюць, і станеце спадкаемцамі Царства Божага!

Такім чынам, браты і сёстры, як мы жадаем, каб Гасподзь ставіўся да нас, так і мы павінны ставіцца да кожнага чалавека! Амінь.

## *Прапаведзь у Нядзелю 12-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## БАГАТЫ ЮНАК

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Мы чуем гісторыю пра багатага юнака, пра смутак чалавека, які пабаяўся спадзявацца толькі на Бога. Усё ёсць у яго, аднаго не хапае – благадаці. І сёння ў кантэксце гэтай прытчы мы пагаворым пра пагарду да багацця. Тэма гэта выключна важная як для кожнага з нас, так і для ўсяго сучаснага грамадства. Прычым для нашага грамадства яна, магчыма, актуальная нават у большай ступені, чым для таго грамадства, якое існавала ў часы Хрыста.

Гэта гісторыя здарылася з багатым юнаком, справядлівым, добрым чалавекам, якога палюбіў Сам Гасподзь. Сапраўды, выконваючы запаведзі Божыя, юнак быў ва ўсіх адносінах набожны і годны. Але была адна рэч, якая перашкаджала яму пайсці ўслед за Госпадам, – багацце. Юнак быў вымушаны са смуткам адысці, калі Хрыстос прапанаваў яму ісці за Ім, паабяцаўшы: ты можаш стаць дасканалым, але для гэтага ты павінен прадаць свой маёнтак, дапамагчы тым, хто патрабуе дапамогі – гэта значыць, жабракам. Толькі пасля гэтага ты можаш рушыць за Мной. І багаты юнак, нешта ўзважыўшы ў сваім сэрцы, засмучаны, адышоў, вырашыўшы, мабыць, што для яго гэта немагчыма. Яго багацце стала сур'ёзнай перашкодай, не даўшы яму пайсці услед за Хрыстом туды, куды Ён яго клікаў: да дасканаласці – гэта значыць, у Царства Нябеснае.

Свяціцель Іаан Залатавуст, у свой час прапаведуючы пры царскім двары і звяртаючыся да багатых людзей, якія валодалі вялікай уладай, гаварыў аб пагардзе да багацця. Багацце можна мець, але не валодаць ім. Багацце можна выкарыстаць на добро. Але багацце можа стаць цяжарам непераносным, калі мы імкнемся назапашваць яго для сябе. Калі мы пакідаем набытак, маёнтак, свае таленты, здольнасці, усё сваё пры сабе, то застаемся адны і не атрымліваем скарб на нябёсах.

Багаццю, матэрыяльным і нематэрыяльным каштоўнасцям нельга надаваць самадастатковае значэнне. Нельга лічыць, што ўсё ў гэтым. Таму што такое багацце будзе стаяць паміж чалавекам і Богам. Трэба мець рашучасць, уменне адмовіцца ад усіх багаццяў, адмовіцца ад такой любасці да розных каштоўнасцяў, якія адлучалі б мяне ад Бога, адлучалі б мяне ад Хрыста. Нельга надаваць гэтым каштоўнасцям самадастатковага значэння, і нельга знаходзіцца ў залежнасці ад іх, каб сэрца было прывязана да ўсяго гэтага багацця. Сэрца павінна быць свабодным. «Калі багацце памнажаецца, не прыкладай да яго свайго сэрца», – гаворыць цар і прарок Давід. Мы жывем любоўю Божай і любоўю тых людзей, якія побач з намі, – гэта і ёсць Царства Божае. Як цяжка нам даецца гэта зразумець, як неахвотна мы згаджаемся з тым, каб быць толькі любімымі, і з гэтай любові быць такімі багатымі.

Менавіта пра гэта казаў Збавіцель юнаку. А у юнака было настолькі прывязана сэрца да багаццяў, якімі ён валодаў, што ён не мог адмовіцца ад іх і перастаць лічыць іх самым каштоўным у сваім жыцці.

Маючы на ўвазе гэтую страсць, якая занявольвае ўсяго чалавека, а не багацце само па сабе, Гасподзь сказаў: «Праўду кажу вам: цяжка багатаму ўвайсці ў Царства Нябеснае.» Каб супакоіць вучняў і растлумачыць, у якім сэнсе Ім гэта сказана, Гасподзь гаворыць: «Дзеці, як цяжка тым, хто спадзяецца на багацце, увайсці ў Царства Божае.» Як тлумачыць святцітель Іаан Златавуст, «Хрыстос не багацце асуджае, а тых, якія трапілі ў залежнасць ад яго», бо грэшнай прыродзе чалавека багацце ўяўляе шмат спакусаў і перашкод у выкананні закона Божага. Не само па сабе багацце небяспечна, а тое, што чалавек на яго спадзяецца і ўсё шчасце жыцця свайго бачыць у ім, так што багацце становіцца як бы яго кумірам. Але ўсхваляваныя апосталы ўсё ж здзіўляліся: «Хто ж можа выратавацца?». На гэта Гасподзь, «узіраючыся на іх», – гэта значыць, самым поглядам Сваім супакойваючы іх хваляванне, сказаў: «Людзям гэта немагчыма, але не Богу; бо Богу магчыма ўсё», – гэта значыць, благадаць Божая здольная зрабіць і тое, чаго не можа зрабіць чалавек адНымі сваімі ўласнымі сіламі: Бог

можа ацаліць багацея ад заганы хцівасці, якая перашкаджае яго збаўленню. Сам чалавек ніякімі намаганнямі дасканаласці дасягнуць не можа. Хрыстос гаворыць: «Без Мяне не можаце зрабіць нічога вартага». Але калі наша духоўнае жыццё праходзіць у Богу, то нам няма чаго баяцца. Ад нас патрабуецца галоўнае – воля і стараннасць, а ўсё астатняе зробіць благадаць Божая. Апостал Павел піша: «Сіла Божая ў немачы здзяйсняецца». Прыклад гэтаму вялікая колькасць мучанікаў, прападобных, людзей, якія сваім жыццём дагадзілі Богу. Іх подзвігі нас здзіўляюць і ўражваюць, і мы гаворым: “Чалавеку гэта немагчыма!” Але гэта чалавеку – Богу ж магчыма ўсё.

Госпадзь вучыць вымяраць справу збаўлення не немаччу чалавечаю, а сілаю Божаю. Калі хто-небудзь стане пазбягаць карысталюбства, то ён, пры дапамозе Божай, спачатку дасягне таго, што адсячэ лішняе, а потым дойдзе да таго, што патраціць на бедных і неабходнае: так дапамога Божая добрым шляхам прывядзе яго да Царства Нябеснага.

Вечнае жыццё – гэта знаходжанне з Богам, і ўся справа ў тым, каб пазнаць, што Хрыстос – гэта Бог, і ісці за Ім шляхам Яго запаведзяў. Усе запаведзі існуюць для таго, каб мы навучыліся асабістым адносінам з Богам і з людзьмі – гэта значыць, любві. Каб Бог і людзі сталі для нас жывымі.

«Усё выканаў» – гаворыць малады чалавек, але яго дачыненні з Богам і з людзьмі цалкам эгаістычныя. Ён у палону сваіх маёнткаў, матэрыяльных і духоўных. Ён у ланцугах, якія трэба разбіць.

Вечнае жыццё – жыццё, якім жыве Хрыстос Бог. Яно – любоў і самааддача, і ахвярная шчодрасць. Калі мы пазнаем, што такое вечнае жыццё тут, на зямлі, што ад Хрыста зыходзіць гэты свет і гэтая радасць, мы з радасцю пойдзем за Хрыстом. І для нас будзе зразумела, што ісці за Ім – гэта значыць, служыць людзям, за якіх памёр Сын Божы. Радасць даецца толькі убогім духам. Толькі тым, хто пакорліва моліць аб благадаці, ідучы за Збавіцелем. На зямлі магчыма адно шчасце: унутраны спакой і вольнае ад грахоў сэрца. Ніколі не трэба адчайвацца. Шлях на неба – для ўсіх вузкі шлях, і вароты, якія вядуць у жыццё вечнае, цесныя. «Лягчэй вярблюду – гаворыць

Хрыстос, – прайсці скрозь іголкавае вушка, чым багатаму ўвайсці ў Царства Нябеснае. « Некаторыя мяркуюць, што гаворка тут ідзе аб варотах у Іерусаліме, якія завуцца «іголкавыя вушкі» за іх цеснату. Вярблюд не можа прайсці праз іх, пакуль не будзе вызвалены ад сваёй паклажы. Дагэтуль на Усходзе для ўваходу вярблюда на начлег яго ставяць на калені, здымаюць з яго частку паклажы, і ён на каленях праходзіць праз дзверы. Змірыся, адкінь празмерны клопат аб зямным – і ўвойдзеш у Царства нябеснае.Так багаты чалавек не можа ўзысці на неба, пакуль не пажадае пазбавіцца ад груза зямных багаццяў і схіліцца перад законамі веры.

Дзе ўзяць нам мужнасць і самаахвярнасць тых, хто, усё пакінуўшы, сыходзілі ў пустыню або прымалі пакутніцкую смерць? Ці даўно Царква наша была на крыжы, калі ўсё верныя Госпаду спадзяваліся толькі на благадаць і, пазбаўленыя ўсяго, нічога не мелі, акрамя скарбу на нябёсах? Як апосталы, якія пакінулі ўсё і заўсёды былі з Хрыстом, пакінем сваю схільнасць да граху, схільнасць да ўсяго зямнога і будзем заўсёды з Госпадам ва ўсе дні свайго зямнога і нябеснага жыцця. Кожнаму без выключэння даецца смерць як страта ўсяго або як Пасха Гасподня. Будзем пра гэта памятаць, адхіляючы ад сябе страх і няўпэўненасць, будзем імкнуцца да Бога, шчыра жадаючы ўсяго таго, што неабходна для ўваходжання ў Царства Нябеснае. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 13-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ВІНАГРАДНІК І ВІНАГРАДАРЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Гэтая прытча адлюстроўвае нам усю гісторыю чалавечага роду. Уся гэтая прытча – апавяданне пра адрачэнне ад Самога Госпада Ісуса Хрыста. Вінаграднік у ёй – спачатку абраны Богам народ Ізраіля. Як гаворыць прарок Ісаія, вінаграднік

Гасподні – народ ізраільскі (Іс. 5: 7). Гаспадар вінаградніку – Бог, вінаградары – рэлігійныя правадыры народа, слугі, якія прыходзяць, каб сабраць плады, – пасланыя Богам прарокі. І, нарэшце, Сын – Хрыстос Месія: Ён пасланы як апошні пасланец у свет.

У прытчы няма іншага тлумачэння Яго смерці, акрамя таго, што вінаградары забілі Яго, таму што ведалі, што Ён спадкаемец, што Ён – Сын Божы. Не таму што не ведалі, а менавіта таму, што ведалі, Хто Ён такі. «Прыйдзем і заб'ем Яго – гавораць яны, – і спадчына будзе наша». Якое простае вырашэнне ўсіх праблем, што ўзнікаюць у родзе чалавечым, калі ён адварочваецца ад Бога! Ад Каіна да Каіафы, ад Каіафы да забойц нашай святой Царквы і да апошняга забойцы, які будзе на зямлі. Выняць камень, здавалася б, усяго адзін, з будынка жыцця – і не клапаціцца ні аб чым. Усё зараз належыць нам, і мы дзейнічаем так, як мы жадаем. Як проста і ясна паказана ў гэтай прытчы гісторыя і лёс Ізраіля і ўсяго чалавецтва!

Але яна тычыцца не аднаго толькі Старога запавету. Царства Божае, укаранёнае спачатку толькі сярод іудзеяў (як Старазапаветная Царква), зараз ужо не абмяжоўваецца іудзеямі. Царква пасля была аднятая ў іх і перададзеная іншым народам, якія засялялі Рымскую імперыю: грэкам, лацінянам і многім іншым. Аднак і з імі адбылося штосьці падобнае да таго, што здарылася з іудзеямі. Праз нейкі час гэтыя народы сталі адпадаць ад Хрыста, захоўваючы хрысціянства толькі фармальна.

Старажытны Рым загінуў, калі спакусіўся нячыстымі асалодамі і разбэшчанымі паводзінамі. Тое ж здарылася і з Канстанцінопалем, сталіцай вялікай праваслаўнай дзяржавы – Візантыі. У 1901 годзе Гасподзь адкрыў праведнаму Іаану Кранштацкаму, якая адплата чакае Расію за памножыўшыся грэх таго часу. У паказаным святому Іаану відзенні ён убачыў раку крыві і гару чалавечых трупаў, разбурэнне цэркваў Божых, мноства святароў, манахаў і простых вернікаў, якія прынялі пакуты за веру, і сабак, якія паглыналі целы памерлых ад голаду людзей. Мы ведаем, што ўсё гэта спраўдзілася, як спраўдзілася прадказанне старазапаветных прарокаў аб падзенні Іерусаліма. І Гасподзь папярэджвае, што будзе яшчэ

горш. Сын Чалавечы, гаворыць Ён, калі прыйдзе, ці знойдзе хоць адну вінаградзіну на зямлі?

Хто ж будзе вінаваты ў гэтым больш за ўсіх? Мы ведаем, што князь свету гэтага, які усё больш сцвярджае сваю ўладу ў гэтым свеце, ведаючы, што яму мала засталося часу, усё больш шалее, усё больш сцвярджае сваё панаванне, «таямніцу беззаконня», пра якую гаворыць апостал Павел у пасланні да Салунянаў (2 Фес. 2: 7). Але яна дзейнічае не толькі ў знешнім свеце – гавораць святыя айцы – яна адбываецца і ў самой Царкве, таму што, у рэшце рэшт, «чалавек беззаконня», як гаворыць апостал, прыйдзе і сядзе ў храме Божым, выдаючы сябе за Бога (2 Фес. 2: 4).

Цалкам зразумела, што ў першую чаргу супрацьстаяць «таямніцы беззаконня» павінны тыя, хто пастаўлены Госпадам працаваць над выхаваннем душ чалавечых, тыя, хто адказны перад Богам за духоўны стан народа. А у чым жа будзе іх віна? Як змогуць гэтыя людзі дайсці да адрачэння ад Самога Бога? Вось прытча аб злых вінаградарах паказвае, наколькі жудасным можа быць узрастанне ў зле.

Мы бачылі шэраг з'яў несправядлівага суда злых вінаградараў, пакуль яны не даходзяць да забойства Сына Гаспадара вінаградніку. Усё пачынаецца са страты пачуцця рэальнасці, страты страху Божыя. Кожны чалавек, які жыве духоўным жыццём, ведае, што можна страціць страх Божы, страціць Божую благадаць, калі з нядбайнасцю ставіцца да святыні. Слова Божае гаворыць: «Пракляты ўсякі, хто выконвае справы Божыя з нядбайнасцю» (Іер. 48: 10). А калі чалавек пракляты, значыць, пазбаўлены благадаці. Значыць, ён падпарадкоўваецца князю свету гэтага, сілам зла. Ён становіцца на той самы шлях, па якім ішлі злыя вінаградары.

Секулярызацыя, якое адбываецца зараз у нашым жыцці, сведчыць аб іудаізацыі хрысціянства. У чым гэта выяўляецца? У пераважнай і ўсёпаглынальнай увазе сучаснага хрысціянства да зямных каштоўнасцяў. Ідзе працэс, які не новы ў гісторыі, з якім мы сутыкаліся і ў хрысціянстве ў цэлым, і ў гісторыі Царквы – працэс, у асноўным, несвядомай падмены хрысціянства язычаствам, падмены хрысціянскай духоўнасці язычніцкай. У Царквы адна і

адзіная мэта – вызваленне чалавека ад духоўнага рабства граху і далучэнне яго да Бога праз набыццё богападобных уласцівасцяў, самымі галоўнымі з якіх з'яўляюцца змірэнне і любоў. Звядзенне ж асноўнай задачы Царквы да вырашэння зямных «гарызантальных» задач і прывядзе "страціўшых сваю соль" хрысціянаў да непрыметнага прыняцця антыхрыста.

І мімаволі ўспамінаецца слова вялікага свяціцеля Феафана Затворніка, які сваім празорлівым позіркам прадбачыў будучыню і гаварыў, што надыдзе час, калі будзе ўсё павярхоўнае: усё царкоўнае, усе чыны, усе парадкі, уся знешнасць, уся служба – усё будзе, а ўсярэдзіне (гаварыў вялікі іерарх) – поўная здрада духу Хрыстову... Сцеражыся ж, хрысціянская душа, і беражы сваю веру. Помні, што многія і многія зараз надломваюцца .



Мы выразна бачным, што барацьба супраць Сына Вінаградніку і цяпер не спыняецца. Хай не думае хто-небудзь, што ён просты прыхаджанін, а таму, які з яго попыт. Калі ты прыняў дар Духу Святаго, ты таксама працаўнік на ніве Божай, якое б месца ты ні займаў у Царкве. І хай не скажа хто-небудзь, што ён клапоціцца толькі аб сваёй асабістай набожнасці і астатняе яго не тычыцца і не хвалюе. Што значыць твая набожнасць, калі цябе не турбуе, што ўвесь вінаграднік гіне ў нас на вачах? Нам усім даў Гасподзь вінаграднік і забяспечыў яго ўсім неабходным, каб мы годна выконвалі сваю галоўную працу. Мы ўсё надзеленыя даверам Божым, і ўсё вольныя паставіцца да гэтага дара так, як нам уздумаецца.

Аднак і для нас усіх набліжаецца дзень, калі мы павінны будзем паўстаць прад Госпадам са справаздачай, што мы зрабілі з тым, што Ён нам уручыў. Усе мы павінны будзем даць адказ на апошнім і Страшным Судзе Госпаду аб гэтым. І выбар, перад якім

мы знаходзімся, як паказвае Крыж Хрыстоў, аказваецца адназначным. У гэтым свеце, які ляжыць у зле, існуюць зло і смерць. Калі зло даходзіць да сваёй апошняй мяжы, чалавек становіцца альбо пакутнікам, альбо забойцам. Да такой мяжы дойдзе жыццё, што іншага выбару не будзе дадзена нікому. Апостал Павел у сённяшнім апостальскім чытанні папярэджвае нас: «Браты, не спіце, трывайце ў веры, будзьце мужныя, цвёрдыя» (1 Кар. 16: 13).

У прытчы ясна паказана, што Хрыстос ведае, што чакае Яго наперадзе і якім шляхам павінна ісці Яго Царква. Ён свядома ідзе на смерць, каб аддаць Сябе на выратаванне ўсіх, каб стаць краевугольным каменем, на якім будуецца жыццё і без якога (у чым зараз, здавалася б, павінна пераканацца усё чалавецтва) бурыцца ўсё. Адрачэнне ад Госпада і смерць чакаюць Сына Божага і Царкву Яго, але гэта ўсё для таго, каб прынесці міласць, і суд, і перамогу для тых, хто любіць Яго.

### *Пропаведзь у Нядзелю 14-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА ПАКЛІКАНЫХ НА ПІР

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

«Бо не паслаў Бог Сына Свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет выратаваны быў праз Яго» (Ін. 3:17). Гэтыя словы з Евангелля ад Іаана мы чуем сёння ў сувязі з надыходзячым святкаваннем Уздвіжання Жыватворнага і Пачэснага Крыжа Гасподняга.

Гэтыя словы сугучныя і іншаму евангельскаму апавяданню (Мф. 22:1-14), якое працягвае цыкл радавых нядзельных чытанняў, – прытчы Госпада і Яго выкрывальным словам у іерусалімскім Храме, якія Хрыстос прамаўляе перад Сваімі Пакутамі.

Калі Ён увайшоў у Іерусалім, то, зайшоўшы ў храм, убачыў у ім гандляроў. Тады Ён узяў бізуна і стаў выганяць з храма ўсіх, хто

забыў, што такое храм і навошта ён існуе, і ператварыў яго невядома ў што. Пасля гэтага Збавіцель прамаўляе выкрывальнае слова, у якім паказвае праўдзівае аблічча тых, да каго яно звернутае – гэта значыць да тых, хто стаяў тады на чале старазапаветнай царквы: да кніжнікаў, фарысеяў, першасвятароў. Але перад гэтым Ён расказвае прытчу – выдатнае апавяданне, якое мы сёння чулі.

Прытчу пра тое, як Цар (Цар Нябесны, таму што гаворыцца аб Царстве Нябесным) заклікаў нас на трапезу, на пір, які Ён устроіў у гонар Свайго Сына Агнца. Ён заклікаў усіх. І вось у сённяшнім Евангеллі мы чулі, як закліканыя адмовіліся ад гэтага прызначэння, ад гэтага запрашэння, як забілі пасланых.

Пір Агнца – гэта апакаліптычны вобраз, калі гаворка ідзе ўжо аб канчатковым Судзе Сына Божага. Але можна разумець вобраз піру з прытчы не толькі эсхаталагічна, але і гістарычна. Гасподзь заклікае да пакаяння народ іудзейскі. Гэтая прытча Госпада тычыцца не аднаго толькі Старога запавету. І з хрысціянамі адбываецца нешта падобнае да таго, што здарылася з іудзеямі. Гісторыя Рымскай імперыі, Візантыі, Расіі – таму пацверджанне. Гэтая прытча мае непасрэднае значэнне і да нашага часу.

Еўхарыстычная трапеза – гэта і ёсць вясельны пір Агнца, Які аддае Сябе ў ахвяру за грэх свету.

Вось і сёння Айцец наш Нябесны рыхтуе вясельны пір. Ідзе нядзельная літургія, і Гасподзь усіх вернікаў заклікае на яе. Гасподзь кліча ўсіх на вясельны пір, кліча ўсіх у Царства Нябеснае. У храме прысутнічае Сам Хрыстос – і Духам, і Целам. І кожны можа не толькі паслухаць тое, што нам Хрыстос сёння скажа, не толькі адчуць душой сваёй Яго блізкасць, але нават можа спазнаць Яго Прачыстага Цела і Пачэснай Яго Крыві – гэта значыць, далучыцца да Хрыста, усяго Хрыста прыняць у сябе.

Якую яшчэ благадаць можна ўявіць вышэйшую за гэту? Што для чалавека можа быць больш жаданым, чым такія дачыненні з Хрыстом? Што можа быць больш радасным за гэта? Да чаго яшчэ можна на зямлі імкнуцца, як не да аднаго толькі – да таго, каб быць з Хрыстом, калі, вядома, чалавек Яго любіць? І ці шмат жыхароў нашага горада прымаюць сёння запрашэнне Хрыста?

Каб удзельнічаць у вясельным піры Айца Нябеснага, каб быць адзіным цэлым з Хрыстом Збавіцелем, трэба пакаяцца. Наша абыякавасць ёсць найцяжэйшы грэх супраць Хрыста. Таму нам трэба змяніць сваю свядомасць, трэба нам пакаяцца, усё жыццё сваё перавярнуць.

Апошнія словы прытчы якраз пра пакаянне. Калі пір напоўніўся запрошанымі, увайшоў гаспадар вяселля, каб сустрэцца з гасцямі, і бачыць чалавека, апранутага не ў вясельнае – гэта значыць не адпаведнае, не належнае святу, адзенне.

Трэба ведаць ўсходнія звычаі, каб зразумець, чаму быў выдалены з вяселля адзін з прысутных на ім, які прыйшоў на свята «не ў вясельным адзенні». Справа ў тым, што пакліканыя на пір, калі яны не мелі сваёй святочнай вопраткі, атрымоўвалі вопратку пры ўваходзе ад распарадчыка піру. Той, хто адмовіўся атрымаць такую вопратку, гэтым самым выказаў пагарду да гаспадара, як бы гаворачы: «ёсць і піць у цябе буду, а да самога цябе мне справы няма». Царкоўная традыцыя інтэрпрэтуе «вясельную вопратку» як «вопратку пакаяння».

Сімвалічна гэта можа азначаць чалавека, які прыходзіць да Літургіі толькі «па звычаі», але без духоўнай падрыхтоўкі. Такі будзе прычашчацца «у суд і асуджэнне» сабе, і не мае ніякага выбачэння свайму ўчынку. «Паглядзі на сябе, адумайся, чалавек», – як бы гаворыць яму гаспадар. Звярніце ўвагу на тое, што адбываецца з чалавекам. Ён крыўдуе і плача, ведаючы, што страціў, але не разумее, што яму далей рабіць. Калі ж ён адумаецца, гаспадар, магчыма, зноў пакліча яго, верне назад, бо тут не сказана, што ён выкінуты ў цемру знешнюю назаўсёды. Гасподзь заклікае нас апрануць «вопратку пакаяння», калі мы ідзем на пір вясельны.

Калі мы не каемся ў сваіх грахах, то не можам быць удзельнікамі гэтай святой трапезы Цела і Крыві Збавіцеля.

Звярніце ўвагу на сваё ўнутранае жыццё. Паглядзім цвяроза, наколькі наша знешняе і ўнутранае жыццё адпавядае Евангеллю, ці ёсць у нас сапраўднае, поўнае, глыбокае пакаянне, не гаворачы ўжо аб любові да Бога і таго, хто побач з намі. Пры такім цвярозым поглядзе на сябе мы, магчыма, і пачнем ткаць тую духоўна-

маральную вопратку, у якую апранемся і якой прыкрыем свой грахоўны сорам. Праз пакаянне і сардэчнае скрушэнне па сваіх грахах мы і атрымаем надзею на міласць Божую.

Нават калі мы не дасягнем стану любові, то, убачыўшы наша пакаянне і шчырасць у выкананні хрысціянскага абавязку, Гасподзь памілуе нас.

Усімі спосабамі Гасподзь заклікае нас увайсці ў Царкву і атрымліваць асалоду ад духоўнай трапаезы, але толькі пры адной умове: калі мы надзенем на сябе прыстойную нашаму стану і таму становішчу, у якое мы заклікаемся, вопратку. А гэта і ёсць пакаянне. Яно неабходна ўсім. Без пакаяння немагчыма ні набыць якую-небудзь дабрачыннасць (у тым ліку і любоў), ні ўтрымаць яе, калі яна ў нас ужо ёсць. Толькі прыдбаўшы пакаянне, мы зможам спакойна, адважна, як блізкія сябры, атрымліваць асалоду ад гэтага незвычайнага царкоўнага піру – святой трапезы Цела і Крыві Збавіцеля. Апамятаемся і, калі ў нас няма пакаяння, пастараемся ўсімі сіламі яго набыць, паглыбіцца ў пакаяннае пачуццё і такім чынам засцерагчы сябе ад разнастайных духоўных падзенняў і спакусаў, зрабіць сябе годнымі знаходжання ў Царкве. Як сказаў свяціцель Ігнацій (Бранчанінаў), адзіная ахвяра, якую Бог прымае ад грэшнага чалавецтва – гэта дух скрушаны.

Толькі тады чалавек усведамляе сябе сапраўдным чалавекам, усведамляе сваю чалавечую годнасць, калі ён перад сабою бачыць высокую мэту свайго існавання. Сэнс жыцця вызначаецца вернасцю высокаму духоўнаму прызначэнню, высокім духоўным ідэалам.

Менавіта пра гэта гаварыў Збавіцель у Сваёй прытчы, перад тым як выкрыць старазапаветных кніжнікаў і фарысеяў і тых, хто стаяў на чале тагачаснай царквы і хто прывёў яе да поўнага краху. Менавіта пра гэта Ён гаварыў: вы страцілі разуменне, для чаго вы робіце свае справы, якія павінны выконваць . Вось таму ў храме і з'явіліся сталы гандляроў, вось таму і храм ператварыўся ў некую гандлёвую ўстанову. Вось таму і старазапаветная царква страціла сваю благадаць, аджыла свой век, і таму павінна была адбыцца замена яе новай царквой, Новым Запаветам.

Вось што вы чулі ў сённяшняй прытчы аб пакліканых на пір

і абраных. Абраныя – гэта тыя, якія не толькі зразумелі значэнне клічу, ідучага зверху, але і адгукнуліся на гэты кліч сваім прызначэннем зямным. Толькі тады жыццё чалавечае набывае для нас з вамі, хрысціянаў, сапраўдны сэнс, калі кожны з нас падпарадкоўвае сваё прызначэнне ідэалам хрысціянскім, духоўным, евангельскім, і здзяйсняе іх у сваім жыцці. Тады гэтае прызначэнне, гэтая справа, якую мы робім тут, на зямлі, кожны ў сваёй вобласці, не толькі мае пэўны сэнс, але і прыносіць кожнаму з нас радасць сапраўдную, свет сапраўдны, задавальненне і поўнае ўсведамленне сваёй сапраўднай чалавечай годнасці. У гэтым сэнс сённяшняй евангельскай прытчы.

Апостал Іаан у Апакаліпсісе гаварыў сказаў: «Блажэнныя пакліканыя на пір Айца, на вясельны пір Агнца». Ёсць толькі Бог і бязбожжа. І мы – альбо з Богам, на вясельным піру Яго Сына, у светлай вопратцы дабрачыннасці, у радасці, у палатах Царствы Нябеснага, альбо – за межамі жыцця і радасці, дзе цемра «знешняя», там, дзе «плач і скрыгат зубоў», дзе «сабакі і чарадзеі, і распуснікі, і забойцы, і ідаласлужнікі, і кожны, хто любіць і ўчыняе няпраўду» (Адкр. 22: 15). А трэцяга не дадзена. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 15-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА НАЙБОЛЬШУЮ ЗАПАВЕДЗЬ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У сённяшнім Евангеллі (Мф. 22:35-46) утрымліваецца вучэнне Госпада нашага Ісуса Хрыста пра любоў.

«Якая запаведзь найбольшая ў законе?», – такое пытанне прагучала сёння з вуснаў законніка, фарысея (Мф. 22:36). Згодна з Евангеллямі ад Матфея і Марка, гэта было апошняе з трох пытанняў у храме, зададзеных Хрысту на працягу апошніх трох дзён перад Яго пакутамі і смерцю на крыжы.

Мы шмат разоў чулі гэты евангельскі ўрывак, але ці задумваліся пра тое, што значыць любіць Бога ўсім сэрцам і ўсёю душою? Сэрца – духоўны цэнтр чалавека, у якім зараджаюцца і ўсякія брудныя, і самыя святыя пачуцці. Мы павінны жыць так, каб усё наша сэрца было напоўнена Богам, прасякнута Яго прысутнасцю. Сэрца наша заўсёды адгукаецца на ўсе, што адбываецца вакол нас, а таму нярэдка бывае перапоўнена сумненняў, перажыванняў, хваляванняў, але мы маглі б жыць так, каб яно было напоўнена Богам і ў ім панавала б любоў Божая. Колькі цяжкасцяў, бедстваў і праблем, унутраных і знешніх, мы здолелі б пазбегнуць, калі б мы навучыліся скіроўваць свае сардэчныя, унутраныя сілы на любоў Божую, калі б душу сваю не растрачвалі на штодзённую побытавую шэрую мітусню і перажыванні, звязаныя з жыццём свету гэтага.

Сэрцам узлюбіць Бога – гэта значыць аддаць Яму сваё сэрца і зрабіць служэнне Яму і выкананне Яго волі цэнтральнай мэтай свайго жыцця.

Як мы можам узлюбіць Бога ўсім нашым разуменнем? Першым чынам, калі заўсёды будзем насіць у памяці імя Божае, калі малітва злучыцца з нашым розумам, калі ў нашых думках пастаяннай будзе прысутнасць Божая. Часта нашы розум заняты не тым, чым трэба, нават у час малітвы мы адцягваемся і нашыя думкі блукаюць недзе далёка ад справы малітвы. Часта мы не ўмеем кантраляваць свае думкі, і тады да нас прыходзяць помыслы блудныя, грахоўныя, помыслы зайздрасці і нянавісці. Многія заганы зараджаюцца менавіта ў розуме, і калі мы не ўмеем яго кантраляваць, то не можам перашкодзіць развіццю ў нас заганаў і грахоўных страсцей.

Нарэшце, узлюбіць Бога трэба і ўсім сваім целам. Не толькі розум, душа і сэрца павінны быць ёмішчамі, у якіх утрымліваецца любоў да Бога, але і цела нашае павінна быць прасякнута гэтай любоўю.

Як можа Бог быць праслаўлены праз нашае людское цела? І як слава Ісусава можа адкрыцца праз яго? Перш за ўсё, каб праз наша цела праслаўляўся Хрыстос, мы павінны не дазваляць сабе шматлікія заганы, грахі і страсці, якія звязаны з цялесным жыццём.

Калі ў душы, сэрцы, розуме і целе чалавека пануе любоў Божая, то гэта значыць, што чалавек – на шляху да святасці. Мы ў меру сваіх сілаў павінны імкнуцца да таго, каб наша цела стала храмам Божым, храмам Святога Духа.

Любоў ёсць падмурак ўсёй задумы Божай аб збаўленні нашым у Хрысце Ісусе. Слова Божае гаворыць нам пра любоў. Бог наш ёсць любоў. Усё ў свеце – і неба, і зямля, не толькі закон і прарокі – грунтуецца на любові. Скасуецца закон любові, і ўсё рассыплецца. Усе прарокі гавораць пра любоў і жывуць любоўю, таму што толькі любоў відушчая. Толькі любоўю можна бачыць тое, што адбываецца тут, на зямлі, і ў вечнасці. І толькі любоў робіць законнымі дачыненні між людзьмі. І нішто не з'яўляецца ў нашай веры сапраўдным і праваслаўным, калі на першым месцы не знаходзіцца любоў.

З першай запаведдзю звязаная і другая – «узлюбі бліжняга твайго, як самога сябе». Адно не бывае без другога. Мы не можам любіць Бога ўсім сэрцам, усёю душою, усім разуменнем сваім, і пры гэтым не любіць таго, хто побач з намі. Але мы не зможам па-сапраўднаму любіць блізкіх, калі не навучымся любіць Бога. Без любові да Бога любоў да таго, хто побач, не можа быць поўнай, дасканалай, таму што толькі пазнаючы Бога і Яго любоў да нас, мы можам даведацца, што такое сапраўды любіць; і толькі навучыўшыся ад Бога гэтай любові, можам мы ўзлюбіць і бліжняга свайго, як Бог нам загадвае, усім сэрцам, усёй душой, усім разуменнем.

Гэта значыць яшчэ і тое, што мы павінны любіць самых сябе, клапаціцца пра свой розум, сэрца, цела, каб любоў Божая панавала ў нас.

У кожным з нас ёсць розныя пласты быцця: ёсць павярхоўны пласт, эгаістычны, той пласт, які здольны на прагнасць, на нянавісць, на баязлівасць, на ўсе непрыстойнае ў нас – гэтак жа, вядома, як і на павярхоўную любоў, тую, якую можна выразіць словамі: “Я люблю...” – дзе слова «я» у цэнтры ўсяго; гэта тая любоў, якая шукае радасць асалоды, але якая няздольная ісці на ахвяру, нават проста на саступку.

А ёсць у нас іншы, глыбінны пласт, маё сапраўднае «я», вобраз Божы, ікона....

І вось нам трэба заўсёды абіраць: каго ж мы любім ў сабе? Тое дробнае, прагнае, баязлівае, нікчэмнае «я», або, наадварот, таго, хто жыве ў маіх глыбінях і здольны на самы вялікі подзвіг, на самую дзівосную прыгажосць жыцця?

Калі мы не любім сябе такой хрысціянскай любоўю, то не зможам узлюбіць ні Бога, ні бліжняга, не зможам выканаць тую запаведзь, якая ёсць найбольшая ў законе і на якой грунтуецца закон і прарокі.

І вось, любіць бліжняга, як самога сябе, – гэта заклік навучыцца бачыць у кожным, хто знаходзіцца побач, не мізэрнасць яго, а магчымую яго веліч, і гэтай велічы служыць, каб вырас чалавек у поўную меру сваёй велічы і прыгажосці. І тады выканаецца запаведзь, і тады зліюцца абедзве запаведзі, таму што калі мы служым гэтаму глыбіннаму чалавеку, якога апостал Пётр заве «таемны чалавек сэрца» – мы адначасова служым Богу, мы Яму пакланяемся ў Яго вобразе, і дапамагаем гэтаму жывому вобразу стаць тым, што задумаў Гасподзь.

Навошта спатрэбілася страшная Ахвяра, прынесеная на Галгофе? Навошта пралівалі кроў сваю, вызнаючы веру ў Распятага і Уваскрэслага, сонмы мучанікаў? Ці не для таго, каб паказаць усім нам, чаго варта любоў?

Толькі што ў апостальскім пасланні мы чулі словы, ад якіх кроў стыне у жылах: «Бо мы, якія жывём, заўсёды аддаёмся на смерць дзеля Ісуса, каб і жыццё Ісуса выявілася ў нашым смяротным целе» (2Кар.4:11).

Мы павінны заўсёды памятаць, што галоўнае, тое, што вызначае нашы думкі, нашы дух і наша вызнанне веры – гэта пакланенне Крыжу Хрыста. Калі яно сапраўднае і шчырае, то адкрываецца нам любоў Божая, даецца нам благадаць Духа Святога, праз якую мы спазнаем усе таямніцы жыцця.

Мы бачным сёння гэтую дасканаласць у вызнанні Ісціны ў асобах шматлікіх навамучанікаў і вызнаўцаў веры нашага часу. Па таму мноству святых угоднікаў Божых, якія ўсе пішуцца на святых іконах з крыжом у руках. Кожны з іх трымае ў крыжы ўсю таямніцу багаслоўя, усю таямніцу таго, Хто ёсць Хрыстос і па Сваёй чала-

вечай, і па Боскасці сутнасці, і далучанасць да гэтай багаслоўскай таямніцы. Крыж – гэта тое, дзе непарыўна спалучаюцца ісціна і любоў, таму што мы ведаем, колькі любові гіне ў свеце без ісціны. Крыж – гэта самая мудрая кніга, якую толькі можна прачытаць. Хто не ведае гэтай кнігі, той невук, нават калі ён ведае на памяць усё Святое Пісанне. Сапраўдныя багасловы толькі тыя, хто любяць гэту Кнігу, вучацца ў яе, паглыбляюцца ў яе. Усё горкае, што ёсць у гэтай Кнізе, не будзе ніколі дастатковым для таго, хто жадае наталіць сваю прагу яе слодыччу, таму што гэтая слодыч – Хрыстова ісціна і любоў. Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ 15-Ю ПАСЛЯ ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ І НЯДЕЛЯ ПЕРАД УЗДЗВІЖАННЕМ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Набліжаецца вялікае свята – Узвіжанне Пачэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга. І Царква ў набліжэнні гэтага свята, у апошнюю Нядзелю перад яго надыходам, нам сёння прапаноўвае кароткае евангельскае чытанне, у якім гаворыцца аб тым, як усемагутны Бог так палюбіў свет, што Сына Свайго Адзінароднага аддаў, каб «кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае «.

Так палюбіў Бог свет, менавіта такой любоўю, што Ён, Святейшы Бог, нас, грэшных людзей, якія нічога не варты без Яго, без Крыжа, ратуе Сваёю смерцю, паміраючы за нас. І цяпер, калі Ён бярэ на Сябе нашы грахі, смерць не мае над намі ўлады. Цяпер Крыжам Хрыстовым радасць прыходзіць ўсяму свету.

Бог ёсць Любоў. Таямніца сутнасці Божай – гэта таямніца Любві. А самая галоўная, самая вялікая любоў Госпада – гэта Яго Крыж. Крыж і распяцце – аснова нашай веры, аснова нашага жыцця.

Наша вера – гэта вера хрэсная, і хрысціянства – гэта рэлігія Крыжа і Уваскрасення. Збаўленне было нам даравана менавіта з Крыжа.

Гасподзь добраахвотна прыняў крыжовую смерць, паказваючы гэтым, што сіла Божая пераўзыходзіць немач чалавечую. І Ён уваскрэс, каб мы ведалі, што Гасподзь перамагае ўсякае зло, якое ёсць у свеце, але перамагае Ён яго там, дзе мы імкнемся быць Яму вернымі да канца. Каб мець любоў, трэба стаць новым чалавекам: замест эгаістычнага – самаадданым.

Мы з вамі можам выратавацца, толькі калі ідзем хрэсным шляхам ўслед за Хрыстом, таму што ў нас саміх жыве дух Божы, але жыве ў нас таксама і тая самая сапсаванасць чалавечая, якая прывяла Збавіцеля на Крыж.

Гледзячы на запаведзі Божыя, мы бачым, як многа нам трэба для таго, каб іх панесці, шмат такога, чаго мы менавіта не жадаем, – не тое, што не можам. І многія, гледзячы на гэта, адмаўляюцца ад таго, каб ісці ўслед за Хрыстом – адмаўляюцца цвёрда, спакойна і свядома.

Проста здзейсніць тры зямных паклона і пацалаваць дрэва Крыжа – не прынясе ніякай карысці чалавеку, калі яго розум, яго сэрца не ўбачыць тое, што намалявана на гэтым распяцці.

Лягчэй проста пастаяць у храме са свечкай і гэтым абмежавацца, чым цярпець пэўныя нязручнасці, імкнучыся выканаць запаведзі Божыя. Калі ж мы нягледзячы ні на што, імкнемся быць са Хрыстом, то нас чакае Крыж, які мы бярэм на сябе і ідзем следам за Ім у выглядзе ўсіх тых выпрабаванняў, якія нам трэба будзе зведаць на гэтым шляху.

А што нас чакае пасля Крыжа? За Крыжам будзе Уваскрасенне, але толькі для тых, якія ішлі і неслі свой крыж да канца.

І мы з вамі будзем старацца ісці гэтым шляхам, каб не пазбавіцца збаўлення, дадзенага нам праз Крыж. І перш за ўсё ў тых жыццёвых абставінах, у якіх мы з вамі знаходзімся, будзем думаць пра тое, якая ёсць воля Божая, як нам яе выканаць, як раней жылі набожныя і разумныя людзі, а калі яны жылі ў іншую эпоху, то чым адрозніваецца тое, што было тады, ад таго, што зараз? І калі мы ўбачым, што воля Божая – гэта не тое, чаго нам самім хацелася б, і ўсё ж прымаем яе, то гэтым мы прымаем свой Крыж, дадзены нам Хрыстом дзеля нашага ж збаўлення.

Няхай мы яшчэ мала што разумеем ў Евангеллі, але прыйдзе час, і мы самі скажам разам з Апосталам: «А я не жадаю хваліцца, хіба толькі крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста, Якім для мяне свет распяты, і я для свету».

І пра гэтую ж любоў нашага Госпада расказала нам і другое Евангелле. Евангеліст Матфей апавядае пра тое, як адзін законнік, спакушаючы Госпада Ісуса Хрыста, спытаў: «Настаўнік! Якая запаведзь найбольшая ў законе?»

Мы шмат разоў чулі гэты евангельскі ўрывак, але ці задумваліся аб тым, што значыць любіць Бога ўсім сэрцам і ўсёй душой?

Сэрцам узлюбіць Бога – гэта значыць, аддаць Яму сваё сэрца і зрабіць служэнне Яму і выкананне Яго волі галоўнай мэтай жыцця.

Як мы можам узлюбіць Бога ўсім нашым разуменнем? Перш за ўсё, калі заўсёды будзем насіць у памяці імя Божае, калі малітва злучыцца з нашым розумам, калі прысутнасць Божая ў нашых думках будзе пастаяннай.

Палюбіць Бога трэба і ўсім нашым цялесным складам. Не толькі розум, душа і сэрца павінны быць ёмішчам любві да Бога, але і цела наша павінна быць прасякнута гэтай любоўю.

Калі ў душы, сэрцы, розуме і целе чалавека пануе любоў Божая, то гэта значыць, што чалавек – на шляху да святасці. Мы ў меру сваіх сіл павінны імкнуцца да таго, каб наша цела станавілася храмам Божым, храмам Святога Духа.

На любві грунтуецца ўся Боская справа нашага цудоўнага збаўлення ў Хрысце Ісусе. Слова Божае кажа нам пра любоў. Бог наш ёсць любоў. Усё ў свеце – і неба, і зямля, не толькі закон і прарокі – трымаецца на любві. Перастане дзейнічаць закон любві – і ўсё рассыпецца. Усе прарокі кажуць пра любоў і жывуць любоўю, таму што толькі любоў відушчая. Толькі любоўю можна бачыць тое, што адбываецца тут, на зямлі, і ў вечнасці. І толькі любоў робіць законнымі адносіны паміж людзьмі. І нішто не з'яўляецца ў нашай веры сапраўдным і праваслаўным, калі на першым месцы не знаходзіцца любоў.

Навошта спатрэбілася страшная Ахвяра, прынесеная на Галгофе? Навошта пралівалі кроў сваю, вызнаючы веру ў Таго, Хто быў

распяты і ўваскрэс, шматлікія мучанікі? Ці не для таго, каб паказаць усім нам, чаго варта любоў?

Толькі што ў апостальскім пасланні мы чулі словы, ад якіх кроў стыне ў жылах: «Бо мы жывыя няспынна аддаёмся на смерць за Ісуса, каб і жыццё Ісусава адкрылася ў смяротнай плоці нашай» (2Кар. 4:11).

Мы павінны заўсёды памятаць, што галоўнае, што вызначае нашу думку, наш дух і наша вызнанне веры – гэта пакланенне Крыжу Хрыстову. Калі яно сапраўдае, то адкрываецца нам любоў Божая, даецца нам благадаць Духа Святога, праз якую мы спазнаем усе таямніцы жыцця.

Мы бачым сёння гэтую паўнату вызнання ісціны па ліку навамучанікаў і вызнаўцаў веры нашага часу. Па тым мноству святых угоднікаў Божых, якія ўсе пішуцца на іконах з крыжам у руках. Кожны з іх трымае ў крыжы ўсю таямніцу багаслоўя, усю таямніцу таго, Хто ёсць Хрыстос. Крыж – гэта тое, дзе злучаюцца непарыўна ісцна і любоў, бо мы ведаем, колькі любві гіне ў свеце без ісціны. Крыж – гэта самая мудрая кніга, якую толькі можна прачытаць. Хто не ведае гэтай кнігі, той невук, нават калі ён ведае на памяць усе Святое Пісанне. Сапраўдныя багасловы толькі тыя, якія любяць гэту Кнігу, вучацца ў яе, паглыбляюцца ў яе. Усе горкае, што ёсць у гэтай Кнізе, не будзе ніколі дастатковым для таго, хто хоча насыціцца яе саладосцю, таму што гэта саладосць – Хрыстова ісціна і любоў. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 16-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРЫТЧА АБ ТАЛАНТАХ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У сённяшнім Евангеллі сказана, што Хрыстос ставіцца да нас так, як чалавек, які, адпраўляючыся ў далёкую краіну, паклікаў рабоў сваіх і даручыў ім маёмасць сваю. Калі

Хрыстос узнёсся на неба, Ён быў падобны да такога чалавека. Адпраўляючыся ў шлях, Збавіцель паклапаціўся пра тое, каб забяспечыць Сваю Царкву ўсім неабходным у час Сваёй адсутнасці. Хрыстос даверыў ёй усё, што ў Яго ёсць, і аднаму Ён даў пяць талантаў, другому два, іншаму адзін – кожнаму ў адпаведнасці з магчымасцямі яго. Розныя здольнасці ў людзей, розныя паслушэнствы ў Царкве.

У кожнага чалавека – свой шлях у жыцці. Прамудрасць Божая паставіла перад кожным з нас пэўную задачу. Кожнаму з нас дадзена тэма жыцця, таму ў кожнага з нас ёсць свой шлях: раскрыць гэту тэму жыцця, выканаць гэту волю Божую аб нас, гэту задачу, пастаўленую перад намі Прамудрасцю Божай. Ад Бога нам прызначаны гэты шлях. Але мы па ім можам ісці або не ісці, мы вольныя зрабіць гэты выбар.

І кожнаму чалавеку дадзены пэўныя сілы і здольнасці для таго, каб ісці менавіта гэтым шляхам. Кожнаму чалавеку дадзены таленты.

Талант – гэта вага срэбра, гэта грошы. Прападобны Серафім Сароўскі ў сваёй знакамітай гутарцы з Мікалаем Матавілавым прыпадабняе чалавечае жыццё духоўнай куплі. Срэбра або золата – проста груда бліскучага металу, і яны нічога не значаць. Гэта ляжыць мёртвым грузам, пакуль не пушчана ў гандлёва-гаспадарчы зварот. Тое ж самае бывае з духоўнымі здольнасцямі. Гэта можа адносіцца да ўсяго жыцця чалавека, калі ён жыве, як быццам бы і не жыве, як быццам бы жыццё яму не належыць. Хто не клапоціцца пра атрыманы ім дар, той страчвае яго. Ён згасае, як полымя, якое нікім і нічым не падтрымліваецца.

Так, кожнаму з нас дадзены таленты, дадзены сродкі, сілы ісці па таму шляху, па якім прызначана нам ісці Прамудрасцю Божай і па якому мы можам ісці. І калі мы пойдзем па гэтым шляху, то дадзены нам талент раскрыецца, памножыцца з дапамогай Божай. Мы выканаем задачу, пастаўленую перад намі ў гэтым жыцці Самім Богам. "Стараннасцю і працай, – гаворыць нам сёння Гасподзь, – можна многага дасягнуць у духоўным жыцці." І чым большыя здольнасці і дары мае чалавек, тым больш ён павінен працаваць.

Аднак усякі дар прадугледжвае адказнасць. Калі наступае час падводзіць вынікі, лянівы раб апраўдвае сябе. «Вось табе тваё, – гаворыць ён, вяртаючы свой талант Госпаду. – Хоць я і не павялічыў яго, як гэта зрабілі іншыя, усё ж я не паменшыў яго». Як быццам ад яго не патрабавалася папрацаваць. Ён усведамляе, што закапаў свой талант у зямлю, пахаваў яго. Ён падае гэта так, быццам у гэтым няма яго ніякай віны, а наадварот, ён заслугоўвае пахвалы за сваю асцярожнасць, за тое, што ён пазбегнуў усякай рызыкі. У гэтага чалавека псіхалогія нізкага раба. «Я спалохаўся, – гаворыць ён, – і таму нічога не рабіў». Гэта не той страх Божы, які з'яўляецца пачаткам прамудрасці і які весяліць сэрца і натхняе на працу ў славу Божую. Гэты страх паралізуе розум і волю.

Лянівы раб асуджаецца Божым судом да страты свайго таланта. «Вазьміце ад яго талант, – гаворыць Гасподзь, – і дайце таму, хто мае дзесяць талантаў. Бо кожнаму, хто мае, будзе дадзена і памножыцца, а ў таго, хто не мае, адымецца і тое, што мае».

Гасподзь называе яго рабом ліхім і лянівым. Лянівыя рабы – ліхія рабы. «Плач і скрыгат зубоў» (Мф.25:30) стануць доляй іх.

«Цемра суцэльна» – гэта значыць, такая цемра, якая знаходзіцца па-за межамі вобласці Святла Божага і становіцца вечным лёсам таго, хто захоча пражыць адведзенае яму Богам жыццё бестурботна і бесклапотна, без напружання ў барацьбе з самім сабой, не памнажаючы таланты веры, дадзеныя яму яго Творцам. Гэта значыць, адказваць нам давядзецца не толькі за зло, якое мы здзейснілі, але і за дабро, якога не зрабілі. Бо, паводле сённяшняга Евангелля, сумны канец чакае не толькі таго, хто страціў, марна развёў, праматаў дадзеныя яму ў доўг таланты, але разам з ім і таго, хто проста не памножыў іх, не прыклаў намаганняў для таго, каб дар, атрыманы ад Творцы, быў сагрэты цеплынёй адоранага сэрца. Хто з неахайнасцю ставіцца да Божай справы, становіцца падобным да таго, хто выконвае волю варожую.

У прытчы аб талантах заклікае нас Гасподзь несці Святло Хрыстова вучэння ў практычнае, асабістае і грамадскае жыццё.

Пры розных здольнасцях (талантах), дадзеных Творцам усім людзям, кожнаму чалавеку дадзены і адзін агульны талант, гэта –

талант веры. І менавіта гэты талант і павінен у нас, а праз нас – у свеце, прынесці «плён з прыбыткам.» Вера вучыць нас дабрадзейнаму жыццю, талант веры дае нам тое, што з'яўляецца карысным і творчым, што ўзвышае змест нашага жыцця і з'яўляецца яго апраўданнем.

Жыццё – гэта праца і яшчэ раз праца, а не забава. Праца, першым чынам, над самім сабой. Памнажэнне ўкладзенага ў нас Творцам дару веры патрабуе працы і працай дасягаецца.

Жыццёвы вопыт і назіраемая намі карціна сучаснага свету яскрава сведчаць пра тое, што там, дзе чалавек адрываецца ад Першакрыніцы жыцця, ад Бога, там, дзе не памнажаецца Богам дадзены чалавеку талант веры, там пануе цемра, маральны хаос і беспрынцыповасць, там пануе айцец ілжы.

Стратэгія і тактыка дыявала ў дачыненні да роду чалавечага – стварыць спачатку пустату, каб потым можна было запоўніць яе чарнатой. З-за таго, што так шмат было толькі знешняй набожнасці ў Царкве з псіхалогіяй раба, які мае адзін талант, Бог папусціў у нашай Айчыне нашэсце бязбожнай ідэалогіі з усімі яе жахамі. А калі мы наеліся камунізму і зноў утварылася пустэча, адбылося тое, чаму мы з'яўляемся сведкамі сёння: на месца атэізму прыходзіць сатанізм з успрыняццем і замацаваннем граху як нормы. Калі дом пусты, нячысты дух з сям'ю больш злымі духамі займае яго. Калі чалавек спіць, прыходзіць вораг і сее пустазелле (Мф.13:24-30).

Здабыць і памножыць свой талант – гэта значыць пайсці шляхам любві і прынесці плён Духу. Як часта на гэта нам бракуе сілаў, як часта мы становімся рабамі ў гэтым свеце і працуем на карысць свету гэтага таму, што нам не хапае веры ў Любоў Божую. Нам бракуе веры, што наш талант ёсць і можа быць памножаны ў любых акалічнасцях: і пры дрэнным здароўі, і пры дрэнным дастатку, і пры неспрыяльных акалічнасцях, і тады, калі людзі нас падводзяць, падманваюць, зневажаюць, гоняць.

Да апраўдання жыцця праз памнажэнне таланта веры заклікае нас Гасподзь. Ад памнажэння дару веры залежыць

будучае нашай Айчыны і ўсяго свету. Як жа павялічыць гэты дар Божы? Талант веры, які дапамагае знайсці сэнс у жыцці і напаўняе яго станоўчым зместам, памнажаецца дзейсным саюзам сэрца, думкі і волі чалавека з Хрыстом, барацьбой усярэдзіне нас і звонку за Справу Хрыстову ў свеце; ён памнажаецца дабрадзейным жыццём, подзвігам нашага ўзыходжання да Хрыста, якое немагчыма без нашага самаахвярнага служэння тым, хто знаходзіцца побач з намі.

Сёння мы чулі словы апостала Паўла: ён гаварыў пра тое, як павінен чалавек жыць, што ён не павінен баяцца ні ганенняў, ні пакутаў, ні паклёпаў. Нават калі яго будуць лічыць ашуканцам, нават калі яго будуць лічыць ужо загінуўшым, – ён усё роўна павінен жыць у адпаведнасці з запаведзямі Божымі, ён усё роўна павінен быць верным Богу. Вось гэта і значыць для нас з вамі несці свой крыж, пераадольваючы ўсё перашкоды; гэта і значыць для нас памнажаць свой талант, быць таленавітымі, а не проста здольнымі на тыя або іншыя карысныя справы ў гэтым свеце.

Мы бачым радасць тых, хто звяртаецца да Госпада, і радасць Госпада. Гэта Пасха Гасподня і радасць святых. Хрыстовы мучанікі, прападобныя і ўсе святыя паказваюць Госпаду свае раны і прынесены імі плён веры як сведчанне вернасці Яму. «Пакажы мне веру ад спраў тваіх», – гаворыць Гасподзь, і Ён з любоўю ўзнагароджвае іх.

«Час бяжыць імкліва, як рака цячэ, – гаворыць праслаўлены не так даўно сербскі святыцель Мікалай Веліміравіч, – і хутка, я паўтараю, – гаворыць ён, – хутка наступіць канец усяго». Ніхто не зможа вярнуцца назад з Вечнасці, каб узяць тое, што ён забыў тут, на зямлі, і зрабіць тое, што ён не зрабіў. Таму будзем спяшацца ўжываць дары, атрыманыя намі ад Бога, для набыцця вечнага жыцця. У чым няхай дапаможа кожнаму з нас Хрыстос. Амінь.

# ПРАПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ 16-Ю ПАСЛЯ ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ І НЯДЗЕЛЯ ПАСЛЯ УЗДЗВІЖАННЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння, у Нядзелю пасля свята Уздзвіжання Пачэснага і Жыватворнага Крыжа, згодна з богаслужбовым Уставам Праваслаўнай Царквы, падчас літургіі павінна быць прачытана Евангелле пра самаахвярнае нясенне свайго ўласнага жыццёвага крыжа, якое патрабуецца ад кожнага чалавека, што імкнецца ісці за Хрыстом.

"Адмоўся ад сябе, – кажа Гасподзь, – і вазьмі крыж свой, і ідзі за Мной". Што значыць, адмовіцца ад сябе? Святыя айцы лічаць, што гэта значыць адмовіцца ад сваёй грэшнай волі, сваіх заганных схільнасцей і ўсякіх грахоўных жаданняў.

"Вазьмі крыж свій і ідзі за Хрыстом". Узяць свой крыж і ісці ўслед за Хрыстом, распяцца разам з Ім – вось сапраўдны шлях хрысціяніна. З гэтага і пачынаецца хрысціянства. Яго пачатак – адмаўленне ад сябе, барацьба з грахом, які, на жаль, жыве ў сэрцы кожнага з нас, распяцце разам з Хрыстом на сваім уласным жыццёвым крыжу, які дадзены кожнаму з нас Госпадам. Каб зразумець таямніцу Крыжа Хрыста, неабходна панесці свой крыж.

"Хто страціць душу сваю дзеля мяне, – гаворыць Збавіцель у сённяшнім Евангеллі, – той уратуе яе". Гэта значыць, хто аддасць жыццё сваё за веру і Хрыста, той уратуе душу сваю для вечнага блажэннага жыцця.

Мы павінны ўсвядоміць простую ісціну: Царства Божае, гаворыцца ў Слове Божым, дасягаецца пэўнымі высілкамі і руплівай працай над сабой, якой могуць спадарожнічаць розныя спакусы і выпрабаванні, і толькі той, хто прыкладвае пэўныя намаганні, здольны яго дасягнуць. І ў гэтым і ёсць наша ўласнае годнае нясенне жыццёвага крыжа.

У сённяшнім нядзельным евангельскім чытанні сказана, што Хрыстос ставіцца да нас так, як чалавек, які, адпраўляючыся ў

далёкую краіну, паклікаў сваіх рабоў і даручыў ім маёмасць сваю. Калі Хрыстос узнёсся на неба, Ён быў падобны да такога чалавека. Адыходзячы ў шлях, Ён паклапаціўся пра тое, каб забяспечыць Сваю Царкву ўсім неабходным падчас Сваёй адсутнасці. Хрыстос даверыў ёй усё, што было ў Яго, і даў аднаму пяць талантаў, другому два, іншаму – адзін: кожнаму паводле сілы яго. Розныя таланты і здольнасці ў людзей, розныя паслушанні ў Царкве.

У кожнага чалавека – свой шлях у жыцці. Прамудрасць Божая паставіла перад кожным з нас пэўную задачу. Кожнаму з нас дадзена тэма жыцця, таму ў кожнага з нас ёсць свой шлях: раскрыць гэту тэму жыцця, выканаць тую волю Божую, ускладзеную на нас, вырашыць тую задачу, што пастаўлена перад намі Прамудрасцю Божай. Ад Бога прызначаны нам гэты шлях. Але мы па ім можам тсці або не ісці, мы вольныя зрабіць гэты выбар. І кожнаму чалавеку дадзены пэўныя сілы і здольнасці для таго, каб ісці менавіта гэтым шляхам. Кожны чалавек мае свой талент. Хто не дбае пра атрыманы ім талент і не памнажае яго, той яго губляе. Ён згасае, як полымя вогнішча, якое ніхто не падтрымлівае.

Кожнаму з нас дадзены таленты, дадзены сродкі і сілы, каб ісці тым шляхам, які вызначаны нам Прамудрасцю Божай і па якім мы павінны ісці. І калі мы пойдзем па гэтым шляху, то дадзены нам талент раскрыецца і павялічыцца з дапамогай Божай. Мы выканаем задачу, вызначаную нам у гэтым жыцці Самім Богам. Дбайнай і руплівай працай, гаворыць нам сёння Гасподзь, – можна шмат чаго дасягнуць у духоўным жыцці. І чым больш дароў ад Бога атрымаў чалавек, тым больш ён павінен працаваць.

Лянівы раб асуджаецца Божым судом на пазбаўленне свайго таланта. “Суцэльная цемра” – гэта тая цемра, якая знаходзіцца па-за прасторай Боскага Святла. Яна стане вечным лёсам таго, хто захоча пражыць адмеранае яму Богам жыццё бесклапотна, без напружання ў барацьбе з самім сабой, без нясення свайго ўласнага жыццёвага крыжа, не памнажаючы таланты веры, атрыманыя ім у доўг яго Творцам. Гэта значыць, што адказваць прыдзецца не толькі за здзейсненае намі зло, але і за дабро, якога мы зрабіць не змаглі. Бо, згодна з сённяшнім Евангеллем, сумны вынік чакае не толькі таго, хто згубіў, бессэнсоўна растраціў

і распусціў дадзеныя яму таленты, але таксама і таго, хто проста не памножыў, не павялічыў іх, не прыклаў намаганняў для таго, каб дар, атрыманы ад Творцы, быў сагрэты цяплом чалавечага сэрца. Хто неахайна ставіцца да справы, даручанай яму Госпадам, становіцца падобны да тых, якія выконваюць справы варожыя збаўленню душы чалавека.

Прытчай пра таланты заклікае нас Гасподзь несці Святло вучэння Хрыста ў практычнае, асабістае і грамадскае жыццё. Пры розных здольнасцях і талентах, дадзеных Творцам усім людзям, кожнаму чалавеку дадзены і адзін агульны талант – гэта талант веры. І менавіта гэты талант і павінен у нас, а праз нас і ў свеце прынесці "прыбытак добры". Вера вучыць нас беззаганнаму жыццю, талант веры дае нам тое, што з'яўляецца карысным, творчым і ўзвышаным зместам жыцця і апраўданнем самога нашага жыцця.

Вопыт жыцця і тая карціна сучаснага свету, якую мы назіраем, ярка сведчаць пра тое, што там, дзе чалавек адпадае ад Першакрыніцы жыцця – д Бога, – там, дзе не памнажаецца Богам дадзены чалавеку талант веры, там пануе цемра, маральная беспрынцыповасць і духоўны хаос, там валадарыць айцец ілжы.

Стратэгія і тактыка дыявала ў адносінах да роду чалавечага – стварыць спачатку пустату, каб яе пасля можна было напоўніць цемрай. З-за таго, што так многа было ў нас знешняй прыстойнасці ў Царкве, што была ў нас псіхалогія раба з адным талантам, Бог дапусціў распаўсюджанне ў нашай краіне бязбожнай ідэалогіі з усімі яе жахамі. А калі мы наеліся камунізму і зноў утварылася пустата, адбылося тое, чаму мы з'яўляемся сведкамі сёння: на месца атэізму прыйшоў сатанізм разам са стаўленнем да граху як да нормы чалавечага жыцця. Калі пустое жытло, нячысты дух разам з сям'ю яшчэ больш злымі за яго духамі займае яго. Калі чалавек спіць, прыходзіць вораг і сее пустазелле на яго палетках.

Знайсці і памножыць свой талант – гэта значыць пайсці шляхам любві і прынесці плады Духа. Як часта нам на гэта не хапае сіл, як часта мы з'яўляемся прыгнечанымі ў гэтым свеце і гэтым светам таму, што не хапае нам веры ў Любоў Божую. Нам не хапае веры ў тое, што наш талант можа быць памножаны ў любых умовах: і пры дрэнным здароўі, і пры слабым дабрабыце, і пры неспрыяльных абставінах, і тады, калі

людзі нас падманваюць, прыніжаюць, гоняць.

Сёння мы чулі словы апостала Паўла: ён казаў аб тым, як павінен жыць чалавек, што ён не павінен баяцца ні ганенняў, ні пакутаў, ні паклёпаў. Нават калі яго лічаць ашуканцам, калі лічаць, што ён ужо духоўна загінуў, – усё роўна ён павінен жыць па-божаску, усё роўна ён павінен быць верным. Вось гэта і значыць для нас з вамі несці свой крыж, пераадольваючы ўсе перашкоды; гэта і значыць для нас памнажаць свой талант, быць таленавітымі, а не проста здольнымі на тыя ці іншыя карысныя справы ў гэтым свеце.

Таму, калі мы пакланяемся Крыжу Хрыстову, калі прыкладваемся да Яго, няхай з глыбіні нашых сэрцаў пральецца шчырая малітва з просьбай таго, каб нам дапамог Гасподзь сілаю Пачэснага і Жыватворчага Крыжа Свайго годна несці наш уласны жыццёвы крыж. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 17-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА АЦАЛЕННЕ ДАЧКІ ХАНАНЕЯНКІ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У Нядзелю 17-ю ў евангельскім чытанні (Мф.15:21-28) даецца вобраз надзеі і веры ў міласцівага і ўсемагутнага Госпада, яўлены не кім-небудзь з сыноў Ізраілевых, а язычніцаю – жанчынай хананеянкай, якая неадступна ішла за Хрыстом, са слязьмі просячы ацаліць яе апанаваную дэманам дачку. Слава пра Вялікага Прарока і Цудатворцу, якім быў Хрыстос, распаўсюджвалася і за межамі зямлі Іудзейскай. Слых пра Яго міласэрнасць і ўсемагутнасць дайшоў да няшчаснай хананеянкі. І як толькі Хрыстос увайшоў «у межы Тырскія і Сідонскія», жанчына накіравалася да Яго, верачы, што толькі Ён можа ацаліць яе хворую дачка. Але Хрыстос маўчаў а калі вучні звярнулі ўвагу на яе настойлівыя просьбы, пачулі адмоўны адказ іх Настаўніка.

Замоўкла хананеянка? Не: моцная была яе надзея, настолькі цвёрдая вера, што не змог іх пахіснуць адказ Збавіцеля. Наадварот, яна ўсё больш і больш умацоўвалася ў веры.

Вялікае было цярпенне хананеянкі, якое падтрымлівала яе веру. Адзіная надзея, і раптам – спачатку маўчанне, а затым адмаўленне Хрыста дапамагчы. Гэта было выпрабаваннем яе пакоры. Яна не мела права звяртацца да Збавіцеля, бо Ён «пасланы толькі да загінуўшых авечак дому Ізраілева». І зноў адказ: «Нядобра ўзяць хлеб ад дзяцей і кінуць сабачанятам». Не, яна не абразілася і прыняла гэта як належнае, сказаўшы: «Так, Госпадзі! але і сабачаняты ядуць крошкі, якія падаюць са стала гаспадароў іх», – і тым самым паднялася на новую, вышэйшую ступень пакоры.

Цяжэй за ўсё даецца чалавеку пакора. Але пакора, пазбаўленая самаўзвышэння, нараджае і жывіць у душы чалавека веру ў Хрыста-Збавіцеля, і гэта вера здзяйсняе цуды ў чалавеку.

Большасць ацэньвае пакору як пачуццё адмоўнае, як пачуццё пасіўнае. Тыя, хто так думаюць, глыбока памыляюцца. У пакоры перад Творцам – аснова рэлігійнага пачуцця, і пакора з'яўляецца зусім не пасіўным, а творчым пачаткам жыцця.

Збавіцель убачыў моц веры і глыбіню пакаяння хананеянкі – і ацаліў яе дачку. Так узнагароджваецца самая цяжкая для чалавека перамога – перамога над самім сабой у пакоры перад Усявышнім, «убогасць духу», да якой заклікае верных Гасподзь.

У чым жа выявіліся веліч і сіла веры хананеянкі, якая заслужыла ад Збавіцеля асаблівую пахвалу і неадкладнае атрыманне дапамогі яе хворай дачцэ? У глыбокай пакоры, з якой яна звярталася з просьбай да Збавіцеля. У сваім горы няшчасная маці не наракала, не скардзілася перад Збавіцелем, што іншым даецца ад Яго дапамога, а яна пазбаўленая гэтага, не адчайвалася, калі атрымала рашучы, відаць, адмоўны адказ, але з пакорлівай верай прасіла хоць самай малай міласці Божай. Не абразілася і крыўдным параўнаннем з сабакамі, але нібы гаварыла: «Так, Госпадзі, сапраўды так! Я нічога не вартая язычніца, я вялікая грэшніца і не маю права на тое, што належыць чадам Божым, але падай мне хоць маленькую кропельку Тваёй міласці: я звяртаюся да Цябе,

як сабака пад сталом гаспадара свайго». Такая глыбокая пакора няшчаснай маці, якая не пакінула ў душы яе ні ценю сумнення ў атрыманні прасімага, не магла не прывабіць міласці Божай. Яна атрымала тое, што прасіла.

Ісус Хрыстос не адразу выканаў яе просьбу, а прымусіў доўга прасіць не таму, што Ён сапраўды лічыў яе нявартай такой міласці, але для таго, каб неадступнасць яе малітвы, непахісную надзею, моцную веру і глыбіню пакоры паставіць у прыклад і, магчыма, у дакор як яўрэям, так і нам, хрысціянам. Калі хананеянка – язычніца, ідалапаклонніца – аказалася такой малітоўнай, пакорлівай, цярплівай, так непахісна веруючай і маючай такое спадзяванне на дапамогу Божую, то нам, якія лічаць сябе сапраўдны веруючымі і праваслаўнымі хрысціянамі, сорамна не быць такімі і на самой справе, і ў самім жыцці. Нам тым больш неабходна быць нязменнымі ў вялікадушным цярпенні і перанясенні выпрабаванняў, крыўдаў, нястачаў, цвёрдым спадзяванні на міласэрнасць Божую і ў дбайнай, палымянай малітве. Звернем з вамі ўвагу на тое, што ацаленне апантанай адбываецца па веры маці, без удзелу самой апантанай. Адзначым яшчэ, што маці-хананеянка, хаця і была язычніцай, разумела, што дачка яе не проста хворая, а «апанаваная дэманам.» Яна верыла ў рэальнасць «духа зла,» верыла ў магчымасць пранікнення яго ў чалавека, як іншароднага, нячыстага духу. Многія ізраільцяне, як, напрыклад, садукеі, не верылі ў рэальнасць «злой сілы,» ды і ў наш час мала хто ў гэта верыць. У гэтым крыецца вялікая небяспека для нармальнага духоўнага стану чалавека. Адмаўленне рэальнасці «духу зла» непазбежна паралізуе пільнасць чалавека да яго ўнутранага жыцця. Мы з вамі – воіны Хрыстовы. А вораг, якога воін не ба-



чыць і не падазрае пра яго існаванне, з'яўляецца самым небяспечным ворагам, удары якога могуць быць смяротнымі.

Такім чынам, непахісная вера павінна быць у аснове ўсякай нашай малітвы, вера, якая не страчваецца і не змяншаецца і пры доўгім невыкананні нашых прашэнняў. Вера павінна быць у спалучэнні з дабрадзейнасцю, а корань дабрадзейнасць – пакора. Пакорлівая і непахісная вера і ў нас, па прыкладзе хананеянкі, можа выражацца ў узмоцненай малітве, хаця б сціслым словам: «Госпадзі, памілуй; Госпадзі, дапамажы мне», і пакланеннем. А малітва павінна быць не за сябе толькі, але і за іншых – тых, хто вакол нас. У апавяданні аб гэтай жанчыне, якая малілася за апантаную дачку, для нас заключана вялікае суцяшэнне. Можна маліць Бога, прасіць памілавання і для такога блізкага нам чалавека, які сам як быццам бы зусім далёка знаходзіцца ад Бога і ад думкі пра Яго, і малітва гэта можа быць пачутая.

Хананеянка – гэта малюнак нашай душы; апантаная дачка яе – гэта наша плоць, усякі дзень апантаная рознымі страсцямі. У якой бядзе была хананеянка і дачка яе, у такой бядзе знаходзімся і мы з вамі.

У сённяшнім апостальскім чытанні, апостал Павел заклікае нас: «Ачысцім сябе ад усякага бруду цела і духа, у страху Божым дасягаючы святасці» (2Кар.7:1).

І чым раней чалавек пачне выпраўленне свайго жыцця, тым хутчэй ён атрымае усынаўленне, хутчэй адчуе ў сваім сэрцы прысутнасць Божую. Ачысцім жа сябе ад граху, пачнем дасягаць «святасці ў страху Божым». Ні крывадушнасць, ні засмучэнне, ні адчай пры нашых грахах не павінны мець месца ў нашым сэрцы. Страх жа Божы ёсць не страх раба прад гаспадаром, а страх любімага сына перад айцом, якога ён любіць; гэта – пачуццё любові і асцярожнасці, як бы чым-небудзь не пакрыўдзіць таго, каго любіш. Будзем жа праводзіць сваё жыццё ў набожнасці пры такім страху Божым. Мы пакліканы Збавіцелем нашым Іісусам Хрыстом з цемры да святла, з чалавечай немачы да духоўнай магутнасці. Не самі па сабе можам мы дасягнуць такога стану, але пакаяўшыся і стаўшы пакорнымі пад дужай рукой Божай. Адзінае, чаго павінны мы

баяцца, – гэта пазбавіцца гэтай непераможнай абароны Божай, адпасці ад Госпада. Будзем жа цурацца зла ў сабе і вакол сябе, помнячы запавет апостальскі: «Вы былі калісьці цемра, а зараз – святло ў Госпадзе: жывіце, як сыны святла (Эф.5:8)». Амінь.

### *Пропаведзь у Нядзелю 18-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ЦУДОЎНЫ ЎЛОЎ РЫБЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сённяшняе евангельскае апавяданне аб улове рыб і пра той жах, які адчуў і пеpажыў апостал Пётр, калі даведаўся, Хто знаходзіцца побач з ім у яго лодцы.

Убачыўшы гэты цуд, Пётр зразумеў, што перад ім Сын Божы, а таму прыпаў да Яго ног і сказаў: «Адыдзі ад мяне, Госпадзі, бо я чалавек грэшны» (Лк. 5:8).

Гасподзь Ісус Хрыстос адкрыў апосталу Пятру таямніцу, для чаго гэты цуд быў здзейснены. Не таму, што апосталы мелі патрэбу ў харчаванні, не таму, што трэба было накарміць людзей: яны могуць і сваёй працай здабыць сабе хлеб надзённы. Зрэшты, Бог стаў чалавекам не для таго, каб добра лавілася рыба і без асаблівых высілкаў і намаганняў штогод напаўняліся збожжам жытніцы, а для таго, каб «лавіць чалавекаў» у сеткі Царства Нябеснага.

Гэты цуд, безумоўна, быў прарочым знакам будучага лёсу Апосталаў як прапаведнікаў Царства Божага. Ён быў як бы «прытчаю», сказанай не столькі словамі, колькі прыкладам, дзеяннем жывых сіл прыроды.

Здзейснены на нашых вачах цуд пазбаўляе нас магчымасці і права сумнявацца і патрабуе ад нас рашучай перамены жыцця, рашучай і мужнай працы душы. Зараз, пасля таго, што ты ўбачыў, ты не можаш працягваць жыць па-ранейшаму, ты не можаш апраўдацца няведаннем. Жыць у адпаведнасці з запаведзямі Божымі – няз-

ручна і складана, таму слабы чалавек, які прывык да спакойнага жыцця, у рэчаіснасці наўрад ці жадае сустрэцца з цудам, хутчэй, ён шукае супакою. Не трэба нам цудаў, мы і так пражывем! Адыдзі ад мяне,Госпадзі! Адыдзі таму, што я не жадаю раставацца са звыклым ладам жыцця. Цуд, які сведчыць аб Жыцці Вечным, палохае слабыя і грэшныя сэрцы. Як гэта ні дзіўна, але смерць здаецца нам больш звыклай з’явай, адыход у нябыт дае ілюзію безадказнасці. Гэтае ж жыццё патрабуе подзвігу, бясстрашных высілкаў, штодзённай працы. Таму маладушны гатовы хутчэй наогул адмовіцца ад быцця. Ён, быццам страўс, хавае галаву ў пясок, хаваючыся ў смерць, як у апошняе сховішча безадказнасці. Але знаходзяцца сярод гэтага грэшнага чалавечага роду тыя, хто адважыўся пераадолець свой страх, устаць перад тварам цуду, перад Абліччам Божым і з мужнай прастатой адказаць на кліч Збавіцеля.



Святыя апосталы ні на хвіліну не задумаліся, яны пакінулі ў імя Госпада ўсё і пайшлі ўслед за Сваім Нябесным Настаўнікам па паказанаму Ім выратавальнаму крыжоваму шляху.

Усё – гэта жытло, сям'я, прафесія – гэта значыць, занятак, які дагэтуль карміў і чалавека, і яго дзяцей, грамадскае становішча і ўпэўненасць у заўтрашнім дні, забяспечаная старасць і нават надзея на ціхае завяршэнне жыцця. Гэта сапраўдная ахвяра, менавіта тая ахвяра, да якой заклікае нас наш Збавіцель. І заклік гэты нараджае ў душы нашай страх і жах.

“Лавіць” чалавекаў – справа цяжкае, няўдзячная і небяспечная. Ці не таму апосталы замест таго, каб узрадавацца, убачыўшы цуд, – жахнуліся, калі ўгледзелі ў сетках сваіх мноства рыб? Жахнуліся – таму што ўбачылі ў гэтым цудоўным улове прарочы знак, жахнуліся – таму што зразумелі, што і рыбак рызыкуе жыццём, выходзячы ў

мора на сваю цяжкую працу, але тройчы рызыкуе ўсім, што ёсць у яго – і супакоем, і самім жыццём – той, хто ў адпаведнасці з запаведзямі Божымі стаў лаўцом чалавекаў. Нездарма сказаў стары рыбак, у страху прыпаўшы да каленаў Ісуса: «Адыдзі ад мяне, Госпадзі, бо я чалавек грэшны» (Лк.5.8): ён прадбачыў у гэтай цудоўнай здабычы рыб будучую “лоўлю” чалавекаў, і ўжо тады, на пустынным беразе возера Генісарэцкага, здагадаўся, які кошт гэтага занятку. Кошт гэтага рамяства – кошт жыцця, і ўсякі, хто выбірае гэты шлях, заплаціць за гэта сваёй крывёй ужо толькі таму, што і Сам Параможца смерці знішчыў яе змрочную цвярдыню коштам уласнай Прачыстай Крыві.

Цудоўная лоўля паслужыў таму, што, як паказвае царкоўная гісторыя, гэтыя простыя рыбакі праз некалькі гадоў змяніліся карэнным чынам. Набліжанасць да Хрыста, прыняцце імі адраджаючага і ўмацавальнага Слова Божага,ператварылі гэтых простых людзей у сапраўдных Апосталаў. Жабракі, якія нічога не мелі, безабаронныя людзі, яны бясстрашна хадзілі па ўсім свеце. Нікога і нічога яны не баяліся, але, у адпаведнасці са словамі Госпада Ісуса Хрыста, лавілі людзей у сетку любові. Без зброі, без войска, без усякай падтрымкі, выгнаныя з уласнай Бацькаўшчыны, яны заваявалі ўвесь свет, і хрысціянства распаўсюдзілася паўсюль. Трыста гадоў Царква ў Рымскай імперыі была гнаная, але паколькі магутнасць пропаведзі, якая была моцнаю не прыгажосцю, а пераканаўчасцю, была незвычайна вялікай, яны ўлавілі ўвесь сусвет і напоўнілі Царкву Хрыстову.

Калі мы лічым сябе вучнямі Хрыстовымі, то таксама павінны прытрымлівацца прыкладу Яго святых апосталаў і ўсіх святых. Нас не павінны палохаць і вузкі шлях, што вядзе ў жыццё вечнае, і цесная брама, праз якую яны ішлі.

Можна пражыць цяжкае жыццё, у вялікіх працах, клопатах, жальбах і нічога не набыць, таму што гэтае жыццё будзе не па волі Божай. Таму што істотнае значэнне мае не тое, што мы робім, а тое, для чаго мы гэта робім.

Калі будаваць жыццё ў адпаведнасці са словам Божым, якое мы маем у Евангеллі і якое прапаведуе нам Святая Царква, то мы

прыдбаем вялікае багацце – Царства Божае.

Тыя, хто прыйшоў да Бога ў сталым узросце, ведаюць, што можна доўга і ўпарта працаваць, перабіраць варыянты, блукаць у прыцемках, шукаючы Ісціну. Ці ж рыбакі не ведаюць, калі і куды закідваць сеткі?!. Сапраўды, гэтак жа і кожны з нас упэўнены ў сваёй здольнасці жыць, аналізаваць, рабіць высновы, прымаць правільныя рашэнні. І для таго, каб мы ўспомнілі пра Стваральніка, неабходна бывае, каб нашы рыбацкія сеці вярнуліся да нас пустымі і мы звярнулі сваю ўвагу на сэнс і змест уласных жыццёвых высілкаў. Напэўна, сеці павінны доўга заставацца без здабычы, каб рыбакі паслухаліся Таго, Хто Адзін толькі і можа напоўніць іх. Гэта значыць, для таго, каб хоць чаго-небудзь дасягнуць у падараваным чалавеку жыцці, яму неабходна ўсвядоміць сваю абсалютную галечу, поўную няздольнасць кіраваць уласным жыццём і, зразумеўшы гэта, літаральна закрычаць аб Божай дапамозе.

Для нас усякі подзвіг пачынаецца з малога. Мы закліканыя пакінуць «усё» не раптам, а пастунова, і цяжкую справу «лоўлі чалавекаў» пачаць не з таго, хто побач з намі, а з саміх сябе.

Гора нам, калі ад нашай веры, ад нашага ведання не запаляцца сэрцы іншых, не напоўніцца надзеяй нічыя душа. Гора нам, калі, замест таго каб стаць закваскай веры і любові «у родзе гэтым разбэшчаным і грэшным», мы зробімся панурымі і бязлітаснымі суддзямі гэтага роду. Гора нам, калі мы, хрысціяне, станем пужалам для апантанага грахом свету замест таго, каб стаць для яго маяком надзеі або хаця б маленькім агеньчыкам любові, калі мы жадаем хаця б памерці хрысціянамі.

Гора нам, калі, заклікаючы блізкіх і далёкіх да пакаяння, мы ні на ёту не змяняемся самі. Гора нам, калі, « улоўліваючы чалавекаў», мы пакідаем пры сабе ўсе нашыя заганы, усю нашу ганебную схільнасць да граху! Успомнім апошнія словы сённяшняга евангельскага чытання, успомнім тое, пра што гаворыць нам евангеліст Лука: «І, выцягнуўшы лодкі на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі ўслед за Ім» (Лк.5:11). Давайце прыгадаем іх і зразумеем, што дапамагчы іншаму чалавеку паверыць у Бога, увесці яго ў Царкву – гэта значыць, стаць, у адпаведнасці з евангельскім словам, «лаўцом чалавекаў», можна толькі тады, калі сам пакінеш усё

і сапраўды пойдзеш услед за Ім – за сваім Збавіцелем.

Калі б мы на самой справе ўсёй душой жадалі, прагнулі сапраўднага цуду, які заўсёды ёсць не што іншае, як наведванне Гасподняе, калі б усё нашы спадзяванні, усе нашы надзеі былі накіраваныя да сустрэчы з Госпадам, як бы змянілася жыццё, як бы змяніліся мы самі! Хіба мы палохаліся б смерці, хіба баяліся б Страшнага Суда? Хіба не былі б мы разам з апосталам Паўлам упэўненыя ў тым, што» жыццё для нас – Хрыстос, і смерць – набыццё»? Хіба не ўсклікнулі б разам з апосталам Іаанам, молячыся аб Страшным Судзе як аб жаданым і радасным спатканні: «Так, прыйдзі, Госпадзі Ісусе!» (Адкр. 22:20). Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 19-ю пасля Пяцідзесятніцы*

### АПОСТАЛЬСКАЕ ЧЫТАННЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Апостальскае чытанне гэтай Нядзелі змяшчае ў сабе працяг абарончай прамовы святога апостала Паўла супраць абвінавачванняў яго ворагаў. Сярод карынфскіх хрысціянаў з'явіліся лжэапосталы, якія хацелі авалодаць карынфскай царквой і, для поспеху ў гэтым, імкнуліся першым чынам падарваць у душах вернікаў давер і павагу да заснавальніка царквы ў Карынфе – апостала Паўла, узводзячы на яго розныя паклёпы і зневажаючы яго апостальскую і асабістую годнасць.

Мы ведаем на сваім уласным вопыце, што часта злыя і зайздросныя людзі, імкнуцца прынізіць іншых, каб узвысіць сябе. Тое ж здарылася і з апосталам Паўлам. І супраць яго было сказана шмат няпраўды, і асабліва тымі, хто самі сябе называлі апосталамі і хацелі быць народнымі настаўнікамі сярод карынфскіх хрысціян.

Каб абараніцца ад несправядлівых абвінавачванняў ворагаў і для пераканання легкаверных у сапраўднасці пачутага імі ву-

чэння, святы апостал Павел вымушаны быў пахваліцца сваімі добрымі якасцямі.

Але само гэта вымушанае яго самаапраўданне вызначаецца глыбокай хрысціянскай пакорай, лагоднасцю і змірэннем. Такім чынам, галоўная тэма прапанаванага апостальскага чытання гэтай Нядзелі – пакора хрысціяніна і яго змірэнне.

У сваёй прамове, напоўненай горкай іроніяй, Апостал нібы апранае на сябе маску вар'ята і хвалько. Яго нядобразычліўцы падрывалі яго апостальскі аўтарытэт, выстаўляючы яго як чалавека слабога, не здольнага да актыўных дзеянняў і, больш таго, – як «невука ў слове». Таму ён вымушаны быў хваліцца сваімі дабрадзейнасцямі. Ён апускаецца на ўзровень сваіх супернікаў, каб змагацца з імі іх уласнай зброяй, але не дзеля асабістай самаабароны, а дзеля таго, каб абараніць Святое Евангелле.

«Прыміце мяне, хоць як неразумнага, каб і мне хоць крыху пахваліцца». Але чым жа хваліцца Апостал? Тым, пра што ў сучасным яму грамадстве пазбягалі казаць, каб не прынізіць сваёй годнасці. Ён хваліцца сваімі жыццёвымі нягодамі і цяжкасцямі: тым, што ён сядзеў у турме, тым, што яго білі палкамі і камянямі, тым, што ён галадаў і мёрз.... Ён хваліцца такімі эпізодамі свайго жыцця, якія ў вачах сучаснікаў павінны былі выглядаць зневажальна і ганебна.

Апостал Павел падвяргаўся ў жыцці сваім незлічоным небяспекам. Шмат пакут за Хрыста перанёс ён; але пра іх ён да гэтага часу маўчаў, ведаючы, што ўсе гэтыя яго намаганні і подзвігі ёсць не яго ўласныя справы, а знакі благадаці Божай, якая была ў ім. У сабе ж самім ён лічыў сваёю ўласнасцю толькі немачы.

Апостал Павел быў чалавек надзвычай дабрадзейны, незвычайна красамоўны, нікога і ніколі не баяўся, гатовы быў пайсці на смерць, вытрываў шмат разнастайных выпрабаванняў. Днём ён прапаведаваў, уначы працаваў, каб ніхто не мог яго папракнуць, што ён нахлебнік і прапаведуе на чужыя сродкі, каб не ствараць, як ён казаў, перашкоды для пропаведзі. Але гэтага мала – ён здзяйсняў і мноства вялікіх цудаў: ацаляў людзей, а калі яго ўкусіла ядавітая змяя, яму не было ад гэтага ніякай шкоды. З ім здаралася і шмат

іншых незвычайных выпадкаў, што або апісана ў Святым Пісанні, або апушчана па прычыне вялікай колькасці цудоўных здарэнняў.

Ганарыстасці і самаўсхваленню прамудрасці чалавечай Апостал супрацьпастаўляе праяву Прамудрасці Божай – Хрыста распятага, для іўдзеяў спакусу, для элінаў вар'яцтва (1 Кар. 1:23). Праз Крыж, праз відавочную здавалася б перамогу немачы, смерці і безнадзейнасці – праяўляецца бязмерная сіла Божая, перамога жыцця, адкрыццё яго сэнсу і надзеі. Слава чалавечая – летуценная, слава Хрыста распятага і ўваскрэслага – непераходзячая. Сэнс Крыжа – любоў Божая, вечнае жыццё і ўваскрасенне чалавека. Менавіта гэта і імкнуўся ўвасобіць апостал Павел у сваім жыцці і ў сваёй апостальскай дзейнасці.

Апаненты Апостала хваліліся сваімі надзвычайнымі рэлігійнымі перажываннямі, якія яны падавалі як відавочныя доказы іх духоўнага аўтарытэту. Толькі супраць сваёй волі Апостал паведамляе пра свой уласны вопыт такога роду, пра «відзенні і адкрыцці».

Апостал кажа пра відзенні, гэта значыць пра з'яўленні яму Бога Ісуса Хрыста. У апостала Паўла, несумненна, іх было шмат. Ён ужывае слова «відзенні» ў множным ліку. Але ён меў яшчэ таксама і адкрыцці, якія пераўзыходзяць відзенні, паколькі ў адкрыцці не толькі паказваецца нешта, але і паведамляюцца таямніцы Божыя. Вядома, апосталу Паўлу гэтыя адкрыцці былі дадзены для таго, каб ён паслужыў іншым людзям, паведамляючы ім таямніцы Царства Нябеснага.

Але Апостал не жадаў пра гэта нават казаць і лічыў не карысным для сябе хваліцца гэтымі з'явамі. Каб адвесці ўвагу ад уласнай асобы, ён кажа пра гэта няхочучы, як пра тое, што адбылося з іншым, знаёмым яму чалавекам. Ён не выказвае сваё «захапленне», як гэта рабілі яго супернікі. Як усё гэта адбывалася – «у целе,...па-за целам»? Веданне такіх таямнічых рэчаў ён пакідае Богу. Не можа ён пераказаць і пачутае на «трэцім небе».

Сам апостал Павел прызнаў немагчымым пераказаць пачутае і ўбачанае ім. Гэта значыць, яго духоўны вопыт не прызначаны для публікі, для пропаведзі і тым больш для пахвалы. Словы апоста-

ла Паўла нас папярэджваюць, што да надзвычайных рэлігійных перажыванняў варта ставіцца са стрыманай асцярожнасцю.

На жаль, рэальнасць царкоўнага жыцця паказвае, што словы апостала Паўла, скіраваныя супраць прагных да сенсацый хрысціян яго часу, і сёння, праз дзве тысячы гадоў, вельмі актуальныя.

Але мы не можам пры гэтым не ставіцца з глыбокай пашанай да пакоры і змірэння вялікага падзвіжніка – святога першавярхоўнага апостала Паўла.

Да таго ж, працягвае апостал, «каб я не заганарыўся надзвычайнасцю адкрыццяў, дадзена мне джала ў цела, ангел сатаны, каб гнясці мяне, каб я не ганарыўся. « Што гэта за джала ў цела? Пад джалам, іголкаю або нечым калючым у целе, у знешнім жыцці разумеюцца ўсе тыя выпрабаванні, беды, нястачы і непрыемнасці ад ворагаў яго – служкаў сатаны, якія, задавальняючы пачуццё помсты, зласловілі і гнялі яго. Але святы апостал лічыў гэтыя бедствы ў сваім жыцці вельмі карыснымі для сябе: менавіта яны трымалі яго ўвесь час у стане пакоры, змірэння і цярпенні.

Вядома, пакуты цела і яго цяжкія хваробы выклікалі боль у целе апостала. І святы апостал Павел неаднаразова маліў Бога, каб Той пазбавіў яго ад усяго варожага. Але Бог сказаў...: «досыць для цябе благадаці Маёй, бо сіла Мая здзяйсняецца ў немачы.»

«Сіла Мая здзяйсняецца ў немачы». Гэтыя словы Бога нясуць у сабе вялікі евангельскі сэнс. Яны заклікаюць нас не пазбягаць Крыжа, бо толькі так мы знойдзем уваскрасенне разам з Госпадам. Гэтыя словы Бога сталі для апостала Паўла законам яго жыцця ў Хрысце. Яны звернуты і да ўсіх нас, каб мы прынялі іх у нашы сэрцы як вялікі наказ Божы.

У гэтых словах таксама ўтрымліваецца вельмі карысны для нас урок: сіла Божая здзяйсняецца ў немачы. Калі мы не толькі розумам усведамляем сваю немач, але і ў сэрца наша глыбока пранікае гэта пакорлівае адчуванне, тады мы даём месца Богу, і ў нас пачынае дзейнічаць Яго сіла.

Сіла, гэта значыць благадаць Божая, менавіта пасылаецца нам на дапамогу, на падтрыманне нашых душэўных сіл, на падбадзёр-

ванне наша, каб мы не маркоціліся, не падалі духам пад цяжарам жыццёвых выпрабаванняў, хвароб і розных крыўд.

Трэба зразумець, што корань зла знаходзіцца не ў людзях, якія жывуць вакол нас, а ў нас саміх... Ганарысты – не можа сцярпець крыўду; гняўлівы – раздражняецца без прычыны; падазроны баіцца зданяў, створаных уласнай недаверлівасцю... Калі б не было гэтых спакусаў, мы б і не падазравалі, колькі зла ўтойваецца ў нашым сэрцы...

Нялёгка даецца перамога над такімі, на першы погляд, малымі спакусамі. Трэба першым чынам не шукаць у гэтым жыцці сваёй уласнай карысці, адмовіцца ад нячыстай і заганнай любві да самога сябе...

Далей апостал Павел кажа (і на гэтым завяршаецца сённяшняе апостальскае чытанне): «І таму я найбольш ахвотна буду хваліцца сваімі немачамі, каб жыла ўва мне сіла Хрыстова». Такім чынам, калі мы не саромеемся прызнаць сябе слабымі і нямоглымі, тады прыцягваем да сябе благадаць і сілу Божыю. Апостал Павел ведаў пра гэта і таму ў змірэнні хваліўся сваімі немачамі.

Нішто не перашкаджае нам быць падобнымі да апостала Паўла ў яго шчырай пакоры. Бо калі апостал Павел, маючы такія вялікія адкрыцці, лічыў, што выпрабаванні пасылаюцца яму для змірэння, каб ён не ўзносіўся і не ганарыўся, то тым больш мы павінны баяцца за сябе. Мы павінны зміраццa, і нават беды і нястачы прымаць з радасцю, таму што Бог пасылае іх для таго, каб мы змірыліся і сталі ёмішчам благадаці Божай, толькі б мы не паддаліся ў іх якой-небудзь грахоўнай спакусе.

«Я ў немачах, у крыўдах, у нястачах, у ганеннях... за Хрыста». Праваслаўныя! І мы, па большай частцы, маем у жыцці розныя праблемы, клопаты, турботы і выпрабаванні. Не будзем сумаваць, а будзем з надзеяй на Бога і ў пакоры іх пераносіць. Наогул, будзем, падобна да святога апостала Паўла, быць у лагодным стане ў немачах, у крыўдах, у патрэбах і ў ганеннях за Хрыста.

Будзем імкнуцца стаць падобнымі да святых і да Самога Бога першым чынам у пакоры, будзем шукаць не вышынь, а глыбіні змірэння. Калі мы знойдзем яе, то Бог адкрыецца і нам. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 19-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ШЛЯХ У ЦАРСТВА НЯБЕСНАЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння Хрыстос гаврыць нам у Евангеллі пра любоў да ворагаў – пра тое, што з'яўляецца галоўнай і адзінай прыметай таго, што мы – Хрыстовы, што мы не дарэмна носім на сваёй шыі крыжык, што мы ведаем таямніцу Крыжа Хрыстова.

Калі вялікая княгіня прападобнамучаніца Елізавета была скінутая раз'юшанымі катамі ў алапаеўскую шахту, яна паўтарыла словы малітвы Самога Збавіцеля, калі Ён быў на Крыжы: «Божа, даруй ім, бо не ведаюць, што робяць».

Няхай гэтыя словы глыбока ўвойдуць не толькі ў нашу памяць, але і ў нашы душы, ва ўсё наша жыццё. Калі мы дасягаем гэтага, гэта адзіная прымета таго, што мы хрысціяне.

Такую дабрадзейнасць явіў у жыцці сваім прападобны Серафім Сароўскі. Разбойнікі, патрабуючы ад яго грошы, збілі яго, пакінуўшы ледзь жывога, але, калі яны былі знойдзены і павінны былі быць асуджаныя, прападобны Серафім прасіў аб іх прабачэнні, што было выканана.

Хрыстос гаворыць: «Як вы хочаце, каб рабілі вам людзі, так і вы ім рабіце». Ніхто не можа аспрэчыць гэтыя словы Госпада. Усе мудрацы свету сцвярджалі гэты прынцып жыцця, усе гаварылі пра тое, што справядлівасць патрабуе, каб мы не рабілі іншаму таго, чаго сабе не жадаем.

Хрыстос, сцвярджаючы быццам бы той жа самы прынцып, ідзе значна далей, таму што адна справа не рабіць іншаму дрэннае, а іншае – рабіць яму добрае. І гэта «добрае» – здольнасць чалавека імкнуцца да сапраўднай дасканаласці.

Сёння ў Евангеллі Гасподзь гаворыць: «Будзьце дасканалыя, як дасканалы Айцец ваш Нябесны. І будзьце міласцівыя, як Айцец ваш Нябесны міласцівы». Што гэта значыць? Гэта значыць:

любіце тых, хто ненавідзіць вас, і рабіце дабро тым, хто робяць вам зло. І давайце іншым людзям, не спадзеючыся атрымаць ад іх нічога. Так робіць Гасподзь. На крыжы Ён явіў гэта ў поўнай меры так, каб мы ўсе ўбачылі дасканаласць чалавека, каб мы ўсе вучыліся стаць дасканалымі людзьмі – хрысціянамі.

Хрыстос – першы на зямлі, хто абвясціў гэтую запаведзь пра любоў да ворагаў.

Усё ў табе пратэстуе супраць гэтага. Немагчыма з гэтым ніяк пагадзіцца, але Гасподзь гаворыць на Крыжы: « Любіце ворагаў вашых». І дае хрэсную, пасхальную сілу новага жыцця, каб мы жылі менавіта так і так ставіліся да ворагаў нашых, як Ён ставіўся да Сваіх.

Любоў становіцца хрысціянскай, Божай, калі чалавек, які любіць, забывае сябе. Любіць, не шукаючы ўзнагароды, не просячы, не патрабуючы, не чакаючы любові за любоў, не атрымліваючы падзякі за яе праявы, – пачатак хрысціянскай любві. Яна расцвітае ў любоў Хрыстову, калі свабодны дар любві дасягае да тых, якія нас ненавідзяць, якія нас лічаць ворагамі.

Увесь сучасны свет ляжыць у засмучэнні, гэта значыць у дэпрэсіі, а спецыялісты – прычым свецкія – тлумачаць нам, што такое дэпрэсія. Гэта – засяроджанасць на сабе: сваіх поглядах, жаданнях, думках і пачуццях. Той, хто ў сваёй любві да бліжняга выходзіць за межы свайго «Я», не сумуе і не знаходзіцца ў дэпрэсіі.

Да тае пары, пакуль чалавек не адмовіўся яшчэ ад натуральнага закона сумлення і розуму, заўсёды застаецца надзея, што ён можа прыйсці да Хрыста Бога. Але пакуль ён не прыйдзе да Яго, ён ніколі не выканае па-сапраўднаму тое, што ён павінен выканаць у адпаведнасці са сваёй чалавечай прыродай. Наадварот, ён усё больш будзе губляць сваю чалавечую годнасць.

Ёсць адзіны шлях, які можа выратаваць нас ад поўнага разлажэння – і асобы кожнага з нас, і ўсяго жыцця – гэта выкананне запаведзі аб любві да ворагаў.

Святыя айцы гавораць, што гэты шлях мы павінны прыняць цвёрда, як ісціну Хрыстову, як таямніцу Крыжа Гасподня. Калі мы ахінаем сябе хрэсным знаменнем, мы павінны замацоўваць гэту ісціну і ў свядомасці, і ў сэрцы сваім.

Мы павінны зразумець, што тая вышыня, якую Хрыстос нам прапаноўвае – адзінае наша збаўленне. «Мы перайшлі ад смерці да жыцця, таму што любім братоў сваіх» (1 Ін. 3: 14). Гэта ёсць Пасха Гасподня, далучэнне да перамогі Крыжа Хрыстова. Толькі Хрыстом, толькі Яго Крыжам можам мы гэтага дасягнуць. І калі мы прычыняемся да Яго, мы разумеем, што, калі ёсць у нас дар Хрыста – любоў да ворагаў, то ворагі нашы становяцца нашымі сапраўднымі сябрамі. І яны наша набыццё, хаця немагчыма гэта зразумець, як немагчыма зразумець, што смерць – найвышэйшае набыццё, якое можа быць у чалавека. Але хто ведае Пасху Хрыстову, той, хто ведае, што Хрыстос уваскрэс, таму зразумелымі будуць і словы Госпада пра любоў да ворагаў, пра Крыж Яго.

Таму пастараемся сёння задумацца пра тое, што многія з нас грэбуюць самай сутнасцю веры хрысціянскай. Мы павінны вучыцца гэтаму на працягу ўсяго жыцця і з дня ў дзень.

Перш, чым наступяць часы апошняга нашага выпрабавання, нам даецца час для падрыхтоўкі да гэтага. Святы апостал любові Іаан Багаслоў гаворыць: «Калі ты бачыш, што брат твой жыве ў бядзе і зачыняеш сэрца сваё ад яго, як можа знаходзіцца ў табе любоў Божая?» (1 Ін. 3: 17). А святы Іаан Прадцеча,най большы з усіх, народжаных жанчынамі, гаворыць: «Калі хто мае дзве кашулі, няхай дасць таму, хто не мае» (Лк. 3: 11). Свяціцель Грыгорый Багаслоў разважае па гэтай падставе: «Калі ў часы дабрабыту ты не можаш аддаць іншаму чалавеку лішнюю адзежу, то як ты аддасі жыццё сваё за іншага чалавека, калі прыйдуць часы выпрабаванняў?»

Вось што такое паступовае ўзрастанне. Таму і даецца нам не адзін год, а шмат гадоў жыцця, каб мы праз пэўныя намаганні гэтаму маглі навучыцца, праз нашыя падзенні ўбачылі, што няма ў нас любві. Не тое што да ворагаў, а мы часта бываем няздольныя любіць і тых, хто любіць нас. Каб, узыходзячы да гэтай недасягальнай запаведзі, разумелі, чаму блажэнны Аўгусцін гаворыць: «Так, гэта для нас немагчыма, але любіць ворагаў нашых –гэта значыць, маліцца за іх ад усяго сэрца». Таму што толькі любоўю Хрыстовай, толькі Яго благадаццю, якая даецца нам у малітве, можам мы набыць гэтую здольнасць.

Святыя айцы часта даюць нам такую параду, калі мы знаходзімся з кім-небудзь у нязгодзе і нават варожасці, калі душа нашая знаходзіцца ў засмучэнні, калі няма ў нас дабрыні і мы не можам ніяк прабіцца з гэтага стану цьмянасці нашага жыцця. Навучымся, гавораць яны, таму, каб перш усіх нашых малітваў маліцца за нашых асабістых крыўдзіцеляў, за ворагаў нашых.

Сам ты ніколі, ніякімі намаганнямі гэтага не дасягнеш. Як не пераможаш ты ніколі смерць, якую Хрыстос перамог для кожнага з нас, і дае гэта нам. Такім чынам, будзем усімі сіламі нашымі, выкананнем усяго, што патрэбна нам выконваць у адпаведнасці з той рэштай святла, якая яшчэ ёсць у нас, імкнуцца дасягаць благадатнага святла Хрыстовай любві, каб былі мы хрысціянамі.

А калі нават і цяжкія нанесеныя нам знявагі, вялікія прычыненыя нам страты – ці вартыя яны таго, каб несці іх у бессмяротнасць? І нас, і нашых ворагаў чакае смерць і магіла, чакае Страшны і Справядлівы Суд Гасподні. Няўжо і перад Тронам Усявышняга мы, нікчэмныя грэшнікі, вырашым прад'явіць каму-небудзь нейкія рахункі? Напярэдадні гэтага грознага імгнення, якое навекі вырашыць нашую долю, папярэджвае нас прападобны Антоній Вялікі: «Даруйце адзін аднаму, і змілуецца над вамі Гасподзь».

Калі здолеем мы пакласці пачатак пакаянню, тады ёсць спадзяванне, што мы ўбачым калі-небудзь сапраўдны стан нашай сляпой і заняпалай душы. А гэта, у сваю чаргу, адкрые нам шлях да спадзявання на тое, што да нас паставяцца не справядліва, а міласціва. І тады, хто ведае, магчыма, мы і навучымся шкадаваць тых, хто зрабіў нам злое, тады, магчыма, і дасягнем стану душы, пры якім магчыма ўпадобіцца Айцу нашаму Нябеснаму ў міласэрнасці і прабачэнні.

Гэты свет ляжыць у зле, і ў веруючы чалавек не можа не мець ворагаў. Больш за тое: калі б мы былі акружаныя ўсеагульнай пахвалой і павагай – вось што было б сапраўды злавесным знакам. Бо Гасподзь наш Ісус Хрыстос гаворыць: « Гора вам, калі добра будуць гаварыць пра вас усе людзі. Бо так рабілі лжэпрарокам бацькі іх. « (Лк. 6: 26). Грэшнікі ўзвялічваюць грэшнікаў, пад хваляй незаслужанай пахвалы і нячыстай ліслівасці самая моцная душа

можа трапіць у гардыню, заганарыцца і загінуць. Ворагі нашы – лекары нашы, якія даюць нам горкія лекі, што вяртаюць нам цвярозае ўспрыняцце саміх сябе.

Калі мы здолеем не "захварэць на варожасць", ніякі вораг не прычыніць нам зла – усё яго справы і задумы Гасподзь зверне нам на карысць. Ворагі становяцца небяспечнымі толькі тады, калі ў адказ на іх дзеянні мы ўспыхваем «высакародным» абурэннем і прагай помсты.

Адзіны гнеў можа быць названы справядлівым – гэта гнеў на крыніцу ўсякага зла, адзіная нянавісць справядлівая – гэта нянавісць да чалавеказабойцы-дыявала. Паслядоўнікі Збавіцеля павінны супрацьстаяць граху, хрысціянства нічога агульнага не мае з абыякавым і пасіўным непрацiўленнем. Але ў гэтай вялікай духоўнай бітве галоўнае – не даць хітраму ворагу ашукаць сябе, не згубіць здольнасці аддзяляць само драпежнае зло ад няшчасных яго носьбітаў. Прападобны Ніл Сінайскі вучыць: «Хто злапамятны ў адносінах да дыявала, той не трымае зла на людзей, але з дыявалам уступае ў саюз той, хто трымае зло на брата свайго.»

Мы не можам пазбегнуць чужой варожасці, але самі не павінны быць ворагамі нікому. Разважаючы духоўна, ворагаў сваіх павінны мы шанаваць, бо праз іх Гасподзь Прамысліцель выпрабоўвае і вучыць нас. Толькі пыхлівая душа ў выпрабаваннях чарсцвее, душа ж хрысціянская набывае збавіцельны навык цярпення, змірэння і мужнасці. Ворагі часам прычыняюць больш карысці нашым душам, чым сябры, бо сяброўства сляпое, яно імкнецца бачыць у нас толькі добрае, а нянавісць відушчая – і ад каго, як не ад ворага, пачуем мы пра свае недахопы і саграшэнні? Чалавек мудры нават у паклёпе на сябе здолее ўбачыць справядлівыя заўвагі, з кпінаў над сабой зможа вынесці карысны ўрок.

Збавіцель папярэджваў нас, што «Царства Нябеснае дасягаецца сілаю, і тыя, што сілу ўжываюць, здабываюць яго» (Мф.11:12)? Калі ўжо Сам Гасподзь дазваляе выпрабоўваць нас розным спакушэнням, то ці не ўспрыняць нам гэта малое – на самой справе малое – выпрабаванне, як адзіны шлях да вечнасці?

Таму Гасподзь і гаворыць, звяртаючыся да нас: ідзіце, і стаўцеся

да людзей так, як вы хочаце, каб людзі ставіліся да вас; ідзіце, і першыя зрабіце крок да згоды, ідзіце, і першыя дайце, што вас просяць даць, не чакаючы нічога ўзамен. Такая запаведзь дадзеная нам, і ў тым і ёсць міласэрнасць Божая, і такім павінен быць кожны, хто ў сваім сэрцы лічыць сябе хрысціянінам, лічыць сябе веруючым, лічыць, што ён ідзе па тым шляху, якім вядзе нас Гасподзь. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 20-ю пасля Пяцідзесятніцы*

### АПОСТАЛЬСКАЕ ЧЫТАННЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння падчас літургіі мы чулі словы апостала Паўла з яго Паслання да галатаў. У іх святому апосталу Паўлу прыйшлося абараняць сябе, апраўдваць сваю дзейнасць, ахоўваць душы, схільныя верыць ілжэнастаўнікам. Святы апостал Павел, падпарадкоўваючыся голасу звыш, удалечыні ад іудзейскай зямлі прапаведаваў Хрыста ў Галацііі, дзе большая частка жыхароў знаходзілася ў язычніцтве. Добрыя людзі прынялі пропаведзь Паўла, хрысціліся і сталі жыць па-хрысціянску. Хрышчоныя іудзеі, прыйшоўшы да галатаў, прапанавалі ім вучэнне Хрыста з далучэннем да яго яшчэ і іудзейскіх абрадаў. А тым часам, гэтыя абрады сціснялі сумленне і адымалі ў галатаў свабоду. Свабода ж, хрысціянствам асвечаная, ёсць найвышэйшая каштоўнасць на свеце.

Як часта і цяпер бывае, што хрысціянін, які не цалкам яшчэ засвоіў вучэнне Хрыста і дух Евангелля, спыняецца толькі на простым богаслужбовым абрадзе, патрабуе і ад іншых такіх жа адносіны да веры ў Хрыста і нават праяўляе варожасць да хрысціяніна, што жыве інакш за яго і які па-іншаму бачыць хрысціянства. Такія «злосныя стараверы» існуюць у кожным веравызнанні.

Назіраючы за жыццём хрысціян, мы заўважаем, што адна частка людзей жыве пераважна знешнімі праявамі набожнасці:

богаслужбовымі абрадамі, пастамі, багамоллямі, наведваннем святых месцаў у адпаведнасці з раней узятымі на сябе абетамі, часам нават у шкоду сваім сямейным і грамадскім абавязкам. Другая – дыхае пераважна вераю ў Хрыста, любоўю да Бога і бліжняга свайго, дабрачыннасцю, хоць разам з тым і не пакідае правіл Царквы ў адносінах да праваслаўна-абрадавага боку жыцця.

Ворагі Паўла, абвінавачваючы галатаў, кіраваліся не хрысціянскай любоўю, а злосцю на іх настаўніка, прыхільнасцю да свайго вузкага, аднабаковага знешне прыстойнага жыцця. Але ці можна было чакаць ад іх добрага спачування да іншых, калі яны так злосна гаворадь пра святога чалавека?

У выніку рэўнасныя перакананні гэтых ілжэнастаўнікаў падзейнічалі на галатаў. Яны, па словах апостала, становяцца неразумнымі, гатовымі пакінуць праўду евангельскую.

Апостал даведаўся пра гэта, знаходзячыся далёка ад Галацii – у Эфесе. Што ж ён робіць? Ён шле туды ўласнаручна напісаны ім ліст, у якім выказвае сваё шкадаванне з нагоды неспрыяльных чутак пра легкавернасць галатаў, адстойвае сваё вучэнне, і ў гэтым жа лісце з любоўю настаўляе памыліўшыхся галатаў, называючы іх братамі.

У прачытанай сёння яго прамове апостал кажа: “Ведайце ж, браты: Евангелле, якое я абвясціў вам, – не выдумка чалавечая. Бо і мяне навучыў яму не чалавек, і прыняў я яго не ад нейкага чалавека, а праз адкрыццё Ісуса Хрыста.”

Такім чынам, і я такі ж апостал, як і іншыя апосталы. Хоць я не быў вучнем Хрыста падчас Яго зямнога жыцця, але Хрыстос прасвяціў і мне вочы, адкрыў мне цудоўным чынам усю волю Сваю. Мой зварот да Хрыста, нібы кажа Павел, ёсць, сапраўды, цуд. Сёння мы можам дзівіцца той прынцыповасці, з якой апостал Павел падкрэслівае незалежнасць сваёй пропаведзі ад чалавечага ўплыву. Ён настойвае на звышнатуральным паходжанні яго Евангелля, на тым, што ніхто з людзей яго гэтаму Евангеллю не вучыў, а прыняў ён яго ад Самога Бога праз адкрыццё Ісуса Хрыста. У мінулым перакананы і ўпэўнены ў сваёй праваце іудзей, будучы апостал ставіўся да Царквы са смяротнай нянавісцю. Сапраўды, з

ім павінна было адбыцца нешта цудоўнае, каб ён у адно імгненне з ганіцеля Царквы Саўлаператварыўся ў апостала язычнікаў Паўла. Гэты цуд адбыўся, калі Саўла азарыла святло той маланкі, якая спапяліла ўсё яго фарысейства, увесь яго гонар змагара за "старажытныя паданні айцоў". Такім цудам было адкрыццё Саўлу Уваскрэслага Хрыста па дарозе ў Дамаск. Асляпляльнае ззянне гэтага адкрыцця апостал пазней параўноўваў са святлом напачатку Тварэння (2Кар.4:6), а сябе, змененага гэтым святлом, называў "новым стварэннем" (Гал.6:15).

Пасля ашаламляльнай змены, якая з ім адбылася, ён, пры ўсім сваім узрушэнні, не стаў сумнявацца, вагацца, не кінуўся за парадай да «цела і крыві», гэта значыць да людзей, нават да тых, якія валодалі аўтарытэтам апосталаў Хрыста.

"Я, – кажа апостал, – пасля хрышчэння не пайшоў у Іерусалім за парадай і настаўленнем да тых, якія сталі апосталамі раней за мяне." Ён пасля хрышчэння свайго накіраваўся ў Аравію – у суседнюю з Дамаскам мясцовасць, якая цяпер завецца Сірыйскаю пустыняю.

Ці не затым Павел і пайшоў ў Аравійскі стэп, каб асэнсаваць сваю ранейшую неразумную актыўную дзейнасць, аплакаць свае жорсткасці і з пакаяннем у душы, ужо перамогшы свае слабасці, аддаць сябе ў волю Госпада Бога? Там, у пустыні, з дапамогай паста і малітвы пад уздзеяннем благадаці Божай Павел перамяніўся. "Пустыня, – па словах святога Іаана Златавуста, – маці бязмоўя, супакой і прытулак, якая хавае нас ад усякай трывогі".

З Аравіі святы Павел вярнуўся ў Дамаск. У Дамаску, ужо сталы ў новай веры, ён стаў з рэўнасцю прапаведаваць іудзеям пра распятага Хрыста як пра іх Месію – абяцанага Богам Збавіцеля. Можна сабе ўявіць, як раззлаваліся на яго ўсе яўрэі, якія ўскладвалі на былога Саўла вялікія надзеі ў справе барацьбы з вучэннем Хрыста і Яго апосталамі. Іудзеі задумалі забіць Паўла. Верныя хрысціяне выратавалі жыццё апостала. Уначы яны ў кошыку спусцілі яго праз нейкую адтуліну ў сцяне, верагодна, праз акно дому, прыбудаванага да гарадской сцяны. Адтуль Павел пайшоў у Іерусалім.

Менавіта тады Павел простым хрысціянінам, яшчэ не апоста-

лам, прыйшоў у Іерусалім першы раз, як ён і сам кажа: “Потым жа праз тры гады хадзіў я ў Іерусалім убачыцца з Пятром” – гэта значыць, асабіста пазнаёміцца з апосталам Пятром, ушанаваць яго сваім наведваннем, засведчыць яму сваю павагу. Там ён жадаў увайсці ў сяброўскія, братэрскія адносіны з хрысціянамі, але тыя з самага пачатку баяліся яго, бо не верылі, што ён ужо вучань Хрыста (Дзеян. 9:26). Спадарожнік Паўла Варнава, вядомы і паважаны ў Іерусаліме хрысціянін, супакоіў іерусалімскіх вернікаў і запэўніў іх, што Паўла паклікаў і абраў Бог і што Павел ужо з поспехам вёў пропаведзь Хрыста ў Дамаску.

Павел прабыў у апостала Пятра ў Іерусаліме дзён пятнаццаць, пакуль змова нехрышчоных яўрэяў супраць яго не прымусіла яго пакінуць гэты горад.

Тым часам Павел не бачыў у Іерусаліме нікога іншага з апосталаў, акрамя Іакава, брата Гасподня. Ён бачыў Іакава, але не вучыўся ў яго.

Існуе меркаванне, што евангеліст Лука запісаў пропаведзь апостала Паўла. Калі мы верым царкоўнаму паданню, прымаючы гэта меркаванне, тады, атрымліваецца, што ў Евангеллі ад Лукі мы чуем пропаведзь апостала Паўла.

Жаданне падабацца свету і дабравесціць Евангелле Хрыстова – рэчы несумяшчальныя. Евангелле – не слова ліслівасці (1Фес. 2:4), і пахвала свету можа стаць трывожным сігналам для хрысціянскай пропаведзі і для Царквы. Немагчыма адначасова дагаджаць людзям і служыць Хрысту. Мы ведаем, чым скончылася гэта супрацьстаянне свету для самога апостала – яго пакутніцкай смерцю.

Вестка пра збаўленне як пра найвышэйшую каштоўнасць адкрылася Паўлу пры сустрэчы з Уваскрэслым, з'яўленне Якога асвяціла ўсю асобу апостала святлом ведаў пра тое, што з Крыжом і Уваскрасеннем Сына Божага ў свет увайшло тое, што з’яўляецца самым высокім за усе яго законы. У свеце адкрылася любоў Творцы да Свайго стварэння. Адкрыццё Хрыста было для апостала Паўла адначасова і адкрыццём Евангелля, якое ўзвяшчала не ўяўнае выратаванне праз выкананне знешнім спраў Закона, а сапраўднае збаўленне Законам любві Божай. У Евангеллі Хры-

стовым яму адкрылася апошняя праўда, якая была ў тым, што Крыж і Уваскрасенне – пачатак канца старога і звыклага свету з яго старымі законамі і старой гісторыяй. Законы занявольваюць. – Любоў вызваляе! Але стары свет граху інакш як па сваіх «законах граху» (Рым.7:23,25) існаваць не можа. Ён не можа заставацца абыякавым і пасіўным да весткі пра свой канец. І, зразумела, ён супраціўляўся і будзе заўсёды супраціўляцца Евангеллю. Гэтае супраціўленне можа прымаць форму прамой варожасці і сілавога ўздзеяння, можа прымаць форму крывадушнай згоды ці спробы ператварыць Евангелле любві ў нейкі новы, – а па сутнасці стары, – закон абавязку. Аднак спробы гэтыя дарэмныя, бо Евангелле Хрыстова – не выдумка чалавечая, а Добрая Вестка пра Боскую «перамогу, якая перамагла свет» (1Іаан.5:4).

## *Пропаведзь у Нядзелю 20-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## УВАСКРАШЭННЕ СЫНА НАІНСКАЙ УДАВЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Аб гэтай падзеі апавядае толькі адзін евангеліст Лука.

З Капернаума Гасподзь пайшоў у горад Наінаў, які знаходзіўся каля паўднёвай мяжы Галілеі. Збавіцеля суправаджалі вучні Яго і мноства людзей. У старажытнасці вакол горада часта ўзводзілі суцэльныя сцены для абароны ад ворагаў так, што ўваходзіць і выходзіць можна было толькі праз адны вароты. І вось у такіх гарадскіх варотах Госпаду сустрэлася пахавальнае шэсце: з горада выносілі памерлага юнака, адзінага сына ўдавы. Звычайна грабніцы ў яўрэяў знаходзіліся за гарадамі сярод ўцёсаў і скалаў. Нябожчыкі ў старажытнай Палестыне хаваліся не ў трунах, а апускаліся прама ў нішу, зробленую ва ўцёсе ці скале, і насілкі, на якіх знаходзіўся спачылы, відавочна, служылі толькі для перанясення цела да мес-

ца пахавання. Гасподзь дакрануўся да гэтых пахавальных насілкаў для таго, каб прымусіць жалобную працэсію спыніцца.

Хрыстос, заўсёды такі чулы да чалавечага гора, не астаецца абыякавым і да гэтай бяды. Евангелле нам гаворыць, што Ён «злітаваўся» – Яго сэрца напоўнілася жалем, любоўю, і Ён падыходзіць да насілак і да жанчыны, якая ідзе за імі. Гэтая жанчына – удава, ідзе за мёртвым целам свайго адзінага сына. Яна страціла зараз усё – і Хрыстос не звяртаецца да яе са словамі суцяшэння. Ён спыняе яе плач; Яго словы, якія з'яўляюцца словамі літасці, з'яўляюцца разам з тым неабходнай умовай для гэтай літасці: Не плач – не таму, што смерць твайго сына нявартая слёзаў, але, як бы папярэднічаючы словам, сказаным пазней апосталам Паўлам у пасланні да Салунянаў, Ён нібыта хоча сказаць ёй: Не наракай, як язычнікі, якія не маюць спадзявання, – не плач!.. І толькі калі гэтая жанчына адказала верай і паслухмянствам на патрабаванне любові Божай, Хрыстос здзяйсняе цуд і вяртае яе сына да жыцця.

Часта так бывае і з намі: нас напаткала гора. Нас грызуць пытанні: чаму? За што? І мы не знаходзім на іх адказу, таму што няма на іх адказу ў гэтым зямным жыцці. Толькі ў будучым веку, калі мы зноў сустрэнемся з нашымі роднымі і блізкімі, мы зразумеем, чаму ўсім нам трэба было памерці, каб потым паўстаць з мёртвых.

Сённяшняе евангельскае апавяданне вучыць нас таму, што хоць смерць усё яшчэ працягвае ўладарыць на зямлі, але яна ўжо пераможаная: яна пераможаная Ўваскрасеннем Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. А таму ўсякі раз, калі нам прыходзіцца сустракацца са смерцю, будзем цвёрда ведаць, што смерці няма, а ёсць толькі часовае расстанне з нашымі роднымі і блізкімі: яны адыходзяць на некаторы час, як і мы на пэўны час пакідаем адзін аднаго. І наступіць той момант, калі ўсім нам трэба будзе паўстаць перад нашым Госпадам, таму што ўсе мы – вечныя. Ніхто з тых людзей, якія жывуць на зямлі, з пераходам з гэтага часовага жыцця не знішчаецца, не сыходзіць у нейкі нябыт, а, працягваючы вечна жыць сваёй несмяротнаю душою, паўстане перад прастолам Божым. Смерць для хрысціяніна – гэта сон, а пасля сну бывае абуджэнне, таму будзем верыць, што пасля гэтага доўгага сну абуд-

зяцца ўсе тыя, каго сёння няма ўжо побач з намі, але хто сваімі несмяротнымі душамі цяпер знаходзяцца ў Царстве Божым.

Аб адным мы павінны цвёрда памятаць: смерць ніколі не бывае пакараннем за што-небудзь. Смерць – гэта вяршыня чалавечага жыцця, яе вянец і завяршэнне: чалавек жыве для таго, каб памерці і перайсці ў лепшае жыццё. Смерць можа часам выглядаць як пакаранне за грэх, бо Гасподзь не забывае навучаць нас рознымі спосабамі, у тым ліку і праз смерць нашых блізкіх. Але для самога чалавека, нават калі ён памёр заўчасна, напрыклад, у выніку няшчаснага выпадку, нават калі памёр без пакаяння, смерць не ёсць пакаранне. Смерць – гэта пераход туды, дзе чалавека чакае сустрэча з Богам. І калі смерць заўчасная па чалавечых мерках, яна ніколі не заўчасная ў вачах Божых. Толькі Бог ведае той момант, калі кожнаму з нас належыць памерці, і толькі Ён вызначае дзень і гадзіну нашай смерці.

Але чаму людзі паміраюць заўчасна? Перш за ўсё таму, што многія падрыхтаваныя да сустрэчы з Богам і вырастаюць у поўную меру духоўнага росту і ўзросту значна раней, чым дасягаюць старасці. Зямное жыццё ёсць толькі падрыхтоўчы этап да будучага вечнага жыцця: у параўнанні з гэтым вечным жыццём цяперашняе наша жыццё – толькі кароткае імгненне.

Але ёсць і іншая прычына, па якой чалавек можа памерці заўчасна: ён настолькі ўкараніўся ў граху, што далейшае яго знаходжанне на зямлі становіцца бессэнсоўным, і Бог спыняе жыццё гэтага чалавека, пакуль застаецца для яго надзея на выратаванне. Страшна памерці ў граху, памерці, не паспеўшы пакаяцца; але гэта ўсё ж лепш, чым дажыць да таго, калі выпраўленне стане немагчымым.

Па жорсткасці нашай Гасподзь часам толькі смерцю блізкага можа абудзіць у нас іскру любові да яго. Пры жыцці роднага чалавека мы былі халодныя да яго, але вось ён сыходзіць у свет іншы, на нас абвальваюцца адзінота і самотнасць, і мы адчуваем горыч страты. Смерць ачышчае вобраз таго, хто ад нас пайшоў, ад будзённага шалупіння, ва ўсёй нікчэмнасці паказвае нам былыя крыўды на яго, і тады мы ўжо не судзім страчанага намі, але бачным яго ў патаемнай прыгажосці і ўсведамляем непазбыўнасць віны перад

ім. Маладушнага гэтае імгненне прасвятлення можа прывесці да роспачы, але для мужнага сэрца – гэты пачатак служэння спачыламу і шляху да будучай радаснай сустрэчы з ім.

«Не плач!.. « З гэтымі словамі да нас звяртаецца Гасподзь. Ён не гаворыць нам: "Утрымлівай свае слёзы"; Ён не гаворыць нам: "Паказвай мужнасць, якой ў цябе няма"; Ён гаворыць: "Хіба ты не бачыш Мяне, не бачыш вечнасці, хіба ты не бачыш, што спачылы не памёр, а заснуў? Хіба ты яшчэ не зразумеў, што любоў злучае Неба і зямлю". Гасподзь ставіць перад намі няўмольнае патрабаванне веры: кінь сябе шкадаваць, кінь думаць толькі аб сабе, кінь засяроджвацца на сваім горы, жыццё бяздоннае, жыццё перамоганоснае, жыццё і зараз не спынілася ні для нас, тых, хто на зямлі ідзе да сваёй смерці, ні для тых, якія, нарэшце, дзвярамі смерці ўжо ўвайшлі ў вялікі спакой Божы.

«Не плач!» - з гэтымі словамі Гасподзь звяртаецца да кожнай маці і да кожнага з нас, хто губляе сваіх сваякоў. Не плач, таму што ўваскрэсне твой сын, твая маці, твае браты і сёстры. Не плач, таму што ўсе мы – адзін за адным – памрэм, але ўсе і ўваскрэснем і ізноў сустрэнем адзін аднаго. Не плач, таму што спачылыя блізкія нашы, пакінуўшы зямное жыццё, перайшлі ў лепшае – тое, аб якім прападобны Сімеон Новы Багаслоў сказаў, што ў параўнанні з ім цяперашняе жыццё – нібы неба, намаляванае алоўкам на паперы, у параўнанні з рэальным небам. Не плач, таму што надыдзе час, калі «абатрэ Бог усякую слязу» з вачэй чалавечых, «і смерці не будзе ўжо; ні плачу, ні ляманту, ні хваробы ўжо не будзе, бо ранейшае прайшло» (Адкр. 21:4).

Мы чулі ў Евангеллі, як Гасподзь уваскрасіў сына ўдавы і аддаў яго маці. Гэты памерлы юнак – вобраз нашай душы. Чалавек уваскрасае ў пакаянні. Гасподзь бярэ тую душу, якая пакаялася, і аддае горка рыдаючай маці. Гэтая маці – Царква! У Апакаліпсісе гаворыцца аб жонцы, якая мела ва ўлонні немаўля і крычала ад болю і пакут нараджэння. Святыя айцы тлумачылі, што жонка – гэта Царква, а дзіцё – кожная хрысціянская душа, боль жа, пакутлівы боль – гэта боль за нашы грахі, большы нават за несуцешны боль маці з-за смерці сына.

Гасподзь уваскрасіў сына ўдавы – гэта вобраз будучага ўваскрасення мёртвых. Гэты цуд – толькі цень найвялікшых здзяйсненняў. Гасподзь валодае жыццём і смерцю. У дзень Усеагульнага ўваскрасення Ён уваскрэсіць і выратуе душы тых хрысціянаў, якія шчыра пакаяліся ў сваіх грахах, і ўручыць іх Маці – Нябеснай Царкве – ўжо навекі.

Вось якія павучальныя і выратавальныя ўрокі сёння падносіць нам Святая Хрыстова Праваслаўная Царква гэтым евангельскім чытаннем, што нагадвае нам пра цуд уваскрашэння Збавіцелем сына наінскай удавы. Дай Бог, каб і мы з вамі ў цяжкія хвіліны свайго жыцця змаглі б пачуць суцяшальныя словы Хрыстовы і адчуць рэальна працягнутую нам руку Божай дапамогі. Дай Бог, каб нашу душу, якая памірае ад шматлікіх грахоў, уваскрасіў Гасподзь, як Ён уваскрасіў памерлага сына беднай удавы. Амінь.

### *Пропаведзь у Нядзелю 21-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРЫТЧА ПРА СЕЙБІТА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Калі мы слухалі з вамі ў сённяшнім евангельскім чытанні прытчу пра сейбіта, то, напэўна, кожны з нас пытаў самога сябе: а хто я? Дзе я знаходжуся? Якая мая душа? Якое маё сэрца? Ці тая сцежка пры вялікай дарозе, на якую падае насенне Слова Божага і не дае ніякага парастку, таму што гэта ўтаптаная зямля? Або, можа быць, гэта камень, на які падае насенне, і ўжо зусім ніякага парастку даць не можа, таму што гэта камень? Або, можа, у маім сэрцы так усё зарасло нейкім цярноўнікам, дрэнным кустоўем, праз якое яно прабіцца таксама не можа? Дзе я і хто я?

Вы памятаеце, што, калі гэтую прытчу расказаў Гасподзь Ісус Хрыстос, вучні, якія слухалі гэтую прытчу, папрасілі Яго яе патлумачыць. Здаецца, што яна такая простая, усё ў ёй так зразумела, пра што там пытаць? Якое тлумачэнне патрэбна? Аднак і сярод

вучняў Хрыстовых узніклі пытанні, і ў нас з вамі могуць узнікнуць пытанні, хаця б, скажам, адносна нейкі часткі гэтай прытчы: што гэта значыць? Як яе трэба разумець? Напрыклад, такое пытанне: а што такое добрая глеба, якая гэта глеба, якая яна павінна быць? Якім павінна быць маё сэрца, для таго каб тое насенне Слова Божага, якое трапляе ў яго, дало б парастак і не толькі парастак, а і ўрадзіла б плод і прынесла б багаты ўраджай?

Да каго мы можам звярнуцца з гэтым пытаннем? А да каго звярнуліся вучні Хрыстовы? Да самога Збавіцеля. І мы можам звярнуцца з такім пытаннем да самога Збавіцеля, да самога Госпада Іісуса Хрыста. А гэта значыць, да Царквы, таму што Царква ёсць Хрыстос, і Царква на гэта пытанне дае адказ: « Бог ганарлівым пярэчыць, а пакорлівым дае дабрыню».

Вось ён, адказ на ваша пытанне, які дае нам Царква – гэта значыць, Сам Гасподзь Іісус Хрыстос: пакора і змірэнне. Вось яна, тая глеба, на якую падае насенне Слова Божага і пускае корань, і ўзрастае на гэтай глебе, і расце, і развіваецца, і дае плод у сто крат. Пакора гэта як раз тая самая сіла, выдатная сіла, якая робіць чалавека чалавекам і якая адкрывае ў чалавеку ўсё самае лепшае і аказваецца самай прыдатнай глебай для ўспрыняцця сілы Слова Божага, якое настаўляе нас, як трэба жыць тут і ў вечнасці.

Чаму змірэнне набліжае да нас благадаць Божую і сілу Божую, якая змяняе наша жыццё? Таму што яно адкрывае ў нас самае лепшае, што ў нас ёсць – любоў. Бог ёсць Любоў. І чалавек, які створаны паводле падабенства Божага, ёсць таксама любоў ў сваёй сутнасці. І менавіта змірэнне адкрывае ў нас гэтую сілу любві.

Любоў гэта духоўная сіла, якая перамяняе ўсё наша жыццё, ад пачатку і да канца, усё ў нас і вакол нас. Мы з вамі гэта ведаем: якую радасць, колькі святла, колькі цеплыні, колькі сэнсу ў жыццё ўкладвае любоў, калі чалавек любіць. А любіць і ўмее любіць тады, калі ён умее зміряцца.

Апостал Павел, у апостальскім чытанні, якое мы чулі сёння, дае нам найвышэйшы ўзор змірэння.

Прыкра сумленнаму, справядліваму чалавеку абараняцца ад плёткі, пушчанай у натоўп. Яшчэ больш прыкра абараняцца і

адбівацца ад узведзенага паклёпу.З нагоды менавіта такіх абставін святы апостал Павел вымушаны быў пісьмова выказаць перад галатамі, ім ж звернутымі да Хрыста, свой погляд на новазаветнае жыццё. Апостал напісаў сваёй рукою ўсё пасланне, каб адвесці злое падазрэнне.

Тым, хто нагаворваў на апостала Паўла, маладым хрысціянам-галатам, не хацелася не толькі прыняць пакуту і раны за імя Хрыстова, але нават пацярпець лёгкае ганенне. Яны імкнуцца дагадзіць і нашым і вашым і нават заслужыць адабрэнне за такую дзейнасць.



Для святога Паўла сутнасць веры – у крыжы Ісуса Хыста, распятага за ўсіх нас, Які даў святому апосталу таксама панесці крыж за Яго. Святы апостал Павел, уражаны невымоўнай любоўю да нас Богачалавека, назаўсёды аддаў Яму сваё жыццё. Для яго жыццё – толькі з Хрыстом і ў Хрысце. І пры ўсім тым апостал не ганарыцца сабой, а, паказваючы на свае заганы і немачы, ён праслаўляе толькі дзівосную благадаць Божую, што праступае праз яго немачы. Быццам храбры ваяр, святы Павел сведчыць сваю вернасць і любоў да Хрыста язвамі, якія носіць на сваім целе за імя Яго. Якое змірэнне! І у той жа час, якая вышыня, веліч духу ў святым апосталу!

Апостал Павел гаворыць аб плёне ім, апасталам, прынятага і захаванага ў чысціні сэрца слова Божага: «Ужо жыву не я, а жыве ўва мне Хрыстос – Які ўзлюбіў мяне і Які аддаў Сябе за мяне». Слова Божае асвятліла яго думкі і жаданні, дало напрамак волі яго.

Ці можам мы, як і апостал, пахваліцца Крыжом Хрыстовым, ці жывем мы ў адпаведнасці з запаведзямі евангельскімі? Ці не спадзяюцца хрысціяне больш на сувязі з “моцнымі свету гэтага”, чым на Бога? Ці слухаем мы слова Божае? Але хто з нас можа пра сябе

сказать: «Ужо не жыву я, а жыве ўва мне Хрыстос»? Ці адчуваеш ты, хрысціянін, як апостал Павел, што «жыве ў табе Хрыстос,» што слова Яго накіроўвае твае думкі, кіруе жаданнямі тваімі і воляй тваёй, што ты жывеш і дзейнічаеш на славу Божую? Калі не адчуваеш і не заўважаеш, то чаму? Ды таму, што, слухаючы слова Божае, ты, нават захапляючыся ім, гэта слова ў сабе не захоўваеш. А не захоўваеш таму, што сэрца тваё пазбаўленае любві да Госпада, які ўзлюбіў цябе, пазбаўленае чысціні і дабрыні; таму, што ты «у зямлю закапаў» дадзены Богам табе талент веры.

Мы чуем і памятаем словы Святога Пісання, чуем слыхам і памятаем памяццю нашага розума, ці але даходзіць гэта слова да нашага сэрца? А разам з гэтым, калі не кране наша сэрца жывое слова, яно толькі прагучыць у нашай думкі і ніякага плёну не прынясе. Людзі ў большасці сваёй знаходзяцца ў духоўнай слепаце і глухаце: яны бачаць толькі паверхню. Яны могуць чытаць Біблію, Евангелле, і ўспрымаць тое, што там напісана, толькі знешне. Господь не адкрывае ім духоўныя таямніцы жыцця, пакуль не ўбачыць, што яны з усіх сілаў імкнуцца жыць па праўдзе і сумленні.

Святыя айцы гавораць, што навучыцца чытаць слова Божае магчыма толькі ўсім нашым жыццём.

Спытаемся сёння ў саміх сябе, ці імкнемся мы пасеяць і ўзгадаваць у сэрцах нашых насенне добрых намераў і жаданняў. Ці ёсць у нас, у нашай дзейнасці парасткі хрысціянскай дабрадзейнасці? А жыццё наша на зямлі малое, час севу кароткі. Імгненнем пройдзе жыццё, скончыцца час сяўбы, апынемся перад магілай, і тады страшна будзе з'явіцца на той свет ні з чым.

Прасі і горача маліся, хрысціянін, каб для добрага ўспрыняцця слова Божага Гасподзь надзяліў тваю душу глебай прыдатнай, здольнай прыняць у сябе насенне Божых слоў і прынесці ад іх плён добрых спраў!

«Хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе!» – гаворыць Хрыстос. Ён узвышае Свой голас праз усе часы, праз усе стагоддзі, праз усе пакаленні. Для кожнага чалавека, без выключэння, гучыць Яго голас. Гасподзь гаворыць, што шлях, які Ён прапаноўвае, – цяжкі, вузкі, хрэсны, але толькі гэтым шляхам – выслухоўвання слова

Божага, прыняцця яго ў нашым жыцці, у цярпенні і ўзрастанні ў ім – выконваем мы сваё прызначэнне быць дзецьмі Божымі, якія любяць і ведаюць любоў Божую і ісціну. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 22-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРЫТЧА ПРА БАГАЦЕЯ І ЛАЗАРА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Браты і сёстры! Сёння вы чулі евангельскую прытчу пра багацея і Лазара (Лк.16:19-31). Быў нейкі багаты чалавек.У Евангеллі нават не узгадваецца яго імя. Імя – гэта духоўная, містычная сувязь чалавека з нябесным светам. Імя у часы Старога Запавету давалася дзіцяці на восьмы дзень яго жыцця, які сімвалічна азначаў вечнасць.

Багацей страціў жыццё вечнае, яго імя было выкрэслена з нябеснай Кнігі жыцця. Ён страціў сваю душу, і таму Евангелле не называе нам яго імя. Яно толькі кажа нам: " Жыў адзін багаты чалавек." (Лк.16:19) Гасподзь нібы кажа нам: у кожнага чалавека ёсць імя, дадзенае яму Богам. Гэтае імя змяшчае ў сабе мэту існавання чалавека, яго пакліканне аднавіць у сабе вобраз Божы праз здзяйсненне дабра. І чалавек можа або рэалізаваць Боскую задумку адносна яго, якая першапачаткова ўтрымліваецца ў яго імені, быццам у зародышы, або не рэалізаваць. Калі чалавек здолеў яе рэалізаваць, здолеў вырасці ў поўную меру ўзросту Хрыста, то пасля смерці Гасподзь сустрэне яго, пазнае і пакліча па імені, як і на Страшным Судзе Ён пазнае тых, хто застаўся адданым Яму да канца. Калі ж чалавек гэты патэнцыял не рэалізаваў, свайго прызначэння не ўсвядоміў і не выканаў, калі ён не вырас у тую меру, у якую павінен быў вырасці, калі не жыў, згодна з Запаведзямі Божымі, то ў іншы свет ён пераходзіць быццам безыменны. Такім людзям Гасподзь кажа: "Адыдзіце ад Мяне ўсе, хто робіць беззаконні, Я не ведаю вас." У прытчы жабрак названы па імені, а багацей не названы

менавіта таму, што адзін выканаў сваё прызначэнне, а другі – не.

Свяціцель Іаан Златавуст піша: " ,Рэдка багацце здабываецца сумленным шляхам. Золата пакрыта брудам і чалавечай крывёю." У Евангеллі напісана, што багацей " штодзённа бліскуча баляваў ".

І ў гэты ж час каля ўваходу ў палац багацея ляжаў жабрак – хворы, цела якога скрозь было пакрыта балючымі струпамі, апрануты ў лахманы, што нават цалкам не закрывалі яго цела. Ляжаў ён, пакутуючы летам ад спёкі, а зімой ад марозу. Евангелле ўзгадвае, што ляжаў ён пад самымі варотамі палаца, каб падкрэсліць неміласэрнасць багацея, які кожны дзень праходзіў каля яго,



але нават позірка свайго не хацеў скіраваць у бок жабрака, што прагнуў хаця б астаткамі ежы са святочнага стала наталіць свой голад, ды слугі багацея былі такімі ж жорсткімі і неміласэрнымі, як і іх гаспадар. Ніхто не звяртаў увагу на няшчаснага пакутніка. Толькі сабакі падыходзілі і злізвалі гной з яго ранаў.

Імя жабрака было Лазар, што азначае дапамога Божая. Відаць, на гэтым чалавеку была асаблівая сіла і дапамога Божая. Многім з нас незразумела, пра якую менавіта дапамогу Божую можа весціся гаворка? Ён усё жыццё сваё быў хворым, галодным, ляжаў на зямлі. Быццам увесь свет быў супраць яго, і неба не чула яго малітваў.Пра якую ж дапамогу Божую можна тут гаварыць?

Бог жадае нашага збаўлення. Ён хоча, каб ніхто з нас не загінуў. Бог нас любіць, значыць, Бог клапоціцца пра нас. Тыя, хто вывучаў Катэхізіс, ведаюць, што ў свеце дзейнічае Промысел Божы – несупыннае дзеянне усемагутнасці і дабрыні Божай. Несупыннае – гэта значыць, якое ніколі не спыняецца, ні на адно імгненне, ні на адну секунду! Гэтае несупыннае дзеянне ўсемагутнасці і дабрыні Божай праяўляецца ў жыцці кожнага чалавека. Калі Гасподзь мяне любіць, калі Ён клапоціцца пра мяне, тады ўсё, што здараецца са

мною, адбываецца для майго ж выратавання. А калі ўсё адбываецца для майго ж выратавання, тады чаму я супрацьпастаўляю сябе гэтаму? Чаму я не згаджаюся з гэтым? Чаму я не задаволены гэтым? Чаму я хачу ад гэтага адмовіцца?

Калі цела жабрака ляжала на зямлі, душа Лазара вяла барацьбу з трыма волатамі, якія пануюць у свеце і ўвесь час змагаюцца супраць нас. Гэтыя волаты – асуджэнне, нараканне і адчай.

І ў гэтай духоўнай барацьбе Лазар атрымаў бліскучую перамогу. Свяціцель Іаан Златавуст гаворыць: " Лазар быў святым і праведным таму, што не асуджаў нікога: ні неміласэрнага і пыхлівага багацея, ні людзей, якія праходзілі побач з ім і не заўважалі яго, асужаючы тым самым жабрака на галодную смерць." Лазар ніколі не наракаў, а дзякаваў Богу за свой лёс і, магчыма, за свае пакуты. Галеча і занядбанасць былі тым крыжам, які ён нёс усё жыццё... Лазар не паддаваўся адчаю, а маліўся за ўвесь свет, бо сярод усіх пакутаў і выпрабаванняў Гасподзь суцяшае абраных Сваіх нябеснай радасцю, перад якой усе часовыя асалоды летуценнага зямнога жыцця – нішто.

Але вось прышоў час – і Лазар памёр. Раніцай людзі ўбачылі акачанелы труп жабрака. Паклікалі рабоў, і тыя гідліва, баючыся дакрануцца да цела, скрозь пакрытага струпамі, завярнулі яго ў дзяругу і панеслі на могілкі,дзе хавалі бяздомных, а там кінулі ў яму, што служыла агульнай магілай.

Але свет не ведаў, што ў момант смерці Лазара ангелы Божыя зышлі да яго з нябёсаў і беражліва, як маці трымае на руках сваё дзіця, узялі душу пакутніка і аднеслі яе туды, дзе знаходзіўся Аўраам і іншыя праведнікі Старага Запавету.

І яшчэ на адзін момант хацелася б звярнуць вашу ўвагу: як гаворыць Хрыстос пра смерць гэтых двух людзей. Хто памірае спачатку? Аказваецца, спачатку памірае не багацей, а спачатку памірае Лазар. Паўстае пытанне: а чаму так, чаму менавіта Лазар памірае першым? Здавалася б, якая розніца, хто з іх памрэ першым? А розніца вялікая. І розніца гэтая вось у чым: Лазар памірае першым, каб багацей бачыў смерць і самому сабе задаў пытанне: «А я вечны ў гэтым жыцці або гэтак жа, як Лазар, услед за ім развітаюся з зямным жыццём і пайду туды,

у вечнасць?» Бачыў багацей смерць Лазара, але, на жаль, нічога ў яго жыцці не змянілася. У нашым жыцці мы часта сустракаемся са смерцю: гэта і смерць нашых родных і блізкіх, гэта і смерць нашых калегаў, гэта і смерць нашых суседзяў, гэта і смерць многіх і многіх іншых людзей. Мы маем магчымасць бачыць, што наша жыццё тут кароткачасовае, усе мы тут, кажучы словамі святых айцоў, у гасцях, і наступіць час, калі ўсе мы адгэтуль пойдзем, ніхто тут з нас не застанецца. Пройдзе час, і з тых, хто тут стаіць, застануцца адзінкі. Усе пойдзем з гэтага жыцця. І Гасподзь нам пастаянна пра гэта нагадвае. А што пры гэтым мяняецца? Мы бачым труну, бачым памерлага чалавека, а працягваем жыць так, як жылі: не каемся, не просім у Бога прабачэння за тыя шматлікія грахі, якія здзяйсняем, а наадварот, яшчэ дадаем новыя грахі да тых, якія былі на нашым сумленні да гэтага. І атрымліваецца, як у гэтай прытчы: памёр Лазар, каб багацей змяніўся, а змены ні ў яго, ні ў нашым жыцці няма.

Памёр і багацей. Яго пахавалі з усімі належнымі рытуаламі.На пахаванні прысутнічала шмат людзей, але не было там ангелаў – неба захоўвала маўчанне. Прыйшлі сябры, каб папіраваць апошні раз, прыйшлі сваякі, каб падзяліць атрыманую спадчыну. Сабраўся цэлы натоўп, каб паглядзець незвычайнае відовішча – пахаванне багатага чалавека.

Памёр Лазар, і памёр багацей. Але для першага смерць стала салодкім сном, які прынёс збаўленне ад пакутаў і стаў пачаткам новага жыцця, а для другога – страшэннай чорнай ямай, дзе пануе цемра.

І вось багацей узвёў свае вочы і ўбачыў Лазара разам з Аўраамам. І стаў ён тады маліцца: " Ойча Аўрааме, злітуйся нада мной і пашлі Лазара, хай умочыць у вадзе канец пальца свайго і змочыць язык мой, бо мучуся я ў полымі гэтым ."(Лк.16:24)

У сакральнай сімволіцы вада азначае благадаць Божую. Як жадаў пры сваім зямным жыцці Лазар наталіць голад хаця б крошкамі, што падалі са стала багацея, так цяпер багацей, быццам самы сапраўдны жабрак, просіць, каб Лазар прынёс яму хоць некалькі кропель вады, хоць крышачку благадаці.

Багацей апранаўся пры жыцці ў пурпур і вісон, Лазар – у аборваныя лахманы, а цяпер багацей ахутаны з усіх бакоў вечным змрокам, а Лазар – нябесным, райскім святлом. Пры жыцці багацей узлягаў на дарагім, расшытым шоўкам ложы, а Лазар валяўся ў

прыдарожным пылу. Цяпер Лазар знаходзіцца на ўлонні Аўраама, а багацей у пякельным полымі, якое апякае, але не свеціць, працінае наскрозь душу болем, разгараецца ўсё мацней і мацней.

Прападобны Ісаак Сірын гаварыў, што пякельная пакута – гэта раскаянне чалавека ў тым, што ён не зрабіў, у тых грахах, за якія пры жыцці ён не прынёс пакаяння. Раскаянне ў будучым жыцці бясплоднае, яно ўжо не можа дапамагчы чалавеку, бо ў іншым свеце ў нас адымаецца магчымасць адкупіць свае грахі добрымі справамі. Менавіта гэтае бясплоднае раскаянне і сімвалізуе няўтольная смага.

І Аўраам гаворыць багацею: ” Сыне, прыпомні, што ты атрымаў ўжо даброцці твае ў жыцці тваім, а Лазар – злое; цяпер жа ён тут суцяшаецца, а ты пакутуеш.(Лк.16:25) Цяпер ты тут пакутуеш, а ён радуецца, таму што сапраўднае шчасце ты прамяняў на часовае задавальненне, ты паспытаў чашу знешне прывабнага салодкага граху, і чаша гэтая цяпер для цябе горшая за горкі палын, а Лазар з годнасцю перанёс усе выпрабаванні, якія, бачучы мужнасць і моц яго душы,паслаў яму Гасподзь, і цяпер ён узнагароджаны як пераможца, цяпер ён увайшоў у радасць вечную.”

Багацей просіць: ” Прашу цябе, ойча, каб паслаў яго ў дом бацькі майго, – бо маю пяць братоў, – каб засведчыў ім, каб і яны не прыйшлі ў гэтае месца пакутаў.”(Лк.16:27 – 28) Кажа яму Аўраам: ”Яны маюць Маісея і прарокаў, хай слухаюць іх.”(Лк.16:29), – інакш кажучы, яны чуюць і ў Храме, і ў сваіх малельных дамах словы Маісея і іншых прарокаў у чытаннях з Бібліі. Аднак з жыцця багацея мы не бачым, каб ён хоць адзін раз наведаў храм Божы. Замест малітваў у доме багацея гучалі п’яныя спевы, замест чытання Святога Пісання – рогат і кашчунствы.

Зноў гаворыць багацей: ” Не, ойча Аўрааме, але калі хто з памёрлых пойдзе да іх, пакаюцца.”(Лк.16:30) Але Аўраам адказвае: ”Калі не слухаюць Маісея і прарокаў, дык каб і хто з мёртвых паўстаў, не павераць.”(Лк.16:31) Яны могуць сказаць, што памёр не Лазар, а нехта падобны на яго, або што ён знаходзіўся ў летаргічным сне, а затым зноў набыў прытомнасць, ды ці мала што можна прыдумаць і сказаць, каб адмовіцца ад пакаяння.

Святіцель Іаан Златавуст пытаецца: ”Чаму Ісус Хрыстос пас-

ля таго, як уваскрос, з'явіўся толькі некаторым Сваім вучням, а не ўсяму Іерусаліму? Бо людзі, убачыўшы паўстаўшага з мёртвых Хрыста, магчыма, звярнуліся б да Яго і ўверавалі ў Яго?", – але затым ён гаворыць: "О, не! Тыя, хто ненавідзеў Хрыста, убачыўшы Яго ўваскрэсшым, узненавідзелі б Яго яшчэ больш і зноў, ужо ў другі раз, паспрабавалі б забіць Яго!"

Няверуючы, здзіўлены нават незвычайнасцю з'яўлення памерлага, потым усё ж пачне сабе тлумачыць гэтую з'яву як-небудзь інакш і зноў застанецца такім жа няверуючым. Што гэта так, відаць з таго, як іудзеяў, якія упарта не верылі ў Сына Божага, нікольні не пераконвалі незлічоныя знаменні і цуды, якія здзяйсняў Гасподзь Ісус Хрыстос: яны не паверылі нават тады, калі ўбачылі ўваскрашэнне Лазара, і падумвалі нават забіць яго. Уся справа ў тым, што сэрца, сапсаванае грахом, упарта не жадае верыць у будучыя пакуты, якія чакаюць грэшнікаў, і пераканаць яго ніякімі цудамі ў гэтым нельга.

Браты і сёстры! Чаму вучыць нас пачутая сёння евангельская прытча? Вучыць нас спачуванню. Евангелле звяртаецца да нас, каб мы не праходзілі раўнадушна побач з чужым горам, бо для хрысціяніна чужога гора не бывае, каб не замыкалі свае сэрцы, не апраўдывалі сваё раўнадушша сямейнымі клопатамі, жыццёвымі побытавымі праблемамі, каб не зачарсцвелі душою, нікога, акрамя сябе, навокал не заўважаючы, каб наша сэрца не абрасло цвёрдай карой. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 23-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА АПАНТАНАГА У ГАДАРЫНСКАЙ КРАІНЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Вы чулі, узлюбёныя браты, прачытаную сёння евангельскую аповесць пра апантанага у Гадарынскай краіне і ацаленне яго Ісусам Хрыстом? Чулі, як дэманы мучылі няшчаснага чалаве-

ка і як ён гаротна вёў сваё ўбогае жыццё? Бачылі ўладу Ісуса Хрыста над злымі духамі, над цэлым легіёнам іх – гэта значыць, над некалькімі тысячамі, якія ўсяліліся ў няшчаснага чалавека?

Мімаволі ўспамінаюцца словы вялікага пісьменніка Ф. М. Дастаеўскага, словы сугучныя Евангеллю: «У свеце дыявал змагаецца з Богам, а поле бітвы – сэрцы людзей.»

Мы, дарагія браты і сёстры, жывем у эпоху сусветнай барацьбы цемры са святлом. І кожны з нас, усведамляе ён гэта або не ўсведамляе, жадае ён таго або не жадае, таксама ўдзельнічае ў гэтай барацьбе. Чалавек, тым больш хрысціянін, не павінен думаць толькі пра сваё выратаванне, грэбуючы доляй тых, хто побач з ім, абыякава пазіраючы на пакуты і пагібель іншых.

Вопыт тысячагоддзяў даказаў немагчымасць выратавання свету шляхам механічнай яго перабудовы. Знешняй механічнай перабудове свету, пры якой страчваецца чалавечая асоба, а чалавек ператвараецца ў шрубку машыны або ў нумар у статку сытых скацін, Стваральнік і Прамысліцель свету супрацьпастаўляе – у асобе Ісуса Хрыста – выратаванне свету Ісцінай: сапраўднае выратаванне свету магчыма толькі праз прасвятленне душ, іх уваходжанне ў Царства Божае. А Царства Божае – усярэдзіне вас, – гаворыць Гасподзь.

Мірна жылі гадарынцы ў маёнтках сваіх. Стаўшы плоццю, яны сталі глухімі да чужых пакутаў, да пакутаў няшчасных. Лёгка перадольваючы страх перад апантанымі, якія наводзілі жах на ўсё наваколле, яны раптам спалохаліся Хрыста! – Таго, Хто нясе людзям свет і любоў. Цэлы горад выйшаў насустрач і просіць Яго выйсці ад межаў іх. Бо толькі за тым і вышлі ўсім светам, каб прагнаць! «Выйдзі, выйдзі ад нас, выйдзі з нашых межаў!» – гаварыў народ, які абраў тое, што яму было дорага: незаклапочаннасць і бестурботнасць жыцця.

І праз усю гісторыю гучыць гэты крык: Выйдзі! Ты стаіш на нашым шляху да дабрабыту, да бестурботнасці, да стабільнасці, да забыцця... Гэта гаворыць праз усю гісторыю чалавечы род.

У вобразе гадарынцаў лёгка можа пазнаць сябе кожны чалавек, які цалкам засяродзіўся толькі на сваім матэрыяльным дабрабыце

як мэце свайго жыцця. У вобразе гадарынцаў можа пазнаць сябе і грамадства, і цэлы народ, якія апусціліся ў духоўнае мяшчанства, выключыўшы са свайго мыслення Бога і імкненне да Яго. Вакол іх склаўся звыклы для іх лад жыцця. Лад дзелавы, але духоўна пусты. Яны з гэтым ладам звыкліся, і няма ў іх ні думкі, ні неабходнасці, каб у гэтым парадку штo-небудзь змяніць. Стаўшы плоццю, яны баяцца ўсякай перамены ў іх знешнім становішчы. Таму і гоняць яны ад сябе думку пра Бога, пра Хрыста як Збавіцеля. Гоняць ад сябе думкай аб сваёй адказнасці за жыццё.

Кожны чалавек, тым больш хрысціянін, нясе адказнасць за пануючае ў свеце зло, за поспех у гэтым свеце духу цемры. Кожны чалавек, і асабліва хрысціянін, павінен усведамляць, што ён нясе адказнасць не толькі за ім асабіста здзейсненае зло, за асабістыя грахі супраць Бога і іншага чалавека, які знаходзіцца побач з ім, але і за пануючае ў свеце зло, якому ён не процідзейнічае. Нярэдка прыходзіцца чуць: што я адзін магу зрабіць з маімі слабымі сіламі ў барацьбе са злом, якое амаль цалкам ахутала зямлю? Тым, хто так разважае, трэба сказаць: па-першае, ты не адзін, з табою ўсё Цела Хрыстова, жывой клеткай якога ты павінен быць, з табою і Галава Цела – Хрыстос (1 Кар. 13:20-26). І, па-другое, перамагаючы асабістую грахоўнасць і тое зло, якое жыве ў табе, дасягаючы прасветленасці сваёй душы, ты тым самым саўдзельнічаеш у аздараўленні і выратаванні ўсяго свету. У барацьбе за аздараўленне або выратаванне свету нельга недаацэньваць асабістага над собою подзвігу. Унутраная пранікнёнасць душы чалавека благадаццю Божай і дабрадатным спакоем, дабрадатнымі светлымі сіламі, нябачна праліваецца і на іншых людзей, аказваючы на іх гаючае выратавальнае дзеянне. Таемная, ад чужых вачэй схаваная малітва ў келлі, нябачны для людзей подзвіг пустэльніка, маўклівае сузіранне Бога – усё гэта мае дабрадатныя наступствы для ўсяго свету, усё гэта садзейнічае яго выратаванню, адраджэнню і прасвятленню. «Здабудзь спакой, – гаварыў прап. Серафім Сароўскі, – і вакол цябе выратуюцца тысячы.»

Ведайце, што ўсякі раз, калі сумленне ваша трывожыць, турбуе і мучыць вас, калі не адчуваеце ў сэрцы спакою, ведайце, што дэманы жывуць у ім.

У гэтай барацьбе супраць злых духаў, якія змагаюцца з намі,

ёсць адзінае ўмацаванне – Гасподзь. Вось дзе прыстанак наша, вось дзе проціяддзе ад таго яду, які атрымліваем мы з навакольнага асяроддзя.

Калі мы будзем імкнуцца да сабранасці душы, чысціні і святасці, жывучы ў любові да Бога і да людзей, тады мы не будзем цацкай у кіпцюрах дэманаў.

Малітва, як нішто іншае, абараняе нас ад злых духаў. Не толькі за сябе – маліцеся за ўсіх знаёмых вашых, за ўсіх тых хрысціянаў, якія імкнуцца ісці па шляху Хрыстовым.

Слова Божае не выпадкова, звяртаючыся да кожнага з нас, гаворыць: «Цвярозіцеся, не спіце, таму што супернік ваш д'ябал ходзіць, як рыклівы леў, шукаючы, каго паглынуць» (1 Пятр. 5:8). Мы ведаем, што вораг наш – дыявал – ходзіць і імкнецца ўлавіць кожнага з нас, але, тым не менш, паддаемся яму, і ён вельмі лёгка, без асаблівых высілкаў авалодвае намі. З усяго сказанага якую выснову мы павінны зрабіць? Выснова адна: быць пільнымі ў адносінах да ўсяго, што адбываецца ў нашым з вамі жыцці.

І калі мы жадаем жыць духоўна, то хіба можам мы дыявалу даваць месца ў сваім сэрцы? Задайце сабе гэтае простае пытанне: ці магу я даваць дэману месца ў сваім сэрцы? Напэўна, кожны разважны чалавек на гэтае пытанне адкажа адмоўна. Вядома ж, не. Таму, браты і сёстры, будзем пільна ставіцца да ўсяго, што здараецца ў нашым жыцці.

Не будзем баяцца гэтай барацьбы. Не будзем баяцца таму, што гэтую барацьбу да нас з вамі здзяйснялі тысячы, дзесяткі, сотні тысяч такіх жа людзей, як і мы, і гэтыя людзі сёння ў якасці святых знаходзяццам перад прастолам Божым. Яны сваім жыццём даказалі, што дыявала можна перамагчы з дапамогай Божай. Памятаючы пра гэта, будзем заўсёды прасіць Госпада, каб Ён дапамагаў нам у нашай нялёгкай барацьбе з дыявалам. Не выпадкова, таму нават у малітве, якую мы завем «Малітвай Гасподняй» і якая чытаецца намі некалькі раз на працягу дня, мы, звяртаючыся да нашага Нябеснага Айца, просім, каб Ён не ўвёў нас у спакусу і пазбавіў нас ад злога.

Цуд сённяшняга Евангелля – тое, што Гасподзь можа здзейсніць з кожным чалавекам і з усім чалавецтвам – цалкам раскрываецца

ў таямніцы Крыжа Хрыстова і Яго Ўваскрасення. І кожны з нас павінен выканаць волю Божую аб сабе і быць удзельнікам волі Божай, якая жадае ўсім чалавекам выратавацца. Дай Бог, браты і сёстры, каб мы, прыкладаючы ўсе высілкі, не давалі месца дыявалу ў сваім сэрцы. Наша сэрца павінна належаць толькі Богу. І толькі Гасподзь прагне, па-сапраўднаму прагне, нашага сэрца, бо, звяртаючыся да кожнага з нас, Ён гаворыць: «Дзіця, дай Мне тваё сэрца». Дык аддадзім нашы з вамі сэрцы нашаму Госпаду! Вось той урок, браты і сёстры, які ўсім нам зноў і зноў з года ў год у гэты нядзельны дзень, падносіць Святая Хрыстова Праваслаўная Царква. Будзем, па запавеце апостала Паўла, не спаць, цвярозіцца і маліцца Богу, каб Гасподзь не ўвёў нас у спакусу і пазбавіў нас ад злога. Амінь.

### *Пропаведзь у Нядзелю 24-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## АЦАЛЕННЕ ХВОРАЙ ЖАНЧЫНЫ І ЎВАСКРАШЭННЕ ДАЧКІ ІАІРА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У сённяшнім Евангеллі мы чулі пра ўваскрашэнне Госпадам спачылай дачкі Іаіра, які быў старэйшынам сінагогі, і пра ацаленне хворай жанчыны, якая пакутавала ад кровацячэння дванаццаць гадоў. Евангельскае чытанне гэта вельмі глыбокае і мае для кожнага з нас вялікае павучальнае значэнне.

Для чаго, з якой мэтай Святая Царква і цяпер нагадвае нам пра гэтыя падзеі – падзеі ацалення і ўваскрашэння? Вельмі шмат павучальнага і карыснага мы павінны ўбачыць у гэтым евангельскім апавяданні. Першае, на што неабходна звярнуць увагу ў прачытаным сёння Евангеллі, – гэта сведчанне і вера ў тое, што душа чалавека бессмяротная, яна жыве, яна жывая і ніколі не памрэ. І Лука, і Марк сведчаць, што дух вярнуўся ў дзяўчыну. Гэта вельмі важныя

для нас словы. Значыць, душа – жывая. Нягледзячы на тое, што цела ўжо было мёртвым, душа была жывая, душа не ўваскрасала, як уваскрасала цела. Яна толькі вярнулася ў гэта ўжо, здавалася, мёртвае цела. Гэта вучыць нас таму, што і нашыя душы сапраўды гэтак жа не паміраюць. Яны вечна жывуць. І наша ўваскрасенне адбудзецца так, як уваскрэсла гэта дзяўчына. І гэта ўваскрасенне кожнага чалавека здзейсніцца у Другое, слаўнае і, разам з тым, вядома, страшнае прышэсце Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. І калі цела, узятае Богам з зямлі, вяртаецца ў зямлю, (не выпадкова таму ў адным з церкоўных песнапенняў мы чуем: «Ты зямля і ў зямлю пойдзеш»), то душа кожнага чалавека, дадзеная яму Богам, вяртаецца да Бога. Але гэта разлучэнне душы і цела часовае. І колькі б цела таго або іншага чалавека не ляжала ў зямлі, яно ізноў злучыцца з душою і ўваскрэсне. Пра гэта нам яшчэ і яшчэ раз сёння нагадвае гэтае евангельскае апавяданне.

Гасподзь нагадвае нам, што ўсё наша жыццё – гэта суцэльныя страты. Мы ўвесь час страчваем, а Гасподзь не ацаляе нас, не пазбаўляе нас ад пакутаў, ад трывог і смерці. Ён жадае нам даць сэнс, Ён жадае, каб мы адчулі Яго сілу. Каб не было гэтага бязглуздага стану адчаю, у якім жывуць людзі, што не далучыліся да Хрыста. Каб мы даведаліся, што сярод пакут і смерці ёсць жыццё, якое Гасподзь нам прынёс. Ёсць гэта любоў, з якой не можа разлучыць нас ніякая смерць, ніякія пакуты, таму што Гасподзь прысутнічае з намі. І калі памірае наш блізкі чалавек, мы павінны далучацца да таго, што Хрыстос здзейсніў і здзяйсняе дзеля гэтага чалавека.

Такім чынам, гэта першы урок, які мы з карысцю для саміх сябе павінны засвоіць, зыходзячы з сённяшняга евангельскага апавядання.

Вернемся да той жанчыны, якая, па словах апосталаў Лукі і Марка, пакутавала на працягу дванаццаці гадоў. Не выпадкова евангелісты паказваюць гэтую лічбу – дванаццаць. Можна было б проста напісаць, што пакутавала шмат гадоў, але яны ўдакладняюць: дванаццать, таму што дванаццать – гэта лік поўнасці, і, паказваючы пэўную лічбу, евангелісты ставілі перад сабою мэту паказаць, што жанчына сапраўды пакутавала вельмі

доўга і цяжка. Яна, як сведчаць евангелісты, звярталася да многіх лекараў, але ніхто з іх не мог дапамагчы ёй у яе цяжкай хваробе.

Мы таксама пакутуем – калі не фізічна, то духоўна – ад граху. Адзін чалавек пакутуе ад гневу і злосці, іншы пакутуе ад сквапнасці і прагнасці, трэці пакутуе ад разбэшчанасці. Чацвёрты пакутуе ад п'янства, пяты пакутуе ад пыхлівасці, якая прымушае яго шукаць пустой зямной славы. Шосты пакутуе ад зайздрасці, калі бачыць поспех і шчасце іншых. Сёмы пакутуе ад ляноты і гультайства. Калі кожны з нас ведае, што, калі ён уважліва прыгледзіцца да сябе, то ўбачыць, што ён хварэе на той ці іншы грэх. І самае сумнае тое, што грахі гэтыя ў нас з дня ў дзень паўтараюцца. Учора мы каяліся ў іх, а сёння паўтараем іх зноў. Грэх – род кровацячэння, якое ніколі не спыняецца ў нас і якое робіць нас слабымі і ледзь жывымі.

Як жанчына з сённяшняга Евангелля была неацэльна хворая, так і нашы грахі невылечныя ніякімі чалавечымі сродкамі. Ніхто, ні адзін чалавек, не можа вызваліць нас ад граху. Ёсць толькі адзін Гасподзь Ісус Хрыстос, Які здольны ацаліць чалавека ад грахоўнай хваробы і даць яму збаўленне. Ён адзіны Лекар душ і целаў нашых, Збавіцель грэшнікаў.

Жанчына пачуўшы, што ёсць Той, Хто можа яе ацаліць, пакінуўшы свой дом, пакінуўшы ўсе і ўся, імкнецца да Хрыста. І ў гэтым для нас павучальны ўрок. Мы таксама, як і гэтая жанчына, павінны заўсёды імкнуцца да Хрыста-Збавіцеля, бо толькі на Хрыста ўся наша надзея, толькі ў Хрысце ўсё наша з вамі жыццё, і не выпадкова таму апостал Павел так і піша: «Для мяне жыццё – Хрыстос» (Філ. 1:21). Пра гэта мы павінны заўсёды памятаць. Так, менавіта ў Хрысце ўсё нашае жыццё, і не толькі жыццё зямное, але і жыццё нябеснае.

І яшчэ на адзін момант неабходна звярнуць увагу. Аказваецца, і мы гэта бачым з сённяшняга евангельскага сюжэту, для таго, каб Гасподзь аказваў нам Сваю міласць, неабходна нашая цвёрдая вера ў Яго. Напэўна, можна выказаць здагадку, што была вера і ў астатніх людзей, бо не толькі банальная цікаўнасць прымушала іх ісці за Хрыстом. І усё ж такі, чаму дакранаюцца многія і верацъ многія, а ацаляецца толькі адна? Епіскап Грыгорый у сваім дзённіку, у якім

ён разважае над прачытанным Евангеллем, піша: " Тут была вера – воля, вера – уся душа, вера – усё жыццё... Полымя веры яна кінула ў дотык, як быццам кінула ўсю сябе. «Згару, але выратуюся»... І яна выратавалася. «Дачка! вера твая ўратавала цябе»».

Учынак гэтай жанчыны быў вельмі мужны. Здавалася б, пра якую мужнасць можна гаварыць, калі жанчына, не гаворачы нікому ні аб чым, нават Самому Хрысту, таемна дакранаецца да Яго адзежы. А мужнасць была не толькі ў дотыку. Мужнасць была ў вызнанні яе веры. Жанчына гэта была іудзейкай і добра ведала старазапаветны закон. Яна ведала той закон, які Гасподзь Бог даў праз прарока Маісея. Яна ведала, што жанчына, якая мела кровацячэнне, лічылася нячыстай, і дотык да яе з'яўляўся грахом, і калі яна дакраналася да чаго-небудзь, то той прадмет таксама апаганьваўся і лічыўся нячыстым. І яна ведала, што рабіла, калі дакраналася, нячыстая і грэшная, да Хрыста. І яна не пабаялася сказаць пра гэта, не пабаялася, таму што тут жа магла быць пабіта каменьмі, забіта да смерці – гэтага патрабаваў закон. У гэтым і была яе мужнасць. І гэта яе мужнасць, яе мужная вера была ўзнагароджана Хрыстом Збавіцелем. «Мацуйся, дачка, вера твая ўратавала цябе!».



Вядома ж, не меней мужным быў учынак і Іаіра. Кім быў ён? Старэйшынам іудзейскай сінагогі.Старэйшыны сінагогі належалі да партыі, варожай Ісусу, але гэты, пачуўшы, магчыма, пра шматлікія цуды, здзейсненыя Госпадам, а, можа быць, і сам будучы сведкам цуду ацалення слугі капернаумскага сотніка, меў надзею, што Ісус ацаліць і яго дачку. У той час старэйшыны, і першасвятары, і старцы іудзейскія дамовіліся ўсякага, хто звяртаецца да Хрыста, забіваць каменьмі і адлучаць ад сінагогі. Але вы паглядзіце, старэйшына сінагогі ідзе і звярта-

ецца да Хрыста з просьбай аб ацаленні сваёй дачкі. Няўжо гэта не мужны ўчынак? Гэта для ўсіх нас таксама павучальны прыклад. На вялікі жаль, вельмі часта ў нас не хапае мужнасці – мужнасці вызнання нашай веры. Вельмі часта мы ў тых або іншых жыццёвых сітуацыях паддаемся розным спакусам і страчваем сваю веру, аддаляемся ад Бога. Калі кожны з нас прыгадае той ці іншы эпізод свайго жыцця, то ўбачыць і зразумее, што сапраўды мужнасці ў нас няма, ёсць толькі слабасць, ёсць маловер’е, ёсць звязаныя з ім нявер’е і сумненні.

Прыклады гэтай хворай на кровацячэнне жанчыны і старэйшыны іудзейскай сінагогі, сведчаць, што яны адкрыта вызнаюць сваю веру ў Хрыста. Такім чынам, адкрытае вызнанне веры ў Бога для нас з'яўляецца ў многіх выпадках абавязкам, і адмаўленне ад смелага вызнання сваёй веры роўнае здрадзе Хрысту. Але, на вялікі жаль, нашае жыццё сведчыць аб зваротным. Часта мы аддаем сваю веру, хаця б сваёй абыякавасцю. І гэта здрада нашай веры, здрада Святога Праваслаўя і, у рэшце рэшт, здрада Бога.

Прыгадаем навамучанікаў XX стагоддзя, якія бязбоязна, перамогшы натуральны людскі страх, у тыя страшные часы сведчылі аб сваёй веры ў Бога і не баяліся ніякіх пагрозаў і мукаў; яны ішлі да канца, абіраючы смерць замест здрадзы. Многія былі знішчаны фізічна, таму што бязбожная, дыявальская ўлада не магла цярпець побач прапаведнікаў слова Божага, але Гасподзь не пасароміў іх. І яны сваімі бессмяротнымі душамі знаходзяцца перад пасадам Божым, заслужыўшы пакутніцкі вянец, а, значыць, і вечную асалоду ў Царстве Нябесным. І дзякуючы ўсім ім, мужным вызнаўцам веры Хрыстовай, Царква не знішчана, яна працягвае жыць. Слава Богу, сёння мы адкрыты для ўсяго свету. І давайце карыстацца гэтай магчымасцю, давайце несці святло Хрыста людзям. І хто жадае спазнаць ісціне, няхай прыходзіць у Праваслаўную Царкву – гэтую бяздонную скарбніцу і чэрпае з яе!

Вось, якія думкі і пачуцці выклікае той евангельскiй сюжэт, які быў прапанаваны нашай увазе за гэтай літургіяй.

Дай Бог, браты і сёстры, каб у нашым жыцці была цвёрдая вера, непахісная воля, імкненне да Хрыста; каб кожны з нас у сваім

зямным жыцці мог смела і непахісна вызнаваць сваю веру ў Бога і, самае галоўнае, жыць па веры. Каб і ўсім нам пачуць словы Хрыста Збавіцеля: «Мацуйся! Вера твая ўратавала цябе». Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 25-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## АПОСТАЛЬСКАЕ ЧЫТАННЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сённяшняе апостальскае чытанне пра мір, пра тое, з чаго ён пачынаецца і пры якіх умовах можа ўсталявацца трывалы мір.

Мір парушаецца тады, калі душу хвалююць якія-небудзь страсці. Такім чынам, грэх – тая прычына, з-за якой у свеце існуюць духоўныя і знешнія нязгоды і хваляванні. Таму трэба пазбавіцца ад свайго нікчэмнага эгаізму, з якога пачынае развівацца грэх.

Хто ж з людзей здольны на гэта? – Ніхто з людзей не можа мець ні сіл, ні сродкаў, каб выправіць той заганны стан, у якім апынулася чалавецтва з моманту свайго грэхападзення. Гэта разумелі як старажытныя язычнікі, так і старазапаветныя яўрэі. "Я зямля і попел", – гаварылі яўрэйскія праведнікі. Язычнікі-філосафы чакалі зменаў толькі звыш, з неба, ад Бога. Знакаміты грэчаскі філосаф Платон казаў: "Не можа быць парадку і гармоніі на зямлі, калі толькі якая-небудзь Боская сіла не ўсталюе іх між людзьмі!" Тым, Каго так чакалі звыш, і быў Збавіцель наш Ісус Хрыстос.

Прачытаны сёння ўрывак з Паслання да Эфесянаў ва ўрачыстай, узнёслай форме гаворыць пра разбурэнне тых сцен, якія раздзяляюць людзей паміж сабой, бо знішчана сцяна, што аддзяляла людзей ад іх Тварца, ад Бога. Старазапаветныя пракокі з натхненнем абвяшчалі канец варожасці ў свеце паміж людзьмі з прыходам Пасланніка Божага. Гэтым прарочым прадказаннем і пачынаецца наша сённяшняе чытанне: "Ён ёсць мір наш".

Глава II, верш 14. Ён ёсць мір наш, які зрабіў з двух (з яўрэя

і язычніка) адно (хрысціяніна) і зруйнаваў перашкоду, што была паміж імі.

Верш 15. Ён скасаваў варожасць між людзьмі Плоццю Сваёю, у Сваёй смерці на крыжы паказаўшы найвышэйшую любоў да людзей; а закон запаведзяў, якія мелі дачыненне да знешняга абрадавага жыцця яўрэяў, Ён адмяніў і замяніў Сваім вучэннем, каб з двух стварыць у Сабе Самім аднаго новага чалавека, усталёўваючы мір.

Верш 16. І ў адным целе прымірыць абодвух з Богам праз Крыж, забіўшы варожасць на ім. Галоўнай прычынай варожасці чалавека з Богам з'яўляецца наш грэх, наша духоўная нечыстата. Пры такой нашай аддаленасці ад Бога Пасярэднікам для нас з'яўляецца Хрыстос. Ён, прыняўшы нашу плоць, узяў наш грэх і знішчыў яго як перашкоду паміж Богам і чалавекам, прынесшы Самога Сябе ў ахвяру. Такім чынам, на крыжы здзейснілася наша прымірэнне з Богам, з небам.

Верш 17. І Хрыстос, прыйшоўшы, дабравесціў мір вам, далёкім і блізкім гэта значыць і сваім – яўрэям, і аддаленым за грахі язычнікам. Дабравесціў Ён мір і Сваім вучэннем, і, асабліва, Сваім жыццём. Ды і пасля смерці Хрыстос абвяшчаў далёкім – гэта значыць тым, якія знаходзяцца ў апраметнай, прымірэнне з Богам.

Верш 18. Праз Хрыста, Які пакутаваў за нас, усе людзі, і яўрэі, і мы праз нашых продкаў язычнікаў, маем доступ да Айца, у адным Духу Святым, Што асвячае нас і ахоўвае Царкву Хрыстову да сканчэння веку.

Верш 19. Мы ўжо не чужыя Богу і не прышэльцы, але суграмадзяне святым і свае – родныя – Богу. Такую набліжанасць да Бога, такую роднасць Богу мы атрымалі праз Хрыста. Але часам свае бываюць горшыя за чужых. Так Хрыстос да сваіх прыйшоў, і свае Яго не прынялі (Ін.1:11) і нават аддалі Яго на смерць у чужыя рукі. І мы, хрысціяне, у адпаведнасці з найменнем сваім родныя Богу, але якія мы на самой справе ў жыцці сваім? Ці падобны хоць у чым-небудзь да Хрыста? І Ён клапоціцца і турбуецца за нас. Ён даў нам у правадыры апосталаў і прарокаў, каб толькі мы ішлі прамым шляхам да неба.

Верш 20. Мы ўцверджаныя на аснове Апосталаў і прарокў, маючы Самога Іісуса Хрыста каменем вугла. Усе мы, хрыціяне, ка-

жучы словамі апостала Паўла, падобны да будынка, галавою вугла якога, тым каменем, на якім усё трымаецца і які пакладзены ў аснову будаўніцтва, з'яўляецца Сам Хрыстос, прарокі і апосталы складаюць ішныя часткі фундамента, абапіраючыся на Хрыста. Душа кожнага з нас павінна таксама ўваходзіць у склад будаўнічых элементаў гэтага будынка і гарманічна ўпісвацца ў агульны Боскі план будаўніцтва ўсяленскай Царквы як сукупнасці Царквы зямной і нябеснай. Месца нашых душаў ў гэтым агульным будынку хрысціянства павінна адпавядаць агульнай волі Бога як галоўнага Творцы нашага збаўлення і выратавання. А залежыць гэта ад нас саміх, ад нашага ўпадаблення Хрысту.

Хрыстос ёсць мір наш. Толькі тады, калі мір гэты будзе панаваць у душы кожнага асобнага чалавека і ў чалавечым грамадстве ўцэлым, магчыма хрысціянская выратавальная добраўпарадкаванасць свету і колькаснае пашырэнне і якаснае развіццё хрысціянскай Царквы.

Верш 21. На Хрысце і Яго вучэнні ўвесь будынак, гэта значыць ус хрысціянскае грамадства, моцна складанае вырастае ў святы храм у Госпадзе. Такім чынам, па слову апостала, жыццё чалавека можа развівацца, удасканальваючыся толькі з дапамогай Хрыста, на падставе Яго евангельскага вучэння. Душа чалавечая ёсць храм Божы, дзе павінен мяшкаць Дух Святы.

Верш 22. На Хрысце, быццам на камені, які пакладзены ў галаву вугла і на якім трымаецца ўвесь узведзены будынак, павінны мы ладзіць сваё жыццё, сваё існаванне ў гэтым свеце, будаваць яго ў жытло Божае Духам Святым, Які прасвятляе і асвячае Сваёю благадаццю кожнага верніка.

Дзіўныя і глыбокія гэтыя і іншыя вобразы з прачытанага сёння апостальскага ўрыўка: грамадзянства ў Царстве Божым, прыналежнасць да сям'і Божай, у якой усе людзі маюць доступ да Айца і становяцца братамі і сёстрамі адзін аднаму. Узнёслыя словы паслання непасрэдна былі звернуты да хрысціянаў з былых язычнікаў, якія жылі ў тыя далёкія часы. Пытанні, закранутыя ў пасланні, былі надзвычай актуальнымі ў ранняй Царкве. Але… ці не для нас было ўсё гэта напісана (1Кар.9:10)? Канешне, і для нас.

Звяртаючыся ад цудоўнага ідэалу, паказанага ў Пасланні да

Эфесянаў, да нашага рэальнага жыцця ў сучаснай Царкве, хіба не бачым мы іншы, далёкі ад станоўчага ідэалу малюнак? Не кажучы ўжо пра грамадства ўцэлым, у якім як панавалі раней, так і цяпер пануюць варожасць, жорсткасць і падазронасць. Ды і ў самой Царкве Хрыстовай мы назіраем асабістую варожасць, а часам і адкрытую агрэсіўнасць, узмоцненую ганарыстасцю, цемрашальствам, эгаізмам і злоснай зацятасцю. Дзе братэрства? Дзе духоўная сям'я, у якой пануе любоў? Дзе гарманічнае злучэнне "жывых цаглінак" храма Божага, "клетак" цела Царквы Хрыстовай? Ці не сталі мы падобнымі да старазапаветных будаўнікаў агароджы са знешніх рытуальных дзеянняў Закона Маісеева? Мы свядома ўзводзім усё новыя і новыя бар'еры або зміраемся з іх існаваннем, у сваім грахоўным стане супрацiўляемся аб'ядноўваючай сіле Хрыста і праганяем Духа Божага з храма сваёй Душы. Пакліканыя несці людзям добрую вестку пра мір для свету, мы часта спакушаем іншых тымі грахоўнымі заганамі, якія яны бачаць у нас. Таму і нам неабходна ўслухоўвацца ў словы Апостальскага чытання. Яны напісаны ў тым ліку і для нас, заклікаючы нас да пакаяння.

Увесь лад царкоўнага жыцця таго ці іншага народа складаецца з ладу жыцця асобных людзей, і калі набожных і дабрадзейных людзей становіцца вельмі мала, тады Царква разбураецца і знікае. Так, Царква Хрыстова не можа быць пераможана, Сам Збавіцель абяцаў, што "брамы пякельныя не адолеюць яе" (Мф.16:18). Але нідзе не гаворыцца пра тое, што "брамы пякельныя" не адолеюць Царквы Рускай, Рымскай, Грэчаскай або якой-небудзь іншай. Калі народ перастае выконваць запаведзі Божыя, калі замест благадаці Божай ён абірае асалоды свету гэтага, тады людзі сваімі рукамі ўзводзяць сцяну, якая аддзяляе іх і адзін ад аднаго, і ад Бога. Тады Царква, як гаворыцца ў Адкравенні Іаана Багаслова (Адкр.2:5), пераходзіць у іншае месца, а тое, што мы лічым Царквою, ператвараецца ў звычайную зямную арганізацыю або ўстанову. Так адбылося з некаторымі народамі, якія ў мінулым паказалі вялікія подзвігі праваслаўнай веры. Таму мы не павінны супакойваць сябе і лічыць, што ў нас, што б ні здаралася, Царква заўсёды будзе існаваць і належаць нам. Некаторыя Цэрквы, як, напрыклад, Кар-

фагенская Царква, зніклі зусім, як зніклі і цэлыя народы.

Мы павінны зразумець, што кожны з нас нясе асабістую адказнасць перад Богам, перад народам Божым, перад Царквой Божай. Кожны з нас павінен, займаючыся сваім уласным духоўным самаўдасканаленнем, дбаць і пра захаванне Царквы і спрыяць распаўсюджанню і сцвярджэнню праваслаўнай веры ў краіне нашай і нашым грамадстве. А той, хто кіруецца ў сваім жыцці якімі-небудзь іншымі прынцыпамі, акрамя хрысціянскіх, той, нават сам таго не ўсведамляючы, становіцца ворагам Божым, хоць часта называе і лічыць сябе захавальнікам хрысціянства і змагаром за праваслаўную веру. Мы павінны быць асцярожнымі і пільнымі і павінны разумець, што нішто чалавечае, ніякая праўда і ўяўная справядлівасць людская не можа быць вышэйшым за ісціну Божую, не можа быць абрана замест Божага Адкрыцця, запаведзяў Гасподніх, евангельскіх прынцыпаў і догматаў. Менавіта гэтым мы павінны кіравацца ў адпаведнасці з вучэннем мудрага, вялікага і праслаўленага настаўніка, якім быў святы апостал Павел. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 25-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРЫТЧА ПРА МІЛАСЦІВАГА САМАРАНІНА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У Нядзелю 25-ю пасля Пяцідзесятніцы ўзгадваецца прытча пра міласцівага самараніна.

Гэтая прытча гаворыць пра тое, якімі павінны быць адносіны паміж людзьмі і якая галоўная запаведзь у вучэнні пра Царства Божае.

Такім чынам, ішоў нехта з Іерусаліма ў Іерыхон. У Евангеллі няма нічога выпадковага. Здавалася б, Гасподзь выпадкова прамаўляе гэтыя два словы: «Іерусалім» і «Іерыхон». Не дарэмна Гасподзь гаворыць, што менавіта з Іерусаліма ў Іерыхон ішоў

чалавек. Іерусалім азначае першапачатковы, не пашкоджаны грахом стан чалавека, а Іерыхон – гэта горад граху. І з райскага стану чалавек ідзе да граху. Гэтай дарогай ідзе ўсе чалавецтва. Гэта шэсце працягваецца і цяпер, і таму чалавек, які трапіў у рукі разбойнікаў, гэта не толькі той евангельскі пакутнік, а гэта ўсе мы, таму што ўсе мы ідзем гэтым жа самым шляхам з Іерусаліма ў Іерыхон – ад святасці да граху. І на нас нападаюць разбойнікі. А хто ж гэтыя разбойнікі? Гэта – дыявал, які шкодзіць кожнаму чалавеку, наносячы яму мноства духоўных ран. А што гэта за духоўныя раны? Ды гэта тыя грахі, якія знаходзяцца на душы і на сэрцы кожнага з нас. Усе мы параненыя і цяжка пакутуем.

Тыя, хто праходзілі побач, бачылі збітага, голага чалавека, але не жадалі дапамагчы яму і губляць свой час. Магчыма, што яны самі баяліся трапіць у рукі злодзеяў або сустрэцца з якой-небудзь неспадзяванай непрыемнасцю. Так прайшоў міма святар, таксама і левіт «падышоў і, убачыўшы, прайшоў міма». Але вось з'явіўся на дарозе і яшчэ адзін падарожнік. Гэта быў самаранін, чужынец і нават вораг іудзеяў, бо іудзеі з самаранамі знаходзіліся ў вечнай варожасці і між сабою не мелі ніякіх дачыненняў.

Убачыўшы параненага, самаранін злітаваўся над ім, абмыў і перавязаў яго раны, пасадзіў на свайго асла і прывёз у бліжэйшае паселішча; там ён змясціў яго ў гасцініцу і, увогуле, добра пра яго паклапаціўся. На наступны дзень, ад'язджаючы, ён не пакінуў хворага незнаёмца без дапамогі, а даручыў клопат пра яго гаспадару гасцініцы, якому даў грошы і сказаў: «Паклапаціся пра яго, а калі болей што патраціш, я, як вярнуся, аддам табе».

Такім чынам, Гасподзь прывёў у прыклад самараніна – чалавека, які не належаў да «сапраўднай веры», да богаабранага народа ізраільскага. Іудзеі ставіліся да самаранаў з пагардай, да іх не дакраналіся, з імі не размаўлялі. Між дзвюма нацыямі існаваў на працягу шматлікіх стагоддзяў непераадольны бар'ер.

Такая пагарда да людзей, якія належаць да іншага народа, да іншай веры, была неўласціва. На працягу ўсяго Свайго зямнога жыцця Ён свядома пераадольваў бар'еры, створаныя людскімі рукамі. Менавіта таму Ён вельмі часта ў прытчах і пропаведзях

прыводзіў у прыклад самаран, хананеяў, рымлян – усіх тых, да каго прававерныя іудзеі ставіліся варожа і з пагардай.

Такім чынам, дапамога незнаёмаму чужынцу і, магчыма, нацыянальнаму ворагу, была аказана з увагай, любоўю і без чакання якой-небудзь узнагароды». Адным словам, гэта было дзеянне «літасцівага сэрца».

Хто ж гэты самаранін? Пад самаранінам неабходна разумець Самога Хрыста Збавіцеля. І мы з вопыту ўласнага жыцця ведаем, што Хто, як не Гасподзь аказвае Сваю шчодрую і багатую міласць нам, такім параненым і так цяжка пакутуючым? Хто, як не Гасподзь падае ацаленне, падае суцяшэнне ў гэтым зямным жыцці? Гасподзь ставіцца да нас з такой міласэрнасцю, якая перавышае ўсякае людское разуменне. І такой міласэрнасці павінны навучыцца ўсе людзі.



Гасподзь далей гаворыць, што самаранін узліў на хворага чалавека алей і віно. Што гэта? Вядома ж, гэта тыя Таінствы Царквы, якія, шчодра падаюцца кожнаму чалавеку і ацаляюць яго немачы, і душэўныя, і цялесныя. Гэта Божая благадаць, якая «нямоглых ацаляе і збяднелых абагачае». У прытчы таксама гаворыцца пра тое, што гэты паранены чалавек быў пасаджаны на асла і прывезены ў гасцініцу. Пад гэтымі словамі неабходна разумець тое вечна жывое евангельскае вучэнне, якім кіруецца чалавек у гэтым зямным жыцці, і Царкву Хрыстову, у якой кожны з нас атрымлівае ацаленне ад сваіх немачаў, душэўных і цялесных. І асабліва – у Таінстве пакаяння.

Самаранін, пакідаючы гаспадару гасцініцы параненага чалавека, гаворыць: «Я пакіну табе два дынарыі, даглядай за хворым «. Што мы павінны разумець пад гэтымі двума дынарыямі? Вядома ж, не што іншае, як Святую Еўхарыстыю, як Прычашчэнне Цела і Крыві Хры-

стовай. Вось гэтыя два дынарыі, якія пакінуты Хрыстом Збавіцелем для нашага ацалення. І звярніце ўвагу, браты і сёстры, на тое, што далей гаворыць Хрыстос. Ён ад асобы гэтага самараніна гаворыць гаспадару: «Я, як вярнуся, аддам табе». І тут Гасподзь гаворыць, што будзе Яго другое прышэсце, і Ён зноў прыйдзе на гэту зямлю. Для чаго? Для таго, каб аддаць кожнаму належнае па яго справах.

«Ідзі, і ты рабі гэтак»(Лк.10:37), – гаворыць нам сёння Ісус. Паўтараючы ўслед за Ім, апостал Павел у сваім пасланні да Эфесянаў, якое мы толькі што чыталі, піша: «малю вас хадзіць годна звання, у якое вы закліканы з усёй пакорлівай мудрасцю і лагоднасцю і доўгацярплівасцю, у любові трываючы адзін аднаго» (Эф.4:1-2). Аднак ён гаворыць, што неабходна засноўвацца не на пагардлівай пагардзе, не на ўсведамленні перавагі дужага над слабым, праведніка над грэшнікам, веруючага над няверуючым, а на любові. Апостал заклікае жыхароў Эфеса, а разам з імі і нас, да лагоднасці і доўгацярплівасці, лічачы, што менавіта ў гэтым і праяўляецца наша любоў адзін да аднаго. Тая самая любоў, без якой нікому з нас Царства Божага не атрымаць у спадчыну.

Здавалася б, як усё вельмі проста і зразумела! Гасподзь пакідае ўсім нам, Яго паслядоўнікам, такую простую і ясную запаведзь – запаведзь пра любоў.

Але што мы маем у нашым з вамі жыцці? Вядома, мы любім тых, хто нас любіць. Мы любім, магчыма, нашых родных і сваякоў. І тое, калі яны нам не дакучаюць, калі яны не прыносяць нейкіх турбот і праблем у нашым жыцці. А ў дачыненні да ўсіх астатніх – пра якую любоў можа ісці гаворка?! Вось і атрымліваецца: тое, што мы павінны выконваць – не выконваем. Нам усё хочацца сказаць: «Госпадзі, можа быць, Ты нас чаму-небудзь іншаму навучыш? Можа быць, ёсць нейкія іншыя шляхі, якія вядуць у Царства Тваё Нябеснае?» Вядома, браты і сёстры, такіх прамых пытанняў Богу мы не задаем, але наша жыццё сведчыць пра тое, што мы заўсёды ставім перад Богам гэтыя пытанні. Калі ў нашага жыцці не будзе выканання гэтых запаведзяў – запаведзяў пра любоў да Бога і да ўсіх тых людзей, што знаходзяцца побач з намі, то, вядома, ні пра якое Царства Нябеснае, ні пра якое наблíжэнне да Бога не можа быць і гаворкі.

Вось тыя павучальныя ўрокі, якія ўсе мы павінны засвоіць з сённяшняга евангельскага апавядання. Толькі любоў, сапраўдная, шчырая, глыбокая, заахвочвае чалавека на здзяйсненне добрых спраў. Калі добрыя справы будуць за нас хадатаямі на Божым судзе, то давайце часцей задумвацца над тым, як мы жывем, што мы робім і якіх сяброў мы маем у гэтым зямным жыцці.

Задумаемся пра гэта, пачынаючы наш шлях да свята Нараджэння Хрыстова. Акрамя выканання асабістых правілаў і абмежаванняў, якія павінны быць у час посту, давайце звернем ўвагу, паглядзеўшы вакол сябе, на тое, хто знаходзіцца побач са мною. Зараз, сёння, заўтра, заўсёды будзем думаць: хто той, каму я павінен дапамагчы, выказаць спачуванне, падтрымаць, аказаць міласць, да каго мне трэба ставіцца з любоўю? Тады Гасподзь увойдзе ў наша сэрца і падкажа, што вось ужо зараз неабходна ісці і ставіцца да людзей так, як міласэрны самаранін з адпаведнай прытчы. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 26-ю пасля Пяцідзесятніцы*

### АПОСТАЛЬСКАЕ ЧЫТАННЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У пачутых сёння падчас літургіі словах святога апостала Паўла гаворыцца, каб мы, праваслаўныя, былі сапраўды вернымі Хрысту і ў тым дагматычным вучэнні, якога прытрымліваемся, знаходзячыся ў Царкве, і ў сваім уласным ладзе жыцця; каб мы былі не толькі самі дзецьмі святла, але і іншым свяцілі, указваючы ім шлях да Неба і да Ісціны. Вось гэты зварот: *Паводзьце сябе, як дзеці святла,... ва ўсякай дабраце...і ісціне*; не будзьце неразважлівымі, але разумейце, што ёсць воля Божая.

Святло, якое выратавальна прасвятляе ўсіх, толькі адно: гэта – Гасподзь наш Ісус Хрыстос. Ад Яго мы можам атрымаць тыя збавіцельныя промні святла Божага, якія прасвятляюць нас, а праз

нас і іншых. Святло схаваць немагчыма. Дзе яно з'яўляецца, адтуль уцякае цемра. Але ці ёсць у нас гэта святло? Прыгледзімся да нашай душы і да свайго жыцця, і тады даведаемся, ці з'яўляемся мы *дзецьмі святла*.

Выяўляйце, быццам бы кажа нам апостал, сваё пакліканне *ва ўсякай дабраце* г.зн будзьце заўсёды добрымі і спагадлівымі і, наколькі магчыма, не толькі да тых, якія станоўча ставяцца да вас, але і да чужых, і нават да ворагаў. Дзяліцеся ўсім, чым можаце, не чакаючы пры гэтым ні падзякі для сябе, ні славы ад людзей. Створанае Богам сонца ззяе і на добрых, і на злых, Гасподзь пасылае дажджы на праведных і на неправедных. Так і мы, дзеці Божыя ў адпаведнасці са сваёй верай, дзеці святла, павінны дапамагаць і ажыўляць сваёй любоўю ўсіх, хто звяртаецца да нас.

Такое дабрадзейнае жыццё ёсць вынік веры ў ісціну Хрыста, якая ахоплівае і розум, і сэрца чалавека. Гэта ісціна – у Хрыстовай веры. Ад нас толькі залежыць скіраваць сваё сэрца і ўвагу да яе – і сэрца пачне жыць іншым – святым і радасным – жыццём. Тады нашай душы становіцца зразумела, дзе ёсць воля Божая, *што даспадобы Богу.*

Свяціцель Ігнацій (Бранчанінаў) услед за ўсімі святымі айцамі кажа, што трэба засвоіць евангельскія запаведзі, запомніць іх так, каб на ўсякую думку, што прыходзіць нам на розум, мы маглі адказаць евангельскай запаведдзю, якая падмацавала б справядлівасць нашага намеру або абвергла яго.

Чалавек, які прыняў і засвоіў ісціну Хрыстову, не можа хаваць яе ў сваім сэрцы. Ён павінен несці яе ў свет і дзяліцца ёю з тымі, хто побач з ім. Такім чынам павялічваецца і распаўсюджваецца жыватворчае Хрыстова вучэнне, якое прасвятляе і асвячае ўсякага чалавека, які з'яўляецца на свет.

*Дзеці святла* не любяць цемры і імкнуцца да разумення ісціны. Але ісціна – адна: яна не можа падзяляцца на розныя, часам варожыя адзін аднаму, кірункі.

*Не ўдзельнічайце ў бясплённых справах цемры, але выкрывайце іх.*

Выкрываць – гэта не значыць абавязкова гаварыць услых: гэта не заўсёды дарэчы, не заўсёды магчыма, не заўсёды карысна, не

заўсёды разумна. Аднак у саміх сабе мы павінны выкрываць справы цемры, павінны выразна разумець, што даспадобы Богу, а што ў нашым жыцці з'яўляецца агідным Яму і павінна быць выдалена ад нас. Неабходна разважаць і дзейнічаць у адпаведнасці з воляй Божай, вядомай нам са Святога Пісання. Убачыўшы несумяшчальнае з воляй Божай, мы павінны гэта асудзіць.

*Глядзіце, дзейнічайце разважліва і асцярожна, ...цэнячы дорага час, бо дні – ліхія.*

Менавіта так мы павінны ставіцца да часу, да дней жыцця свайго: здаецца, што часу яшчэ шмат, але дзень ідзе за днём – і жыццё мінае, растае, нібы раннішні туман развейваецца ад свежага ветру, і ўжо няма яго, ужо наблізіўся канец.

Час не чакае нас, калі мы пачнем весці праведнае жыццё; ён імкліва бяжыць, і за кожную хвіліну свайго жыцця трэба будзе даць адказ. Таму мы павінны быць заўсёды ў напружанай духоўнай працы па самаўдасканаленню і быць уважлівымі да сябе, да сваіх думак, слоў і ўчынкаў.

Калі ж мы ўдзельнічаем у бясплённых справах цемры і, адпаведна, не прыносім ніякага плада благадаці, значыць, мы дарэмна губляем час і ніколі ўжо не зможам яго вярнуць: страчаны дзень іншым днём не заменіш. Таму адзін старажытны падзвіжнік казаў: "Нельга пражыць дзень праведна, калі ты не будзеш думаць, што ён апошні ў тваім жыцці". Для нас такі ўзор, магчыма, вельмі складаны, але, тым не менш, мы павінны бачыць у ім наш ідэал і ставіцца да жыцця так, як гэты чалавек. Сапраўды, мы не зможам пражыць дзень праведна, гэта значыць бездакорна, у адпаведнасці з Евангеллем, калі не будзем думаць, што гэты дзень – наш апошні дзень.

*Дык не будзьце неразважлівымі, але спазнавайце, што ёсць воля Божая.*

Зноў апостал Павел робіць выснову: не будзьце неразважлівымі, гэта значыць не стаўцеся да ўсяго абыякава і паблажліва да сябе, а будзьце разважлівымі. Неразважлівы не думае пра тое, што існуе воля Божая, а разважлівы якраз яе і спазнае. З аднаго боку, яе раскрывае Святое Пісанне і Адкравенне Божае, з другога – падказваюць абставіны. Разважаючы і супастаўляючы адно і другое, ён

бачыць, што яму трэба рабіць, каб яго жыццёвы шлях адначасова быў і вузкім шляхам у Царства Нябеснае.

Але, на жаль,назіранню над сабой і людзьмі, што знаходзяцца вакол нас, вельмі шкодзіць неўстрыманне, якое прытупляе наш розум і ўвогуле разбэшчвае душу. Вось чаму святы апостал, гаворачы пра назіранне над часам і жыццём, адразу называе і наступны сродак*: не ўпівайцеся віном*.

Праз п'янства прыніжаецца чалавечая годнасць, змяншаюцца душэўныя сілы. Чалавек, а часам і цэлы народ, пад уплывам такога жыцця знаходзіцца нібы ў каматозным стане.

Апостал Павел заклікае шукаць суцяшэння не ў віне, гэта значыць, калі разумець больш шырока гэта выказванне, не ў зямных асалодах, а ў благадаці Божай. Ён кажа: *І не ўпівайцеся віном, ад якога бывае распуста, а напаўняйцеся Духам.* Калі б у нас дзейнічала благадаць Божая так, то мы разумелі б, што ніякія самыя вытанчаныя зямныя асалоды не могуць параўнацца з той радасцю, якую адчувае чалавек у адзінстве з Богам.

*Напаўняйцеся Духам, настаўляючы саміх сябе псалмамі і славаслоўямі і духоўнымі спевамі.* Падтрымліваць сябе, шукаць асалоды неабходна ў малітве, у розных яе відах. Вось да чаго мы павінны імкнуцца! Не віном упівацца, а размаўляць з Богам праз малітву.

Калі ў прападобнага Серафіма Сароўскага спыталі, чаго не хапае сучасным вернікам у параўнанні са старажытнымі хрысціянамі, ён не назваў ніякіх духоўных і аскетычных подзвігаў, а адказаў: "Рашучасці". Няма ў нас рашучасці, не ідзем мы да канца ў барацьбе уласнымі грахамі, шкадуем сябе і ўвесь час – азіраемся назад, як жонка Лота. Таму і хварэем мы, па словах святога Іаана Лесвічніка, на адну з горшых заганаў – скамянелае нячулае сэрца.

*Устань, хто спіць, і ўваскрэсні з мёртвых, і асветліць цябе Хрыстос.*

Гэтыя словы, прыведзеныя апосталам Паўлам, з'яўляюцца цытатай, але, паколькі іх няма ў Старым Запавеце, то некаторыя даследчыкі лічаць, што яны ўзяты са старажытнага богаслужбовага спеву, які не захаваўся да нашага часу. Словы гэтыя, безумоўна, былі вядомы хрысціянам тае пары, ва ўсякім разе эфесянам. Той,

хто спіць духоўна, падобны да нябожчыка, з той толькі розніцай, што ён яшчэ можа прачнуцца. Ён не жыве для Бога і настолькі чужы нябачнаму духоўнаму свету, што гэты свет для яго быццам бы не існуе. Адпаведна і ён для духоўнага свету ўжо мёртвы.

І калі мы сапраўды імкнемся да Госпада, калі мы імкнемся да таго, каб нашы справы сталі святлом, гэта значыць адпавядалі евангельскаму вучэнню, якое і ёсць святло, то мы быццам бы паўстаём з мёртвых і нас асвятляе Сам Гасподзь Ісус Хрыстос, знаходзячыся ў нашай душы і нашым сэрцы.

Будзем жа настаўляць *саміх сябе псалмамі і славаслоўямі і спевамі духоўнымі спяваючы і апяваючы ў сэрцах* нашых *Госпаду*. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 26-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРЫТЧА ПРА НЕРАЗУМНАГА БАГАЦЕЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Як гэта ні дзіўна, але часам багаборцы, самі, відаць, таго не жадаючы, гавораць праўду і аб сабе саміх і пра тых, хто натхняе іх на богазневажальныя справы. У адным з рэвалюцыйных расійскіх гімнаў пачатку дваццатага стагоддзя так прама і спяваецца: ««Вихри враждебные веют над нами, тёмные силы нас злобно гнетут...» Вось якія мы на самой справе! Не хаваючыся і не маскіруючыся, на ўвесь свет заяўляем, якога роду духі валодаюць нашымі душамі! Або, скажам, словы пра рэвалюцыю з паэмы «лепшага і найталенавітага», як назваў яго адзін тыран, паэта савецкай эпохі: ««работа адовая будет сделана и делается уже»! Лепш і не скажаш: сапраўды – «работа адовая»! Толькі выконваюць яе не змрочныя душагубы, не панурыя і вераломныя «духі злосці паднябеснай» (Эф.6:12), а звычайныя людзі, праўда, апантаныя той жа самай вар'яцкай ідэяй, якую падказаў вораг роду ча-

ку часоў, бо катэгорыя часу з'явілася пасля стварэння свету. Усё Ім, нашым Творцам і Збавіцелем, існуе. Ён быў раней за ўсё – перш, чым што-небудзь узнікла.

Сказаўшы пра тое, Хто ёсць Гасподзь Ісус Хрыстос па Сваёй Боскай прыродзе, апостал далей тлумачыць, Кім з'яўляецца Ён у справе выратавання роду чалавечага. Тут раскрываецца важная дагматычная ісціна – веліч Богачалавека, Які стаў Главою Царквы.

Верш 18: І Ён ёсць Галава Цела Царквы; Ён пачатак, першынец з мёртвых, каб меў Ён ва ўсім першынство.

І вось гэты Сын Божы і Бог, Якім усё існуе, Які з'яўляецца Уседзяржыцелем, Творцам і сэнсам існавання ўсяго бачнага і нябачнага свету, Главой Царквы. З гэтага ўсведамлення вынікае асэнсаванне велічы Таго, Каму мы служым, а таксама запаведзі і волю Каго мы павінны выконваць.

Гасподзь першы ва ўсім. Ён існаваў раней за ўсё створанае ў Сусвеце, і ў гэтым сэнсе Ён першынец. Праз Яго ўсё пачало сваё быццё і існаванне, і ў гэтыс Ён таксама першы. Ён вышэйшы за ангелаў і ўсіх зямных істотаў, і зноў у гэтым Ён першы. І, нарэшце, Ён першы выйшаў з пекла і знішчыў яго моц і ўладу. І вось, Ён з'яўляецца Заснавальнікам нашай Царквы; можна сказаць, Ён – Царква, а мы – Яго частка. Ён Глава Царквы і цела Царквы, а мы часткі гэтага цела. Таму мы павінны разумець, што такое Царква, з пашанай ставіцца да Яе і годна ажыццяўляць сваё хрысціянскае служэнне.

Гэта сказана ў супрацьлегласць ілжэнастаўнікам, якія распаўсюджвалі вучэнне пра шматлікія прамежкавыя сілы – эоны.

Чым жа мы будзем удзячны Богу Айцу і Сыну і Святому Духу за наша выратаванне?

Па-першае, вераю ў Адзінага Бога, Траічнага ў Асобах, шчырым пакланеннем Яму і адзіным спадзяваннем толькі на Яго.

Бог Айцец збавіў нас крывёю Сына Свайго ад улады цемры і паклікаў нас да ўдзелу ў светлай спадчыне святых. Што можа быць вышэй за такую любоў Божую да нас? Мы павінны заўсёды памятаць, што Хрыстос для нас – Шлях, Ісціна і Жыццё (Іаан. XIV, 6). Нам неабходна імкнуцца да Святла. Мы павінны весці жыц-

цё светлае, чыстае, бездакорнае. І сваім словам, сваёй малітваю, а асабліва сваім жыццём усім і кожнаму павінны абвяшчаць славу і веліч Бога Айца і Яго Адзінароднага Сына. Але якое наша жыццё?

Як ні цяжка ў гэтым прызнавацца, але трэба пакаяцца, што мы, якія называем сябе праваслаўнымі хрысціянамі, справамі сваімі здраджваем Хрысту, маючы толькі знешнюю набожнасць і прыстойнасць. І з нашага паўсядзённага жыцця ясна відаць, наколькі мы з'яўляемся вучнямі Хрыста.

Такім чынам, у чым жа павінна быць наша ўдзячнасць Богу? Папершае, у цвёрдай веры ў Яго адзінага. У цярплівым перанясенні жыццёвых выпрабаванняў і нязменнай любві да Яго. У клопаце пра тое, каб не страціць адзінства з Богам, не абразіць Яго сваімі грахамі, а галоўнае – у выкананні Яго святой волі і запаведзі аб любві да таго, хто побач з намі. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 28-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА ПАКЛІКАНЫХ НА СВЯТОЧНУЮ ВЯЧЭРУ (НЯДЗЕЛЯ СВЯТЫХ ПРААЙЦОЎ)

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння Святая Царква ўспамінае ўсіх святых праайцоў – тых людзей, якія верай і чаканнем прышэсця Хрыста – Месіі, жылі ў Старым запавеце. Да ліку праайцоў адносяцца ўсе старазапаветныя праведнікі, пачынаючы ад Адама і заканчваючы богаайцамі Іаакімам і Ганнай. Да ліку праайцоў належаць святыя прарокі, якія прадказвалі богаабранаму народу прышэсце ў свет чаканага Месіі. Невыпадкова перад святам Нараджэння Хрыстова Святая Царква адзначае памяць святых праайцоў. Не выпадкова таму, што і для нас, тых, хто жыве ў эпоху Новага запавета, у іх ёсць шмат карыснага і павучальнага, чаму мы можам навучыцца ў

святых праайцоў, і, першым чынам, – навучыцца іх непахіснай і цвёрдай веры ў Хрыста Месію.

Сёння Святая Царква за Літургіяй прапанавала нам евангельскае чытанне, якое нагадала нам прытчу Хрыста Збавіцеля пра пакліканых на святочную вячэру.

Гасподзь, Які стварыў свет для таго, каб падзяліцца з ім вечнай Божай радасцю, сустракаецца, аднак, у гэтым свеце з непрыняццем і халодным адмаўленнем. Ён заклікае ўсіх – але абранне залежыць ад нас. Ён усіх стварыў любоўю для радасці і вечнага жыцця – але мы павінны адказаць любоўю на любоў і ўвайсці ў тую радасць, якую нам прапаноўвае Гасподзь. І карціна, якая нам даецца ў сённяшнім Евангеллі, такая простая і так дакладна апісвае ўсе станы нашай душы, усе прычыны, па якім нам на Бога няма часу, да вечнасці няма цікавасці…

У кожнага была свая прычына, але ўсё ж такі яны быццам бы дамовіліся паміж сабой, таму што прычына была ў іх адна: перавага ўсякіх спраў зямных над духоўнымі – тымі, што служыць выратаванню человека, над тым сапраўдным прызначэннем чалавека, якое вышэйшае за ўсякія знешнія прызначэнні. Сэнс жыцця вызначаецца вернасцю гэтаму сапраўднаму прызначэнню, высокім духоўным ідэалам. Святы Грыгорый Палама гаворыць, што менавіта ў тым падабенства наша да Бога, што Ён нам уручыў зямлю і дар – здольнасць да творчай працы і любові. Але калі мы засяродзімся толькі на гэтай зямлі, забыўшыся, што жыццё больш глыбокае, больш шырокае, што над зямлёй распасціраецца неба і што любоў людская пашыраецца да бязмежных памераў праз любоў Божую, тады мы страцім і зямное, і нябеснае. Менавіта пра гэта гаварыў Збавіцель у прапанаванай Ім прытчы перад тым, як выкрыць старазапаветных кніжнікаў і фарысееў і тых, хто стаяў на чале тагачаснай царквы і хто прывёў гэтую царкву да поўнага краху. Менавіта аб гэтым Ён гаварыў: вы страцілі разуменне таго, для чаго вы робіце тую справу, якую вы робіце.

У іудзеяў часоў Хрыста склаўся ўтылітарны падыход да рэлігіі. За выкананне якіх-небудзь абрадавых дзеянняў яны чакалі для сябе адпаведнай і канкрэтнай ўзнагароды ад Бога

ў выглядзе зямнога дабрабыту. Жывыя дачыненні з Богам і духоўнае адраджэнне не складалі для іх аснову рэлігійнага жыцця. Вось таму ў храме і з'явіліся сталы гандляроў, вось таму храм і ператварыўся невядома ў што. І Ён узяў бізун і стаў выганяць іх з храма. Вось таму царква і стала безблагадатнай, вось таму старазапаветная царква аджыла свой век, і павінна была адбыцца замена новай царквой, Новым Запаветам.

Вось што вы чулі ў сённяшняй прытчы пра абраных і пакліканых на святочную вячэру. Абраныя – гэта тыя, якія адгукнуліся сваім прызначэннем зямным, уклалі ў яго сэнс пакліканне Гасподняе, апраўдваюць свае справы тым, што яны служаць, яны падпарадкоўваюцца высокім ідэалам, тым самым ідэалам, якія прапаведуе для нас сёння Евангелле. Толькі тады жыццё людское набывае для нас з вамі, хрысціянаў, сапраўдны сэнс, калі кожны з нас падпарадкоўвае сваё прызначэнне ідэалам хрысціянства, духоўным, евангельскім, і ажыццяўляе іх у сваім жыцця. Тады гэта прызначэнне, гэта справа, якую мы робім тут, на зямлі, кожны ў сваёй вобласці, не толькі набывае сэнс, але нясе кожнаму з нас радасць сапраўдную, спакой сапраўдны, задавальненне і поўнае ўсведамленне сваёй сапраўднай чалавечай годнасці. У гэтым сэнс сённяшняй евангельскай прытчы.

Не выпадкова сёння Святая Царква яшчэ і яшчэ раз прапаноўвае ўважліва ўгледзецца ў вобраз святых праайцоў, у вобраз тых людзей, якія сваёй верай заслужылі тое, каб быць не толькі пакліканымі, але і абранымі. І мы гэтак жа павінны быць не толькі пакліканымі, але і абранымі. А для гэтага неабходна адгукнуцца на кліч Божы, на кліч Царквы.

Калі пачалося такое доўгачаканае вызваленне Праваслаўнай Царквы ад цяжкага прыгнёта бязбожнай дзяржавы – у той момант на нейкі час падалося, што пачалося такое доўгачаканае ўсімі праваслаўнымі духоўнае адраджэнне нашай Айчыны. Падалося, што ўсеагульная і цалкам добразычлівая цікавасць да Царквы натуральным чынам перарасце ў глыбокі інтарэс да яе веравучэння, прывядзе духоўна здзічалую большасць грамадства да пакаяння, да радаснай здольнасці ўспрыняць Добрую Вестку аб збаўленні,

аб Вечным Жыцці. Нельга сказаць, што такія аптымістычныя чаканні аказаліся цалкам марнымі. Тыя магчымасці свабоднай пропаведзі, дабрачыннай дзейнасці і сацыяльнага служэння, якія з'явіліся ў апошні час, прынеслі свій нямалы плён: нашы абшчыны безумоўна павялічыліся, памаладзелі і перасталі быць пераважна жаночымі. Амаль кожны другі жыхар нашай краіны лічыць сябе праваслаўным, а значыць, з'яўляецца хаця б ахрышчаным. Палова з тых, хто жыве тут, пакліканы былі Збавіцелем нашым у Таінстве Хрышчэння на "вялікую вячэру" (Лк.14:16). І кожны даваў абяцанне быць верным свайму Богу, гэта значыць – абяцаў удзельнічаць у гэтай вячэры любві!

Дзе ж яны ўсё? Чаму яны да гэтага часу не прышлі? А голас Божы па-ранейшаму кліча кожнага абранага са старонак Вечнай Кнігі: "...прыходзьце, бо ўжо гатова ўсё" (Лк.14:17). Аднак не ідуць, марудзяць, усё чакаюць нечага...

Не варта забываць і пра тое, што гэта нас, царкоўных праваслаўных хрысціян, Гасподзь пасылае збіраць пакліканых "па вуліцах і завулках горада..., да дарог і загарадзяў..., каб напоўніўся дом" (Лк.14:21,23). Гэта мы – тыя самыя рабы, на якіх ускладзена даручэнне Божае склікаць на пір Айца нашага Нябеснага "убогіх, калек, сляпых і кульгавых" (Лк.14:21) – убогіх верою, знявечаных грахом, кульгавых і сляпых духам. І калі дом Божы не напаўняецца ўдзельнікамі Вячэры Гасподняй, то гэта, магчыма, адбываецца таму, што мы, якія ганарова называем сябе "рабамі Божымі", проста нядбайна і неахайна выконваем сваю місію.

Кожны з нас дабравеснік. Да кожнага з нас звернуты словы Хрыста: "Дык ідзіце, навучыце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, вучачы іх выконваць усё, што Я запаведаў вам" (Мф.28:19-20). Але як вучыць выконваць тое, чаго сам не робіш? Як заклікаць пакінуць валоў, зямлю і шлюбныя ўцехі, калі той, хто звяртаецца да іншых з такой прапановай, сам толькі і думае пра іх, і голас яго – зусім не "голас таго, хто кліча ў пустыні" (Мф.3:3), а проста "медзь, што звініць, або цымбалы, што гудзяць" (1Кар.13:1). Хіба пасля заклікаў такога абвяшчальніка волі Божай знойдзецца хоць хто-небудзь, "хто пакінуў бы дом, ці братоў, ці

сясцёр, ці бацьку, ці маці, ці жонку, ці дзяцей дзеля Хрыста і Евангелля” (Мк.10:29)? Вось чаму ў адказ на ўсё нашы палымяныя звароты і заклікі мы так часта бачым толькі іранічныя ўсмешкі і так часта чуем словы, здольныя зрабіць нявартай любую пропаведзь: “... пра гэта паслухаем цябе ў іншы час” (Дзеі.17:32).

Можа быць, тыя, якія адмовіліся прысутнічаць на “вялікай вячэры”, зрабілі гэта таму, што іх дрэнна паклікалі тыя, каму гэта даручана было Богам? Можа быць, зноў, у які ўжо раз, “з-за вас, як напісана, імя Божае ганьбуецца” (Рым.2:24) не толькі ў язычнікаў, але і ў тых, каго Гасподзь наш паклікаў на пір веры?

Пір Царства Нябеснага – таямніца Нябеснага Іерусаліма. Гэты пір пачынаецца тут, і Царква павінна стаць для нас пачаткам новага жыцця, якое надае сэнс і радасць усяму, што мы робім. Царква адкрывае нам таямніцу Бога Жывога, здзяйсняючы пераацэнку ўсіх нашых каштоўнасцей. Сустрэць Бога на піру Пасхі і Святой Еўхарыстыі – значыць, сустрэць усіх людзей, сабраных у таямніцы Бога.

Усе старазапаветныя праайцы жылі верай у будучага Хрыста Збавіцеля. Мы ж жывем верай не ў будучага Хрыста, а ў Таго Сыны Божага, Які ўжо прыйшоў у свет. Мы жывем у час Новага Запавету, час спрыяльны, калі існуе Царква Хрыстова – той карабель, які плыве ў неспакойным жыццёвым моры і ў якім кожны з нас можа знайсці сваё месца і прытулак. І нават цяжка сабе ўявіць, наколькі мы больш шчаслівыя за тых праайцоў, якіх мы сёння ўзгадваем.

Кожны з нас, рана або позна, адчувае заклік Божы ў сэрцы сваім, жаданне што-небудзь зрабіць у сваім жыцці, нешта змяніць, куды-небудзь пайсці, штосьці каму-небудзь сказаць, у чым-небудзь пакаяцца, нешта атрымаць ад Госпада, нарэшце! Тады мы павінны абраць менавіта гэты шлях, не збочыць з яго, не забыцца пра яго, а пайсці ўслед за Госпадам Яго шляхам.

Вось пра што ўсім нам нагадвае Святая Хрыстова Праваслаўная Царква ў гэты дзень, які называецца «Нядзеляй святых праайцоў»: пра тыя нашы абавязкі, якія мы, як веруючыя людзі, павінны выконваць у сваім жыцці, калі мы сапраўды жадаем мець тую ж непахісную веру, тое ж спадзяванне, тую ж любоў, тое

ж пакаянне, тое ж імкненне да выканання запаведзяў Божых, якія былі ў святых праайцоў. Тады і для нас радасным будзе не толькі надыходзячае свята Нараджэння Хрыстова, але і жыццё наша напоўніцца цалкам іншым зместам. Дай Бог, браты і сёстры, каб на самой справе, перш за ўсё, мы мелі і веру, і надзею, і любоў, і выкананне запаведзяў Хрыстовых. Амінь.

### *Пропаведзь у Нядзелю 29-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## АЦАЛЕННЕ ДЗЕСЯЦІ ХВОРЫХ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Вера твая ўратавала цябе! Але які сэнс схаваны ў гэтым слове – «вера»? Якая вера? Якое жыццё? Бо і мы таксама верым, але ці так, каб і нам пачуць рашучае слова: «Ідзі, ты ўратаваны!» Кароткае евангельскае слова звернутае да нас – прыйдзі і ўбач, навучыся выратаванню верай.

Чалавек без канца падбягае да Бога і патрабуе, патрабуе выгод: шчасця, дастатку, здароўя. Ён падбягае да Бога са сваёй патрэбай, але не жыве Ім, і ўсякі раз, атрымаўшы неабходнае, вяртаецца да звыклага ранейшага грахоўнага жыцця. І гэтая бясплодная мітусня чалавека вакол Бога ўсё часцей і часцей выклікае ў пракажоных душах нараканне на свайго Стваральніка, нараканне на ўсё і на ўсіх. Тады Бог становіцца вінаватым ва ўсім: гэта Ён не адказвае на просьбы-патрабаванні, гэта Ён не дае чалавеку ўсю паўнату жыццёвага шчасця. А тое, што сам чалавек не жыве па загадах Божых і знаходзіцца па-за межамі закона Божага, што ён пажынае горыч разбуранага сваімі ж беззаконнямі жыцця, не прыходзіць яму на розум. Няма ў яго сапраўднай веры, сапраўднага духоўнага жыцця, і не скончыцца выратаваннем жыццёвы шлях яго.

Збаўленне чалавека здзяйснялася, здзяйсняецца і будзе здзяйсняцца ва ўсе часы толькі верай і толькі ў Царкве. Ва ўсе часы праказа граху, якая паразіла ўвесь род чалавечы, лечыцца і ацаляецца толькі там і толькі Збавіцелем Богам.

Мы зноў і зноў, як іудзеі, патрабуем цудаў. На жаль, надта часта нашы паломніцтвы па святых месцах, нашы паездкі да цудатворных іконаў, нашы пошукі «празорлівых» старцаў не што іншае, як патрабаванне новых доказаў. Нібыта мала нам Крыжа Хрыста, нібыта ўжо не пераконвае нас «пот Яго, як кроплі крыві, якія падаюць на зямлю» (Лк.22:44)! Мы прагнем і патрабуем новых цудаў, а на самой справе павінны былі б спалохацца іх, як спалохаўся некалі апостал Пётр цудоўнага ўлова так, што «жах ахапіў яго і ўсіх, хто быў з ім, ад такога ўлову рыбы, выцягнутай імі» (Лк.5:9). «Чаго палохацца, – скажа прыхільнік правіл, – трэба падзякаваць і паставіць свечку, ды і ўсё тут»! Зусім як дзевяць пракажоных: сказана паказацца святару, вось мы і ідзем паказвацца!

Не! Цуд, які адбыўся ў нас на вачах, патрабуе ад нас іншага жыцця! Ён патрабуе ад нас імклівай змены, неадкладнага пакаяння, адчайнага парыву да святасці. Прасцей кажучы, такога ўчынку, які здзейсніў самаранін, які ачысціўся ад праказы: ён неадкладна забыў усё, «вярнуўся, голасна славячы Бога, і ўпаў ніц да ног [Хрыстовых], дзякуючы Яму» (Лк.17:15-16). Гэта пакаянны крык, гэтае жаданне неадкладна змяніцца.

Не той і хрысціянін, хто заклапочаны толькі шуканнем цудаў і здзяйсненнем жэстаў. Перахрысціцца – не значыць памаліцца, паставіць свечку перад іконай – не значыць аддаць сваё сэрца Хрысту.

Можна, вядома, паспрабаваць пражыць жыццё «ад гэтых да гэтых», дакладна адмяраючы і блізкім і далёкім меру свайго ўдзелу ў іх праблемах, можна і з Самім Богам свае адносіны пабудаваць такім чынам, як гэта сфармуляваў яшчэ адзін ахоўнік закона: «пашчу два разы на тыдзень, даю дзесятую частку з усяго, што набываю» (Лк.18:12). Можна паспрабаваць, аднак малаверагодна, што такая спроба будзе мець поспех. Наўрад ці у адказ на такі скрупулёзны падлік ўласнай дабрачыннасці рахункавод пачуе гэтак чаканы ўсімі намі адказ: «устань і ідзі, вера твая ўратавала цябе» (Лк.17:19). Вера ратуе, а не дакладны падлік уяўных вартасцяў!

Большая за закон, вышэйшая за закон – любоў. Гэта значыць, менавіта любоў, як гэта і было адзначана Хрыстом, з'яўляецца кан-

цэнтраваным выражэннем праўды закона.

Мы ведаем, што трэба рабіць, «каб унаследаваць жыццё вечнае» (Мк.10:17). Мы ведаем, што трэба пакінуць, каб асмеліцца ісці за Хрыстом. А сёння мы пазналі, што Гасподзь Міласэрны не толькі «справы прымае, але і намер вітае», таму што не паспелі яшчэ няшчасныя хворыя дайсці да тых, да каго іх накіраваў Хрыстос, як ачысціліся ад праказы! Аказваецца, дастаткова часам проста вырашыцца на нешта, проста адправіцца ў шлях, каб адразу, неадкладна дасягнуць мэты. Ці не ясна з гэтага, што наша непасляховасць у барацьбе з грахамі паходзіць ад адсутнасці рашучасці, ад гультаяватай марудлівасці, ад таго, што мы ўжо зжыліся, зрасліся з імі, а таму і не можам паверыць у цуд уласнага ацалення. З прычыны малой нашай ўласнай веры, магчыма, і здаецца нам, што Богу, з Яго сусветным маштабам, няма справы да маленькага, няшчаснага чалавека. Аказваецца, ёсць! Таму Бог і становіцца слабым дзіцяткам, таму Ён і памірае на Крыжы, таму і ацаляе зачумленных праказай, таму і стукаецца ў сэрца кожнага чалавека з надзеяй на веру ў адказ, любоў і падзяку.




Бог ацаляе нас ад граху. Бог не дае нам трапіць ў роспач, калі ўжо шмат гадоў мы не здольныя перамагчы уласныя заганы і страсці. Бог узнагароджвае нас дзіўнай здольнасцю не адмаўляцца ад намаганняў, ад барацьбы, ад надзеі ў сітуацыях, здавалася б, безнадзейных. Бог даў нам усім, хто тут стаіць, веру. Бог да гэтага часу не адняў яе ў нас, таму што Ён любіць і шкадуе нас, грэшных, і не жадае, каб мы страцілі надзею і загінулі. Бог стварыў Царкву і надзяліў Яе правам «вязаць і вызваляць» – гэта значыць, прабачаць і дараваць грахі, аднаўляць і ўздымаць чалавека, які ўпаў, зноў і зноў даваць яму шанс на вечнае жыццё.

Мы павінны набыць такую веру, якая ратуе, а не толькі дапамагае ў нашых зямных патрэбах. Калі мы людзі разважлівыя, калі мы сапраўдныя хрысціяне, то мы разумеем, што, уласна кажучы, толькі такая вера і патрэбна. Такая вера ратуе чалавека, якую ўбачыў Гасподзь Ісус Хрыстос у ацалёным ад праказы: веру, якая прыводзіць да Хрыста, прымушае ісці за Ім, каяцца і плакаць. Усё астатняе, нават і цуды, – гэты толькі сродак для дасягнення сардэчнай веры, веры вялікай, узнёслай і сапраўднай, якая ачышчае чалавека і напаўняе яго сэрца светам і вялікай падзякай Богу.

Удзячны Госпаду той, хто любіць Яго ўсім сэрцам, не падзяляе сэрца паміж светам і Богам. Удзячнасць – гэта светлая і радасная сіла ў рэлігійным пачуцці. У ёй адкрываецца бясконцая глыбіня чалавечага сэрца, гатовага спяваць, хваліць і дзякаваць Богу.

Калі б мы толькі паставілі сабе задачу, усё сваё зямное жыццё прысвяціць падрыхтоўцы да жыцця нябеснага, то кожнае імгненне зямнога жыцця стала б для нас крыніцай радасці і ўсхвалення Госпада, бо Айцец Нябесны дае нам яшчэ час для ўдасканалення і здабыцця вечнага збаўлення.

Любімай малітвай святога Іаана Златавуста былі словы: «Дзякуй Богу за ўсё!»

Ганарыстае сэрца не можа дзякаваць Бога, ганарыстае сэрца заўсёды ўзлаванае, яно заўсёды ў збянтэжанасці, яно заўсёды незадаволенае. Сэрца ганарлівага не ведае духоўнай радасці – найвышэйшага шчасця. Толькі змірэнным адкрываюцца таямніцы Божыі і таямніцы любові Божай, толькі змірэнны можа дзякаваць Богу за ўсё.

Мы ўсе грашым няўдзячнасцю, таму што надзвычай прывязаныя целам сваім, жаданнямі сваімі да зямлі. Як рэдка бывае, што мы ўсім сваім сэрцам і душой звяртаемся да Бога і менавіта Яму дзякуем за тое, што нам дадзена. Гэта вельмі важны момант, момант удзячнасці Богу, дзеля якога мы збіраемся ў храме. Богаслужэнне так і завецца: Еўхарыстыя – гэта значыць Падзяка. І сёння Царква гэтым чытаннем звяртае ўвагу на тое, што ўдзячнасць павінна зыходзіць з нашага сэрца, з нашай душы і нашага цела. Гэтая ўдзячнасць адносіцца непасрэдна да Бога, і адзіная магчы-

масць, калі мы можам гэта зрабіць, – Еўхарыстыя. Але гэта таксама і наша з вамі, чалавечая справа, таму што мы, па сваёй волі, па сваім шчырым жаданні, збіраемся разам, каб падзякаваць Богу за ўсе Яго дабрадзействы, за ўсе Яго ацаленні, за ўсё тое, што Ён дае нам у жыцці.

Дай Бог, браты і сёстры, каб усё наша жыццё было несупыннай падзякай Богу за Яго незлічоныя міласці да ўсіх нас. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 30-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ЯК ДАСЯГНУЦЬ ЖЫЦЦЯ ВЕЧНАГА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У простых, дзіцячых, Богу адданых сэрцах спачывае Гасподзь, а дзе няма гэтай дзіцячай прастаты, там і сэрца зачынена для Божай благадаці, нават калі чалавеку і здаецца, што ён сваімі добрымі справамі блізкі да Царства Нябеснага.

Такім быў і згаданы ў Евангеллі ад Лукі нейкі начальнік – багаты юнак, які спытаў Збавіцеля: «Настаўнік Добры! Што мне рабіць, каб унаследаваць жыццё вечнае?» (Лк.18:18).

Гэты князь, з пункту погляду грамадства, быў чалавекам паспяховым у гэтым жыцці, якому Бог нібыта падараваў асобыя прывілеі. У іудзейскім народзе прыналежнасць да высакароднага саслоўя прыраўноўвалася да нейкай абранасці, і гэты чалавек, такім чынам, займаў асаблівае становішча ў Старазапаветнай Царкве.

Гэты багаты юнак лічыў Хрыста адным з простых іудзейскіх настаўнікаў. Гасподзь і размаўляе з ім як чалавек. Ісус сказаў яму: чаму ты называеш Мяне добрым? Калі не шануеш Мяне як Месію, то навошта ліслівіш Мне гэтым найменнем? Яно належыць аднаму толькі Богу, бо ніхто не добры, як толькі адзін Бог. Калі ты прызнаеш Ісуса з Назарэта ўсяго толькі адным са шматлікіх настаўнікаў, тады блюзнерска аддаваць Яму, аднаму

з многіх, такія велічныя ўшанаванні і звяртацца да Яго так, як належыць звяртацца толькі да Бога.

Адхіліўшы такім чынам залішнюю і непрыстойную ліслівасць, якая прагучала ў пытанні юнака, Гасподзь дае і прамы адказ на яго пытанне: «Калі сапраўды жадаеш атрымаць у спадчыну вечнае жыццё на небе, то выканай запаведзі закона Божага, якія для таго і дадзеныя чалавеку, каб весці яго да вечнага жыцця». Юнак, відавочна, выказаў здагадку, што Гасподзь гаворыць пра нейкія асаблівыя, невядомыя яму запаведзі, а таму спытаў: «Якія?» Юнак чакае атрымаць ад новага вялікага і добрага Настаўніка звесткі аб якіх-небудзь новых запаведзях. Але Гасподзь звяртае яго ўвагу на добра вядомыя ўсім дзесяць запаведзяў, якія праз Маісея Бог даў людзям.

Прачытаны сёння ўрывак з Евангелля набывае асаблівую выразнасць, калі ўспомніць, што гутарка паміж законнікам, або юнаком, які пытаўся аб вечным жыцці, і Хрыстом адбылася адразу пасля таго, як Хрыстос сказаў, хто менавіта ўвойдзе ў Царства Нябеснае, хто ўнаследуе жыццё вечнае.

Толькі што падыходзілі да Хрыста дзеці, тоўпячыся вакол Яго, і вучні іх адганялі, а Хрыстос, звяртаючыся да вучняў, сказаў: «Не перашкаджайце ім падыходзіць да Мяне, таму што такіх ёсць Царства Нябеснае, і калі не станеце як дзеці, не ўвойдзеце ў яго... «

Але ўсё, што Збавіцель гаварыў, гаварыў для натоўпу, а для абраных павінен быць і асобны шлях у Царства Божае. «Што мне рабіць?»

Юнак саграшыў ужо тым, што задаў такое пытанне. Ён захацеў пачуць пахвалу і што-небудзь асобае для сябе...

Чакаць кампліментаў у Адкупіцеля нашых грахоў і Збавіцеля чалавецтва, выкарыстоўваць магчымасць размаўляць з Усемагутным для таго, каб пахваліцца, што ўсе запаведзі Закона Божага «захаваў я з юнацтва майго», можа толькі ганарлівец і хвалько, які канчаткова страціў розум і сорам! Ён у палоне сваіх уяўных вартасцяў, матэрыяльных і духоўных. Ён і перад Хрыстом стаіць, як акцёр перад люстэркам, і таму ўсе гэтыя яго пытанні – «што мне рабіць, каб унаследаваць жыццё вечнае?» – на самой справе аказваюцца проста нявартым і жаласным какецтвам.

Евангельскі юнак быў багаты сваёй праведнасцю, і гэтая пра-

веднасць стала сцяной паміж ім і Богам. Наша ўласнае высокае меркаванне аб саміх сабе Царква заве ганарыстасцю. Гэта тое самае пачуццё, якое падахвочвае юнака з сённяшняга евангельскага чытання, ні на хвіліну не задумаўшыся, заявіць, што ён з маладых гадоў выканаў усе запаведзі Закона Божага. Гэта тое самае пачуццё, якое прымушае чалавека палаць нянавісцю нават да святара, калі ён паспрабуе выкрыць яго ў якім-небудзь граху, у прыхільнасці да якой-небудзь грахоўнай страсці. Добра, калі кожны з нас, як і выкрыты Хрыстом юнак, усяго толькі «адышоў са смуткам». У гэтым смутку бачыцца хоць нейкае змірэнне, хоць нейкае пачатковае пачуццё пакаяння. Большасць жа людзей пасля заўваг адносна іх уласных грахоў адчуваюць не ціхі смутак, а пякучую злосць, ды не на ўласную недасканаласць, а на таго, хто гэтую недасканаласць выкрыў. Вельмі часта мы маскіруем нашы слабасці і страсці, спрабуем апраўдаць іх акалічнасцямі жыцця, дрэннай спадчыннасцю, спакусамі злых духаў, нарэшце. Заўсёды хочацца выглядаць праведнікам, заўсёды хочацца думаць аб сабе добра, зацвердзіцца ва ўласнай грахоўнай правасці.

Таму і шукаем мы асобых «старцаў», якія змаглі б адпаведна ацаніць нас, а мы за гэта ў сваю чаргу назавем іх «празорлівымі», «святымі», «добрымі». Нам мала Евангелля, вучэння Царквы. Для абраных павінен быць і асобны шлях у Царства Божае. Нам патрэбна асаблівае, містычнае адкрыццё «празорцы духоўніка». Бо мы «сапраўдныя вернікі», « сапраўдныя праваслаўныя» і « сапраўдныя дзеці сапраўднай Царквы». А усе вакол нас – гэта натоўп, які нічога не разумее, а, самае галоўнае, нам не падпарадкоўваецца.

Як вядома, самы лепшы спосаб абароны – нападзенне. Вось тыя, каго Царква самім фактам свайго існавання выкрывае ў граху ганарыстасці, і гатовыя, абараняючыся з усіх сіл ад папрокаў уласнага сумлення, шукаць грэшнікаў вакол сябе, у блізкіх і далёкіх краінах, але толькі не ў саміх сабе.

Протаіерэй Аляксандр Ельчанінаў напісаў неяк аб людзях, падобных да гэтага начальніка іудзейскага: «Ёсць рэлігійнасць, цесна зблытаная з эмоцыямі эстэтычнымі, сентыментальнымі,

гарачымі, якія лёгка ўжываюцца з эгаізмам, ганарыстасцю, пачуццёвасцю. Людзі гэтага тыпу шукаюць пахвалы і добрага меркавання аб іх духоўніка, споведзь іх вельмі цяжкая, бо яны прыходзяць на споведзь, каб паскардзіцца на іншых, паплакаць, яны поўныя сабою, лёгка абвінавачваюць іншых. Недабраякаснасць іх рэлігійнай экзальтацыі лепш за ўсё даказваецца лёгкім пераходам да раздражняльнасці і злосці. Людзі гэтага тыпу далей ад магчымасці сапраўднага шчырага пакаяння, чым самыя закаранелыя грэшнікі». Да гэтых слоў айца Аляксандра дадаць няма чаго.

Разважаючы над сённяшнім евангельскім чытаннем, паспрабуем зразумець, што для нас самае важнае: наша самазадавальненне, самасвятасць, хараство, пахвала, якую мы так старанна шукаем заўсёды, або вечная асалода з Хрыстом у жыцці будучага веку? Няхай Гасподзь падасць нам стаяць у веры і, галоўнае, ісці за Ім, і тады Ён Сам нас пазбавіць ад граху і ад усяго злога вядомымі Яму спосабамі. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 31-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ВЯРТАННЕ ЗРОКУ СЛЯПОМУ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння апостал Павел здзівіў чытачоў яго паслання да Цімафея сваімі рэзкімі і рашучымі словамі, што ён, першавярхоўны апостал Царквы Хрыстовай, на самой справе не першы з апосталаў, а першы з грэшнікаў! Мы чуем словы такога самаасуджэння з вуснаў апостола Хрыста. І якога апостола! Таго, які гаварыў аб самім сабе: ”Подзвігам добрым я змагаўся, шлях закончыў, веру захаваў; а цяпер рыхтуецца мне вянок праўды, які дасць мне Гасподзь» (2Цім.4:7,8). Вось так: з аднога боку – першы з грэшнікаў, а з другога – святы, годны «вянка праўды»!

Хто з нас можа ацэньваць сябе самога такім чынам? Звычай-

на человек, калі ўжо ён лічыць сябе грэшнікам, ні пра які «вянок праўды» і не ўзгадвае. Хутчэй, яму ўласціва думаць аб сабе як аб істоце зусім прапашчай, якой няма чаго і спадзявацца на спачуванне. І такі настрой спрыяе таму, што кожны, хто выразна ўсведамляе сваю недасканаласць, трапляе ў стан глыбокага і глухога засмучэння, які сам па сабе з'яўляецца грахоўным і толькі ўскладняе становішча грэшніка, пазбаўляючы яго надзеі на збаўленне, кідаючы яго ў бездань адчаю, з якой сапраўды няма выйсця. Пра які ўжо тут душэўны спакой можна гаварыць?

Спакой пры разуменні сваёй недасканаласці уласцівы, хутчэй, таму, у каго сумленне памерла, каго ніякім уласным падзеннем ні здзівіць, ні ўразіць нельга. Але такому чалавеку наўрад ці прыйдзе думка каяцца, спрабаваць змяняцца, змагацца са сваімі грахамі. Ён цалкам сабой задаволены і смуткуе, мабыць, толькі аб тым, што не ўсё яшчэ цалкам ацанілі яго высокія вартасці.

Апостал Павел злучае на першы погляд неспалучальныя рэчы: глыбокую і безумоўную скруху па сваіх грахах і такую ж глыбокую і безумоўную веру ў сваё выратаванне, у «вянок праўды", які дасць яму Гасподзь. Ён здолеў ажыццявіць тое, пра што іншы святы праваслаўнай Царквы, прападобны Сілуан Афонскі, сказаў амаль праз дзве тысячы гадоў: «Трымай розум свой у пекле і не адчайвайся». Гэта значыць, ведай усю жудасную праўду аб сваім грахоўным адпадзенні ад Бога і ў той жа час будзь упэўнены ў тым, што збаўленне тваё здзейсніцца.

Праўда, апосталу Паўлу, для таго, каб вачымі чыстай душы «убачыць Бога» (Мф.5:8), прыйшлося на час аслепнуць, перестаць бачыць свет, якому ён спачатку верыў, каб убачыць Бога, супраць Якога ён перш паўставаў. Але прыйшоў час, «і адразу нібы луска адпала з вачэй яго, і раптам ён зноў пачаў бачыць» (Дзеян.9:18)! Толькі той, хо пачаў бачыць вераю, можа, падобна да апостала язычнікаў, ведаць страшную праўду пра тое, што ён, як нейкі кат, « нявартa называцца апосталам, бо гнаў царкву Божую» (1Кар.15:9), бо толькі відушчы верай можа бачыць свае грахі ва ўсёй іх паўнаце і агіднасці. Толькі духоўна відушчы можа не ўпасці пры гэтым у адчай, таму што за першай праўдай аб уласным граху яму бачыцца другая праўда – праўда аб міласэрнасці Божай.

Сёння Святая Царква прапанавала нашай увазе і евангельскі ўрывак, які апавядае, як некалі Гасподзь і Збавіцель наш Ісус Хрыстос, набліжаючыся да Іерыхону, здзейсніў цуд вяртання зроку сляпому чалавека (Лк.18:35-43).

Усе, хто ўважліва чытаюць Евангелле, ведаюць, што ўсе цуды Хрыста мелі пэўную мэту. Гасподзь наш Ісус Хрыстос Сваімі цудах паказваў Сваю любоў да людзей, Свой жаль да пакутуючых і няшчасным, заўсёды імкнуўся палегчыць іх цяжкае становішча. Здзіўляе глыбокае адрозненне паміж Хрыстовымі цудамі і тымі, якія здзяйсняюцца сёння. Як мала ў іх агульнага, як шмат ненатуральнага і штучнага ў сучасных цудах. Якія дзіўныя яны, якія яны не патрэбныя, якія бескарысныя яны для людзей!

У евангельскім сюжэце мы бачым не толькі цуд ацалення, але і вельмі карысны і павучальны для нас урок – узор глыбокай і гарачай веры ў Хрыста, якая была ў гэтага сляпога. Сапраўды, у сэрцы гэтага человека была жывая, вогненная вера ў Хрыста. Вера выратавала гэтага человека ад слепаты не толькі цялеснай, але і духоўнай, зрабіла яго веруючым у Сына Божага – Госпада Ісуса Хрыста.

Гэты прыклад вучыць нас не толькі таму, што ў нашым жыцці павінна быць вера і яе вызнаванне, але і яшчэ аднаму важнаму моманту. А вучыць ён нас малітве.

Малітва – цяжкая праца, якая патрабуе сур'ёзных высілкаў і душы, і цела.

Нашая паўсядзённая малітва халодная, кволая і зблытаная толькі таму, што мы молімся аб нечым знешнім, аб нечым цалкам адцягненым ў дачыненні да нашага сёняшняга жыцця. Царства Нябеснае ў нейкай далёкай перспектыве, а клопаты сённяшняга дня – яны заўсёды тут як тут. Магчыма, гэта адбываецца ад таго, што мы даўно згадзіліся з уласнай духоўнай слепатой і «клапоцімся і турбуемся пра многае» (Лк.10:41) замест таго, каб знайсці самае галоўнае, самае істотнае, самае неабходнае нашай бессмяротнай душы і прасіць гэта ўсімі сваімі сіламі.

Нам перашкаджае наблізіцца да Бога духоўная слепата, і бяда ў тым, што мы не адчуваем яе: нам здаецца, што мы добра бачым і ўсё ў нас у парадку.

Калі б мы мелі мужнасць і адважыліся ўзяць за ўзор сваіх паводзін жыццё сапраўдных хрысціянаў, то ўбачылі б, што мы сапраўды сляпыя, таму што духоўны свет ад нас зачынены. У свеце матэрыяльным мы арыентуемся лёгка і свабодна, а ў прасторы духоўнай зусім не арыентуемся, рухаемся наўздагад, спатыкаемся, падаем і цалкам не ведаем не толькі шлях, па якому нам неабходна ісці, але і мэты свайго жыцця. Пакуль мы пагружаныя ў змрок няведання, мы наракаем, смуткуем, у лепшым выпадку прыносім пакаянне ў сваіх грахах, але нагоды для ўдзячнага праслаўлення Бога ў нас няма, як няма і ўсведамлення сваёй убогасці, аддаленасці ад Бога, змрочнасці нашай душы.

Павучанне ап. Паўла і цуд ацалення іерыхонскага сляпога, апісаны ў сённяшнім евангельскім чытанні, павінны быць для нас не толькі прыкладам дабрыні, усемагутнасці і міласэрнасці Божай, але і разумных, сапраўды хрысціянскіх паводзін, якія кожнага з нас могуць прывесці да сапраўднай веры.

Праз пакаянне, праз плач малітоўны, праз размову з Госпадам і прасвятленне душэўнае мы становімся вартымі дабрыні і дапамогі Божай, так што ўжо з ацалёнными ад слепаты вачамі можам ісці ўслед за Ім і шчыра, ад усёй душы праслаўляць Яго. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 32-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА ЗАКХЕЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Зусім мала часу застаецца да пачатку вельмі важнага перыяду ў жыцці кожнага веруючага праваслаўнага хрысціяніна – святога Вялікага посту. Каб гэта час для ўсіх нас быў спрыяльным і збавіцельным, Святая Царква пачынае нас загадзя рыхтаваць да яго.

Сёння за літургіяй мы чулі апавяданне апостола і евангеліста Лукі, які расказвае нам пра тое, як некалі Гасподзь і Збавіцель наш

Ісус Хрыстос праходзіў праз Ерыхон (Лк. 19: 1-10). І цяпер гэты горад знаходзіцца недалёка ад Іерусаліма і ад Іарданскай пустыні, ад таго месца, дзе, згодна з паданнем, адбылося хрышчэнне Самога Госпада. У Іерыхоне жыў Закхей. Нам мала вядома пра гэтага чалавека, але тое, што вядома, дае нам магчымасць уявіць яго вобраз. Гэты чалавек, верагодна, быў багаты, таму што з'яўляўся начальнікам зборшчыкаў падаткаў. Па сёняшняй тэрміналогіі ён быў начальнікам падатковай паліцыі. Іерыхон славіўся вытворчасцю і гандлем бальзаму, і пасада зборшчыка падаткаў тут асабліва была важнай і разам з тым выгаднай і прыбытковай. Гэтак жа мы ведаем, што падаткі збіраліся не на карысць Іудзейскай дзяржавы, а на карысць прыгнятальнікаў – на карысць Рыма. І таму да тых, хто збіраў гэтыя падаткі, просты народ ставіўся з пагардай і ненавідзеў іх. Ды і мытнікі часта злоўжывалі сваім становішчам і бралі часам больш, чым належала, і гэта таксама выклікала ў дачыненні да іх і раздражненне, і гнеў.

Гэты чалавек, верагодна, быў не малады і быў вельмі маленькага росту. Звернем нашу ўвагу на тое, як перакладаецца імя Закхей. Яно азначае «праведнасць" або "справядлівасць». Як недарэчна гучала гэта імя, калі ў яго жыцці не было справядлівых учынкаў. Верагодна, ён чуў пра Хрыста Збавіцеля. Цяжка сказаць, ці верыў ён у Яго як у Месію; хутчэй ён верыў у Яго як у вялікага прарока і цудатворцу, які здзяйсняў не толькі цуды ацалення, але нават уваскрашаў памерлых. І, калі Закхей пачуў пра тое, што Хрыстос ідзе па вуліцах Іерыхона, у яго нарадзілася вялікае жаданне ўбачыць Хрыста, не гледзячы на тое, што вакол Яго заўсёды быў шумны людскі натоўп. І што ж робіць Закхей, каб выканаць сваё жаданне? Ён забягае наперад натоўпу і, убачыўшы квітнеючую смакоўніцу, залазіць на яе, каб з вышыні гэтага дрэва ўбачыць Ісуса, Які будзе праходзіць побач з ім. Мусіць, смешнае было відовішча: дарослы чалавек, які займае высокае становішча ў грамадстве, як дзіця, лезе на дрэва. Але Закхей, не звяртаючы ўвагу на тое, што падумаюць пра яго людзі, робіць гэты, здавалася б, неразважлівы ўчынак. Заўважым, што гэта адбываецца на вачах у падначаленых і тых, хто ставіцца да яго варожа і чакае выпадку, каб пасмяяцца

з яго і асудзіць. Ён залез на дрэва толькі дзеля таго, каб убачыць Збавіцеля, больш ён ні на што не спадзяваўся.

І калі Хрыстос падышоў да дрэва, на якім знаходзіўся Закхей, Ён падняў свой погляд і сказаў: «Закхей! Злазь з дрэва, сёння мне належыць быць у цябе». Відавочна, ведаючы той добры стан душы Закхея, з якім ён жадаў бачыць Госпада, ведаючы, што гэта была не пустая толькі цікаўнасць, Гасподзь наведвае дом Закхея. Мы можам толькі выказаць здагадку, з якой радасцю Закхей злез з дрэва і пабег дадому, каб прыгатавацца да гэтай сустрэчы. Ён толькі жадаў убачыць Хрыста, а Той абяцаў прыйсці да яго. Праўда, Хрыста за гэты ўчынак асудзіў натоўп. Пачуліся нараканні: як жа так, чаму гэты праведнік ідзе ў дом да грэшніка? Але што адбываецца з Закхеем далей? Вялікая радасць з нагоды таго, што Гасподзь не пагрэбаваў ім, як грэшнікам, канчаткова абудзіла сумленне Закхея і здзейсніла поўную змену яго душы. Усведамляючы, што сумленне яго нячыстае ў спосабах набыцця маёнтка, ён дае так, каб чулі ўсе, урачыстае абяцанне выправіць свае грахі: «Госпадзі, калі я каго пакрыўдзіў, то вярну ў чатыры разы, і палову таго, што маю, я гатовы раздаць жабракам». Бо Закон прымушаў таго, хто ўкраў, заплаціць у чатыры разы (Зых. 22: 1). І Хрыстос прамаўляе вельмі важныя словы не толькі для Закхея, але і для ўсіх нас. Ён гаворыць пра тое, што, сапраўды, гэта сын Аўраама, бо здзейснілася яго збаўленне. Пакаянне Закхея гэта ўзор сапраўднага пакаяння, якое не абмяжоўваецца толькі бясплённым шкадаваннем аб здзейсненых грахах, а імкнецца выправіць гэтыя грахі процілеглымі ім добрымі справамі.

Гасподзь узіраецца не на асобы, не на становішча чалавека ў грамадстве, не на тое, як ставяцца да яго іншыя, а на яго сэрца. Бывае так, што сэрца грэшнага чалавека бліжэй да Бога, чым сэрца таго, які лічыць сябе праведнікам, таму што ў сэрцы гэтага грэшніка ёсць жыццё, а сэрца чалавека, знешне праведнага, але на самой справе аслепленага і прыгнечанага гонарам, бывае быццам мёртвае або каменнае. Такі чалавек знешне ніяк не здаецца грэшным, утрымліваецца ад цяжкіх грахоў, але не таму, што ён сапраўды праведнік і любіць Бога, а таму, што яму ўсё абыякава

і дэманы яго не спакушаюць, бо ён не вядзе барацьбы. Апантаны адной з самых страшных заганаў – сардэчным скамяненнем – ён знаходзіцца ў спакоі і лічыць, што перамог усе страсці, часам нават людзі, якія знаходзяцца вакол яго, думаюць пра яго гэтак жа. І, наадварот, ёсць людзі грэшныя, якія палі і застаюцца ў гэтым стане падзення, але ў іх ёсць жыццё. Такі чалавек можа ўстаць, ачысціцца і ўзвысіцца да надзвычайнага духоўнага стану, часам такога, што нават і ўявіць сабе нельга. Мы ведаем шмат падобных прыкладаў з царкоўнай гісторыі, і, у прыватнасці, прыклад Закхея – чалавека грэшнага, але з жывым сэрцам.

Царква, прапаноўваючы нам гэта евангельскае апавяданне як прыклад сапраўднага, шчырага і жывога пакаяння, гаворыць: якімі б мы ні былі – заняпалымі, страчанымі, здзейсніўшымі страшныя грахі (а грахі вымагання і здрады лічацца самымі страшными, агіднымі і ганебнымі грахамі), – але нават і ў такім стане не трэба адчайвацца. Трэба толькі прыкласці пэўныя намаганні – узвысіцца, падобна да Закхея, які залез на смакоўніцу, над тыповымі ўяўленнямі пра дабро і зло, узвысіўшыся над сабой, – і тады Гасподзь увойдзе ў дом нашай душы і наша пакаянне ў час Вялікага посту прынясе плён.

Такі ўрок дае нам евангельскі Закхей. Так, ён грэшны чалавек, але ён сустрэўся з Хрыстом і перамяніўся, стаў зусім іншым. Вось такімі ж іншымі павінны стаць і мы. І гэта перараджэнне павінна адбывацца ў таінстве споведзі. Прыпомнім, што грэчаскае слова «метанойя» перакладаецца на нашу мову як «змяненне розуму», г.зн. перамяненне чалавека. Кожны з нас павінен змяніцца, перарадзіцца на працягу свайго жыцця. Чатыры тыдні яшчэ аддзяляюць нас ад Вялікага посту, але Царква ўжо сёння гаворыць нам пра пакаянне. Кожны з нас павінен адарвацца хаця б на вышыню невялікай смакоўніцы ад гэтай зямлі. Закхей, адарваўшыся ад зямлі, набыў Неба: Гасподзь Сам прыйшоў да яго.

Таму, хто сядзеў «у краіне ценю смяротнага», Закхею, «заззяла святло» (Мф.4:16). Так ён, каго ненавідзелі суайчыннікі, прынёс «годны плод пакаяння» (Мф.3:8), пра які гаварыў Прадцеча тым, якія прыходзілі да яго на Іардан прымаць воднае хрышчэнне. І калі мы, дзеці

Царквы Хрыстовай, пры падвядзенні вынікаў свайго жыцця сапраўды жадаем пачуць ад Суддзі ўсіх суцяшальныя словы: «сёння настала збаўленне дому гэтаму» (Лк.19:9), нам ужо зараз, пакуль жыццё наша яшчэ не скончылася, неабходна першым чынам, забыўшыся пра гардыню, забыўшыся пра так званае пачуццё ўласнай вартасці, параўнацца іерыхонскаму мытніку Закхею і, гэтак жа, як ён, прагнуць «адзінага на патрэбу» – бачыць Ісуса!

І калі мы жадаем, каб Гасподзь прыйшоў да нас, у наш дом, які завецца сэрцам, то мы павінны хаця б ледзь-ледзь адарвацца ад зямлі з усімі яе грахамі. Дай Бог, каб усе мы з вамі, памятаючы пра сваё высокае прызначэнне, годна пранеслі высокае званне сыноў і дачок нашага Бога. Дай Бог, каб у сэрцы кожнага з нас, як і ў сэрцы Закхея, нарадзілася шчырае жаданне бачыць заўсёды свайго Госпада. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 33-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА МЫТАРА І ФАРЫСЕЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Не паспелі скончыццаияткі – святочныя дні пасля Нараджэння Хрыстова, як ужо набліжаецца час Вялікага посту. І гэта выдатны час, час, які мы ўсе любім і чакаем – час пакаяння, калі ў храмах пачынаюць спяваць гэты дзівосны малітоўны гімн “Пакаяння дзверы адчыні мне, Жыццядацелю”. Адчыні, таму што цяжка нам бывае каяцца, усведамляць, адчуваць сябе нявартымі міласці Божай, слабымі духоўна, убогімі духам.

І таму Царква зноў разгортвае перад намі каштоўную старонку Евангелля, у якім апавядаецца пра тое, як “два чалавекі ўвайшлі ў храм памаліцца”. Ні адзін чалавек не можа выканаць усё і сваімі сіламі стаць цалкам чыстым ад якога-небудзь граху. І яшчэ адно: чалавек, які выконвае запаведзі Божыя знешне, а ў сэрцы захоўвае

гардыню, асуджэнне іншых і злосць, усё роўна знаходзіцца далёка ад Бога. Трэба імкнуцца, старацца, прыкладаць усе намаганні, кожны дзень і кожную гадзіна змагацца з сабою, са сваімі грахамі, падать, уставаць, зноў падаць, зноў уставаць, дасягаць чагосьці, але памятаць, што заўтра мы можам гэта страціць, і зноў трэба будзе змагацца, але не забываць: калі разважаць па справядлівасці, мы ўсё роўна нявартыя міласці Божай, а прымае нас Гасподзь па адзінай Сваёй міласэрнасці. І таму ніякай гардыні, ніякай задаволенасці сабою ў нас не павінна быць. Той, хто спыніўся, – ужо не можа ісці да Бога. Заўсёды адчуваць, што мы ад Яго далёкія, заўсёды прагнуць наблізіцца да Яго, каб любоў да Госпада рухала намі, каб мы імкнуліся, нават калі мы страцілі ўсе сілы і зваліліся, – усё роўна ісці да Яго. Патрэбны і справы, і намаганні ў барацьбе з грахом, але ніколі не трэба думаць, што толькі сваімі ўласнымі сіламі мы сябе ўдасканалім. Благадаць Божая, якая мілуе і выратоўвае нас, даруе нам усе нашы саграшэнні, – вось наша надзея; не на сябе мы спадзяемся, а на Яго; працуем, але ведаем, што ў выніку ўсё залежыць менавіта ад Яго. І таму прыходзім да змірэння, якое не асуджае, змірэння, якое жыве ў нашым сэрцы, нараджаючы прастату, сціпласць і цвярозае бачанне сябе ў ясным свеце.

Калі і ёсць маральная якасць, на якую цяпер зусім не звяртаюць увагі і нават адмаўляюць яе, то гэта менавіта змірэнне. Сучасная культура і цывілізацыя абуджаюць у нас пачуццё гардыні, задаволенасці сабою, апраўдання сябе ў любым выпадку. Яны пабудаваны на тым разуменні, што чалавек можа дасягнуць усяго сам, і нават уяўляюць Бога як Таго, Хто узнагароджвае, як бы плаціць чалавеку за яго дасягненні і добрыя справы. Змірэнне ж як якасць – асабістае або агульнае, этнічнае або нацыянальнае – лічыцца праявай слабасці, якой не павінна быць у сучаснага чалавека.

Сучаснаму чалавеку, выхаванаму на самаўпэўненасці, бязмежным самаўхваленні, амаль немагчыма растлумачыць, што тое, што сапраўды з'яўляецца дасканалым і добрым, у той жа час, і гэта натуральна, змірэнна, таму што менавіта дзякуючы сваёй дасканаласці яно не мае патрэбы ў галоснасці, знешняй славе, якой-небудзь прапагандзе і рэкламе. Бог змірэнны таму, што Ён дасканалы; Яго

змірэнне і ёсць Яго слава і крыніца ўсяго сапраўды прыгожага і дасканалага, выток дабрыні і дасканаласці, і кожны, хто набліжаецца да Бога і пазнае Яго, таксама набліжаецца да Божага змірэння і яго прыгажосці. Менавіта дзякуючы свайму змірэнню Дзева Марыя, Маці Божая, зрабілася радасцю ўсяго свету, найвялікшым узорам прыгажосці на зямлі; тое ж можна сказаць і пра ўсіх святых і пра кожнага чалавека ў рэдкія хвіліны яго набліжанасці да Бога. Змірэнню вучышся, маючы перад вачыма вобраз Хрыста, Які сказаў: «Навучыцеся ад Мяне, бо Я лагодны і пакорлівы сэрцам» (Матф. 11:29). У рэшце рэшт змірэнню вучышся, параўноўваючы кожнае сваё слова, кожны ўчынак, усё сваё жыццё з Хрыстом. Таму што без Яго сапраўднага змірэння не бывае. Падрыхтоўка да Вялікага посту пачынаецца прашэннем, малітвай аб атрыманні змірэння, бо яно – гэта пачатак сапраўднага пакаяння. Змірэнне – перш за ўсё і больш за ўсё аднаўленне, зварот да таго парадку спраў і рэчаў, якія павінны быць на самой справе, да правільнага разумення жыцця.



Выдатна гаворыць прападобны Ісаак Сірын: «Пачатак нашага выратавання ў тым, каб чалавек шчыра лічыў сябе грэшнікам». Уважлівы чалавек бачыць у сабе цемру грахоў, якія зліваюцца ў адну суцэльную грахоўнасць. Усведамленне сваёй грахоўнасці перашкаджае бачыць яму яго дабрадзейнасці і добрыя справы, якія здзяйсняе кожны чалавек. Человек, які знаходзіцца ў нязменнай барацьбе з сабой, у нязменным пакаянні (што адно і тое ж: пакаянне – гэта не толькі плач аб грахах, але і барацьба з грахом), сапраўды не можа падумаць аб сабе нічога добрага. Сэнс гэтай прытчы у тым, што пакаянне – адна з найвышэйшых дабрадзейнасцей. Той, хто чыніць дабрадзейнасці, хто прымушае сябе з

усіх сілаў да здзяйснення евангельскіх запаведзяў, менавіта той набывае разам з гэтым і пакаянне, і змірэнне. Вялікі падзвіжнік нашага часу, прападобны старац Сілуан Афонскі, на ўласным вопыце спазнаўшы ўсю барацьбу за выратаванне душы, гаварыў так: «Нашая змаганне з дыявалам бывае да таго часу, пакуль мы не змірымся». Старажытны настаўнік набожнасці, прападобны Іаан Лесвічнік сказаў: «Змірэнне – гэта знішчальны сродак супраць усіх страсцей». Прападобны Сімеон Новы Багаслоў адзначае: «Дакладнае выкананне запаведзяў Хрыстовых паказвае чалавеку яго немачы».

Але не трэба думаць, што яно, змірэнне, набываецца аднымі толькі намаганнямі волі або жаданнем валодаць ім, – сапраўднае змірэнне даецца як узнагарода за дабрадзейнасці. Калі мы, выканаўшы ўсё знешняе, ідзем далей, змагаемся са сваімі ўнутранымі заганамі, вядзем барацьбу ўсярэдзіне сябе – тады мы ўсё больш і больш зміраемся, і малітва «Божа, будзь міласцівы да мяне грэшнага» становіцца сціслым славесным адлюстраваннем (выражэннем) нашага душэўнага стану. Мы ад усёй душы, шчыра лічым сябе грэшнікамі і разумеем, што немагчыма выратавацца ўласнымі сіламі, уласнай дабрадзейнасцю. Мы разумеем, што толькі Бог можа нас памілаваць. Тады і малітва нашая стане ўважлівай, шчырай, мы ўсвядомім, што Бог – гэта наш Айцец, Які заўсёды мілуе нас – непаслухмяных сыноў Сваіх.

Хрысціянства – рэлігія збаўлення, выратавання – гэта значыць, не проста «паляпшэння» жыцця, дапамогі ў жыццёвых клопатах, раскрыцця нормаў і прынцыпаў паводзін, а менавіта збаўлення. Мы перасталі адчуваць сябе істотамі, якія сапраўды гінуць, істотамі, чыё жыццё няўмольна імкнецца да бессэнсоўнага распаду, чыё жыццё паглынаецца злом, пустэчай, жахам смерці, жывёльнай барацьбой за існаванне, страшэннай прагай улады, вайной усіх супраць усіх, маной, што атручвае самыя вытокі жыцця, шэрасцю, асуджанасцю на смерць. У свеце пануе і ўсім кіруе згубу.

Неабходна выратаванне самога жыцця, якое так безнадзейна адарвалася ад уласнага свайго зместу, ад Бога, ад Святла, ад Ісціны, ад Вечнасці.

Такім чынам, калі мы жадаем выразіць сутнасць хрысціянства не проста адным словам – Хрыстос, то скажам так: яно складаецца з Крыжа Хрыста і Яго Уваскрасення, праз якія чалавецтва нарэшце атрымала магчымасць новага нараджэння, магчымасць адраджэння, аднаўлення таго занядбалага намі вобразу Божага, носьбітамі якога мы з'яўляемся. Паколькі ў выніку грэхападзення мы не здольныя да адзінства з Богам, бо нішто пашкоджанае грахом не можа быць далучана да Бога, то для адзінства з Богам неабходна адпаведнае аднаўленне людской прыроды і чалавечай сутнасці. Хрыстос аднавіў яе ў Самім Сабе і даў магчымасць зрабіць падобнае кожнаму з людзей.

Свяціцель Ігнацій піша: «Пачатак звароту да Хрыста складаецца ва ўсведамленні сваёй грахоўнасці, свайго падзення; ад такога погляду на сябе человек адчувае патрэбу ў Збавіцелі і падступае да Хрыста праз змірэнне, веру і пакаянне». «Той, хто не ўсведамляе сваёй грахоўнасці, свайго падзення, сваёй пагібелі, не можа прыняць Хрыста, не можа паверыць у Хрыста, не можа быць хрысціянінам. Да і навошта Хрыстос таму, хто сам і разумны, і дабрадзейны, хто задаволены сабой, хто лічыць сябе вартым усіх узнагарод зямных і нябесных?»

Усіх кліча Гасподзь, і пакаянне – гэта воля Божыя аб жыцці кожнага чалавека: воля, якая любіць чалавека і нясе яму вялікія дары. Пакаянне – гэта воля людская, якая ведае грэх, баіцца граху і баіцца Бога; якая ведае страх Божы і шукае вяртання да Госпада.

Сустрэча волі Божай і волі людской ёсць пакаянне. Гэта сустрэча, якая адчыняе дзверы ў Царства Божае. Пакаяння дзверы і дзверы Царства Божага – гэта адныя і тыя ж дзверы. Пакаянне – гэта не проста скрушанасць па нашых грахах, поўнае слёз і смутку. Сапраўднае пакаянне – гэта тое, што робіць чалавека здольным прыняць міласэрнасць Божую, Яго незвычайную любоў. Гэта тое, што ахоплівае розум, сэрца і волю человека падзякай да Бога, скрушанасцю сэрца, глыбокім смуткам аб сваіх грехах, здзіўленнем перад тым, што робіць Гасподзь з чалавечым жыццём.

Няхай дасць нам Гасподзь зразумець, што пакаянне – гэта не тое, што мае дачыненне да якога-небудзь асобнага граху, гэта

не тое, што мае дачыненне да пэўнага перыяду нашага жыцця, а тое, што мае адносіны да ўсяго жыцця нашага ўвогуле. Гэта тое, што вызначае ўвесь шлях нашага жыцця, жыцця з Богам. Гэта тое, што мае дачыненне да таямніцы Крыжа і Уваскрасення і гэтаю таямніцай вымяраецца. Таму і гучыць «Пакаяння адчыні мне дзверы...» пасля таго, як мы праспяваем: «Уваскрасенне Хрыстова бачыўшы...». Гэта тое, што мае адносіны да таямніцы Сына Божага, Які стаў чалавекам і Які зрабіў нас здольнымі праз пакаянне быць далучанымі да Бога. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 34-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА БЛУДНАГА СЫНА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У трэцюю падрыхтоўчую да Вялікага посту нядзелю мы слухаем чытанне евангельскай прытчы пра блуднага сына (Лк.15: 11-32). У прытчы і сціхірах гэтага дня гаворыцца пра пакаянне чалавека, які вяртаецца з самавольнага выгнання. Нам апавядаецца пра блуднага чалавека (таго, хто маральна заблудзіў), які адышоў у «далёкую краіну» і там растраціў і згубіў усё, што ён меў.

Адзін святы айцец гаворыць, што пачатак нашага выратавання ёсць пазнанне самога сябе. Але ж пазнанне самога сябе – гэта справа ўсяго жыцця, гэта тое, да чаго чалавек імкнецца на працягу ўсяго свайго існавання. Святыя айцы, растлумачваючы сэнс гэтага выказвання, гавораць, што да той пары, пакуль ты не ўсвядоміў, хто ты, пакуль ты сам у сабе не ўбачыў вобраз Божы, пакуль ты, жывучы сярод зямных грамадзян, не зразумеў, што ты грамадзянін неба, пакуль ты, жывучы сярод гразі сваёй уласнай душы, не адчуў

у сабе вобраз Божы – да той пары ты не стаў на шлях выратавання. Яно пачынаецца з таго моманту, калі ты спазнаў сваю боскую прыроду.

Далёкая старана! Гэта адзінае азначэнне стану чалавека, якое мы павінны прыняць і засвоіць, калі мы набліжаемся да Бога. Чалавек, які ніколі не адчуваў, што ён аддалены ад Бога, ад сапраўднага жыцця, ніколі не зразумее, пра што гаворыць хрысціянская вера. І той, хто адчувае сябе ў гэтым свеце, як у роднай хаце, хто ніколі не зведаў тугі па іншай Праўдзе, ніколі не зразумее, што такое раскаянне.

Мы павінны адчуць у сабе вобраз Божы, рэшткі Боскай прыгажосці, якія ёсць у нас, хоць і ў скажоным выглядзе, зразумець, хто мы ў жыцці і якімі мы былі спачатку, пры стварэнні. У жыцці мы, грэшныя, жывем у «краіне далёкай», заўсёды забываючы пра Бога, а ў тварэнні – мы ёсць вобраз «невыказнай Божай Славы» і толькі ў Ім мы жывем, толькі ў Ім наша збаўленне.

Мы забываем, што мы павінны аднаўляць у сабе вобраз Божы, што наша адзіная справа на зямлі – нам, грамадзянам зямлі, зрабіцца грамадзянамі неба праз ачышчэнне душы пакаяннем.

Пакаянне часта ператвараецца ў раўнадушнае, аб'ектыўнае пералічэнне грахоў і саграшэнняў, у прызнанне сябе вінаватым перад законным абвінаваўчым актам. Споведзь і адпушчэнне грахоў разглядаецца як нешта юрыдычна законнае. Але пры гэтым забываецца нешта істотнае, без чаго ні споведзь, ні адпушчэнне грахоў не маюць ні сапраўднага значэння, ні сілы. Гэта «нешта» і ёсць менавіта пачуццё аддаленасці ад Бога, ад радасці дачыненняў з Ім, ад сапраўднага жыцця, створанага і дадзенага нам Богам. Сапраўды, нецяжка прызнацца на споведзі, што не трываў пастоў, не маліўся раніцай або вечарам, сварыўся. Але зусім іншае – гэта раптам усвядоміць, што я запляміў і страціў сваю духоўную прыгажосць, што я далёкі ад свайго сапраўднага «дома», свайго сапраўднага жыцця, і што нешта каштоўнае, чыстае і прыгожае безнадзейна зламана ў самой маёй жыццёвай прыродзе. І гэта ўсведамленне і ёсць сапраўднае пакаянне і ў той жа час моцнае жаданне вярнуцца назад, знайсці зноў страчаную «бацькоўскую

хату». Я атрымаў ад Бога багатыя дары: перш за ўсё – жыццё і магчымасць атрымліваць асалоду ад яго, напоўніць яго сэнсам, любоўю, веданнем сапраўднага Бога; а потым – у Хрышчэнні – Новае Жыццё Самога Хрыста, дар Святога Духа, спакой і радасць Царства Нябеснага. Я атрымаў веданне Бога і ў Ім веданне ўсяго існага, сілу і магчымасць стаць адным з сыноў Божых. І ўсё гэта я страціў і працягваю ўвесь час губляць не толькі ў асобых грахах і саграшэннях, але і ў найбольшым з усіх грахоў – у страце маёй любові да Бога, у абранні «краіны далёкай» замест "дома" Айца.

Але тут Царква нагадвае мне пра тое, што я пакінуў і страціў. І, слухаючы яе голас, я ўспамінаю: «Безразважна пакінуўшы Тваю Айцоўскую славу, – спяваецца ў кандаку гэтага дня, – і з грэшнікамі змарнаваўшы ўсё багацце, якое Ты мне даў, голасам блуднага сына клічу: саграшыў я перад Табою, Ойча шчодры, і цяпер каюся: прымі мяне і дазволь мне быць адным з наймітаў Тваіх».



І калі я так усё ўспамінаю, я знаходжу ў сабе і жаданне і сілу вярнуцца: «...устану і пайду да шчодрага Айца, са слязьмі заклікаючы: прымі мяне, як аднаго з наймітаў Тваіх...».

Трэба звярнуць увагу і прыгадаць тут адну з літургічных асаблівасцяў гэтай Нядзелі пра блуднага сына. На утрані, пасля радасных і ўрачыстых псалмоў поліелея, мы спяваем поўны смутку псалом 136. Гэта псалом выгнання. Яго спявалі яўрэі ў Вавілонскім палоне, успамінаючы свой святы горад Іерусалім. Ён назаўсёды стаў песняй чалавека, які усведамляе сябе аддаленым ад Бога і, усведамляючы гэта, становіцца зноў чалавекам, тым, хто ніколі не можа знайсці поўнага задавальнення ў гэтым пашкоджаным грэхападзеннем свеце, таму што па сваёй прыродзе і прызначэнню ён заўсёды шукае, як паломнік, Дасканаласці.

Гэты псалом спяваецца яшчэ два разы, у апошнія дзве нядзелі перад Вялікім Постам. Ён адкрывае нам значэнне Посту як паломніцтва, а пакаяння – як вяртання ў дом Айца.

Народ Божы, які здрадзіў свайму прызначэнню, апамятаўся толькі ў Вавілонскім палоне, страціўшы вольнасць, айчыну і, здаецца, саму сваю годнасць. Народ згубіў усе, але не згубіў надзеі, таму насуперак усім цяжкім абставінам, насуперак безнадзейнай жалобе нявольніцтва, палонныя, як клятву, паўтаралі словы Псалмапеўца: «Калі забуду цябе, Іерусаліме, хай забудзе мяне правіца мая» (Пс.136:5)!

І мы з вамі – народ, які семдзесят гадоў блукаў на ростанях, які ледзь не цэлае стагоддзе вандраваў «па краіне далёкай», шукаючы ісціну ў самазваных будаўнікоў усеагульнага шчасця. І мы з вамі стаміліся на чужыне, і мы з вамі заплакалі па пакінутым намі дому нашага Айца Нябеснага, і мы затужылі па сваёй вечнай айчыне. Таму мы зноў тут. Таму мы зноў спрабуем «сабрацца ў Царкву» (1Кар.11:18), сабрацца разам, каб разам і адправіцца ў далёкі і цяжкі шлях, каб зноў і зноў, як некалі Божы народ, сысці з краіны прыгнёту, з краіны грахоўнага палону у краіну надзеі і веры, у краіну запаветную, у дом нашага Айца.

За 587 гадоў да Нараджэння Хрыста яўрэі трапілі ў палон Вавілонскі і там, знаходзячыся далёка ад сваёй радзімы, яны, седзячы на рэках вавілонскіх, горка плакалі. Мы з вамі таксама знаходзімся ў палоне, у палоне ўласнага граху. Дык давайце горка плакаць па сваіх грахах, маючы шчырае, добрае жаданне і рашучасць вярнуцца ў дом нашага Айца. І верце і ведайце, што калі мы з пакаяннем вернемся да свайго Нябеснага Айца, то будзем не наймітамі, а Яго дзецьмі, таму што Гасподзь нас любіць і для кожнага з нас з'яўляецца Айцом.

Вось пра што ўсім нам сёння яшчэ і яшчэ раз нагадала Святая Хрыстова Праваслаўная Царква. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 35-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## ПРА СТРАШНЫ СУД

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сённяшняе евангельскае чытанне (Мф. 25:31-46) гаворыць пра тую апошнюю, вырашальную сустрэчу з Хрыстом, якая чакае кожнага з нас, калі мы пяройдзем з гэтага жыцця ў жыццё будучага веку.

Надыдзе імгненне, калі скончыцца час. Настане дзень, калі немагчыма будзе сказать: «заўтра...», – таму што «заўтра» не будзе. Прыйдзе час, калі нельга будзе падумаць: «я паспею!», – таму што ўсе тэрміны скончацца, усе поры мінуюць, усе стагоддзі спыняцца. Прыйдзе ТОЕ, чаго нельга апісаць словамі і выявіць з дапамогай пэндзля, чаго нельга зразумець, таму што бедны людскі розум па грахоўнай сваёй прыродзе можа ўяўляць толькі «прыблізна, як скрозь цьмянае шкло» (1 Кар.13:12). Прыйдзе ВЕЧНАСЦЬ, і ўсё, што было каштоўным і істотным у часы зямнога існавання, страціць сваё значэнне, згубіць уяўную важнасць, і нам ва ўсім сваім асляпляльным ззянні з'явіцца тое, што на самой справе істотне, што сапраўды важнае, што сапраўды мае вечную, непераходзячую вартасць. Ніхто не зменіцца ў вечнасці, але будзе там такім, якім заспеў яго страшный Дзень Гасподні!

Страшный Суд нярэдка ўяўляецца нам велічным, грандыёзным відовішчам, таму што вобразы Святога Пісання, якімі апосталы і прарокі спрабуюць падкрэсліць духовую важность таго, што ўсім нам трэба будзе пержыць, разумеюцца намі, на вялікі жаль, зусім не духоўна, а груба-матэрыяльна. Большасць з нас нарадзіліся і выраслі ў такім грамадстве, дзе слова «суд» выклікала цалкам адназначныя ўяўленні: «суд» азначаў «асуджэнне». Мы, грэшныя, жахаемся і трымцім, таму што вядомая нам горькая нашая віна. Таму што, падобна да блуднага сына, кожны з нас ведае, што «ужо нявартты называцца сынам» (Лк.15.19) Божым.

Ёсць чаму жахацца, ёсць ад чаго трапятаць людскай душы! А між тым кнігі Святога Пісання заканчваюцца дзіўнымі словамі, якія падобныя, хутчэй, на ўздых палёгкі змучанай душы, на радаснае ўскліканне, на малітоўнае ўпрошванне: «Так, прыйдзі, Госпадзі Іісусе!» (Адкр.22:20).

Аўтар «Апакаліпсісу», святы апостал і евангеліст Іаан Багаслоў разам з усёй Царквой з радаснай нецярплівасцю чакае і нават прыспешвае прыход страшнага Дня Гасподня – Дня Суднага.

Калі сапраўдны хрысціянін думае аб тым, што чакае яго пасля смерці, аб абнаўленні ўсяго тварэння, прадказаным на канец свету, ён натхняецца самым радасным спадзяваннем. Бо Хрыстос павінен вярнуцца ў канцы часоў для канчатковага ўстанаўлення Царства Божага сярод людзей пасля таго, як Ён здзейсніць над імі ўсімі Свой Суд. Вось яна – перамога Праўды, якой прагне ўсё чалавецтва, вось ён – сапраўдны светлы «новы свет»!

Першыя хрысціяне, чакаючы вяртання Хрыста, віталі адзін аднога словамі «Марана фа» – «Гасподзь хутка прыдзе!». На ўсё іх жыццё ўплывала гэта спадзяванне, гэта радаснае чаканне; і яны без смутку развітваліся са сваім зямным існаваннем, спадзеючыся на Уваскрасенне і на станоўчае змяненне ўсяго тварэння.

Чаму ж яны, таксама грэшныя, радасна чакаюць і спадзяюцца на гэты Страшный суд Госпада, у той час як мы смуткуем і жахаемся?

А таму гэта адбываецца з імі, што яны ўсім жыццём сваім, усімі сіламі душы сваёй прынеслі «годны плод пакаяння» (Мф.3:8), прысвяціўшы сябе не служэнню заганным грахоўным жаданням, а няспыннаму шуканню Волі Божай.

У гэтым і ўвесь жах нашага становішча: мы не зможам змяніцца ў Вечнасці, таму што са сканчэннем часоў перарываецца магчымасць каяцца і змяняцца! Стаць іншым, чым ты ёсць зараз, можна толькі да той пары, пакуль ты жывеш у гэтым недасканалым свеце. І наш Міласцівы і Доўгацярплівы Гасподзь паказвае нам сёння адзіны спосаб такога змянення: стаць лепшым можна толькі тады, калі забудзеш пра самога сабе і станеш жыць для іншых. Прычым

гэта самазабыццё павінна быць поўным і сапраўдным, такім, якое выключае нават думка пра ўзнагароду за выкананую працу. Бо тыя, хто хаця б і тоячыся ад саміх сябе, але ўсё ж шукаюць пахвалу і падзяку ў веку гэтым, па словах Госпада, «ужо атрымліваюць узнагароду сваю» (Мф.6:2).

Працаваць, забыўшыся пра ўзнагароду, ахвяраваць собою для іншага, нават не ведаючы таго, што прыносіш у ахвяру свой спакой і свабоду, адмаўляючы самому сабе. Мы, занятыя ахвярным служэннем таму, хто побач з намі, павінны спадзявацца не на выратавальнае значэнне самога гэтага служэння, а толькі на тое, што, магчыма, дасць Бог, мы забудем за гэтай справай пра саміх сябе і сваіх «подзвігах» і навучымся нарэшце любіць тых, у імя каго гэтыя подзвігі здзяйсняюцца!

Добра было б нам паспець за ці наша доўгае ці кароткае жыццё навучыцца вось так забываць аб сабе, не чакаючы ўзнагароджання.

Апраўданымі на Страшным судзе будуць толькі тыя, якія ў жыцці сваім праявілі любоў, міласэрнасць, самаадданасць да тых, хто быў побач з імі, у іх разнастайных жыццёвых патрэбах.

Не цяжкія подзвігі, не вялікія справы патрабуюцца ад нас, а самыя звычайныя, але – з любоўю. Па-сутнасці, Хрыстос гаворыць нам: былі вы проста чалавечнымі – ці не? Ці праяўлялі вы спачуванне, спагаду, салідарнасць? Ці былі вы братамі і сёстрамі для тых, хто быў побач з вамі? Калі былі – то новае жыццё можа праявіцца ў вас; але калі вы не былі нават чалавечнымі – як вы можаце чакаць, што будзеце далучаныя да быцця Божага?...

Страшны Суд, на якім авечкі аддзяляюцца ад казлоў, пачынаецца тут, на зямлі. Ён адбываецца ўсякі раз, калі мы застаемся адзін на адзін з бедным – тым, хто пакутуе ў свеце гэтым і патрабуе нашай дапамогі. І мы бываем асуджаныя не толькі тады, калі не адгукаемся на просьбу аб дапамозе, але і калі, пагружаныя ў сябе і свае клопаты, не заўважаем людскага гора і галечы побач з сабой.

Сустрэча з чалавекам, які знаходзіцца ў галечы і нястачы – гэта сустрэча з Хрыстом, гэта Страшны Суд, які мы перажываем да таго, як ён здзейсніцца над усім чалавецтвам і над кожным з нас у канцы гісторыі. Ад таго, што мы зробім або не зробім для таго,

хто мае патрэбу ў нашай дапамозе, залежыць наш лёс у вечнасці. Калі мы тут пройдзем выпрабаванне на спачуванне і любоў, нам не страшна будзе там стаяць перад Хрыстом.

Калі мы ў жыцці будзем верныя любові Хрыстовай, суд гэтай любові не стане для нас катастрофай. З радасцю і спадзяваннем чакае Дзень Суду Божага той, хто сам ужо асудзіў сябе. З тугой і трывогай – той, хто перакананы ў тым, што ён заўсёды ўсё робіць правільна.

У святле Божай Праўды стане відавочным, чаго варты кожны чалавек і яго жыццё. Прысуд не трэба ўяўляць юрыдычна: апраўданне або асуджэнне не з'яўляюцца ўзнагародай або пакараннем, а вывадам або плёнам таго або іншага жыцця і пераважна яго накіраванасці да дабра або да зла.

Сам факт Страшнага суда і адчування вечнай райскай асалоды і пякельных пакутаў пасля яго з'яўляецца заканчэннем справы Промысла Божага ў збаўленні чалавека. Вечная асалода – гэта прывядзенне чалавека да той мэты, для якой ён і створаны. Вечныя пакуты – гэта не помста з боку Бога, а гэтыя пакуты падрыхтавалі самі людзі для сябе, таму што яны не прынялі любові ісціны для свайго збаўлення (2 Фес. 2: 10).

У канцы вякоў Гасподзь адкрые Сваю прысутнасць і напоўніць Сабою ўвесь сусвет. Для тых, хто ненавідзіць Яго – гэта будзе пекла. Для тых, хто любіць Яго – гэта будзе рай. Калі Царства Божае напоўніць увесь сусвет і ўсё будзе створана зноў, наш свет зноў зробіцца тым раем, для якога ён быў першапачаткова створаны.

Пастараемся ж наступаючы Вялікі пост зрабіць пачаткам доўгай дарогі пакаяння; хай будзе ён першым нашым крокам да самаасуджэння, а значыць, і да выпраўлення, а значыць – да Вечнага Жыцця, да Дому Айца нашага, у Якога «абіцеляў многа» (Ін.14: 2).

А калі не наканавана нам дасягнуць дасканаласці на гэтым шляху, тады дай нам, Божа, хаця б не пакінуць пакаянных высілкаў, не кідаць спробаў здабыць ціхі дух «чысціні, пакоры, цярплівасці і любові», аб якім будзе маліць Збавіцеля ўся Яго Святая Царква ў будучыя дні Вялікага Посту. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 36-ю пасля Пяцідзесятніцы*

## УСПАМІН ПРА АДАМАВА ВЫГНАННЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Пропаведзь ў Нядзелю 36-ю пасля Пяцідзесятніцы. Успамін пра Адамава выгнанне.

Сёння, у апошнюю нядзелю перад Вялікім постам Святая Царква ўзгадвае тую трагічную падзею, якая здарылася на самым пачатку чалавечай гісторыі. Яна ўсім нам добра вядома як выгнанне нашых прабайцькоў – Адама і Евы – з рая. Невыпадкова, браты і сёстры, Святая Царква нагадвае нам сёння пра гэта здарэнне.

Біблейскае апавяданне пра грэхападзенне дапамагае нам зразумець усю трагічную гісторыю чалавецтва і яго цяперашні стан, бо паказвае, кім мы былі і ў што ператварыліся. Яно гаворыць нам, што зло ўвайшло ў свет не па волі Бога, а па віне чалавека, які абраў дыявальскую ману замест Божага наказу. З пакалення ў пакаленне чалавецтва паўтарае памылку Адама, спакушаючыся ілжывымі вартасцямі і забываючы веру ў Бога і вернасць Яму. Нашы далёкія продкі страцілі рай толькі таму, што аднойчы на імгненне забылі пра Бога.

Вынікі грэхападзення для першага чалавека былі катастрафічнымі. Ён не толькі пазбавіўся райскай асалоды і знаходжання ў Эдэмскім садзе – змянілася і стала скажонай уся прырода чалавека.

У выніку грэхападзення першыя людзі страцілі дачыненні з Богам, сталі смяротнымі і пазбавіліся райскага жыцця. Але горш за ўсё тое, што зараза граху перайшла да іх нашчадкаў, так што ўсе людзі сталі нараджацца з пашкоджанай прыродай.

І па меры таго, як чалавецтва ўсё больш памнажала беззаконні, наш прыгожы і дасканалы створаны Богам свет, у асобе сваіх найвышэйшых прадстаўнікоў – людзей, створаных паводле вобразу і падабенства Божага, – апусціўся ў бездань зла, дзе пануе варожасць, хлусня, беззаконні, пакуты і смерць.

Сёння, яшчэ і яшчэ раз успамінаючы пра грэхападзенне першых людзей, хай кожны з нас уважліва ўглядаецца ў вобраз Адама – гэтага першага грэшніка на зямлі, але таксама і першага чалавека, які пакаяўся і якога прабачыў Гасподзь і першым вывеў з палону пекла. З вопыту нашага асабістага жыцця мы ведаем, што вельмі часта пазбаўляем сябе благадаці Духу Святога, здзяйсняючы тыя або іншыя грахі. А набыццё гэтай благадаці Божай адбываецца праз чыстасардэчнае пакаянне, якому садзейнічаюць малітва і пост.

Пост – гэта час духоўнага ўстрымання, пераасэнсавання нашых узаемаадносін і стасункаў з Богам, Царквой, людзьмі. Усе іншыя мірскія пытанні ў час посту павінны адыходзіць на другі план. Пасля кожнага посту веруючы хрысціянін мімаволі некалькі іншымі вачамі глядзіць на сябе, на сваё месца ў жыцці. Пост для веруючага чалавека – гэта духоўная прыступка да Госпада.

У гэтыя дні пакаяння Царква будзе чуць словы Іаана Прадцечы пра тое, што пакаяннем адчыняюцца дзверы ў Царства Божае.

Першая ўмова таго, каб мы ўвайшлі ў новае жыццё і былі здольныя мець дачыненні з самім Богам, ёсць прабачэнне нашых грахоў. Гэта адзіная ўмова. І ад нас таксама патрабуецца толькі адно: каб мы маглі дараваць іншаму чалавеку.

На працягу ўсяго нашага жыцця мы павінны прасіць адзін у аднаго прабачэння, каб здольнасць быць міласцівымі азначала для нас далучанасць да той міласэрнасці, якую мае Хрыстос у дачыненні да кожнага чалавека, у дачыненні да ўсяго свету. І каб гэта міласэрнасць дала нам магчымасць набыць той скарб, які завецца благадаццю Духа Святога і здабыццё якога, па словах прападобнага Серафіма Сароўскага, з'яўляецца адзіным сэнсам чалавечага жыцця.

Міласэрнасць! Менавіта яе мы павінны ўбачыць, павінны навучыцца ёй Вялікім постам, каб ужо ніколі не быць ашуканымі, ніколі не прамяняць яе ні на якую падробку.

Дык уступім у Вялікі пост, і такім чынам будзем ісці ўсё жыццё. Як гавораць святыя айцы, хоць паўзком, але – туды.

Пост і малітва – два крылы. Гэта поўнае змяненне (такая

таямніца пакаяння), гэта паміранне для сябе, але яно дае крылы. Прабачэнне і дараванне – цуд. Яно – благадаць. Гэта дар Бога, а не наша ўласнае дасягненне. Таму наша прымірэнне адзін з адным сцвярджаецца ў таінстве споведзі – таінстве пакаяння, і яно павінна быць асабліва глыбокім Вялікім постам.

Благадаць Святога Духа адна адзіная робіць нас здольнымі ўступіць у такія дачыненні з Богам, калі мы не проста завемся хрысціянамі, а сапраўды становімся Яго вучнямі.

Дай Бог усім нам здароўя і сілаў, каб разважліва і цвяроза праходзіць гэтыя дні посту. Тут патрабуецца разважлівасць, якая вышэй за усю дабрадзейнасць. Ісці заўсёды трэба сярэднім, царскім шляхам, каб не было зрыву, якога трэба сцерагчыся. Пост і ўстрыманне павінны выконвацца паводле агульнапрынятага звычая – гэта значыць так, як вучыць нас Царква. Устрыманне ў ежы павінна быць толькі ад скаромнай ежы. Як піша прападобны Касіян Рымлянін, «крайнасці, як гавораць святыя айцы, з таго і з іншага боку аднолькава шкодныя: і празмернасць посту, і перасычэнне чэрава. Агульнае правіла разважлівага ўстрымання складаецца ў тым, каб кожны адпаведна з сіламі, станам цела і сваім узростам столькі спажываў ежы, колькі неабходна для падтрымання здароўя цела, а не колькі патрабуе жаданне насычэння.» Трэба з развагай падтрымліваць свае сілы, каб не атрымалася, што з першых жа дзён нехта стаў гаварыць, што дрэнна сябе адчувае і не можа пайсці ў храм. Гэта бывае, на вялікі жаль, вельмі часта. Прападобны Серафім гаворыць, што цела наша павінна быць тым самым аслянём, якое было б здольнае несці нас у Царства Нябеснае на працягу ўсяго Вялікага посту.

Тым, у каго ёсць нейкія хваробы, не трэба ў што б ні стала трымаць пост і думаць, што, парушаючы яго, яны «страшна грашаць». Святыя айцы-пустэльнікі старажытнай Царквы, такія як прападобны Ісаак Сірын, гавораць нам, што, па-першае, празмерны пост больш шкодны, чым нетрыванне посту; па-другое, той, хто хварэе такою хваробай, якая цалкам руйнуе яго здароўе, павінен зразумець, што гэта хвароба і ёсць яго пост. І гэта вышэйшае за пост. Гэта немач цела, якую чалавек нясе з пакорай і нават з

падзякай Госпаду. І ён павінен гэта цярпець і несці. Мы памятаем, як святы Ігнацій Бранчанінаў благаслаўляў сваю сястру на першым тыдні Вялікага посту спажываць малако, якое яна цярпець не магла і якое было для яе самай прыкрай ежай. Але гэта было неабходна для падмацавання яе здароўя і для таго, каб яна зразумела, у чым сутнасць посту. Пост не мэта, а сродак – сродак утаймаваць сваю плоць і ачысціцца ад грахоў. Без малітвы і пакаяння пост становіцца ўсяго толькі дыетай.

Нам трэба зразумець, што само па сабе ўстрыманне ў ежы не набліжае нас да Бога і не аддаляе ад Яго. Мы павінны захоўваць пост у той меры, у якой гэта адпавядае ўсяму нашаму духоўнаму подзвігу.

На вялікі жаль, за апошнія дзесяцігоддзі, калі святая вера Хрыстова вытраўлялася з сэрцаў людскіх, мы страцілі правільнае разуменне посту. Раней, калі пачынаўся Вялікі пост, імкнуліся ўхіляцца ад любых уцехаў, магчыма, і бязгрэшных, але якія ўсё ж такі адцягваюць ад самой сутнасці жыцця. Тэлевізар і ўсё тое, што нам некарыснае і што не складае для нас сапраўднай неабходнасці, павінна ў прынцыпе знікнуць з нашага жыцця на працягу ўсяго Посту.

Святы Феафан Затворнік папярэджвае, што знешняя бачнасць пры захаванні ўсяго, што ўсталявана Богам і Царквой, пры адначасовай унутранай спустошанасці, ёсць самая галоўная небяспека для Царквы, і самая спрыяльная глеба для з'яўлення ў Царкве «чалавека беззаконня».

Жудасней за усё, як заўсёды, абыякавасць, стварэнне выгляду, што ўсё ў парадку. Прымірэнне, якое мае мэтай толькі зямное, у рэшце рэшт зводзіцца да тайны антыхрыста. Усё, што адбываецца пасля таго, як Хрыстос здзейсніў збаўленне ў свеце, праходзіць пад знакам «паспрабаваць змяшаць дабро са злом». Сатана імкнецца зрабіць усё магчымае, каб гэта змешванне пракралася і ў Царкву.

Будзем пра гэта помніць. Дзеля чаго пачынаецца Вялікі пост? У якім свеце мы жывем? Як кожны з нас павінен на працягу гэтага Посту ўзысці на крыж? Далучыцца Яго перамозе над усякім грахом, над самою смерцю ў вечнай радасці Уваскрасення. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 36-ю пасля Пяцідзесятніцы*

# ЧЫН ПРАБАЧЭННЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Не ўхілі аблічча Твайго ад отрака Твайго, бо смуткую, хутка пачуй мяне!

Такімі пранікнёнымі і кранальнымі словамі, узлюбленыя ў Госпадзе айцы, браты і сёстры, Святая Царква сёння за вячэрнім богаслужэннем звяртаецца да Бога. І кожны з тых, хто тут стаіць, безумоўна, перажыў у сваім сэрцы гэтыя словы як свой асабісты зварот да Бога.

Сумленне ёсць тая таямнічая глыбіня нашай свядомасці, з якой прыходзіць да нас раскаянне і гарачае жаданне ачышчэння, адраджэння, выпраўлення. Менавіта раскаянне, гэты голас сумлення, і прыводзіць нас да першага кроку на шляху ачышчэння: да жадання прабачыць і атрымаць прабачэнне. Сумленне ж і паказвае нам саму сутнасць зла і няпраўды як падзела, як віны перад іншымі. Усякая наша нядобрая справа ёсць памнажэнне ўсеагульнага зла на зямлі, а наша імкненне да дабра ёсць уклад у агульную справу барацьбы са злом. Людзі вінаватыя адзін перад адным у тым, што павялічваюць зло.

Паслухаем сумленне – там, глыбока-глыбока ў нашай душы, дзе ціхі, але такі цвёрды, такі бязлітасны голас гаворыць: вінаваты. У чым гэтая віна? Не, не ў адных крыўдах і сварках, сапраўды, часам, непазбежных. Не ў павярхоўных спрэчках, не ў дробязных раздражненнях. Віна ў самым маім жыцці, якое наскрозь прасякнута эгаізмам – гэта значыць, засяроджаным на мне самім: аддаленым ад «іншага», ад «іншых», што ператварыліся толькі ў сродак.

Даравацьіншаму, атрымацьад яго прабачэнне! Гэта і ёсць зварот ад падзелу да адзінства, ад варожасці да любові, ад адасобленасці да адзінства. Бо прабачыць чалавека і дараваць яму – гэта не проста. Як мы часта гаворым – «перастаць звяртаць увагу» на неда-

хопы іншых, або, яшчэ горш, – «махнуць рукой» на іншых. Ці гэта не абыякавасць, не пагарда, не цынізм. Дараваць “іншаму” і атрымаць ад яго прабачэнне можа толькі той, хто раптам з усёй сілай усвядоміў увесь жах адсутнасці ў свеце любові, увесь бяздонны смутак той адзіноты, на якую ў сваім самасцвярджэнні і эгаізме асудзіў сябе чалавек. Усё гэта выказваецца, усё гэта гучыць у той малітве, з якой звяртаецца Царква ў Даравальную нядзелю: «Не ўхілі аблічча Твайго ад отрака твайго, бо смуткую...». У сіле сумлення, у празе прабачэння і ў звароце душы да Бога –пачатак нашага духоўнага адраджэння.

Па закліку нашай Праваслаўнай Царквы мы прышлі ў гэты святы вечар у храм, каб напярэдадні Вялікага посту папрасіць сабе благаславенне Божае на ўзмоцненую малітву і шчырае пакаянне. Прышлі для таго, каб па ўсталяванаму ў старажытныя часы святому звычаю, пакланіўшыся адзін аднаму з глыбіні нашых сэрцаў, прабачыць узаемныя крыўды і саграшэнні.

Гэта неабходна нам, калі мы жадаем жыць з Госпадам, і знаходзячыся на зямлі, і перайшоўшы ў жыццё вечнае. Мы ўсе жадаем сабе вечнага збаўлення. Але гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі не будзе ў нашым сэрцы крыўдаў; не будзе ўзаемнага азлаблення адзін на аднаго, узаемнага ганьбавання, варожасці. Магчыма толькі тады, калі ў сэрцы нашым будзе спакой – гэты каштоўны святы дар, які дае нам Хрыстос-Збавіцель.

Але для гэтага трэба і дараваць тым, хто нас абразіў, і папрасіць самім прабачэння ў тых, каго мы свядома або несвядома пакрыўдзілі. Інакш дарэмная будзе уся наша духоўная праца ў час надыходзячага посту. Не пачуе Гасподзь і нашых слёзных маленняў і зваротаў да Яго, не прыме Гасподзь нашых шматлікіх зямных паклонаў, калі ў сэрцы нашым будуць працягваць жыць крыўды на брата, зло і нядобразычлівасць да тых, хто побач з намі.

Гасподзь гаворыць: любі свайго бліжняга! А як часта мы любім толькі некаторых з тых, хто вакол нас, а часам і нікога не любім! Бачым у людзях толькі іх недахопы і бязлітасна асуджаем.

Але мы ж павінны любіць адзін аднога таму, што гэта любоў, па словах Хрыста, – адметная прыкмета сапраўдных хрысціян:

«Па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі любоў будзеце мець паміж сабою» (Ін.13:35).

Сённяшні дзень, гэта дзень праверкі нашай духоўнай дасканаласці, дзень нашай строгай самаправеркі: ці здольныя мы ісці ўслед за Хрыстом, выконваючы ўсе Яго запаведзі? Многія з нас з уласнага жыццёвага вопыту добра ведаюць, што дараваць каму-небудзь значна лягчэй, чым самому папрасіць прабачэнне ў таго, каго ты сам чым-небудзь пакрыўдзіў. На шляху прымірэння сустракаецца шмат перашкодаў. Галоўныя з іх – наш эгаізм і сатанінскі гонар.

Многія вернікі любяць гэты святы вечар. З радасцю спяшаюцца ў царкву, каб удзельнічаць у чыне прабачэння. Але ці ўсе выразна ўяўляюць сабе, якую адказнасць мы бярэм на сябе? Бо, на вялікі жаль, нярэдка гэты кранальны чын у некаторых з нас носіць адценне фармальнага выканання ўзаемнага прабачэння.

Падышлі адзін да аднаго, вымавілі: «Прабач мяне!» і нават з усмешкай пацалаваліся – а ў сэрцы пры гэтым нічога не змянілася. Затоеная крыўда, нядобразычлівасць так і засталіся. Не гэтага чакае ад нас Гасподзь. Ён чакае, што ў гэты святы вечар адкрыюцца нашы сэрцы для шчырай узаемнай любові. Чакае, што, перамогшы з дапамогай Божай у сабе гонар, мы знойдзем у сабе сілу і з чыстым сэрцам і адкрытай душой падыдзем да пакрыўджанага намі і скажам яму: «Прабач мяне!» Чакае, што мы вырвем са сваіх сэрцаў і ўзаемную варожасць, і ўзаемнае ганьбаванне, і ўсё тое, што апаганьвае нас і аддаляе нас ад Бога.

А ці здольныя мы прабачыць менавіта так, як гэтага патрабуе Праўда Божая? Прабачыць – гэта значыць, усё тое горкае, што з намі здарылася па віне іншых людзей, прынять як з рукі Божай, як горкія лекі, якія як ні цяжка нам прымаць, аднак яны ж дадзеныя нам для нашага ацалення. Прабачыць таго, хто пакрыўдзіў нас, – гэта значыць, не адчуваць да яго нянавісці або варожасці за ўсё, што з-за яго здарылася з намі.

Многія з нас гавораць: «Я усіх прабачыў!», “Я усім дарую!” але вельмі мала людзей, якія сапраўды ўмеюць прабачаць і дараваць крыўды.

Богу не трэба нашая крывадушнасць. Богу патрэбная нашая гатоўнасць нікога, акрамя сябе саміх, не асуджаць, усіх любіць і ўсім даруваць. Патрэбная наша рашучасць у час посту скласці з сябе назапашаныя намі, магчыма за доўгія гады, грахі.

Калі з такім настроем мы сёння прыйшлі сюды, тады мы можам далучыць свае галасы да гукаў царкоўнага хору і ўсёй сілай сваіх духоўных магчымасцяў маліцца да Бога: «Не ўхілі аблічча Твайго ад отрака Твайго... Я Твой, Госпадзі! І прашу Цябе: хутка пачуй мя!»

Але перш чым прасіць прабачэння адзін у аднаго, мы павінны прасіць прабачэння ў Госпада за тое, што плацілі Яму чэрствай няўдзячнасцю і за Яго галгофскія пакуты, і за Яго смерць на Крыжы, якія Ён перанёс дзеля адкуплення нашых грахоў. За тое, што так мала ў нас любові да Яго. За тое, што жывем не так, як Ён загадаў. За тое, што сіла Божая не бачная ў нас усяму свету. За тое, што знешне з'яўляючыся хрысціянамі, мы па справах сваіх нярэдка аказваемся горш за няверуючых, горш за язычнікаў. За тое, што любоў Божая не праліваецца праз нас на блізкіх. За тое, што не слухаемся мы запаведзяў Божых. За тое, што прорва ляжыць між тым, што мы ёсць, і тым, чым мы павінны быць. За ўсё гэта мы павінны прасіць прабачэння ў Бога.

Сёння мы павінны не толькі папрасіць прабачэння ў Бога, але і «прабачыць Бога» за ўсё тое, што, па нашых людскіх мерках, здаецца нам несправядлівасцю. Няўжо не бывае з намі, што ў момент нейкай катастрофы, нейкага крушэння, у момант, калі адбываецца нешта такое, з чым мы не можам змірыцца, мы пытаем у Бога: «Дзе ж Ты? Як Ты дазваляеш гэта?» Напрыклад, калі блізкі, бясконца дарагі нам чалавек сыходзіць з гэтага жыцця у росквіце гадоў, раптам, нібы Бог «выкрадае» яго ў нас без папярэджання. Перажыўшы такое здарэнне, чалавек можа «замкнуцца» ў дачыненні да Бога, затаіўшы на Яго крыўду, страціўшы да Яго давер. Тады человек пачынае ўспрымаць Бога не як міласцівага і любячага Айца, а як жорсткага і непрадказальнага ў сваіх дзеяннях Уладара. На месца любові тады прыходзіць страх. Бывае, што рана з гадамі загоіцца, а цень недаверу чалавека да Бога застаецца.

Падумаем пра тое, што наша жыццё ў зямной, людской перспектыве – зусім не тое, што ў перспектыве Божай: мы бачым сваё жыццё не так, як бачыць яго Бог. Часта Гасподзь чакае ад нас значна большага, чым мы чакаем ад сябе саміх. Менавіта таму Ён часам пасылае нам выпрабаванні, якія здаюцца нам жорсткімі і несправядлівымі, але на самой справе з'яўляюцца дабратворнымі і збавіцельнымі. Усе беды нашыя, усе непаразуменні, праблемы і спакусы не маюць прычын у знешнім асяроддзі: яны ў нас саміх.

Павінны прасіць прабачэння ў Маці Божай за тое, што дзеля нашага збаўлення Яе Сын быў распяты на Крыжы. А мы сваімі грахамі ўсё працягваем распінаць Яго, наносячы раны і Яе матчынаму сэрцу...

Павінны прабачыць не толькі тых, якія тут прысутнічаюць, але і тых, якія знаходзяцца ў дадзены момант далёка ад нас, і тых, якія ўжо адышлі ў вечнасць. Самі павінны прабачыць іх і папрасіць і іх прабачыць нас. А Гасподзь данясе да іх сэрцаў мір, які можа даць толькі Ён. І гэты мір (узаемнага прабачэння) ацаліць і іх, і нашы душы.

Падумаем таксама аб тым, што зямное жыццё дадзена нам толькі адзін раз: у нас няма магчымасці яго пражыць на чарнавік, а потым пераўжыць зноў у "чыставым" варыянце. Усё, што мы не паспеем зрабіць сёння, мы не паспеем зрабіць ніколі. Таму памірыцца адзін з адным і з Богам мы павінны сёння. І тады ўжо сёння нашае жыццё пераменіцца, ужо сёння заззяе для нас сонца, і ноч пройдзе, а дзень наблізіцца.

Самае галоўнае, каб мы ўступілі на гэты дабрадзейны шлях у міры з Богам і адзін з адным.

А зараз, як і адбывалася сотні і сотні гадоў у нашай Царкве, пачынаючы пост, я ад імя ўсіх святароў нашай епархіі і, вядома ж, ад сябе, грэшнага, асабіста прашу ва ўсіх прабачэння, калі саграшыў справай, словам, думкаю, калі пакрыўдзіў каго-небудзь.

Прабачце нас! Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 1-ю Вялікага посту*

## ПЕРАМОГА ПРАВАСЛАЎЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Першая Нядзеля Вялікага посту называецца Нядзеляй Праваслаўя, або Нядзеляй Перамогі Праваслаўя над усімі ерасямі і, у прыватнасці, над іканаборствам. Іканаборцы, адмаўляючы іконы і святыя выявы, падрывалі асноўны хрысціянскі дагмат аб уцялесненні, сэнс якога ў тым, што Сын Божы стаў сапраўдным чалавекам, а гэта значыць, што мы атрымалі магчымасць яго апісваць і выяўляць. Таму ў гэтую Нядзелю адбываецца пакланенне Нерукатворнаму Вобразу Госпада Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. Гасподзь сказаў сваім вучням: « Ад гэтага часу ўбачыце неба раскрытае і ангелаў Божых, што ўзыходзяць і сыходзяць да Сына Чалавечага» (Ін.1:51).

І сапраўды, ва ўцялесненні Сына Божага была разбурана сцяна паміж Богам і чалавецтвам, узведзеная грэхападзеннем людзей, і зноў пачаліся дачыненні паміж светам зямным і светам нябесным, бо Бог стаў Чалавекам, каб чалавек мог стаць богам праз благадаць. Праз Ісуса Хрыста, прыняўшага чалавечы вобраз, людзі атрымалі магчымасць аднавіць у сабе вобраз Божы. І Царква, прапаноўваючы ў пачатку Вялікага посту сённяшняе евангельскае чытанне, указвае і на мэту чалавека ў яго пакаянні - на абожанне.

Перамога Праваслаўя першапачаткова была адзначана ў Візантыі ў 842 годзе ў першую Нядзелю Вялікага посту, і, такім чынам, у гэтай падзеі гістарычная падстава яго святкавання .

Іканаборства ўзнікла ў выніку спробы дзяржаўнай улады змяніць рэлігію згодна са сваімі запатрабаваннямі. Таму сёння мы звяртаем увагу на тое, што Царква, паважаючы свецкую ўладу, не павінна, тым не менш, трапляць у залежнасць ад яе. Іканаборства ўзнікла як водгук на загад імператара скасаваць шанаванне ікон і іх выкарыстанне ў рэлігійных абрадах. Сутнасць сённяшняга свята ў

сцвярджэнні таго, што лад царкоўнага жыцця павінен вызначацца не моцнымі свету гэтага, а служыць абароне веры нашых айцоў. Царква павінна выразна сведчыць пра сваю прысутнасць у грамадстве, аднак пры гэтым не ператварацца ў нейкую мірскую сілу.

Сёння ўзгадваецца тое дзівоснае ўздзеянне, якое аказалі на імператара Феафіла, праціўніка шанавання святых іконаў, усеагульнае пакаянне, малітва і пост. Здзяйсняемыя за яго ў першы тыдзень Святой Чатырохдзесятніцы, яны даравалі імператару, які перад смерцю пакаяўся ў сваіх ўчынках, прабачэнне грахоў ад Госпада.

У чым жа Перамога Праваслаўя сёння, у наш час, такі далёкі ад дзевятага стагоддзя, калі ўзнікла гэта свята? Перш за ўсё ў тым, што, нягледзячы на жудасныя ганенні, мы не страціла сваю веру, свой літургічны лад. Дагматычнае вучэнне Царквы захавалася непашкоджаным, і яна па-ранейшаму ўтрымлівае тую самую веру апостальскую, веру праваслаўную, якую прапаведавалі Святыя айцы.

Праваслаўная Царква цярпела ганенні і прыгнёт на працягу многіх стагоддзяў з боку і арабаў, і крыжаносцаў, і манголаў, і туркаў, і бальшавікоў ў Савецкай Расіі. Гісторыя ведае і смерць мітрапаліта Філіпа ад рук ката, і ўмарэнне голадам свяціцеля Гермагена, і затачэнне патрыярха Нікана. «Сімфонія» дзяржавы і Царквы ў Расіі была толькі добрым пажаданнем і светлаю libраю. Духавенства знаходзілася пад пастаянным уціскам з боку свецкага чынавенства. Беспрэцэдэнтныя па сваіх маштабах рэпрэсіі былі разгорнуты супраць Рускай Царквы ў дваццатым стагоддзі, калі сотні епіскапаў, дзесяткі тысяч святароў і манахаў, мільёны міранаў былі расстраляныя, мноства храмаў узарвана, усе манастыры і духоўныя школы знішчаны, калі была пастаўлена задача ўвогуле сцерці Царкву з твару зямлі. Але яна выстаяла, захавала сваю веру і сваё адзінства цаною крыві шматлікіх Вызнаўцаў і Новамучанікаў, якія зараз моляцца за нас перад прастолам Божым.

Сёння будуецца і аднаўляецца мноства храмаў - гэта сведчыць аб запатрабаванасці Праваслаўя, аб яго непераходзячай актуальнасці, аб яго жыццяноснасці і духоўнай моцы.

У гэты дзень мы молімся, каб тыя, хто адпаў ад паўнаты царкоўнага быцця, вярнуліся да сапраўднай, жывой веры, прыйшлі да Хрыста і Яго Царквы. У сучасных умовах нам вельмі важна ве-

даць сваю веру, бо зноў надыходзіць час барацьбы за Ісціну. Некаторыя ўпэўніваюць сябе і нас у тым, што Праваслаўе - гэта нейкая нацыянальная ідэалогія. Мы ж павінны ведаць, што Праваслаўе - гэта пошук жыцця ў Богу і што ўсялякае дзяржаўнае і нацыянальнае ўладкаванне жыцця для нас другаснае. Іншыя кажуць, што Праваслаўе - гэта наша культурная спадчына. Мы ж павінны ведаць, што Праваслаўе - гэта не стварэнне культурных формаў, а сакральнае спасціжэнне і набыццё дара Духа Святога.

Сёння хрысціяне стаяць перад выклікам ваяўнічага бязбожжа.

Сёння моладзі ўнушаюцца зняважлівыя адносіны да традыцыйных каштоўнасцей. Кажуць, быццам бы яны выйшлі з моды, аджылі свой век. І таму зараз задача хрысціянаў - нагадваць свету аб спрадвечных ісцінах, якія ніколі не могуць састарэць, а заўсёды застаюцца актуальнымі.

Сёння Гасподзь кліча нас адстойваць ісціну Праваслаўя ад памножыўшыхся прапаведнікаў цемры. Кліча нас Хрыстос, кліча быць падобнымі да святых падзвіжнікаў, што атрымалі ад Яго вянцы славы за сваю непахіснасць у веры. Набыццё ўнутранага спакою Звыш, умацаванне Царства Божага ўнутры сябе - у гэтым задача хрысціяніна ў сучасных абставінах, у гэтым тая сіла воінаў Хрыстовых, аб якую разбіваюцца ўсе варожыя напады на нас. Мы жывем у шчаслівы час, калі як ніколі ясна і зразумела, што свет гэты змагаецца з Хрыстом і імкнецца знішчыць на зямлі і саму памяць аб хрысціянстве. Пры гэтым асабліва важна, што ўсё значэнне гэтай барацьбы раскрываецца не ў чым-небудзь знешнім, а перш за ўсё ў нашых сэрцах. Менавіта тут, па словах Ф.М. Дастаеўскага, ідзе самае сапраўднае і напружанае змаганне паміж Богам і сатаной. Прыгадайце, што Гасподзь кажа: «Царства Божае ўнутры вас.» (Лк.17:21). Калі гэта сапраўды так, то і царства дыявала прыходзіць у наш свет толькі таму, што мы носім яго ў сваіх сэрцах.

Адметнай рысай нашага часу з'яўляецца утылітарызм: нам усё роўна, каму маліцца, каму служыць - была б толькі з усяго гэтага нам асабістая карысць. Але чалавечае жыццё - не проста сытае і спакойнае існаванне, а адухоўленае быццё, напоўненае сэнсам і вышэйшай праўдай. А хіба можа быць праведным жыццё, калі

ўяўленні ў нас пра яго ілжывыя? Такім чынам, абараняючы Ісціну ад скажэнняў, Царква клапоціцца не аб незразумелых і абстрактных багаслоўскіх ідэях, а пра нашу далучанасць да жыцця вечнага, якое і ёсць веданне адзінага сапраўднага Бога. Таму галоўнае ў Праваслаўі не веданне на памяць зместу Евангелля і асваенне дагматычнага багаслоўя, а далучанасць да таго вопыту, які стаіць за словамі Кнігі Жыцця. А колькі сярод нас тых, хто толькі паводле імя свайго з'яўляецца праваслаўным, а жыве забабонамі, блукае паміж невуцтвам і ерассю, бегае ад аднаго «цудатворцы» да другога і ў храме бывае толькі на ўласным хрышчэнні, вянчанні і пахаванні.

Увесь жах становішча сучаснага чалавека ў тым, што ён не хоча жыць, падпарадкоўваючыся тым законам, якія дадзены яму Богам. Не забывайце пра тое, што не Бог карае нас за нашы грахі, а мы самі, выходзячы за межы тых умоваў, што ствараюцца для нас законамі Божымі, церпім гора і трапляем у палон граху. Але так жа, як у нас саміх знаходзіцца прычына нашых бедаў, гэтак жа ў нашай душы ўтрымліваецца і сродак нашага ацалення - пакаянне.

Нам неабходна памятаць, што праз далучэнне да быцця Божага ў Святой Еўхарыстыі мы можам пакаяннем ачысціць усё тое, што пашкоджана грахом у нашай душы. Пакаянне дадзена нам Богам як лекавы сродак супраць грэхападзення. Гасподзь даў нам магчымасць убачыць і спазнаць Шлях Жыцця і шлях смерці, пры гэтым мы вольныя ў сваім выбары. Давайце ж паспрабуем уважліва прыгледзецца да сябе і спытаць у свайго сумлення: ці не Іудавым шляхам ідзем мы? Хіба тады, калі цалуем выяву нашага Збавіцеля на святой іконе, наш пацалунак не падобны на пацалунак здрадніка Іуды? Хіба рэдка мы свядома робім тыя ўчынкі, што прама супрацьлеглыя таму, што кажа нам нашае сумленне?

Адно з двух: або мы сапраўды змагаемся ў сваёй душы за дадзены нам Творцам вобраз Божы, і тады, як бы ні было нам цяжка, мы будзем імкнуцца да ацалення нашых душ ад хваробы на грэх, або мы прымусім замаўчаць у сваёй душы голас нашага сумлення, і тады зоймем бок «свету гэтага і князя яго».

Гасподзь надзяліў нас магутнай зброяй у духоўным змаганні за

Ісціну - гэта пакаянная малітва. Будзем жа маліцца за нашу Святую Праваслаўную Царкву, якой пагражаюць сёння ілжэвучэнні і расколы. Будзем маліцца за нашу Айчыну, каб яна зноў вярнулася да Хрыста і каб тыя нягоды, што зараз пануюць над намі, спрыялі не страчванню людзьмі Богам дадзенага ім розуму, а, наадварот, абуджэнню іх сумлення. Будзем маліцца і за нас саміх, каб у гэтыя дні Вялікага посту здолець нам ацаліцца духоўна. Будзем маліцца і аб тым, каб Гасподзь натхніў нас духам сапраўднай праваслаўнай малітвы і шчырага пакаяннага пачуцця і дазволіў увайсці ў радасць Свайго Уваскрасення. Амінь.

## *Пропаведзь у Нядзелю 2-ю Вялікага посту*

## СВЯЦІЦЕЛЬ ГРЫГОРЫЙ ПАЛАМА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Адзначыўшы ў першую Нядзелю Вялікага посту свята Перамогі Праваслаўя над усімі ерасямі, што страсалі Царкву Хрыстову ў першыя стагоддзі яе існавання, сёння Праваслаўная Царква святкуе перамогу праваслаўнага падзвіжніцтва над усімі супрацьлеглымі яму вучэннямі. Невыпадкова Святая Царква другую Нядзелю Вялікага посту называе Нядзеляй «святланосных постаў». Царква моліць Госпада аб азарэнні і прасвятленні благадаццю Божай усіх тых, хто моліцца, трымае пост і прыносіць пакаянне ў сваіх грахах. Вызначыўшы ў папярэднюю Нядзелю абожанне як мэту духоўнай працы хрысціяніна, цяпер Святая Царква гаворыць пра яго вынікі, гаворыць пра перамяненне чалавека. У богаслужэнні сённяшняга дня побач са скрухай аб грахоўным стане чалавека прысутнічае ўхваленне посту як шляху да такога ўнутранага азарэння і прасвятлення.

Мэта посту, мэта усіх нашых духоўных подзвігаў - пакаяннага, малітоўнага, мэта ўсіх просьбаў нашых, звернутых да Бога, - гэта

імкненне да раскрыцця ў нас вобраза Божага, які ўпісаны ў нашу чалавечую прыроду, у саму нашу сутнасць рукою самога Творцы.

Гасподзь нізпасылае на нас Сваю благадаць. І мы называем яе Боскай, згодна з вучэннем Праваслаўнай Царквы, агучаным святым Грыгорыем Паламам, памяць якога мы сёння ўшаноўваем. На падставе вопыту святых ён вызначыў, што благадаць Усесвятога Духа ёсць Само Бажаство, Якое зыходзіць на чалавека і робіць яго, па словах апостала Пятра, супольнікам божай прыроды (2Пятр.1:4).

Гэта вучэнне, заснаванае на ўласным вопыце святых і вопыце ўсёй Царквы ў яе сукупнасці, з'яўляецца, магчыма, самай вялікай нашай радасцю: мы здольныя не толькі стаць духаноснымі ў нейкім пераносным сэнсе, але сапраўды боганосцамі, стаўшы, праз благадаць, далучанымі да жыцця Божага і супольнікамі Божай прыроды. Менавіта малітва, пакаянне, устрыманне і іншыя аскетычныя подзвігі садзейнічаюць асэнсаванню чалавекам таго высокага прызначэння, якое мае кожны з нас. І прызначэнне гэтае - здабыццё збаўлення. Клапоцячыся пра сваё збаўленне, чалавек становіцца далучаным да боскага святла ўжо тут, на зямлі. Ён азараецца, прасвятляецца, адухаўляецца гэтым нястворанымбоскім святлом.

Свяціцель Грыгорый і яго спадзвіжнікі, афонскія манахі, даказвалі самім сваім жыццём, што пастаянным ачышчэннем душы, несупыннымі практыкаваннямі ў богамысліі і малітве, абсалютнай маўклівасцю сваіх думак і пачуццяў чалавек здольны дасягнуць азарэння Звыш, убачыць Нястворанае Боскае святло - праяўленне сутнасці Бажаства і яе адлюстраванне - убачыць сваімі цялеснымі вачыма, як было гэта з апосталамі на Фаворы і пры ўсіх іншых выпадках звышнатуральнага Адкрыцця Божага, напрыклад, Маісею і Іліі, старазапаветным праведнікам і святым новага часу.

Сутнасць духоўнага жыцця, да якога заклікае нас Святая Царква ў часы Вялікага посту, у тым, каб, перш чым імкнуцца дасягнуць благадаці, Нястворанага Боскага святла, мы навучыліся б супрацьстаяць усялякай няпраўдзе, усякаму граху, усякай бяздзейнасці, усякаму засмучэнню; каб мы імкнуліся з усіх сваіх сілаў прыдбаць тыя галоўныя якасці, пра якія нагадвае нам Царква. Кожнаму ча-

лавеку Гасподзь падае Сваю благадаць, але ў меру здольнасці кожнага прымаць яе.

Святыя айцы кажуць, што сапраўдная духоўная праца пачынаецца з ачышчэння ад страсцей, а далей ідзе абожанне - набліжэнне чалавека да Бога.

Грыгорый Палама ўказвае нам шлях, па якім мы не ідзем,але можам ісці. Неабходна захоўваць свой язык, розум і сэрца ад усяго дрэннага і грахоўнага, і праз малітву ўзыходзіць да Бога і набліжацца да Яго. Пост - гэта паглыбленне ў сваю ўласную душу з мэтай дасканалага ачышчэння яе ад грахоўнага бруду. А як жа зможа паглыбіцца ў сябе пустаслоў, калі ўсе яго памкненні накіраваныя ў знешні свет, дзе ён шыкуе перад іншымі людзьмі сваімі прамовамі?!..

Пост аднаўляе дачыненні чалавека з Богам. Але як жа здолее пачуць голас Божы ў сваёй душы той, хто пастаянна заняты марнаслоўем і чуе толькі свой уласны голас?!.. Вось таму і папярэджвае нас святы апостал Іакаў: «кожны чалавек няхай будзе борзды ў слуханні, марудлівы ў словах» (Іак.1:19).

Добрае маўчанне, якое сцвярджаў сваім жыццём і сваім вучэннем свяціцель Грыгорый Палама, - гэта і пакланенне перад веліччу слова Божага праз утаймаванне гордага чалавечага языка, якім мы часта імкнемся павучаць тых, хто побач з намі, пры гэтым самі не ведаючы ісціны.

Пост дадзены нам, каб раскрыць, прабудзіць і развіць у сабе духоўнае жыццё. Сэнс жыцця ў тым, каб чалавек знайшоў самога сябе. А што значыць «знайсці самога сябе»? Гэта якраз значыць знайсці ў сабе, убачыць у сабе далучанасць да быцця Божага і пабудаваць сваё жыццё так, каб гэтая далучанасць была рэалізавана.

Перш чым уваходзіць у высокія сферы духоўнага жыцця, чалавек павінен пачынаць з самага галоўнага: з усведамлення сваёй грахоўнасці, сваіх немачаў перад Богам, з прызнання таго, што без Бога ён не можа нічога.

Грэшныя мы і нявартыя тых міласцяў, якія Гасподзь дае нам. Гэта трэба цвёрда зразумець і асэнсаваць і, пазбягаючы ўпадзення ў маркоту , імкнуцца да ачышчэння свайго сэрца. Вось і ў малітве

Яфрэма Сірына мы просім Госпада пазбавіць нас ад духу маркоты і дапамагчы ўбачыць свае грахі, каб пакаяцца ў іх перад Богам і не трапляць у іх зноў.

Мы молімся аб тым, каб Гасподзь пазбавіў нас не проста ад бяздзейнасці, засмучэння і марнаслоўя, а ад духу зла, якім жывуць гэтыя грахі. І каб Ён дараваў нам дух чысціні, пакоры, цярплівасці і любові – тое святло, якое нам дадзена было адчуць як новае жыццё, дзеля якога створаны чалавек.

Шмат хто з вернікаў лічыць, што яны жывуць звычайным хрысціянскім жыццём. Але, па вялікім рахунку, звычайнага хрысціянскага жыцця не бывае. Святая Царква папярэджвае нас аб небяспецы так званага «сярэдняга» хрысціянства. На жаль, у большасці сваёй мы менавіта такія і ёсць: і не «гарачыя», і не «халодныя». А такі стан чалавечай душы, як вучаць святыя айцы, з'яўляецца грахоўным.

Так, канешне, нам, якія пастаянна знаходзяцца ў паўсядзённых клопатах і турботах, у штодзённай побытавай мітусні, нялёгка выратаваць сваю душу, цяжка ісці за Хрыстом, выконваючы Яго запаведзь: «Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе і возьме крыж свой і ідзе ўслед за Мною»(Мф.16:24). Не ўсе мы здольныя ў поўнай меры адгукнуцца на гэты заклік Збавіцеля. Але, нягледзячы на гэта, мы абавязаны ў адпаведнасці са сваімі сіламі, што кожнаму з нас дадзеныя ад Госпада, вучыцца таму хрысціянскаму подзвігу, які здзяйснялі усе святыя падзвіжнікі веры і пабожнасці, а не сядзець склаўшы рукі і не плысці па цячэнні, быццам дохлая рыбіна.

Па словах святых айцоў, у апошнія часы хрысціяне будуць ратавацца не столькі подзвігам малітвы і посту, колькі цярплівым нясеннем свайго ўласнага крыжу пакутаў і вызнаваннем ісціны з адмаўленнем усякай няпраўды, што пануе ў свеце.

Сапраўднае хрысціянскае жыццё вельмі не простае і патрабуе праяўлення нашай настойлівасці, выдаткаў энергіі і волі. Усё павінна быць сабрана ў адзіны кулак: наша вера, наша любоў, наша надзея, наша рашучасць на выкараненне зла са сваёй душы. Ды, на жаль, чаго там граху таіць, як сказаў адзін мудры чалавек: «Нам

наканаваныя вялікія памкненні, але здзейсніць - нічога не дадзена». Менавіта так і атрымліваецца ў тым выпадку, калі ў нас няма жадання і настойлівасці ў дасягненні пастаўленай мэты. І як сугучнае з гэтым евангельскае чытанне, прапанаванае нам сёння.

Нямоглага чалавека ацаліў Хрыстос. Гэты хворы меў чатырох сяброў, і па веры гэтых людзей, бачучы іх настойлівасць, Збавіцель яго ацаляе. Так, усе мы, браты і сёстры, павінны быць настойлівымі ў дасягненні станоўчых вынікаў у справе свайго духоўнага сталення.

Звяртаючыся да быццам бы простых, але вельмі важных для нашага малітоўнага і духоўнага ацалення дабрадзейнасцей – гэта значыць, уважлівасці і несупыннасці ў малітве, пакаянні і памяці смяротнай, мы навучымся маліцца і будзем розумам знаходзіцца перад Госпадам. Благадаць Божая ацаліць наш розум, які больш не будзе адхіляцца ад малітвы, але стане заўсёды імкнуцца да яе і зробіць малітву нашым жыццём, нашым натуральным станам.

Не стаянне на адным месцы, не адыход назад, а рух наперад; хоць на крышачку, хоць ледзь-ледзь, але - наперад. У адпаведнасці са сваімі сіламі мы павінны імкнуцца да дасканаласці - да гэтага заклікае нас Гасподзь. Ператварыцца ў чалавека духоўнага цяжка: неабходна прыкласці вялікія намаганні, каб дасягнуць хаця б невялікіх станоўчых вынікаў.

Святая Царква, быццам любячая маці, бярэ кожнага з нас за руку і вядзе па тым шляху, на якім чалавек абавязкова знаходзіць самога сябе ў самым высокім сэнсе слова, знаходзіць далучанасць да быцця Божага ў глыбіні сваёй сутнасці.

Прыслухаемся да парады свяціцеля Грыгорыя Паламы: «Пакладзі пачатак свайго жыцця дасканалейшага і абнаві сябе, рыхтуючыся да прыняцця будучых вечных дабрадаянняў». Амінь.

духоўнай барацьбы многіх і многіх пакаленняў вернікаў, гэта духоўная вяршыня ўсёй Старазапаветнай Царквы. Нараджаецца Тая, Якая будзе захоўваць вернасць Богу.

Свята Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы – гэта свята нашага з вамі ўзыходжання на неба. Мы ведаем, што бацькі Багародзіцы былі ўжо старымі, у сталым узросце, і, канешне, разумелі, што дзіця ў іх незвычайнае, і гэтай дзяўчынцы неабходна і адпаведнае выхаванне, і пэўны клопат пра Яе, а іх жыццё ўжо падыходзіць да свайго заканчэння. Яны прыводзяць Яе ў храм, а пры храме ёсць школа. У нас пры саборы таксама дзейнічае царкоўная нядзельная школа, і кожную нядзелю збіраюцца дзеткі, а святары і настаўнікі тлумачаць ім сэнс нашай хрысціянскай веры і жыцця. А ў Іерусалімскім храме была такая школа пастаянная, штодзённая, дзе дзяцей вучылі не толькі свецкай грамаце (чытаць, пісаць) і давалі тыя веды, якія неабходны чалавеку ў яго зямным жыцці, але і вучылі духоўнай грамаце, духоўнай мудрасці, вывучалі слова Божае – гэта значыць, тое, што Бог гаворыць нам, да чаго Бог нас заклікае і як мы з вамі можам адгукнуцца на гэты заклік Божы. У гэтую школу аддаюць маленькую дзяўчынку Дзеву Марыю. Царкоўнае паданне гаворыць, што, калі Яе разам з сяброўкамі, якія трымалі ў сваіх руках запаленыя свечкі, прывялі ў храм, іх сустрэў святар Захарыя – сваяк Дзевы Марыі, будучы бацька Іаана Хрысціцеля. Ён выдатна ведае, якое дзіця прывялі да яго, і ўнутраным позіркам, унутраным разуменнем, адкрыццём Божым ён бачыць у Дзеве Марыі Тую, праз Якую да нас прыйдзе збаўленне. Ён уводзіць Яе ў Святая Святых – гэта значыць, туды, дзе ў Іерусалімскім храме заходзіўся алтар, куды заходзіць мог толькі святар, ды і тое, толькі адзін раз на год. І вось у гэта святое месца, куды сам ён не мог увайсці, ён заводзіць Дзеву Марыю, як пра гэта гаворыць Пісанне.

Сэнс гэтай падзеі тлумачыць нам сёння апостал Павел у сваім пасланні да эфесянаў. Ён выдатна гаворыць, што Стары Запавет – гэта правобраз Новага Завета, новага саюза паміж Богам і чалавекам. Богаабраны народ 70 гадоў за свае грахі знаходзіўся ў палоне, і ён вырываецца з гэтага палону і ідзе шукаць Бога. У нашай

гісторыі пасля 70-гадовага палону мы з вамі таксама зараз блукаем па пустыні і не ведаем, куды пайсці, дзе знайсці сваё месца, дзе знайсці такі стан, такое жыццё, у якім мы будзем разам з Богам. У гэтым падарожжы богаабранага народа яго пуцяводнай зоркай быў часовы паходны храм – скінія, у якой знаходзіўся спецыяльны каўчэг, дзе захоўваліся тыя запаведзі, тое адкрыццё, што пачуў ад Бога на Сінаі Маісей. Сам Бог спачываў у скініі, у каўчэгу запавету. Такім каўчэгам называе апостал Павел Дзеву Марыю, Якая сама стала адушаўлёным храмам Божым і здолела ўмясціць у сабе неўмяшчальнага Бога.

Кожны з нас пакліканы да такога падабенства Божага, як нам паказала гэта сваім духоўным подзвігам Дзева Марыя. Усе мы закліканы да ўзыходжання на неба, у вышэйшы свет, і ўсё гэта пачынаецца яшчэ тут, у нашым зямным жыцці. І Царствам Божым на зямлі з'яўляецца Царква, наш з вамі храм, дзе чалавек у царкоўных Таінствах, у богаслужэнні, у пазнанні слова Божага сустракаецца з Богам, і ў сваім духоўным подзвігу ўзыходзіць у вышэйшы свет, у свет Хрыста Збавіцеля, у нябесную Царкву.

Сёння свята Увядзення ў храм Маці Божай паглыбляецца яшчэ тым, што 90 гадоў назад на патрыяршы прастол быў узведзены Свяцейшы Патрыярх Ціхан, і ў гэтым годзе мы святкавалі 90-годдзе адраджэння патрыяршаства. Дзвесце гадоў патрыяршая кафедра была пустая, дзяржава паралізавала Царкву, пазбавіла яе волі, зрабіла яе дзяржаўнай установай, Царква Божая ператварылася ў царства зямное. Пачалася новая старонка ў гісторыі Царквы, калі за свае грахі, за сваё маловер'е і адрачэнне ад Бога неабходна было разлічвацца крывёю – крывёю новамучанікаў і вызнаўцаў веры. У цяжкія часы вайны, рэвалюцыі, вайны грамадзянскай крыж царскага царкоўнага служэння прымае патрыярх Ціхан. Ён прама кажа, што гэта нялёгкі крыж, але ён нясе гэты крыж і сам прымае пакутніцкі вянец, і сёння шануецца Царквой як мучанік і вызнаўца веры, які аддае сваё жыццё за праўду і ісціну.

Царква непахісная, Хрыстос незнішчальны, Яго Царква існаваць будзе вечна, і пра гэта сведчыць кроў мучанікаў і вызнаўцаў веры Старажытнай Царквы і нашага з вамі часу. Сёння,

як і прадказвалі гэтыя святыя іерархі, прыйшоў час пакаяння, калі нам даецца магчымасць адрадзіць сваё духоўнае жыццё, адрадзіць царкоўны лад, адрадзіць хрысціянства ў нашай з вамі Айчыне. І мы яшчэ толькі шукаем гэты шлях, нам яшчэ вельмі цяжка пасля гэтага палону, пасля ўсіх нашых духоўных хвароб, пасля перажытага гвалту вызначыцца з нашым духоўным жыццём. Пуцяводнай зоркай нам з'яўляецца патрыярх Ціхан, яго паплечнікі мучанікі-вызнаўцы. Тая Царква, аблічча якой вызначыў патрыярх Ціхан у сваім пастырскім служэнні, перамагае і сёння.

Сёння мы звяртаемся да патрыярха Ціхана, каб ён маліўся да Маці Божай за нас з вамі, і Яна захавала нашу Царкву ад усякіх заганаў, ад усякага граху, і каб Яна і нас з вамі таксама ўмацавала ў сапраўднай веры, каб мы былі адданыя Богу нават да крыві, да крыжовай смерці, і каб у сваім хрысціянскім служэнні мы з вамі былі такімі ж, як патрыярх Ціхан і Дзева Марыя.

Няхай Гасподзь у сённяшняе свята благаславіць усіх нас і захавае нашу Царкву. Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ НА БЛАГАВЕШЧАННЕ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

"Радуйся, Благадатная! Гасподзь з Табою" (Лк.1:28), – гэта словы Пасланца нябёсаў, звернутыя да Маці Божай, у якіх – сутнасць нашага свята. З гэтых словаў пачынаецца наша выратаванне – збаўленне роду чалавечага. Гэтыя словы абвяшчаюць свету таямніцу Богаўцялеснення, прыносяць вестку з нябёсаў аб вялікай любові Бога да чалавека. Сын Божы становіцца Сынам Дзевы. На якую ж вышыню ўздымаецца наша чалавечая прырода! Вось як пра гэта кажа свяціцель Іаан Златавуст: "Бог – на зямлі, чалавек – на небе. Усё аб'ядналася: ангелы складаюць адзінае цэлае з людзьмі, людзі далучаюцца да ангелаў і іншых нябесных сілаў."

Якая ж роля Божай Маці, заўжды Дзевы Марыі ў справе выратавання чалавецтва? Якое Яе месца ў сакральнай гісторыі? У

момант Благавешчання Прасвятой Багародзіцы Дзева Марыя, адгукаючыся на зварот Бога да людзей, ад імя ўсяго чалавечага роду і дзеля яго збаўлення выказала сваю згоду, без якой Бог не мог прыйсці ў свет і стаць чалавекам. І калі ў Назарэце архангел Гаўрыіл з'явіўся Божай Маці і прынёс Ёй радасную вестку пра тое, што ад Яе народзіцца Сын Божы, Яна пакорна згадзілася з воляй Творцы.

Гэта быў Яе асабісты адказ на зварот Божы. Але Яна – адна з нас. І таму, як мы праз агульначалавечую салідарнасць і пераемства звязаны з Адамам і здзейсненым ім грахом, так і звязаны мы з Багародзіцаю, словы згоды Якой прагучалі ад імя усяго чалавецтва. Калі б не было Яе станоўчага адказу, не было б і Уцялеснення Сына Божага і Сына Чалавечага. Без Сваёй Прачыстай Маці і насуперак Яе волі Ісус Хрыстос не змог бы прыйсці ў свет і прынесці яму збаўленне.

Праваслаўная Царква ўшанаўвае Прасвятую Дзеву як найвышэйшую з усіх створаных Богам істотаў, не толькі людзей, але і ангелаў. Як Маці Богачалавека па Яго чалавецтву Яна пераўзыходзіць благадаццю і набліжанасцю да Бога ўсіх іншых істотаў – жыхароў свету зямнога і нябеснага, бачнага і нябачнага. І таму Царква называе Яе "Пачэснейшай за Херувімаў і непараўнальна слаўнейшай за Серафімаў". Прасвятая Дзева Марыя – самая дасканалая прадстаўніца чалавечага роду, цалкам прысвяціўшая Сваё жыццё Богу. Чалавечая прырода ў асабе Багародзіцы ў выніку свабоднага Яе асабістага выбару дае згоду паслужыць Уцялесненню Бога. Яна аддае сябе Богу цалкам у непаўторнай асобе канкрэтнага чалавека. Згода Дзевы Марыі зрабіла магчымай сустрэчу чалавечай волі і волі Божай. Абсалютны давер Яго Любві. Ніякага эгаізму – суцэльная паслухмянасць Богу, найцяснейшае яднанне з Ім, максімальная рэалізацыя усіх жыццёвых магчымасцяў.

Бог прымае нашу чалавечую прыроду, каб яе выправіць і нас жа ацаліць. Бог прыходзіць да нас, каб усіх нас, без выключэння, узняць на неба. Гэтую радасць і ўзвяшчае архангел Гаўрыіл Дзеве Марыі. Гэта слова радасці пранеслася па ўсёй зямлі. З гэтым сло-

вам радасці на вуснах і гарачым пачуццём у сэрцы ішлі апосталы, абвяшчаючы свету жывую евангельскую ісціну. Пачуццё гэтай радасці натхняла многія тысячы святых мучанікаў нашай Царквы і ўсіх падзвіжнікаў веры на іх пакуты і подзвігі.

Благавешчанне звычайна знаходзіцца побач са Страстным тыднем. Яно быццам бы рыхтуе людзей да перажывання самых напружаных дзён богаслужбовага года. Радасць Благавешчання, разам з тым, ёсць і пачатак Крыжовага шляху і пакутаў. Гэтая думка выдатна ўвасобілася ў адной старажытнарускай іконе Благавешчання. Ікона гэтая, якая носіць назву "Страсное Благавешчанне", уражвае нас смеласцю свайго натхнення. На ёй архангел Гаўрыіл звяртаецца да Божай Маці, трымаючы ў сваіх руках не лілею, як мы прывыклі гэта бачыць, а Крыж. У благавешчанскай радасці ўжо можна заўважыць Крыж – Крыжовы шлях, тое самае прадказанне праведнага Сімеона: "І Табе Самой душу пратне меч, – каб адкрыліся помыслы многіх сэрцаў" (Лк.2:35). Страшныя цвікі уванзіліся не толькі ў Прачыстае Цела Хрыста, але і ўпіліся ў сэрца Божай Маці. Прасвятая Багародзіцца разам са Сваім Сынам ішла Яго скрушным Крыжовым шляхам, поўным смутку, пакутаў і выпрабаванняў. Яна не спалохалася Крыжа, Яна не ўхілялася ад прыніжэнняў і абразаў, Яна цярпліва і пакорна пераносіла ўвесь гэты боль і жах. І ў выніку Яе радасць, прынесеная архангелам, стала і нашай радасцю. Не саграvала б нашыя сэрцы надзея на жыццё вечнае, калі б Яна, адзіная з усяго чалавечага роду, не вырашыла б аднойчы стаць "Рабой Госпадняй" (Лк.1:38), адданай Свайму Творцы цалкам, да канца, да таго жудаснага моманту, калі Яе Сын і Бог, прыбіты да Крыжа, у перадсмяротных пакутах не ўсклікнуў: "Божа Мой, Божа Мой! Чаму



Ты Мяне пакінуў?" (Мф.27:46). Толькі ўявіце сабе: Яна, Маці, чула гэты крык! І вось ў гэтую хвіліну, калі "завеса храма разадралася напалам, зверху данізу; і зямля страсянулася; і скалы раскалоліся; і многія целы спачылых святых уваскрэслі" (Мф.27:51), Яна, наша Заступніца і Хадатайніца за нас, не забыла пра радасць, прынесеную Ёй архангельскім дабравесцем, не страціла веры.

Радасць Благавешчання спалучаецца і з Крыжам, і з пакутамі і з самой смерцю. Тым не менш, гэта – радасць, бо без Крыжа не было б Уваскрасення! Мы бачым незвычайную веру ў Бога, паяднаную з даверам Яму і пакорай перад Ім, якія мела Прасвятая Багародзіца. Яе дзіўная здольнасць даверыцца Богу цалкам, да канца, не з'яўляецца прыроднай здольнасцю, уласцівасцю, атрыманай ад нараджэння, як многія могуць падумаць. Не. Гэтая Яе вера і давер Богу народжаны той любоўю, якой Прасвятая Дзева ўзлюбіла Госпада.

Так, сапраўдная любоў – гэта любоў самаахвярная, якая ўмее пераносіць пакуты і можа цалкам аддаць сябе за іншых; так, як усяго Сябе аддаў за нас Хрыстос. Ён прыйшоў у свет як Агнец Божы для таго, каб прынесці ў ахвяру Сябе за кожнага чалавека, каб Сваёю Пачэснай Крывёю, пралітай Ім на Жыватворчым Крыжы, амыць грахі чалавецтва. Само прышэсце ў свет Хрыста Збавіцеля – гэта ўвасабленне ахвярнай і высакароднай любві Божай да людзей, бо "так узлюбіў Бог свет, што Сына Свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто веруе ў Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Іаан.3:16). І добрая вестка архангела Гаўрыіла Дзеве Марыі ёсць пачатак гэтай любві. Сын Божы добраахвотна ідзе на пакуты, смерць і пахаванне, каб даць людзям вечную радасць.

Свята Благавешчання сугучнае Евангеллю: па-грэчаскі "евангелле" якраз і азначае 'радасная вестка'. Таму ў храме ікона Благавешчання заўсёды знаходзіцца ў самым цэнтры – над Царскімі варотамі, якія вядуць з храма ў алтар. Праз гэтыя вароты людзям выносіцца Пацір – Святая Чаша, з якой мы прычашчаемся: прымаем ў сябе Прачыстае Цела і Пачэсную Кроў Сына Марыі.

Царква ўмацоўваецца крывёю мучанікаў. І гэта асабліва яскрава стала бачна ў 20-м стагоддзі. Мэтай усіх гістарычных

катаклізмаў пачатку стагоддзя, інспіраваных, безумоўна, сатаною, было знішчэнне Праваслаўнай Царквы. Адразу ж пасля бальшавіцкага перавароту на Рускую Праваслаўную Царкву абрынуліся нябачныя дагэтуль ганенні, моц якіх не слабела цэлую чвэрць стагоддзя. Царква аказалася адзіным інстытутам старой Расіі, які не змагла перамагчы новая ўлада. Тым самым Яна яшчэ раз пераканала ўсіх у сапраўднасці слоў Хрыста: "Вароты пякельныя не адолеюць Яе" (Мф.16:18). І, канешне ж, перамога Царквы над сіламі зла, у першую чаргу, адбылася, дзякуючы вялікай колькасці навамучанікаў і вызнаўцаў святой праваслаўнай веры. Гэта іх малітвы, іх хадайніцтва перад Збавіцелем і Яго Прачыстай Маці не дазволілі знішчыць Праваслаўе.

25 сакавіка 1925 года ў дзень Благавешчання Прасвятой Багародзіцы, дзень пачатку збаўлення чалавецтва, спачыў Патрыярх-мучанік Ціхан. Адзінаццаты Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, ён у цяжкі для Царквы час прыняў на сябе ад Бога подзвіг несці людзям словы любві і ісціны. У асобе патрыярха Ціхана ганімая Царква знайшла голас вялікай аблічальнай моцы. У гэтым першасвятару была асаблівая, амаль царская веліч і свабода, а таксама поўная адсутнасць страху за сваё жыццё. Разам з усім народам пакутаваў і плакаў над сваёй зняважанай Радзімай і Патрыярх. Сем з паловай гадоў ён працаваў на ніве Божай, цярпліва пераносячы абразы і паклёпы, гатовы ў кожную хвіліну прыняць пакутніцкую смерць ад рук бязбожнікаў. Святы Ціхан клікаў народ да пакаяння, да плача па грахах. Сапраўднай прарочай сілай дыхаюць яго пасланні: "Грэх – цяжкі, нераскаяны грэх – выклікаў з пякельнай бездані сатану, які зараз зняславіць імя Божае, узводзіць паклёпы на Госпада і Хрыста Яго, распачынае адкрытае ганенне на Царкву. Хто дасць вачам нашым слёзы, каб аплакаць усе беды, народжаныя нашымі ўсенароднымі грахамі і беззаконьмі – страту славы і прыгажосці нашай Айчыны. Плачце ж, дарагія браты і сёстры, што засталіся вернымі Царкве і Радзіме, плачце па грахах вашай Бацькаўшчыны, пакуль яна не загінула да канца."

Вакол свяціцеля і яго духоўнага "статка", які ён ахоўваў як добры евангельскі пастыр, збіраліся зграі "ваўкоў", гатовых з нянавісцю разарваць "статак". А знутры "статак" раздзіралі "ваўкі ў авечых

шкурах" – прыхільнікі так званай "жывой царквы", "абнаўленцы". Здавалася, такі велічны будынак Праваслаўнай Царквы разбураны, як і шматлікія храмы, знішчаныя "ваяўнічымі атэістамі". Святы Ціхан прайшоў праз шматчасовыя жорсткія допыты, праз замахі на сваё жыццё, праз арышты, здзекі і прыніжэнні, але не спыніў свайго служэння, захінаючы сабою ўвесь народ Божы, умацоўваючы яго сваімі казаннямі і зваротамі да паствы. І разам з Царквою Божай, з усімі вернікамі падзяляў іх долю і Патрыярх, які цярпліва нёс свой уласны пакутніцкі крыж да самай смерці, што напаткала яго ў бальніцы і здарылася пры дастаткова загадкавых абставінах.

Жыццё Святейшага Патрыярха Ціхана нагадвае нам пра Бога. Жыццё Святейшага Патрыярха Ціхана сведчыць пра Бога. Яго жыццё, смерць і ўпакаенне са святымі прымушаюць нас выйсці са стану духоўнага сну, каб ажыць у Богу, каб жыць з Богам. А нерашучасць, крывадушша, абыякавасць да духоўнага жыцця вядуць да смерці, і смерці не толькі духоўнай.

7 красавіка памерла Ларыса Геніюш. Збавалася б, што агульнага можа быць паміж гэтымі двума людзьмі – святым вызнаўцам і беларускай паэткай... Але іх жыццёвыя шляхі зыходзяцца ў адной кропцы – крывавай ране, нанесенай бязбожнай савецкай уладай цкаваннем, допытамі, болем і страхам, арыштамі і рэпрэсіямі, "чырвоным тэрорам". У сваёй кнізе "Споведзь" Ларыса Геніюш расказвае аб суцяшэнні, якое яна знаходзіла ў малітве, калі была ў лагеры. Там усе трымаліся адзін аднаго, разам маліліся, сумесна адзначалі святы, вышывалі пасланні-крыжыкі, памятаючы, што і самі яны нясуць кожны свой уласны жыццёвы крыж. Памерла Ларыса Геніюш, як і святы Патрыярх Ціхан, у бальніцы. У яе знайшлі рак кішэчніка і зрабілі аперацыю. Тыя, хто даглядаў за ёй у бальніцы, сведчылі, што "нейкія практыканты-канавалы" выконвалі над ёй загадкавыя працэдуры, якія, хутчэй за ўсё, і наблізілі смерць.

Шлях святасці, шлях простай веры і вернасці Богу, які здзяйсняе свае вялікія справы. Ён ведае, як гэта зрабіць. Ад нас патрабуецца толькі вернасць Богу ў тым, што ў нашых сілах.

На жаль, вопыт нашага жыцця сведчыць, што мы па розных прычынах не гатовыя, а, магчыма, нават і не жадаем адказваць Богу сваёй любоўю. Замест любві, ад якой нараджаецца цярпенне, у нас часцей за ўсё ўзнікае нараканне, незадаволенасць усім і ўсімі. Але сённяшняе свята вучыць нас іншаму: хрысціянін за ўсё павінен быць удзячны Богу: і за радасць, і за гора, таму што ўсё, пасланае нам ад Яго, карысна для нас. Мы павінны з усёй сілай аддаваць Богу сваю ўдзячную любоў, а разам з Ім любіць і ўсіх тых людзей, што знаходзяцца побач з намі. У гэтай любові да Бога, Які перанёс жудасныя пакуты і прыняў смерць за нас, да Яго Прачыстай Маці і да ўсіх людзей – крыніца шчасця і блажэнства як тут, на зямлі, так і там, у будучым жыцці – у Царстве Божым. Вось да гэтага Царства і будзем ісці, пераадольваючы ўсе перашкоды і цяжкасці цяперашняга часу. Будзем усімі сіламі імкнуцца да таго, каб Гасподзь і Яго Прачыстая Маці былі б з намі ва ўсе дні нашага зямнога, а таксама, і гэта галоўнае, падчас жыцця нябеснага! Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ ПЕРАД НАРАДЖЭННЕМ ХРЫСТОВЫМ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У гэтую апошнюю нядзелю перад святам Нараджэння Хрыстова Святая Царква нагадала нам пра Святых Айцоў. Зусім нядаўна, літаральна тыдзень назад, мы з вамі ўспаміналі Святых Праайцоў. І тады мы казалі, што Праайцамі з’яўляюцца тыя старазапаветныя праведнікі, якія жылі вераю ў абяцанага Месію.

Святымі Айцамі былі таксама ветхазаветныя праведнікі, але толькі тыя, якія ўваходзілі ў радавод Хрыста Збавіцеля.

Мноства людзей жыло верай у чаканні таго, што было адкрыта нашым Праайцам. Дзень Нараджэння Хрыста быў самым чаканым і жаданым днём. Але не хутка пасля стварэння свету наступіў гэты дзень. Трэба было людзям яшчэ шмат папрацаваць, трэба

было, каб грэх, як цяжкая язва, увесь праступіў для канчатковага, дасканалага ацалення хваробы. Таму што выратаваць можна толькі таго, хто ўсёй сваёй душой жадае збаўлення, таго, хто цвёрда засвоіў, што ён – гіне і самому сябе яму не выратаваць, хто зразумеў, што мае патрэбу ў выратаванні.

Не было таксама сярод людзей такой чыстай і святой асобы, ад якой мог бы нарадзіцца Збавіцель свету.

Праведным людзям (а іх было няшмат) прыходзілася захоўваць дадзеныя абяцанні з рашучасцю, з барацьбою са спакусамі свету і пераносіць іх з высокай самаахвярнасцю. Такіх вялікіх і рэдкіх дабрадзейнасцяў у старазапаветных праведнікаў не было б, калі б яны не былі цвёрда ўпэўненыя ў абавязковым прышэсці Збавіцеля і ў сваім уласным выратаванні. Інакш для чаго, напрыклад, ахвяраваць сабою, цярпець гора, галечу, кайданы, страчваць бацькаўшчыну, ісці некуды ў невядомую краіну? Пра такую вось самаахвярнасць, пра такую вось выдатную веру для нашага навучання і прапаноўваецца нам Святою Царквой сёння, у Нядзелю перад Нараджэннем Хрыстовым, адпаведнае апостальскае чытанне.

У Пасланні да Яўрэяў, якое мы з вамі чулі сёння за Літургіяй перад чытаннем Евангелля, апостал Павел піша пра людзей, якія з надзеяй і спадзяваннем чакалі свайго Бога. Святы апостал Павел гаворыць нам пра веру Аўраама, Ісаака, Іакава і іншых старазапаветных праведнікаў.

І не выпадкова мы сёння з вамі, калі чыталася Евангелле, чулі імёны многіх і многіх людзей, якія ўвайшлі ў радавод Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. Апостал Матфей – а менавіта яго Евангелле на Літургіі было сёння прапанавана нашай увазе – нагадаў нам аб гэтых старазапаветных людзях. І мы з вамі з гэтага апавядання ведаем, што радавод Богачалавека пачынаецца ад айца веруючых – старазапаветнага патрыярха і праведніка Аўраама – і цягнецца да Самой Дзевы Марыі і праведнага Іосіфа, з якім Яна была заручана.

Праведнікі, пералічаныя ў радаводзе Збавіцеля, сваімі подзвігамі, дабрадзейным жыццём і перанясеннем цяжкіх

выпрабаванняў заслужылі, каб Ісус Хрыстос прыйшоў у свет менавіта з іх народа. Нягледзячы на тое, што ў кожным з іх, як і ў любым чалавеку, як і ў нас, жыў і дзейнічаў грэх, у той жа час яны жылі чаканнем прышэсця Месіі, і гэта галоўная ідэя іх жыцця была для іх пуцяводнай зоркай. Яны, як мы бачылі, нягледзячы на цяжкія жыццёвыя абставіны, не палі духам, а мужна пераносілі выпрабаванні, не вагаючыся ў веры, чакалі свайго збаўлення, магчыма, у далёкай будучыні. Перш за ўсё з доўгага шэрагу пакаленняў, што папярэднічалі Хрысту, мы ясна бачым, якім доўгім шляхам вярталася чалавецтва пасля свайго грэхападзення да Бога, якой цяжкай была гэта дарога, колькі сапраўды вартых і праведных людзей чакалі , але так і не дачакаліся за ўсё сваё доўгае жыццё радаснай хвіліны здзяйснення іх спадзяванняў.

Ад іх патрабаваліся ахвяры, нялёгкія для сэрца; але яны верылі ва Усемагутнага і Міласцівага Бога. Такая вера, натуральна, грунтуецца на пачуццях глыбокай павагі, пашаны і любові да Найвышэйшай Істоты, засвойваецца імі і праяўляецца ў рашучасці служыць Ёй.

Лепшыя людзі Старога Запавету сваім подзвігам збудавалі для Збавіцеля храм, варты Яго. Гэтым домам Усявышняга з'явіўся сапраўдны вянец тварэння – непараўнальная ў прыгажосці і чысціні душы Сваёй, «пачэснейшая за херувімаў і непараўнальна слаўнейшая за серафімаў» Боганявеста і Багародзіца, заўжды Дзева Марыя.

У Найблагаславеннейшай Дзеве Марыі ўвасоблена вяршыня чалавечай дасканаласці, якая пераўзышла веліч нябесных ангелаў. Маці Божая нібы створана з пакоры і дабрыні, міласэрнасці і любові. Яна ўся – святло, якое імкнецца насустрач Святлу Божаму. Змірэнная Боганявеста «сцерла галаву змея» (Быццё 3: 15), перамагла хітрыкі вераломнага дыявала, які марыў паздзеквацца са стварэння Божага. Нават калі б толькі адной Ёю скончылася стварэнне свету – і ў гэтым выпадку свет быў бы створаны і існаваў не дарэмна. Так зямны зварот да Нябёсаў, лесвіца чалавечай праведнасці прывяла да Прастола Усявышняга. Некалі, у старажытнасці, Ева, паддаўшыся сатанінскай спакусе, нарадзіла

грэх і смерць. Прасвятая Дзева, падпарадкоўваючыся волі Божай, нарадзіла для ўсіх нас Ісціну і несмяротнасць. І цяпер Царыца Нябесная, створаная, як і мы, з плоці і крыві, кліча нас да вечнага шчасця, моліць за нас Сына Свайго і Госпада.

«Ад Марыі нарадзіўся Іісус, Якога называюць Хрыстос» (Мф. 1: 16) – вось самая радасная вестка, якая гучыць для нас услед за святым радаводам Сына Божага. Заззяла зорка Віфліемская! З'явіўся Збавіцель свету! Пачалося вызваленне чалавецтва ад улады сатаны!

Ва ўсе часы і ва ўсіх народаў была толькі адна магчымасць далучыцца да Бога – праз веру. Не праз давер да таго факта, што Бог ёсць, а праз жывую сувязь з Богам. Таму, калі человек не ідзе насустрач Богу, не збіраецца ніяк прыслухоўвацца да таго, што Гасподзь гаворыць, – гэта значыць, што ў яго няма веры. А чым больш чалавек верыць, чым больш ён бачыць Бога, чым больш ён бачыць, як Гасподзь дзейнічае ў яго жыцці, тым больш у чалавеку расце і подзвіг яго.

Часта, вельмі часта з прычыны сваёй малой веры мы ўсе спадзяванні ўскладаем на людзей вядомых, "моцных свету гэтага", быццам бы забываючы пра першую і галоўную крыніцу ўсякага дабра – пра Бога.

Святая Царква наша пераканаўча заклікае нас захоўваць сваю веру праваслаўную выдатнымі прыкладамі веры ў старазапаветных людзях.

«Майце ж, браты, цвёрдую веру ў Адзінага Вялікага Бога» (Мк. 11:23). Ускладзіце на Госпада турботы і клопаты вашы. Ён нас не пакіне, Ён памілуе нас у нашых грахах і выратуе, таму што Ён адзін толькі Добры і Чалавекалюбны.

Вера з'яўляецца выратавальным каўчэгам, дзе стырнікам Сам Господь, Які вядзе нас да праведнасці. І знікне страх, з якім мы ўглядаемся ў заўтрашні дзень, бо што такое ён, гэты заўтрашні дзень, калі таму, хто верыць у Бога і жыве ў Богу, абяцана вечнасць.

Як жа набыць такую веру? Толькі выкананнем запаведзяў. Толькі такім чынам: трэба ўчытвацца ў Святое Пісанне і пазнаваць запаведзі Божыя, і імкнуцца гэтыя запаведзі выконваць. І

тады Гасподзь будзе да нас набліжацца. Вось тады нашае жыццё прынясе плён, у адваротным выпадку яно, уласна кажучы, не мае ніякага сэнсу.

На жаль, вельмі многія, узіраючыся на наша з вамі хрысціянскае жыццё, здзіўляюцца, як мы можам называць сябе веруючымі людзьмі, называць сябе хрысціянамі. Здзіўляюцца таму, што наша з вамі жыццё далёкае ад тых ідэалаў, далёкае ад усяго таго, да чаго заклікае нас Гасподзь і Збавіцель Ісус Хрыстос.

Святая Царква нагадвае нам сёння аб людзях, якія ўвайшлі ў радавод Хрыста Збавіцеля, таму ўсе мы з вамі не чужыя для нашага Збавіцеля. Усе мы без выключэння – Яго дзеці, Яго родныя браты і сёстры. Адзін з вялікіх айцоў нашай Святой Праваслаўнай Царквы прападобны Серафім Сароўскі гаворыць, што калі чалавек прычашчаецца Святых Хрыстовых Тайнаў, то ён становіцца далучаным да нашага Госпада, ён сапраўды ўваходзіць у радавод нашага Госпада і Збавіцеля Ісуса Хрыста.

Задача ўсяго нашага жыцця – стаць народам Божым, стаць тым абраным Богам чалавецтвам, праз якое кожны змог бы ўвайсці ў дачыненні з Богам. Гэта гледзячы на нас, свет павінен быў убачыць твар Хрыста. Таксама як у Старажытным Ізраілі павінна было ўзнікнуць цела Богачалавека, так і ў Новым Ізраілі – Царкве – містычна збудоўваецца цела Хрыстова. Для таго і абраў нас Гасподзь, каб мы сталі Яго народам.

Нам неабходна шкадаваць, што ёсць людзі, якія маглі б быць членамі Святой Царквы, але знаходзяцца ў цемры, за іх нам трэба маліцца. А цярпенне нам намнога лепш мець, чым у Старым Запавеце, толькі мы не ідзем гэтым шляхам. У нас ёсць яшчэ вера і нават жаданне яе вызнаваць, але цярпення ў нас няма. Вось старазапаветныя праведнікі і паказваюць нам узор цярпення. Калі ў надыходзячым свяце многія з нас бачаць толькі радасць, то прыгадайце старазапаветных айцоў, якія шлі подзвігам цярпення і на гэтым шляху набылі веру і духоўную вопытнасць.

Набліжаецца светлае свята Нараджэння Хрыстова. Няўжо да сустрэчы Багадзіцяці не здолеем мы прыгатаваць свае душы, і яны застануцца падобнымі да пячораў – цёмнымі, бруднымі,

халоднымі? Не дай Бог, каб здарылася тое з намі! Хай кожны вымяце прэч з душы сваёй калючае смецце граху, запаліць свечку веры і лампаду надзеі, сагрэе свой унутраны свет святою любоўю – і ўпрыгожыцца храм душы хрысціянскай, у якім павінен нарадзіцца Сын Божы, Гасподзь і Збавіцель наш!

І тады ўзрадуемся мы тою радасцю, да якой рыхтавалі нас святыя праайцы і якую прадказвалі прарокі, – радасцю любімых дзяцей Нябеснага Айца, бо «высокі Бог на зямлі з'явіўся, каб нас заклікаць да вышыні. Амінь.

## ВІНШАВАННЕ З НАРАДЖЭННЕМ ХРЫСТОВЫМ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Дарагія айцы, браты і сёстры, сардэчна віншую вас з вялікім, выратавальным і радасным святам Нараджэння Госпада Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста.

На працягу стагоддзяў гучаць у нашай свядомасці адныя і тыя ж пытанні: у чым значэнне нараджэння Хрыстова для кожнага з нас, як мы можам сустрэць Хрыста, Які зыходзіць да нас з нябёсаў. Бог уцялесніўся ад Духа Святога і Марыі Дзевы і стаў чалавекам, каб мець магчымасць быць з намі на роўных, каб, падзяліўшы з намі наш лёс і пражыўшы нашым жыццём, атрымаць права сказаць нам пра Сябе і пра нас тую апошнюю ісціну, якая ніякім іншым чынам не магла быць нам адкрыта. Ісціну аб тым, што няма ўжо той адлегласці, якая аддзяляла Бога і чалавека, няма непераадольных перашкодаў для сустрэчы Бога і чалавека – сам насам, твар да твару.

Сустрэча гэта адбываецца ў нашым сэрцы. Дзеля гэтай сустрэчы прышоў Гасподзь на зямлю. І менавіта таму ў свята Нараджэння Хрыстова адбываецца суцэльнае аднаўленне чалавечай прыроды. Не толькі ў тым адзіным Нараджэнні, якое адбылося дзве тысячы гадоў назад у Віфліеме, але і ў тым нараджэнні Хрыста, якое зноў і

зноў здзяйсняецца ў нашых душах.

Менавіта так – раптоўна і нечакана – умяшаўся Бог у жыццё чалавецтва дваццаць стагоддзяў назад, калі Сваім Нараджэннем змяніў увесь ход гісторыі. Менавіта так нараджаецца Ён зноў і зноў у душах тысяч людзей і змяняе ўсё іх жыццё.

Хрыстос гвалтам нікога не прыцягвае да сябе, нікога не прымушае верыць сабе і ў сябе, не пераконвае з дапамогай сілы, не прыгнятае волю людзей. Бог шукае толькі свабоднай веры.

У свята Нараджэння Хрыстова адкрывае нам Царква радасную таямніцу: таямніцу свабоднай, нікім не навязанай любві. Любві, якая здольная ў Богадзіцяці ўбачыць, пазнаць і палюбіць Бога і быць далучанай да новага жыцця!

Няхай свята Нараджэння Хрыстова стане святам нараджэння Хрыста ў нашай душы і нашым адраджэннем у Хрысце, каб у сэрцы нашым нарадзілася Божае Слова і напоўніла нас Бажаством, Святлом і святасцю...

***2009***

Сардэчна віншую вас з вялікім і радасным святам Нараджэння Хрыстова!

У гэту святую і таемную ноч дазвольце пажадаць усім вам самага галоўнага і неабходнага ў нашым жыцці – свяшчэннага дару веры.

Вера – дар Божы. Але чалавек павінен прыняць і засвоіць гэты дар. Вера ў Хрыста – Сына Божага – з’яўляецца ўнутранай рухаючай сілай, якая асвячае розум і волю і надае сэнс нашаму жыццю.

Хрыстос гвалтам нікога не прыцягвае да сябе, нікога не прымушае верыць сабе і ў сябе, не пераконвае з дапамогай сілы, не прыгнятае волю людзей. Бог шукае толькі свабоднай веры. Аб’ядноўвае Бога і чалавека не знешні прымус, а толькі любоў – самая свабодная з усіх уласцівасцяў чалавечых. Вера адкрывае нам шлях да Бога, адухатварае, перамагае страх і рабства. Вера робіць нас вольнымі. Знікне страх , з якім мы ўглядаемся ў заўтрашні дзень, бо што такое ен, гэты заўтрашні дзень, калі таму , хто верыць у Бога і жыве з Богам, абяцана вечнасць.

Радасці і нябеснага спакою жадаю вам.

Няхай уцялесніўшыся Хрыстос Збавіцель умацуе нашу веру. Няхай гэта вера будзе нашай сілаю ў жыццёвых выпрабаваннях. Няхай яна будзе нашай зоркай на шляху да Бога. Няхай свята Нараджэння Хрыстова стане святам нараджэння Хрыста ў нашай душы і святам нашага адраджэння ў Хрысце.

***2010***

Сардэчна віншую вас з вялікім святам Нараджэння Хрыстова!

З пачуццём глыбокай духоўнай радасці віншую ўсіх вас з цудоўным святам – з Нараджэннем па плоці Госпада Бога і Збавіцеля нашага Іісуса Хрыста!

У гэтыя дні мы ўзгадваем, як Сын Божы прыйшоў да людзей, каб кожны з нас мог далучыцца да Яго.

Здзейснілася “вялікая таямніца пабожнасці – Бог з’явіўся ў плоці”(1Цім.3:16).

Ціха, нячутна сышоў на зямлю і ўцялесніўся Сын Божы.

Спрадвечны Божы Сын нараджаецца ў халоднай пячоры для таго, каб усім Сваім жыццём, усёй прынятай чалавечай прыродай Сваёй кожнага з нас выратаваць, прасвятліць, наставіць на шлях Ісціны і вярнуць у дом Нябеснага Айца. У гэты шчаслівы дзень Ангелы абвяшчаюць нам добрую вестку аб тым, што Гасподзь і Збавіцель наш Іісус Хрыстос з любоўю ставіцца да кожнага чалавека, адкрывае нам уваход у Царства Нябеснае.

І таму свята Нараджэння Хрыстова заўсёды прыносіць нам асаблівае пачуццё радасці і надзеі. Паўната гэтых пачуццяў раскрываецца ў Царкве, бо яна застаецца сёння захавальніцай сапраўдных ведаў пра свет і чалавека, пра дабро і зло, пра вечнасць і пра Бога. І яна як раней, так і цяпер указвае чалавецтву адзіны, сапраўдны сэнс жыцця і яго мэту – той шлях, якім пайшлі аднойчы пастухі і валхвы, што віталі Народжанага Збавіцеля: шлях пакланення Хрысту, шлях імкнення да Яго ў святле Віфлеемскай зоркі. Яна і сёння нябачна ззяе над светам, заклікаючы ўсе народы і кожнага чалавека звярнуць свой позірк да нябёсаў.

Бог таямніцу Свайго ўцялеснення адкрыў самым простым людзям – пастухам, якія пасвілі свае статкі на палях вакол Віфлеема. Чаму? Таму што ў тую ноч гэтыя людзі не спалі і былі бадзёрыя. Гэта значыць, што яны не проста знаходзіліся ў стане фізічнай нядрэмнасці. Яны нібы апрытомнелі ад грахоўнага сну, жылі з глыбокім пачуццём прысутнасці Бога ў іх жыцці, чакалі прышэсце Госпада і былі падрыхтаваныя да яго.

У гэтых словах заклік да ўсіх хрысціян. Будзьце бадзёрымі! Не пагаджайцеся з нібыта ўяўнай прысутнасцю Бога ў нашым жыцці і Яго аддаленасцю ад нас. Азірніцеся вакол. Магчыма, ад нас залежыць тое, што мы так жадаем змяніць у гэтым свеце. Бог абавязкова дапаможа нам.

Толькі бадзёрае і мужнае сэрца можа натхніць на тое, каб адправіцца ў шлях на пошукі Бога, Які маленькім дзіцяткам ляжыць у яслях.

Сардэчна віншую ўсіх вас са светлым і радасным святам Нараджэння Хрыстова і Новым Годам і малітоўна жадаю дапамогі Хрыста Збавіцеля ва ўсіх добрых справах, ва ўсім вашым жыцці.

***2011***

Сардэчна віншую вас з Нараджэннем Хрыстовым!

Нараджэнне Хрыста – гэта свята ўсяго чалавецтва, і святкуецца яно па ўсім свеце. Але, перш за ўсё, – і пра гэта не трэба забываць – гэта свята сустрэчы з Хрыстом кожнага з нас. Сустрэча гэта адбываецца ў нашым сэрцы. Дзеля яе Гасподзь і прыйшоў на зямлю.

Хрыстос прыадкрыў завесу таямніцы Свайго уцялеснення перад самымі простымі людзьмі – пастухамі, якія паслі авечак у палях вакол Віфлеема. Чаму? – Таму, што гэтыя людзі "неслі начную варту каля статку свайго"(Лк.2:8), былі пільнымі і нядрэмнымі. Гэтыя словы Евангелля азначаюць значна больш, чым проста не спаць ноччу. Быць пільным і нядрэмным – значыць прачнуцца ад сну граху, жыць з глыбокім адчуваннем Бога і Яго прысутнасці ў

жыцці, каб убачыць прышэсце Госпада і быць да яго падрыхтаваным. Менавіта да гэтага мы павінны імкнуцца ўсё сваё жыццё кожным учынкам і кожным словам.

Калі ў прападобнага Серафіма Сароўскага спыталі, чаго не хапае сучасным хрысціянам у параўнанні са старажытнымі вернікамі, ён не назваў ніякіх духоўных і аскетычных подзвігаў, а адказаў: "Рашучасці". Няма ў нас рашучасці, не ідзем мы да канца ў змаганні са сваімі недахопамі, шкадуем сябе і ўвесь час азіраемся назад, як жонка Лота, таму і хварэем мы, па словах святога Іаана Лесвічніка, на найгоршую з усіх заганаў – скамянелае нячулае сэрца.



Святая Царква папярэджвае нас пра небяспеку фармалізму ў хрысціянстве і абыякавасці ў справе выратавання душы. Але, на жаль, у большасці сваёй мы з'яўляемся менавіта такімі: і "не гарачымі" і "не халоднымі", па словах Апакаліпсіса (Адкр.3:15). А такі стан, як вучаць святыя айцы, заганны.

Мы молімся, кажам Госпаду – "няхай прыйдзе Царства Тваё" – уздыхаем і ... застаемся пасіўнымі, нібы чакаючы цуду. Але такое пасіўнае чаканне цуду асуджае Сам Гасподзь.

Малітва і пакаянне, калі за імі не наступае духоўная актыўнасць, прыводзяць да самаабману, душэўнай спустошанасці і да расчараванняў.

Мы пакліканы ў адпаведнасці са сваімі магчымасцямі, сіламі і здольнасцямі, атрыманымі ад Госпада, вучыцца таму хрысціянскаму подзвігу, які здзяйснялі ўсе святыя падзвіжнікі веры і набожнасці, а не сядзець, склаўшы рукі, і не плысці па цячэнню.

Устань, хто спіць, і ўваскрэсні з мёртвых, і асветліць цябе Хрыстос. Гэтыя словы, напісаныя апосталам Паўлам у пасланні да эфескіх хрысціянаў, узяты з урачыстага богаслужбовага спеву,

які, на жаль, не захаваўся да нашых часоў. У іх – зварот да усіх хрысціянаў: не спіце, будзьце пільнымі, бадзёрымі і нядрэмнымі! Не пагаджайцеся з уяўнай аддаленасцю Бога ў паўсядзённым жыцці. Азірніцеся вакол сябе. Магчыма, ад нас залежыць тое, што мы так жадаем змяніць у гэтым свеце. Бог абавязкова дапаможа нам.

Толькі бадзёрае і нядрэмнае сэрца мае мужнасць накіравацца ў шлях, каб знайсці Бога, Які маленькім дзіцяткам ляжыць у хляву.

Вера адкрывае нам шлях да Бога, адухаўляе, перамагае страх і рабства. Вера робіць нас вольнымі.

Толькі той, чыё сэрца ведае ўнутраную трывогу, хто адчувае смагу падпарадкаваць сваё жыццё служэнню высокім ідэалам, хто шукае сэнс свайго існавання, хто здольны ахвяраваць сабой, хто адмаўляецца рабіць цэнтрам свайго жыцця самога сябе, – толькі такі чалавек знаходзіцца на шляху да Бога.

Няхай свята Нараджэння Хрыстова стане святам нараджэння Хрыста ў нашай душы і днём нашага адраджэння ў Хрысце, каб у нашай душы нарадзілася Божае Слова і напоўніла нас благадаццю Божай, Боскім Святлом і святасцю…

***2012***

## ПРОПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ ПАСЛЯ НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння, у Нядзелю пасля Нараджэння Хрыстова, мы чуем евангельскае апавяданне аб уцёках Іосіфа і Прасвятой Дзевы з дзіцём Ісусам у Егіпет (Мф. 1:18-25). У гэтым апавяданні, акрамя Іосіфа, Марыі і Ісуса, ёсць яшчэ адна дзеючая асоба – цар Ірад. Менавіта ад яго гневу Святое Сямейства бегла ў Егіпет, менавіта ён вінаваты ў знішчэнні бязвінных немаўлятаў.

Першая думка, якая прыйшла ў галаву Іраду, калі ён пачуў

аб нараджэнні ў Віфлееме Цара іудзейскага, што гэты Цар можа зрабіць замах на яго ўладу. Каб пазбавіцца ад гэтай небяспекі, Ірад загадвае забіць усіх немаўлятаў ад двух гадоў і ніжэй у Віфлееме і яго наваколлях. У богаслужбовых тэкстах Праваслаўнай Царквы называецца галоўная прычына вар'яцтва Ірада: для яго «няма Бога». Для яго не існавала Бога, ён не баяўся Яго, таму для дасягнення зямных мэтаў ён не спыняўся ні перад чым, нават перад страшным злачынствам. Пра Ірада вядома, што ён быў чалавекам падазроным, і гэтая падазронасць нараджала і жывіла яго прагу да ўлады. Ён забіў не толькі віфлеемскіх немаўлятаў, але і многіх верных яму падданых і нават уласную жонку і сыноў: усіх іх ён падазраваў у змове. Гэты іудзейскі царок І стагоддзя ўвайшоў у гісторыю як вар'ят, які волі Божай супрацьпаставіў свае амбіцыі, сваё імкненне ў што б там ні стала ўтрымацца на царскім пасадзе.

Але вось мы бачным іншага чалавека – Іосіфа. Евангелле гаворыць пра яго вельмі мала. Жыццё яго цалкам прысвечаная Марыі і Хлопчыку, Які не яго сын, а Сын Божы. І дзеля таго, каб захаваць Яму жыццё, Іосіф бярэ на сябе ролю главы сямейства. Яны бягуць ад гневу Ірада ў Египет, і Іосіф ахоўвае і абараняе Марыю і Немаўля.

Такім чынам, у прачытаным евангельскім урыўку перад намі два прыклады. Адзін чалавек жыве без Бога, для яго не існуе нічога, акрамя яго эгаістычных памкненняў і жадання любой цаной ўтрымаць усё, чым ён у гэтым свеце валодае. Іншы человек гатовы адмовіцца ад усяго і прынесці ў ахвяру нават сваё жыццё за Богадзіця Хрыста.

Святое Пісанне гаворыць нам, што ў кожнага з нас ёсць выбар: абраць шлях жыцця або шлях смерці, шлях вернасці Богу або шлях адрачэння ад Яго. «Жыццё і смерць прапанаваў я табе, - гаворыцца ў Другазаконні, - благаславенне і праклён. Абяры жыццё, каб жыў ты і патомства тваё» (Другазак. 30:19). Перад такім выбарам часам аказваюцца і цэлыя народы, і кожны асобны человек. Кожная душа людская часта стаіць перад выбарам: ахвяраваць сабою, прысвяціць сваё жыццё Хрысту або жыць так, быццам Бога і не існуе зусім. Мільёны людзей аказваюцца перад падобным выбарам, і адныя абіраюць жыццё, а іншыя смерць.

Сёння мы зноў чытаем евангельскае апавяданне пра тое, як «гналі» нашага Бога. Услухоўваючыся у гаротнае апавяданне аб начных уцёках у Егіпет, успамінаючы нявінных віфлеемскіх немаўлятаў, першых з незлічонай колькасці мучанікаў за Хрыста, мы зноў і зноў разумеем, што мы – Царква Бога гнанага, Бога Выгнанніка, Царства Якога «не ад свету гэтага» (Ін.18:36). Радасныя дні свята Нараджэння Хрыстова завяршаюцца сумным матывам ганеній і жалобы: «Рахиль плача па дзецях сваіх і не хоча суцешыцца, бо іх няма» (Мф.2:18).

У Віфлееме Яму не знайшлося месца сярод людзей, і таму жывёлы стаялі вакол Яго дзіцячай калыскі, таму не дом, не людское жыллё, а пячора зрабілася першым жытлом Бога, першым Яго прыстанкам, як бы прадказваючы іншую, журботную, пячору, – склеп на схіле смяротнай Галгофы. Якое страшнае прадказанне! Якое жудаснае прароцтва не толькі аб цяжкай долі Збавіцеля свету, але і пра лёс Яго Царквы! «Брама пекла» (Мф.16:18) не адолеюць яе, але, відаць, вечны лёс яе, быццам Рахілі, «плакаць па дзецях сваіх», таму што ніколі зло не памірыцца з дабром, ніколі гардыня не супакоіцца, ніколі свет і цемра не сыйдуцца ў гармоніі. Доля Царквы Яго – быць гнанай гэтак жа, як гнаны і Яе Заснавальнік. Доля чад царкоўных - несупынная духоўная барацьба «не супраць цела і крыві, але супраць начальстваў, супраць уладаў, супраць уладальнікаў цемры стагоддзя гэтага, супраць духаў злосці паднябесных» (Эф.6:12).

Усякі раз гэтыя самыя «духі злосці» спрабуюць перанаправіць вастрыё нашай барацьбы, моц і напрамак нашай барацьбы ад саміх сябе на нашых братоў, паказваючы хрысціянам ілжывыя мэты, насылаючы на іх здані міжусобнай лаянкі. «Шукай ворагаў вакол сябе, толькі не зазірай у сваю душу», – падказваюць яны.

Для человека, самы страшный враг – я сам, таму што не злыя нагаворшчыкі, не «агенты ўплыву», не правакатары і шпіёны, а ўласная лютая прага ўлады давяла Ірада да такой звярынай раз'юшанасці. Займаючыся пошукамі знешніх ворагаў нашага збаўлення, мы выконваем справы Ірада, які хацеў забіць Самога Хрыста. Змагаючыся з уласнымі грахамі, абуджаючы сонную

сваю душу двухбаковавострым мячом пакаяння, мы можам стаць сынамі Божымі.

«Калі Мяне гналі, будуць гнаць і вас». Калі мы з Хрыстом, то і ў нашым жыцці здзяйсняецца гэта прадказанне. Знойдуцца і ў нашае стагоддзе новыя каты хрысціянства, будуць і на нашу долю «жорсткія іграды», бо, як і папярэджваў святы апостал Павел свайго ўзлюбленага духоўнага сына, апостала Цімафея: «Усе, якія хочуць жыць набожна ў Хрысце Іісусе, будуць гнаныя» (2Цім.3:12). Таму выбар, які заўсёды, ва ўсе часы, прапаноўваўся хрысціянам, адзін і той жа: быць са Хрыстом – гэта значыць, быць гнанымі і прыніжанымі, абсмяянымі і здраджанымі, або быць супраць Хрыста, з тымі, хто смяяўся з Яго, з тымі, хто Яму здрадзіў, з тымі, хто гнаў Яго. Так што зразумець, з кім мы – з Госпадам ці з Яго супраціўнікам – нескладана. Для гэтага проста трэба вызначыць, кім мы ахвяруем у вялікім і малым: сабой або іншымі, тымі, хто побач з намі?

Для таго каб здрадзіць Збавіцелю, каб у чарговы раз выгнаць Яго са свайго сэрца, дастаткова проста ў сваёй штодзённай барацьбе з грахом апынуцца на баку зла, прагнасці і пачуцця помсты! Калі ўсе гэтыя пачуцці напаўняюць душу, дзе ў ёй месца Хрысту?

І вось у гэтыя святочныя дні Царква нам і паказвае на Ірада, каб перасцерагчы нас, каб у нашыя сэрцы такая злосць і такая падазронасць не трапіла і не звіла б у ім свайго злога гнязда. Свята Нараджэння Хрыстова, якое мы з такой духоўнай радасцю святкуем сёння, павінна стаць для кожнага з нас штуршком да новай пакаяннай працы, каб наш грэх, наша нядбайства аб уласным збаўленні не сталі прычынай ўцёкаў Сына Божага ў Егіпет, пакідаючы нам «дом нашы пусты» (Мф.23:38). Амінь.

## ПРАПАВЕДЗЬ НА АБРЭЗАННЕ ГАСПОДНЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У свята Абрэзання Госпадня Царква з новай сілай нагадвае нам таямніцу таго, што Слова стала плоццю.

Для хрысціяніна паўнавартаснае жыццё пачынаецца з хрышчэння. Нечым падобным да сучаснага хрышчэння было ў старазапаветнай Царкве абрэзанне. Яшчэ Аўрааму было сказана: “І гэта будзе адзнакаю запавету паміж Мною і вамі”(Быц. 17:10-14). Абрэзанне было знаменнем (гэта значыць знакам) заключэння Запавету паміж Богам і людзьмі і сімвалічна азначала, што чалавек адмаўляецца ад сваёй уласнай плоці і служыць ужо не свайму целу, а Богу.

Абрэзанне было ў тыя часы як бы пакараннем за грэх прааайцоў і знакам таго, што дзіця, якое прынеслі, каб здзейсніць над ім гэты рытуал, зачата было ў беззаконні, як кажа цар і прарок Давід, і ў граху нарадзіла яго маці яго (Пс.50:7), з-за чаго на дзіцячым целе і заставалася рана. І ў абрэзанні Госпадзь паказаў нам нават большую пакору, чым у нараджэнні Сваім. Бо ў нараджэнні Ён прыняў на Сябе вобраз чалавека, у абрэзанні ж Ён прыняў на Сябе вобраз грэшніка і вытрываў боль, быццам грэшнік за здзейснены грэх. Абрэзаннем, Ім прынятым, Ён пачаў цярпець Свае пакуты за нас і адведаў тую чашу, якую павінен быў выпіць цалкам тады, калі Ён, распяты на крыжы, прамовіў: “Здзейснілася!” (Іаан. 19:30).

Пры абрэзанні, як зараз пры хрышчэнні, давалася імя. “І калі споўнілася восем дзён, каб абрэзаць Дзіця, далі імя Яму Ісус, названае Ангелам перш, чым Ён зачаты быў ва ўлонні” (Лк. 2:21). Імя Ісус, па-яўрэйску Іегашуа або Іешуа, было адным з самых любімых і вельмі распаўсюджаных сярод іудзеяў таго часу і азначала для старазапаветнага ізраільцяніна “Іегова ратуе”.

Але калі ў Віфлееме ў дні цара Ірада нарадзілася ад Дзевы Марыі прадказанае прарокамі Богадзіця, то і само імя, якім Яго назвалі, набыло выключна новы сэнс.

Ён, гэты Хлопчык, і ніхто іншы, выратуе людзей ад духоўнай пагібелі і вечнай смерці. Ён, і ніхто іншы, пераможа іх самага страшнага ворага – дыявала – і вызваліць іх ад самага цяжкага грахоўнага палону. Ён ёсць сапраўдны Іегашуа Іегова, адзіны Збавіцель свету і чалавека, іх Выратавальнік.

Хрысціянства – гэта рэлігія збаўлення. А гэта значыць не проста паляпшэння якасці жыцця, дапамогі ў штодзённых жыццёвых клопатах, раскрыцця адцягненых норм і прынцыпаў паводзін, а менавіта збаўлення. Збаўлення не ад той або іншай пагрозы, а збаўлення і выратавання самога жыцця, змест якога далёка адышоў ад свайго сапраўднага сэнсу, ад Бога, ад святла, ад Ісціны, ад вечнасці.

Мы перасталі адчуваць сябе істотамі, якія сапраўды гінуць у гэтым свеце, істотамі, жыццё якіх няўмольна і няўхільна імкнецца да бессэнсоўнага распаду, паглынаецца злом, марнасцю існавання, жахам паміранна і смерці, жывёльнай барацьбой за выжыванне.

Усё гэта мы навучыліся быццам бы не заўважаць. У адваротным выпадку вельмі страшна становіцца жыць. Усё гэта імкнецца заглушыць, замазаць наша так званая “цывілізацыя”.

У галіне эканомікі, палітыкі, навукі і тэхнікі, мастацтва чалавек шукае розныя сродкі “вызвалення”, да якіх мы не павінны ставіцца з пагардай, і ў якіх усе хрысціяне прымаюць той ці іншы ўдзел. Але Гасподзь кажа нам, што адзінае сапраўднае вызваленне і выратаванне – тое, якое прапаноўвае Бог. Усе астатнія абяцанні свабоды і шчасця – рознага роду інтэлектуальны падман і від духоўнага крадзяжу. Чалавецтва не створана, каб быць задаволеным затхлым паветрам учарашняга або цяперашняга матэрыялізму. Атэізм можа даць жыццё толькі непаўнавартаснаму чалавеку. Гэта і азначае – забіць і загубіць яго. Чалавек не жыве ў дасканаласці, пакуль не адкрыецца Богу.

Каб лепш зразумець тое, што прапаноўвае нам Гасподзь, мы павінны ясна ўсвядоміць, што чалавецтва знаходзіцца ў замкнутай прасторы і з’яўляецца нібы палонным бязлітаснага кола мітусні шэрага штодзённага жыцця, якое, здаецца, нічым не разарваць. Няўжо далягляд чалавека замыкаецца ў такіх вузкіх межах?

Не, не выпадкова яшчэ больш гучна грыміць шумная музыка, паскараецца рытм жыцця, усё павялічваецца колькасць навін, якімі глушаць нас дзень за днём. Гэта чалавецтва, якое баіцца спыніцца, баіцца задумацца, баіцца застацца сам насам з сабою і ўбачыць гібель, страх, нянавісць і зло як само жыццё, на якое мы асуджаны, імкнецца забыцца і збегчы ад рэальнасці.

Няўжо чалавецтва так і будзе хадзіць у замкнутым коле, куды яно само сябе змясціла, у чаканні апошняй, фінальнай катастрофы – ці гэта цунамі ў маштабе ўсёй планеты ці невядомага паходжання полымя, якое ўсё паглыне і знішчыць? Ці існуе выйсце для чалавека?



Шмат хто хацеў бы выдаліць з хрысціянства гэту сувязь: выратаванне ад гібелі, збаўленне, бо, у іншым выпадку, – гібель. Шмат хто хацеў бы, скажам так, “абясшкодзіць” хрысціянства, зрабіць яго прыдаткам да жыцця, штодзённым побытам, старажытнай каштоўнасцю, добрым звычаем. Але як нельга выдаліць з Евангелля крыж і распяцце, так не выдаліць з хрысціянства гэтых суадносін гібелі і выратавання. Можна сказаць наступным чынам: усякая сапраўдная сустрэча з Хрыстом раскрывае ўва мне, перш за ўсё, цемру, згубнасць і бессэнсоўнасць майго жыцця. Я бачу Хрыста, і таму, што я Яго бачу, я разумею, што тое жыццё, якім я жыву, не тое, не сапраўднае жыццё, а існаванне, працятае смерцю і асуджанае на пагібель. І вера мая ў Яго, у Хрыста, з таго пачынаецца, што нейкім таемным і невытлумачальным і, тым не менш, відавочным для мяне чынам я разумею, што толькі Ён – Хрыстос – можа выратаваць мяне, толькі ў Ім збаўленне і выратаванне і мяне, і тых, хто побач са мной, і ўсіх, і ўсяго. Менавіта ў такі момант з’яўляецца ў нашым жыцці Хрыстос і гаворыць нам, што Ён – дзверы, якія адчыняюць уваход у новае жыццё.

Вобраз, які Ён прапануе, – вобраз свабоды. Перад чалавекам адкрываецца бясконцая прастора – жыццё наперадзе. Цуд, па словах свяціцеля Васілія Вялікага ў тым, што Бог прапануе чалавеку далучанасць да Свайго быцця, да прасторы Свайго існавання. Няўжо мы не выкарыстаем магчымасць увайсці ў гэтыя дзверы? Яны адчыняюцца туды, дзе ёсць Бог, – і Хрыстос кліча ўвасці ў іх зараз. Толькі там – сапраўднае жыццё, напоўненае высокім сэнсам існавання, жыццё з Богам.

Гасподзь паказвае вобраз хрысціянскага жыцця, якое ёсць, перш за ўсё, змаганне: пастаянная барацьба з уласнай грахоўнасцю, цярплівае пераадоленне жыццёвых выпрабаванняў, самаахвярнае служэнне Богу і тым, хто побач з намі.

Бог нарадзіўся на зямлі. Ён пакорна прымае з самага пачатку ўсе нястачы і немачы нашага існавання. Ён з першых дзён паказвае безумоўную паслухмянасць, каб мы ўбачылі, як трэба праходзіць праз тыя дзверы, за якімі чакае нас Гасподзь. Без Яго ніштο не збавіць нас ад фатальнага стану быць толькі людзьмі, якія адпалі ад Бога, і таму сталі тымі, каму належыць памерці. Але Гасподзь Іісус Хрыстос з'яўляецца Богачалавекам, далучаецца да нашай кволай чалавечай прыроды і вядзе нас у жыццё з Богам. Гэтыя дзверы адчынены ў бясконцасць і вечнасць. Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ НА СТРЭЧАННЕ ГАСПОДНЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Свята Стрэчання Госпада нашага Іісуса Хрыста адзначаецца Царквой услед за светлымі днямі Нараджэння Хрыстова і Святога Богаяўлення, калі хрысціяне рыхтуюцца да подзвігаў посту, малітвы, сардэчнай скрушанасці. У богаслужэнні гэтага дня ёсць месца і радасці, і смутку, душэўнаму захапленню і ціхаму замілаванню, якое мяжуе з журбою.

Вяртаючы Дзіця Маці і благаславіўшы Яе і Іосіфа, Сімеон, глыбокі старац, на якім быў Дух Святы, у прарочым натхненні

прадказвае, што Дзіця гэтае будзе прадметам спрэчак і нязгоды паміж Яго прыхільнікамі і ворагамі. Хто любіць ісціну і імкнецца выконваць волю Божую, той прыме Хрыста і паверыць у Яго, а тыя, хто любяць зло і робяць справы цемры, узненавідзяць Хрыста і будуць, каб апраўдаць сваю злосць, узводзіць паклёпы на Яго. Гэта, уласна кажучы, і адбылося ўжо на прыкладзе кніжнікаў і фарысеяў і адбываецца да нашага часу на прыкладзе бязбожнікаў і ўсіх тых, хто ненавідзіць Хрыста.

Гэтыя прарочыя словы праведнага Сімеона “Вось, Ён ляжыць для падзення і паўстання многіх у Ізраілі” знаходзілі сабе пацвярджэнне на працягу дваццаці мінулых стагоддзяў. І ў наш час, як і ва ўсе часы, Хрыстос ляжыць адным на падзенне, а іншым на паўстанне, служыць прадметам спрэчак.

Свята Стрэчання Гасподня – першае ахвярнае растанне Божай Маці з Яе Сынам. Прыносячы Сваё Дзіця ў храм, Божая Маці прыносіла Яго ў ахвяру Богу. Першы раз, свабодна, у адпаведнасці з законам Свайго народа, яна аддавала Богу Народжанага ад Яе. Яна Яго аддала аднойчы і назаўсёды. Гэта ахвярапрынашэнне працягвалася потым на працягу ўсяго Яе жыцця, і стала крывавай ахвярай Галгофы.

Зразумеем сутнасць радаснага, але і аб’яднанага з ціхім збавіцельным смуткам перажывання, якім поўная была чыстая душа Богамаці, пачуўшы прарочыя словы святога старца Сімеона. Навучымся ад Яе, Той, Якая глыбей за ўсіх перажыла несправядлівасць, прычыненую Яе Сыну, суцэльнаму даверу да волі Божай, гатоўнасці ўсё прымаць з падзякай з дабрадатных рук Божых, усё пераносіць з цярпеннем і любоўю.

Хрысціянства адкрывае сябе, або, дакладней, Хрыста, Яго вучэнне, Яго дар, як вырятаванне, збаўленне. Збаўленне не ад таго або іншага, а выратаванне самога жыцця, якое так безнадзейна адарвалася ад сваіх вытокаў, ад Бога, ад святла, ад неба, ад Ісціны і вечнасці.

Сустрэча праведнага Сімеона з Хрыстом – гэта сустрэча твар у твар чалавека і Бога. Такая сустрэча магчыма ў жыцці кожнага з нас. І, калі мы гаворым пра сустрэчу з Богам у глыбінях сваёй

душы, многія людзі нават не ўяўляюць, як блізка да нас можа быць Гасподзь у нашым жыцці. Шчырая малітва, любая сапраўды добрая справа напаўняюць нас радасцю і асаблівым благадатным спакоем, і ў гэтым мы можам яшчэ ў большай ступені адчуць прысутнасць Бога. У святых Божых храмах мы адчуваем асаблівую благадаць, а ў Святым Прычасці мы рэальна сустракаемся з Богам, адраджаючыся ўсёй сваёй сутнасцю.

Хрысціянін павінен заўсёды быць радасным. Але гэтая радасць не ёсць радасць бесклапотнасці і лёгкага погляду на жыццё. Гэта радасць далучанасці да Бога, непарыўнага існавання з Хрыстом, абсалютнай паслухмянасці Яму, калі мы разам з Ім паміраем і разам з Ім уваскрасаем.

Сёння мы святкуем свята веры, веры чалавека, праведнага Сімеона, які шмат гадоў з надзеяй і спадзяваннем чакаў, калі спраўдзяцца словы, сказаныя яму праз Духа Святога аб з'яўленні ў свеце Збавіцеля, Які дасць усяму чалавецтву жыццё вечнае, а яму самому, Сімеону, мудраму і вельмі старому чалавеку, які стаміўся ўжо ад зямнога жыцця, дасць нарэшце дазвол памерці, адысці ў іншы свет. І убачыць не прыблізна, як скрозь цьмянае шкло, а яўна, што пражыта жыццё не бессэнсоўна , а з вялікім сэнсам: уваходжанне ў вечнае жыццё, далучэнне да Бога. Усё злое, прыкрае, усе хваробы, несправядлівасці, якія за доўгія гады прыйшлося яму перанесці, таксама былі невыпадковымі, не было сляпога выпадку, а ўсё было наканавана перажыць промыслам Божым.

Такая вера, вядома, не церпіць ні мітусні, ні маладушша, ні засмучэння, ні адчаю.

Чаго толькі ні было, нават калі паглядзець на апошнія гады жыцця святога праведнага Сімеона, вакол яго. Першасвятары і фарысеі, якія цалкам сказілі веру, сказілі шлях Божы, і садукеі, якія проста былі няверуючымі людзьмі, не верылі ў Госпада, і атэісты – усё гэта бачыў старэц Сімеон, і вера яго не пахіснулася. Яго народ быў прыгнечаны язычнікамі, краіна падзелена на чатыры часткі, людзі, якія павінны былі, па словах прарокаў, чакаць Збавіцеля свету, Збавіцеля ад зла, ад грахоў, ад вечнай смерці, чакалі па-сутнасці нейкага бунтаўшчыка, палітычнага дзеяча, які аднавіў бы былую

зямную славу і магутнасць Ізраіля. Амаль не засталося нікога, хто шчыра чакаў сапраўднага Месію, але і гэта ўсеагульнае зацямненне розумаў не пахіснула веры святога праведнага Сімеона. Чаму? Евангелле дае нам на гэта адказ. Таму, што Дух Божы быў з ім, ён жыў з Богам. А вакол яго вера і дачыненні з Жывым Богам былі заменены фарысеямі на рэлігійную ідэалогію.

Сёння свята вялікіх абяцанняў Божых, сёння свята ўсіх веруючых у Бога людзей, сёння свята праўды Божай, якая хай не адкрываецца адразу перад намі, але для нас жа і карысна, каб мы чакалі з цвёрдым спадзяваннем на Збавіцеля спаўнення ўсяго таго, пра што сказана ў Святым Пісанні і не вагаліся сэрцам. Неўладкаванасць свету, розныя рэлігійныя і палітычныя захапленні не павінны хваляваць сапраўды веруючую душу.

Хочацца прывесці два прыклады, як людзі перад канцом свайго жыцця дачакаліся спаўнення абяцанняў Божых і спакойна адыходзілі з гэтага свету ў жыццё вечнае. Адпускаў іх Гасподзь з гэтага жыцця, калі выконваў абяцанні Свае.

У лютым дзень смерці вялікай падзвіжніцы, схіманахіні Маргарыты, апошняй дзівееўскай манахіні. Усе яе клікалі Фрося, і яна сябе так называла – Фрося, нягледзячы на тое, што была схімніцай і памерла, калі ёй было за 90 гадоў. Ніколі яна не хвалілася сваім манаствам, хоць і была манахіняй з 15 гадоў, паслушніцай яшчэ таго Дзівееўскага манастыра. Яна прайшла, з нашага пункта погляду, цяжкае жыццё: зняволенні ў лагерах, ссылкі, бяздомнае існаванне, выгнанне з манастыра, на яе вачах адбылося апаганенне мошчаў прападобнага Серафіма Сароўскага, спусташэнне Дзівееўскай абіцелі, панаванне бязбожжа. Было і больш страшнае: манахі і святары здымалі з сябе сан, гаварылі: «Мы не верым у Бога, калі такое адбываецца», – і сыходзілі з манастыра. Не мы ім суддзі, але было і такое. А яна цвёрда верыла ў словы сваіх духоўных айцоў і маці, якія гаварылі, што зноў адродзіцца Дзівеева і апошняя дзівееўская манахіня, адна з дзівееўскіх паслушніц, дажыве да гэтага дня. Яна сустрэне мошчы прападобнага Серафіма Сароўскага, якія архіерэі і дзівееўскія сёстры на сваіх руках прынясуць у Дзівеева. Будуць адбудаваны велічныя дзівееўскія храмы. Адна з

дзівееўскіх сясцёр павінна будзе захаваць святыні, што засталіся ад прападобнага Серафіма: гаршчочак, у якім ён варыў траву, калі пасціўся ў далёкай пустыньцы, епітрахіль, нарукаўніцы, рукавіцы і свечку, а таксама дзівееўскую свечку, якую апошняя дзівееўская манахіня запаліць перад уваходам у храм, калі будуць уносіць у яго мошчы прападобнага Серафіма. Вядома ж, калі дзяўчынкай пятнаццацігадовая Фрося чула гэтыя апавяданні яшчэ ў пачатку 20-га стагоддзя, яна, канешне ж, нават не думала аб тым, што гэтай ёй прыдзецца выканаць ўсё: і захаваць святыні, і перажыць ліхія бязбожныя часы, і запаліць гэтую свечку, і сустракаць мошчы прападобнага Серафіма Сароўскага. Ні на секунду не сумнявалася яна ў гэтых прадказаннях. Здавалася б, як можна было ў гэта паверыць? Вакол была зачыненая зона, побач з горадам Саровам узнік горад Арзамас-16, у якім стваралі ядзерную зброю, пабочных асоб не пускалі ў Дзівеева, зачынены былі ўсё храмы Дзівееўскага манастыра, нават маленькага прыходскага храма не дазвалялі пабудаваць. Таемна манахі прыязджалі ў Дзівеева, вязучы на грудзях Святыя Дары, каб на Аўражнай вуліцы, дзе жылі гэтыя манахіні, прычасціць іх і ціхенька з'ехаць, таму што хапалі манахаў, садзілі іх у турмы. Не сумнявалася яна ў тым, што ўсё гэта збудзецца. І вось адбылося тое, што мы ўсе ведаем: дазволілі адчыніць Дзівееўскі манастыр, і схіманахіня Маргарыта дажыла да гэтага чаканага ёй дня, калі яна, ужо аслабелая, у схіме, стаяла з гэтай зробленай амаль сто гадоў назад свечкай, запаліўшы яе, і сустракала мошчы прападобнага Серафіма, якія нёс Патрыярх, архірэі і сёстры адноўленай Дзівееўскай абіцелі ў манастырскі храм.

Духоўна вельмі блізкі быў да Дзівееўскага манастыра вялікі падзвіжнік, архіепіскап Арсеній (Стадніцкі), вызнанне веры якога і пакутніцкі подзвіг прышоўся на 30-я гады. Тады, незадоўга да смерці, пасля страшных мучэнняў і знявагаў, на апошнім допыце, раптам ён гаворыць спакойна, не маючы зла да тых людзей, што былі перад ім: «А я ведаю, што прыйдзе час, калі сам народ знішчыць бязбожную ўладу на Русі, адродзяцца храмы, манастыры, а самае галоўнае, адродзіцца вера і адродзіцца шлях людзей ад смерці да жыцця вечнага. Ні на ёту ў гэтым не сумняваюся».

Сказаў ён гэта пасля мук, пасля страшных засценкаў, перад непазбежнай смерцю. Гэта абяцанне ад Духа Святога ён атрымаў за сваё вызнанне веры ў турме і вызнаваў яе нават перад людзьмі, якія не верылі яму, недобразычліўцамі, але якія занеслі гэта ў свае дакументы. Дакументы гэтыя трапілі ўжо да нас, сённяшніх людзей. Для ўмацавання нашай веры пачулі мы голас архіепіскапа Арсенія (Стадніцкага) з 1938 года.

Вядома ж, мы можам толькі маліцца і прасіць у Госпада, каб і наша вера малітвамі такіх людзей была ўмацавана, каб наша спадзяванне на Госпада ніколі не магло б пахіснуцца ніякімі няшчасцямі, ніякім злом, ніякімі паклёпамі, ніякімі вятрамі. Памолімся, каб іх малітвамі, заступніцтвам і хадайніцтвам Гасподзь дапамог нам годна несці сваё хрысціянскае званне ў гэтым свеце, прыняць у сваё сэрца Бога і ніколі не раставацца з Ім, а таксама паспрабаваць так сумаваць па Богу, так стаміцца ў гэтым мітуслівым жыцці, як гэта было з праведным Сімеонам Богапрыімцам. І тады, у канцы гэтага пакутлівага шляху нас чакае Стрэчанне – сустрэча з нашым Збавіцелем і Выратавальнікам. Амінь.

## ПРАПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ ПЕРАД БОГАЯЎЛЕННЕМ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння, у Нядзелю перад святам Богаяўлення, мы чулі канец Другога Паслання апостала Паўла да Цімафея. Амаль напярэдадні сваёй смерці святы апостал Павел, які ўжо знаходзіўся ў зняволенні ў Рыме, пакінуў свайму вучню – маладому эфескаму епіскапу Цімафею – настаўленне.

Зыходзячы са свайго ўласнага вопыту, Апостал ведаў, якое цяжкае пастырскае служэнне, колькі небяспек і клопату ў здзяйсненні яго, і таму колькі ўвагі патрабуецца да сябе і да сваёй паствы. А таму ён і свайго любімага вучня вучыць быць пільным і дбайным.

Цімафей, гаворыць апостал, будзь асабліва пільны ва ўсім,

сярод шматлікіх ворагаў і тых заганаў, якія ёсць у людзях. Дзеля выпраўлення маральных заганаў і ацалення духоўных хвароб пастыру, як і лекару, даводзіцца часам ужываць не вельмі прыемныя, часам горкія, але неабходныя і эфектыўныя лекавыя сродкі. З-за гэтага могуць здарыцца ў пастыра з яго паствай вялікія непрыемнасці. Адкрытае і смелае выкрыццё грахоў абражае і раздражняе пакрыўджанае самалюбства вінаватых у парушэнні Закону Божага, і таму не любяць людзі пастыра, уважлівага да духоўных праблем прыхаджан, чыняць яму перашкоды і непрыемнасці. Але, пастыр Хрыстоў, не тужы і не падай духам!

Цярпі скрушнасць. На гэта ты сам сябе накіраваў сваім служэннем Хрысту. Ён Сам, развітваючыся з вучнямі, папярэдзіў іх, што іх у свеце гэтым чакаюць цяжкасці і выпрабаванні (Іаан.16:33).

Прыняўшы на сябе высокае званне святара, старанна і цярпліва выконвай свае шматлікія і адказныя абавязкі. Што ж рабіць? Каму многа дадзена, з таго шмат і спытаюць. Вырашыў быць светачам і дабравеснікам? Выконвай справу дабравесніка з годнасцю, выконвай служэнне тваё з мужнасцю, не палохаючыся чуткаў і плётак. Ведай сваю справу, сачы за сваім сумленнем і працуй на карысць тых, хто побач з табой. І што б ні казалі пра цябе, калі твая душа чыстая, не абурайся паклёпамі і подласцю людской. Чым чысцейшы ты будзеш, тым больш будзе крывадушша, няшчырасці і выпрабаванняў адусюль.

"Справа дабравесніка" – гэта справа евангеліста. Кожны з нас павінен быць прапаведнікам, несці ў свет Евангелле Хрыстова – не толькі словамі, а перш за ўсё ўсім сваім ладам жыцця і той мэтанакіраванасцю, з якой трэба нам ісці насустрач Богу і шукаць Царства Божага. У гэтым мы павінны быць прыкладам для іншых, і ў гэтым сутнасць нашага служэння.

Мяне ўжо прыносяць у ахвяру, кажа апостал, выносяць мне смяротны прысуд, і час майго адыходу настаў. Святы апостал быў зняволены ў Рыме з-за злосці і паклёпаў яўрэяў. Ён ведаў, што яго асудзяць і прынясуць у ахвяру за яго святую справу – за Хрыста і за Яго вучэнне. Ведаў гэта і спакойна чакаў сваёй смерці.

Ён даўно меў жаданне пакінуць гэты свет (Флп.1:23), і таму

радаваўся, што служэнне сваё здзяйсняў шчыра і свята.

Слава Богу, я, кажа апостал, подзвігам добрым змагаўся, шлях я закончыў добрасумленна. Я веру захаваў.

Як хвалююча чуць гэтыя словы і ўяўляць радаснае пачуццё апостала, што ён захаваў веру і што яму цяпер рыхтуецца... вянок праўды, які дасць Гасподзь, справядлівы Суддзя ў той страшны, ракавы дзень. Гасподзь узнагародзіць тады не толькі яго, апостала, але і усіх, якія палюбілі з'яўленне Яго, гэта значыць – Яго прышэсце на зямлю, Яго служэнне і Яго вучэнне. Хто ў жыцці сваім палюбіў Хрыста і шмат пакутаваў за Яго, паверыўшы ў Яго ад шчырага сэрца і ўсяе душы, той, відавочна, будзе разам з Хрыстом у адзінстве з Ім. Хто пераможа, таму дам сядзець са Мною (Адкр.3:21), гаворыць Гасподзь.

Сёння, знаходзячыся паміж двума святамі Нараджэння Хрыстова і Богаяўлення, мы чуем пачатак Евангелля ад Марка, у якім апавядаецца пра Іаана Хрысціцеля. Якая сувязь паміж гэтымі чытаннямі? Такая, што абодва яны гавораць нам пра веру ў Бога як пра шлях, па якім мы ідзём да Бога і па якім Гасподзь прыходзіць да нас.

Пропаведзь Евангелля пачалася са слоў Іаана Хрысціцеля, звернутых да народа: «Падрыхтуйце шлях Госпаду, простымі зрабіце сцежкі Яму». А апостал Павел кажа: « Подзвігам добрым я змагаўся, шлях закончыў» (2 Цім.4:67). Шлях – значыць дарога. Апостал выкарыстоўвае вобраз дарогі і лёгкаатлета на дыстанцыі, які дасягнуў сваёй мэты і перамог у спаборніцтве. Такім чынам, мы чуем сёння і пра пачатак і канец дыстанцыі, і пра той вянок, які рыхтуецца ў якасці ўзнагароды кожнаму з тых, хто не спатыкнуўся, не сступіў са шляху духоўнага жыцця, а дасягнуў сваёй мэты. А мэта – гэта Сам Гасподзь.

Пачаткам хрысціянскага жыцця з'яўляецца пакаянне. Словы Іаана Прадцечы «Пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае» (Мф. 3:2) звернуты да кожнага з нас. Гэтыя словы трэба разумець не ў тым сэнсе, што Царства Божае наблізілася храналагічна, а ў тым сэнсе, што яно заўсёды побач з намі і прыходзіць да нас тады, калі мы здольны Яго ўспрыняць. Пытанне толькі ў тым, ці гатовы мы ўвайсці ў Царства Божае, прыняць Яго ў сябе. Бо за межамі яго застануцца не тыя, каго

Гасподзь асудзіць за іх памылкі, а тыя, хто не захацеў або не знайшоў у сабе сіл, каб прайсці гэты шлях да канца – да дзвярэй Царства Божага – і спыніўся на палове дарогі. І мы павінны помніць пра тое, што, хоць і знаходзімся мы на гэтым шляху, існуе і для нас небяспека аступіцца і не дайсці, не дацягнуць, не дабегчы да канчатковай мэты – збаўлення і ўваходу ў Царства Божае.

Сённяшняе Евангелле разам з пасланнем Апостала да Цімафея паказвае нам узор таго, як трэба чытаць Святое Пісанне, каб здзяйсняць яго і жыць, згодна з Ім.

У Апостала ўжо не засталося ніякага жыцця, акрамя пропаведзі, акрамя радасці даваць іншым тое, што атрымаў ён сам, дзякуючы чаму сам ажыў для жыцця вечнага; і да гэтага ён заклікае Цімафея. “Я, – кажа ён, – зараз паміраю, а ты жывеш; ідзі і прапаведуй Слова, каб другія таксама жылі...”

І ўсё, што здарылася некалі тады, што паўтаралася напрацягу ўсёй хрысціянскай гісторыі, адносіцца непасрэдна і да нас. Мы таксама чулі гэта слова пропаведзі, слова Евангельскае, слова апостальскае, слова малітоўнае; і мы ўсе калісьці ад гэтага слова ажылі, напоўніліся радасцю, спадзяваннем і надзеяй.

І ўсе мы пакліканы гэта слова пранесці праз усё наша жыццё і выканаць яго: спачатку самім ладам свайго існавання, жывучы ў адпаведнасці з тым, што адкрылася ў нашай душы, жывучы адпаведна той глыбіні нашай душы, дзе чуецца голас Бога; затым пранесці гэта слова так, каб яго пачулі іншыя людзі і таксама ўзрадаваліся. Выправіць і вырataваць гэты свет, які гіне ў багне грахоў, можна толькі цаной, роўнай цане подзвігу Хрыста, – гэта значыць цаной уласнага жыцця.

Сёння, у пачатку таго шляху, які вядзе нас ад Нараджэння Хрыстова да Пасхі, Царква нагадвае нам пра тую рашучасць, з якой мы павінны штодзённа праз пакаянне шукаць Царства Божага. Царква нагадвае і пра тое, што Хрыстос заўсёды з намі, што Царства Нябеснае побач з намі, і толькі ад нас залежыць, ці дасягнем мы канчатковай мэты, ці пройдзем гэтым шляхам да канца, ці атрымаем той вянец, тую ўзнагароду, якая падрыхтавана кожнаму з нас Госпадам Ісусам Хрыстом. Амінь.

# ПРОПАВЕДЗЬ НА СВЯТОЕ БОГАЯЎЛЕННЕ, ХРЫШЧЭННЕ ГОСПАДА І БОГА НАШАГА ІІСУСА ХРЫСТА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У пачатку кнігі Быцця мы чытаем, што над водамі насілася дыханне Божае і што з гэтых водаў узнікалі ўсе жывыя істоты. У Старым Запавеце мы бачым воды як вобраз жыцця, яны з'яўляюцца знакам міласці Божай, і ў святых кнігах воды ўяўляюць сабой вобраз ачышчэння, амавення, абнаўлення. І вось у гэтую ваду спускаецца, у яе апускаецца, з ёю злучаецца Бог, Які прыйшоў у свет для яго збаўлення і адраджэння. Свет адарваўся ад Бога, забыў пра Яго, перастаў бачыць Яго і апусціўся ў грэх, цемру і смерць. Але Бог не забыў свет і вось вяртае яго нам у ззянні зорнай славы і першароднай красы. У гэтым свеце ўсё, уключаючы саму матэрыю, само рэчыва яго, становіцца зноў шляхам да Бога, да ўзнаўлення адносінаў з Ім, узрастаннем у гэтым жывым і вечным жыцці. Богаяўленне – гэта свята адкрыцця таямніцаў Божых, і не толькі таямніцаў Божых, але і таямніцаў таго свету, у якім мы жывем. Прышэсце Бога да Свайго стварэння святкуем мы ў радасны і светлый дзень Богаяўлення.

Некалі мёртвыя воды потопу ачысцілі зямлю ад пануючага на ёй граху. Цяпер жывымі водамі Іардана сцвярджаецца Новы Завет Бога і чалавека. Завет праўды і любові, Завет міласэрнасці і лагоднасці. Так воды пакарання сталі водамі дабрыні. І як некалі голуб з галінкай алівы ў дзюбцы з'явіўся веснікам перамены суда Божага на міласць (Быццё 8:11), так і цяпер Дух «у выглядзе голуба» вяшчуе аб прымірэнні стварэння і Творцы, аб том, што цяпер « з’явілася благадаць Божая, збавіцельная для ўсіх людзей». А гэта значыць, што чалавек з гэтага часу не адзінокі. Гэта значыць, што ў яго з'явіўся зараз Заступнік і Хадатайнік, пра Якога сведчыць: «голас з нябёсаў: гэта ёсць Сын Мой Узлюблены, Якога Я ўпадабаў» (Мф.3:17). Так, па прадвечным савету Божаму ясна ад-

крылася таямніца Святой Троіцы. Бог Сын прыходзіць на Іардан хрысціцца ад Іаана, Бог Дух Святы зыходзіць на Сына з нябёсаў, а Бог Айцец сведчыць аб умілаваным Адзінародным Сыну Сваім.

Свята называецца «Богаяўленне», таму што святкуецца і ўслаўляецца падзея незвычайная, незразумелая: яўленне Бога народу Свайму. Нават калі прарок Божы Маісей сыйшоў з вяршыні Сіная, яму прыйшлося пакрыць твар свой покрывам, бо «твар яго стаў ззяць промнямі таму, што Бог гаварыў з ім» (Зыход 34:29). А зараз будзённа і проста сярод заросцікаў трыснёгу, які рос на іарданскіх берагах, з'явіўся Сын Чалавечы, так, што Прарок і Прадцеча Гасподні са здзіўленнем і дрыжыкамі гаворыць пра Яго: «вось Агнец Божы, Які бярэ на Сябе грэх свету» (Іаан.1:29).

Усё гэта сведчыць пра тое, што Хрыстос жадае выратаваць нас любоўю і толькі любоўю, а любоў – гэта заўсёды і найперш адзінства з тым, каго любіш. Як сказана ў прарока Ісаіі: «Ён узяў на Сябе нашыя немачы, панёс нашыя хваробы, і ранаю Яго мы ацаліліся...»

Хрышчэнне Госпада – гэта пачатак крывавага шляху, які вядзе на Галгофу, але, разам з тым, – гэта пачатак збаўлення чалавецтва ад нявольніцтва граху і смерці. Бязгрэшны Гасподзь уваходзіць у воды Іардана для таго, каб прыняць на Сябе грахі ўсяго чалавецтва. Прымаючы хрышчэнне Іаанава, Хрыстос атаясамляе Сябе з усімі людзьмі, усімі – без выключэння – грэшнікамі, якія маюць патрэбу ў прабачэнні, збаўленні, адраджэнні... Атаясамляе Сябе з усімі і з кожным з нас. Сваім хрышчэннем Ён сведчыць, што прыйшоў не для таго, каб судзіць і асуджаць, не для таго, каб звонку, з вышыні Сваёй дасканаласці і Бажаства, даць нам закон і кіраваць, а для таго, каб злучыцца з намі, каб, стаўшы адным з нас, зрабіць нас удзельнікамі Свайго дасканалага і бязгрэшнага жыцця. Са Святога Пісання кожны з нас ведае, што да Іаана Хрысціцеля прыходзілі людзі, каб ачысціцца ад грахоў сваіх. Нам нават цяжка ўявіць, браты і сёстры, якая бездань граху людскога знаходзілася ў гэтых водах Іардана! І вось менавіта туды, у бездань людскога граху, цяпер сыходзіць Гасподзь для таго, каб амыць, ачысціць і асвяціць кожнага чалавека.

Не выпадкова Святая Царква дала сённяшняму святу яшчэ адну назву: гэты дзень Хрышчэння, дзень Богаяўлення называецца яшчэ і днём Святла, бо сёння не толькі свята вады і духу, але і свята Боскага святла, якое асвятляе і асвячае ўсякага чалавека. І мэта жыцця чалавека, які лічыць сябе хрысціянінам, складаецца менавіта ў том, каб прыняць у сябе гэтае нястворанае Боскае святло і з яго дапамогай пераманіцца ў час зямнога жыцця. Бо без гэтага перамянення – аб гэтым вучыць Праваслаўная Царква – немагчыма ўвайсці ў Царства Нябеснае. І калі мы жадаем, каб для нас адкрылася вечная нябесная асалода ў жыцці будучага веку, то ўжо тут, на зямлі, мы павінны паклапаціцца, каб быў належны пачатак нашага перамянення. Менавіта таму сённяшняе свята называецца днём Святла, і ў кандаку свята спяваецца: «З'явіўся Ты сёння ўсяму свету, і святло Тваё, Госпадзі, заззяла нам».

Дай Бог, браты і сёстры, каб гэтае благадатнае святло Божае сапраўды з'явілася на нас, прасвятліла б нас і спадарожнічала нам у нашым зямным жыцці. Але для гэтага нам неабходна заўсёды памятаць словы: «Пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае», і не толькі памятаць, а на справах выконваць іх.

Кожны год Святая Царква зноў і зноў здзяйсняе Вялікае асвячэнне вады. Менавіта тут, у гэтым Вялікім асвячэнні адбываецца сустрэча человека з Богам, а, значыць, адбываецца і асвячэнне, і абнаўленне самога человека ў той самы момант, калі мы з усёю паўнатою царкоўнаю будзем заклікаць Божую благадаць, каб яна сышла і асвяціла ўсю ваду. На вялікі жаль, асабліва сёння, калі мы ў такой вялікай колькасці прыходзім у храмы за святой вадой, мы забываем пра самае галоўнае; забываем пра тое, што тут павінна адбыцца мая асабістая сустрэча з Богам. І шмат хто галоўным для сябе лічыць толькі ўзяць «вадзічку». Але давайце задумаемся, ці будзе карыснай проста ўзятая «вадзічка», ці дапаможа яна ў хваробах маёй душы і целу? Бо ацаляе не вада, а Гасподзь праз гэтую ваду! Давайце памятаць аб гэтым! Для чаго мы сёння прыйшлі ў храмы Божыі? Для таго, каб сустрэцца з Богам. Усе мы павінны імкнуцца да збаўлення, а святая вада з'яўляецца сродкам для гэтага. Збаўленне здзяйсняецца і Божымі, і людскім высілкамі. Че-

ловек павінен прыйсці і пакаяцца ў грахах. Гасподзь жа прыйдзе ўзяць на Сябе гэтыя грахі.

Слава Богу за Яго бясконцую міласць. Слава Богу, што Ён абнаўляе і чалавека і лёсы нашыя, і свет, у якім мы жывем, і што жыць мы можам спадзяваннем ужо атрыманай перамогі і радасцю з той нагоды, што мы чакаем дня Божага – вялікага, дзівоснага, страшнага, калі ўвесь свет асвятліцца дабрынёй прынятага, а не толькі дадзенага Духа Святога!

Таму не адно Богаяўленне, а два: адно – тое, якое ўжо адбылося, а другое – будучае, якое адбудзецца ў славе пры сканчэнні свету. Пра першае і другое вы чулі сёння ад Паўла, які ў гутарцы з Цітам гаворыць так пра мінулае: «З'явілася благадаць Божая, збавіцельная для ўсіх людзей, якая вучыць нас, каб мы, адкінуўшы бязбожнасць і зямныя пахацінствы, цнатліва, праведна і набожна жылі ў гэтым веку», – а пра будучае: «чакаючы блажэннага спадзявання і з'яўлення славы вялікага Бога і Збавіцеля нашага Іісуса Хрыста» (Ціт. 2:11-13).

## ПРАПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ ПАСЛЯ БОГАЯЎЛЕННЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Калі воды Іарданскія, самкнуліся над галавой Сына Божага, прадказваючы Яго будучае сашэсце ў пекла, Сам Ён, Бязгрэшны, далучыўся да ўсёй грахоўнай нечыстаты роду чалавечага. Сапраўды ў гэта страшнае імгненне Ён стаў нашым братам, бо ў іарданскай купелі “павінен быў ва ўсім упадобніцца братам” (Яўр.2:17,18).

Мы чыталі сёння Пасланне да Эфесянаў, у якім апостал прама сцвярджае: “Таму і сказана: узышоў на вышыню, павёў палон у няволю і даў людзям дары”.

Гасподзь Іісус Хрыстос узышоў на вышыню, гэта значыць узнёсся на нябёсы, павёў палон у няволю, гэта значыць звязаў, пе-

рамог дыявала, смерць і грэх, і пасля гэтага даў людзям Свае дары. Гасподзь звязаў дыявала, каб той не мог свабодна ў нас дзейнічаць, скасаваў грэх, каб ён не мог валодаць намі, перамог смерць, каб мы не баяліся яе. І, атрымаўшы такую свабоду, мы сталі здольныя прыняць тыя дары, якія Ён даў апосталам у дзень Пяцідзесятніцы і пасылае на ўсіх хрысціян ва ўсе часы і ў Таінствах, і якімі-небудзь яшчэ, магчыма, невядомымі для нас шляхамі.

А «ўзышоў» азначае не тое, што Ён раней "сыходзіў у глыбінныя нетры зямлі", як кажа Святое Пісанне (Эф.4:8,9). Тут маецца на ўвазе тое, што Ён пасля Сваёй смерці сышоў у пекла і там, скажам так, дайшоў да самага дна быцця. Гасподзь праявіў пакору, прыняўшы на Сябе чалавечую плоць, вобразна кажучы, сышоўшы з нябёс на зямлю, але на гэтым Яго пакора не скончылася. Ён павялічыў яе, калі чалавечай душой сышоў у апраметныя месцы зямлі і такім чынам ахапіў Сабой усё тварэнне. Ён трапіў нават туды, куды не можа ўвайсці праведны, святы і бязгрэшны чалавек і дзе не можа з'явіцца Бог. Аднак Ён сышоў туды як чалавек і Сваёй Боскай сілай, паяднанай з чалавечай душой, разбурыў уладу дыявала. Вось яно, "апраметнае месца зямлі", – купель Іарданская!

Гасподзь сыходзіць з нябёсаў і ўцялесніваецца ад "Духа Святога і Марыі Дзевы" ў Віфлеемскай пячоры. Здавалася б, што можа быць ніжэй за ўбогі хлеў і жолаб для хатняй жывёлы. Але і гэта яшчэ высока!

Гасподзь сыходзіць з вышыні ціхага і бязгрэшнага прытулку для жывёлы, каб, зміРыўшыся, апусціцца ў памутнелыя ад чалавечых грахоў воды Іардана. Менавіта тут Сын Божы па-сапраўднаму, да канца становіцца Сынам Чалавечым. Менавіта тут Сын Божы "Узяў на Сябе нашы немачы і хваробы панёс" (Мф.8:17). Але і гэта яшчэ не ўсё!

Гасподзь сыходзіць у "Галілею язычніцкую" (Мф.4:15), туды, дзе, быццам у пекле, знаходзіцца народ, "што сядзіць у цемры" (Мф.4:16). З вышынь Іерусалімскіх Ён сыходзіць, быццам у апраметную, у зямлю Завулонаву і ў зямлю Нефалімаву, каб і там усім, "хто сядзіць у краіне і цені смерці, заззяла святло" (Мф.4:16).

Нам вядома, чым скончыцца гэта паслядоўнае сыходжанне

Сына Божага. Мы ведаем, што апошняй кропкай яго стане голая вяршыня Галгофы, магільны склеп побач з яе падножжам, куды Іосіф і Нікадзім пaклалі Прачыстае Цела, і, нарэшце, пекла, куды, быццам у "глуханямое ўладаранне смерці", сыходзіць Сын Чалавечы.

Далей – ужо няма куды. Няма глыбіні больш глыбокай за глыбіню апраметнай, няма больш поўнага і безнадзейнага адчаю, чым пачуццё богапакінутасці, калі нават у адказ на крык Свайго Сына "Божа Мой, Божа Мой! Чаму Ты Мяне пакінуў?" (Мф.27:46) Нябёсы маўчаць.

Вось "цана Ацэненага" (Мф.27:9)! Вось чаму тоеснае сыходжанне Сына Божага ў мутную, цяжкую, смяротную Іарданскую купель! Вось чаму жахаецца прарок, той самы, якога бессаромная і духоўна сляпая так званая народная традыцыя называе "Купалам", гэта значыць тым, хто "купае"! Якая сапраўды "скамянелая нячуласць", якая тупасць духоўная патрэбна для таго, каб у свядомасці нарадзілася менавіта вось гэта слаўцо!

І вось менавіта ў памяць гэтых вялікіх і драматычных эпізодаў сакральнай біблейскай гісторыі мы, працягваючы бездухоўную паганскую традыцыю, ладзім сёння скандальныя карагоды вакол палонкі, якую кашчунна называем "Іарданню". Забыўшыся пра сэнс і драматычнае значэнне падзей, якія ўзгадвае Царква ў гэты час, тысячы людзей накіроўваюцца да скаваных льдом вадаёмаў, кабператварыць велічную трагедыю добраахвотнага змірэння Сына Божага ў ганебны фарс, у нейкі экстрэмальны спорт, які ўражвае сваёй бессэнсоўнасцю, пераконваючы самі сябе і ўсіх навокал сябе ў тым, што гэта і ёсць самае сапраўднае пакаянне і менавіта таму, хто тройчы з галавой акунецца ў ледзяную ваду, і даруюцца ўсе яго цяжкія грахі!

Гэта непазбежная рызыка для здароўя, на якую ідуць свядома і добраахвотна. Рызыка, якая ўступае ў пярэчанне з Евангеллем. Хрыстос адказвае дыяваду, які Яго спакушае: "Напісана яшчэ: "не спакушай Госпада Бога твайго" (Мф. 4:7). Хочаш быць паслядоўнікам Хрыста – не рызыкуй ні жыццём, ні здароўем тады, калі дзеля гэтай рызыкі няма высокай мэты служэння іншым людзям.

А колькі такіх людзей, якія самазадаволены хрышчэнскім купаннем і лічаць яго самым яскравым доказам сваёй веры, але пры гэтым і пальцам не варухнуць, каб выратаваць сваю душу, каб вырвацца з-пад улады граху. Няўжо і сапраўды мы, хрысціяне, мы, якія вызнаём “адзінае хрышчэнне дзеля астаўлення грахоў”, мы, з усімі нашымі малітвамі, пастамі, пакаяннем, са слязьмі, з пакутлівымі пошукамі сэнсу жыцця, выглядаем у вачах гэтых “экстрэмалаў” такімі ідыётамі, калі так проста ўсё вырашае скачок у палонку? Няўжо для таго дзве тысячы гадоў таму назад прагучаў над светам голас нашага Збавіцеля: “...пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае” (Мф.4:17), каб у адказ на гэты зварот Божы да мяне, я публічна распрануўся і, нягледзячы на траскучы і люты мароз, сігануў бы ў ледзяную ваду?

Не, штосьці тут не так! Калі свята Пасхі ператвараецца ў свята пафарбаваных яек, калі шэсце Госпада на добраахвотныя пакуты дзеля нашага збаўлення ў дзень Яго ўваходу ў Іерусалім успрымаецца намі толькі як магчымасць “пасвенціць вербачку”, а ўспамін трагічнага сыходжання Збавіцеля ў стаўшую цяжкай ад чалавечых грахоў ваду Іардана становіцца нейкай воднай феерыяй, тады мы з вамі ўсё яшчэ “народ, што сядзіць у цемры” (Мф.4:16). Тады нам і сапраўды яшчэ рана лічыць сябе народам-баганосцам, а самы час выконваць наказ нашага Госпада і, “седзячы ў валасяніцы і попеле” (Лк.10:13), каяцца і плакаць аб сваёй недасканаласці!

У трапары, прысвечаным святу Нараджэння Хрыстова, мы вызнаем веру ў тое, што з нараджэннем Хрыста Збавіцеля прыйшло ў свет Сонца Праўды, і ад гэтага Сонца заззяла святло, якое прасвятляе і асвятляе ўсякага чалавека, што імкнецца да Хрыста. І мы таксама былі азораныя гэтым святлом ў Таінстве Святога Хрышчэння. Але, нягледзячы на тое, што мы мелі магчымасць успрыняць, і не толькі ўспрыняць гэта святло, але і знаходзіцца ў ім, тым не менш, наша жыццё сведчыць, што быццам бы і не было таго святла, быццам бы і не ўзышло Сонца Праўды. А няма гэтага святла ў нашым жыцці таму, што як мы жылі і знаходзіліся ў граху, так і працягваем жыць і знаходзіцца ў тым жа стане. Праўда, часам нараджаецца ў нас жаданне і імкненне што-небудзь у сабе выправіць. Па міласці

Божай і той благадаці, якая нейкім невядомым нам цудоўным чынам усё ж такі кранаецца кожнага з нас, мы гатовы ў той момант і змяніць наша жыццё, і пакаяцца, і стаць сапраўднымі хрысціянамі. Але мінае пэўны час, і тая паўсядзённасць, якая штодня вакол нас, падштурхоўвае нас зноў на шлях граху – на шлях, які вядзе нас ад Бога туды, дзе няма святла.

Міжволі паўстае пытанне: а што ўсё ж такі нам рабіць і ці зможам мы хаця б што-небудзь зрабіць дзеля таго, каб тыя духоўныя пачуцці, якія былі ў нас у святочныя дні Нараджэння Хрыстова і Святога Богаяўлення, не былі такімі хуткабежнымі, а змянялі нас і жыццё наша ў лепшы бок. Вось дзеля гэтага, браты і сёстры, нам неабходна помніць тыя словы, з якімі да нас зноў звяртаецца Гасподзь і Збавіцель наш Іісус Хрыстос. Сёння падчас літургіі мы чулі пра тое, што Гасподзь пасля Свайго Хрышчэння і пасля саракадзённай спакусы на вяршыні гары, сышоўшы з яе, звярнуўся з заклікам да ўсіх, хто мог яго чуць. Здавалася б, Ён паўтарыў ужо вядомыя людзям словы, таму што гэтыя словы яны чулі з вуснаў святога Прарока, Прадцечы і Хрысціцеля Іаана. Гасподзь зноў паўтарае іх. Ён кажа: "Пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае" (Мф. 4:17). Нягледзячы на тое, што і Хрысціцель Іаан, і Гасподзь прамаўляюць адныя і тыя ж словы, заклікаюць да аднаго і таго ж – да пакаяння, тым не менш ёсць істотная розніца ў тым і ў гэтым звароце. Калі Іаан кажа: "Пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае" (Мф. 3:2), то гэтымі словамі ён мае на ўвазе наступнае: "Набліжаецца прышэсце Таго, Каму вы павінны падрыхтаваць шлях". А ў такіх жа словах Хрыста чуецца нешта іншае, тут па-іншаму расстаўлены акцэнты, тут гаворыцца пра тое, што Я ўжо прыйшоў, Я сярод вас, але ці гатовы вы прыняць Мяне?

Гасподзь прыйшоў, Гасподзь сярод нас, і да нас усіх без выключэння звернута тое ж пытанне: а ці гатовы мы прыняць Хрыста? І дзеля таго, каб быць гатовымі да прыняцця Хрыста, неабходна ўсім нам прынесці і пастаянна прыносіць Богу сваё шчырае і чыстасардэчнае пакаянне.

Здавалася б, якая простая ісціна! Як усё вельмі проста і без асаблівых намаганняў павінна адбывацца ў нашым жыцці. Тым не

менш (мы ведаем гэта са свайго ўласнага вопыту, нам не трэба казаць пра кагосьці іншага), мала зменаў у нашым жыцці ў лепшы бок. У чым прычына? Чаму так? Чаго нам яшчэ не хапае? Калі б мы больш уважліва чыталі Святое Пісанне, калі б больш уважліва чыталі настаўленні святых айцоў, то ведалі б, чаго нам яшчэ не хапае. А не хапае нам змірэння. Гэтага добрага стану душы, гэтай дабрадзейнасці так не хапае нам з вамі ў зямным жыцці. Калі б мы былі такімі, як Хрыстос, Які кажа “Навучыцеся ад Мяне, бо Я пакорлівы і лагодны сэрцам” (Мф.11:29)! Калі б мы былі такімі, як Ён, тады кожны з нас усведамляў бы сябе грэшнікам, асэнсаваў бы і ўбачыў бы ўсе свае грахоўныя заганы, якімі напоўнена наша паўсядзённае жыццё. Такім чынам, убачыць, асэнсаваць і выправіць свой грэх дапамагае пакора і змірэнне, бо толькі такі чалавек, як і евангельскі мытар, можа маліцца да Бога пакаяннымі словамі “Божа, будзь міласцівы да мяне, грэшнага!” (Лк.18:13), бо нічога не маю я ў гэтым жыцці, я – самы грэшны з усіх людзей на зямлі.

Вось калі б мы так шчыра маглі звяртацца да Бога з глыбіні свайго сэрца, ад усёй душы, тады і пакаянне наша было б сапраўдным, шчырым і глыбокім, стала б тым самым “перамяненнем розуму”, як дакладна і літаральна перакладаецца гэта слова з грэчаскай мовы. Змяненне ў лепшы бок, зварот да Бога, да Святла і адзінай сапраўднай Крыніцы жыцця – вось сапраўдная мэта нашага існавання. Але пры гэтым, браты і сёстры, мы павінны памятаць яшчэ пра адзін важны момант: мы павінны добра разумець, што змірэнне і пакора немагчымы без цярпення. Невыпадкова святыя айцы кажуць: “Дом душы – цярпенне, ежа душы – змірэнне”. Як чалавек не можа абыходзіцца без жытла і даху над галавой, так і душа не можа жыць без цярпення. Чалавек не можа існаваць без ежы, і душа не можа жыць паўнавартасным духоўным жыццём без змірэння і пакоры. І пра гэта мы павінны заўсёды памятаць.

Змірэнне немагчыма без цярпення. Часам здаецца, што ўсё я раблю, каб спакой і цішыня былі вакол мяне, але нешта не вельмі яно так атрымліваецца. І ад гэтага апускаюцца рукі, халадзее сэрца, знікае ўсякае жаданне працаваць над сабой і нешта змяняць у сваім жыцці. Вось тут мы павінны памятаць пра адну простую

ісціну: калі штосьці не атрымліваецца, значыць, або гэта – не маё і не карысна яна для мяне і майго збаўлення, або гэта – воля Божая. А калі гэта воля Божая, тады – цярпі!

На жаль, пачуўшы словы Госпада пра тое, што "Наблізілася Царства Нябеснае", мы хочам з лёгкасцю, без асаблівых намаганняў, подзвігаў і працы, увайсці ў гэта Царства. Але так не бывае. Не бывае так, браты і сёстры, і мы павінны гэта выдатна разумець.

Калі мы хочам, напрыклад, каб у нас была развітая мускулатура, але пры гэтым будзем толькі ляжаць у ложку, нічога ў нас не атрымаецца. Каб быць фізічна развітым чалавекам, неабходна выконваць пэўныя практыкаванні, займацца фізічнай культурай або спортам, наведваць спартыўныя залы і сур'ёзна працаваць над сабой. Таксама немагчыма ўзняцца па лесвіцы духоўнага развіцця і маральнага самаўдасканалення, не прыкладаючы пры гэтым ніякіх намаганняў. "Царства Нябеснае сілаю дасягаецца, і тыя, што сілу ўжываюць, дасягаюць яго" (Мф.11:12) — вось простая ісціна, якую ўсе мы павінны памятаць.

Дык вось, браты і сёстры, які ўрок дае нам сёння Святая Хрыстова Праваслаўная Царква. Так, з аднаго боку, гэта безумоўная ісціна і адначасова вялікая міласць Божая, што ўсе мы з вамі азораны святлом евангельскага вучэння, той благадаццю Божай, якую скіраваў на нас Гасподзь у прынятых намі Таінствах веры, у малітве, у наведанні святых храмаў і ўдзелу ў богаслужэннях. Але, з іншага боку, для таго, каб кожнаму з нас сапраўды жыць у гэтым свеце, сапраўды імкнуцца да таго Царства Нябеснага, якое ўжо наблізілася да нас (вы толькі прыслухайцеся да гэтых словаў і ўдумайцеся ў іх!), нам застаецца зрабіць усяго толькі некалькі крокаў. Дык давайце зробім іх! Давайце не будзем стаяць на адным месцы! Да гэтага заклікае ўсіх нас і Святая Царква, і Гасподзь.

Шукайце апраўдання ў Хрысце праз шчырае пакаянне і спавяданне грахоў сваіх. Шукайце ачышчэння, асвячэння, аднаўлення духу ў Таінствах царкоўных, прымаючы іх з верай і спадзяваннем, і страхам Божым, са шчырым жаданнем свайго збаўлення і вылатавання. Шукайце Царства Божага, куды трапяць толькі тыя, хто належыць гэтаму Царству Хрыста не па назве сваёй, а па веры і

ў адпаведнасці са сваімі справамі. З кожным днём усё больш выразна гучыць голас Нябеснага Жаніха: “Вось, хутка Я прыйду, і ўзнагарода Мая са Мною, пакайцеся, бо наблізілася Царства Нябеснае”. Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ НА ПРААБРАЖЭННЕ ГАСПОДНЕ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Усё Евангелле духоўна, і ўсё ў ім мае духоўны сэнс. Калі мы разам з Госпадам і трыма абранымі Яго вучнямі ўзыходзім на гару Фавор, мы ўспамінаем не проста гэтую гістарычную падзею, а перажываем і яе духоўны сэнс, дакладней, павінны яго перажываць.

Кожны раз, калі мы чытаем Евангелле, а тым больш здзяйсняем богаслужэнне, мы ўдзельнічаем у святкуемых падзеях, мы можам быць удзельнікамі Праабражэння. Таму нам вельмі важна глыбока асэнсаваць тую евангельскую падзею, аб якой сёння чыталася, зразумець, у чым яе сэнс, адчуць яго і задумацца над ім.

У свяце Праабражэння адкрываецца містычнае багаслоўе Хрысціянскай Царквы. Праабражэнне – гэта візуальная з'ява царства Божага на зямлі. Іісус Хрыстос незадоўга перад Крыжовымі пакутамі, узяўшы з Сабою трох вучняў – Іаана, Іакава і Пятра, выйшаў з Капернаума і накіраваўся на поўнач да гары Фавор, што ўзвышаецца, быццам крэпасць, над узгоркамі Галілеі. Вучні маўчалі, прадчуваючы, што ім адкрыецца нейкая таямніца. Таямніца ж, звычайна, здзяйсняецца ў бязмоўі.

На Фаворы апосталы ўбачылі Перамяненне Хрыста, з'яву Яго велічы і славы. Твар Збавіцеля стаў падобны да святла маланкі, вопратка – белай, нібы снег. Ён стаяў, акружаны ззяннем, як сонца – промнямі. Святло, якое было паказана вучням на Фаворы, – гэта не нейкае матэрыяльнае святло, якое ззяе «як сонца,» гэта Святло Нястворанае, гэта Сам Бог, сама прысутнасць Божая, энергія Божая – тое боскае дзеянне, наведванне звыш, у якім з'яўляецца

людзям слава Божая. Збавіцелю з'явіліся два прарокі: Майсей і Ілія і гутарылі з Ім. Экзегеты (тлумачальнікі Святога Пісання) гавораць, што гэта была гутарка аб Голгофскай ахвяры, аб тых пакутах, праз якія павінен быў прайсці Хрыстос, аб тым, што грахі чалавечыя будуць адкупленыя крывёй Сына Божага і Збавіцеля свету. Тры апостала перажылі з'яву Боскага святла як ні з чым не параўнальную вялікую радасць. Падалося, сам час спыніўся ў яе сузіранні. Здзіўленыя апосталы ўпалі на зямлю. Відзенне скончылася. Разам з Іісусам Хрыстом яны спусціліся з гары і да раніцы вярнуліся ў Капернаум. Апосталы сходзілі з гары, уражаныя ўжо не столькі тым, што яны бачылі, але пачутым прадказаннем аб Распяцці. Апосталы думалі аб пакутах свайго Настаўніка як аб чымсьці ганебным і нявартым Месіі. А прарокі Майсей і Ілія назвалі гэта Яго «славай,» таму што менавіта ў Сваіх добраахвотных пакутах Гасподзь явіў усю неспасціжную прыгажосць Сваёй любові да людзей, якія гінулі ў рабстве граху, смерці і дыявала. Хрыстос гаворыць людзям, што гэтае царства цемры, зла і смерці – гэта не сапраўднае жыццё, гэта не той свет, які быў створаны Богам; што зло, пакуты і саму смерць можна і трэба перамагчы і што Ён пасланы Богам, Айцом Сваім, каб ратаваць людзей ад страшнага заняволення злу і смерці. Чалавек забыў пра сваю сапраўдную прыроду і прызначэнне, адрокся ад іх. Людзі павінны звярнуцца да Бога, убачыць тое, што развучыліся бачыць, пачуць тое, што яны ўжо няздольныя пачуць. Павінны зноў паверыць, што дабро – мацнейшае за зло, каханне – мацнейшае за нянавісць, жыццё – мацнейшае за смерць. Хрыстос ацаляе, дапамагае, усім аддае сябе. Ён ведае, што ў гадзіну апошняй Яго ахвяры, апошняй самааддачы ўсё ў страху пакінуць Яго. Але каб потым, пазней, калі ўжо ўсё здзейсніцца, засталося ў свеце сведчанне аб тым, куды Ён кліча людзей, што прапаноўвае Ён нам як дар, як жыццё, поўнае сэнсу і радасці, Ён, таемна ад свету і ад людзей, паказаў тром з вучняў сваіх тую славу, тое святло, тую ўрачыстасць, да якіх спрадвеку заклікаsuccessfulны чалавек: Нястворанае Святло Божае, пранзаючае ўвесь свет; Нястворанае Святло, якое пераменяе чалавека; Святло – у якім усё знаходзіць свой апошні і вечны сэнс. Скрозь цем-

ру і зло, скрозь шэрасць і будзённасць свету, як промень скрозь хмары, зззяе гэтае Святло. Яго ведае душа, ім суцяшаецца сэрца, ім пастаянна жыве і пад яго ўздзеяннем паступова пераменьваецца наша жыццё.

У імкненні да здабыцця гэтага Святла, да абожання чалавечай прыроды бачыць хрысціянскае вучэнне духоўны сэнс жыцця. «Святло Хрыста прасвятляе ўсіх!» Святло Хрыста перамяняе цела, і яно становіцца духаносным. Гасподзь наведвае нас, каб, убачыўшы Яго святло, мы зрабіліся працятыя ім і ўсё наша жыццё змянілася, каб з намі адбывалася то, аб чым Сам Гасподзь сказаў: «Так няхай свеціць святло ваша перад людзьмі, каб яны бачылі добрыя ўчынкі і ўслаўлялі Айца вашага, Які на нябёсах» (Мф. 5:16). Божае святло наведвае нас, каб змяніць не толькі ўсе вакол нас, але і наша ўласнае жыццё, каб мы змяніліся, і святло Божае пачало праз нас распаўсюджвацца на іншых людзей.



Не выпадкова падчас здзяйснення ўсяночнага трывання, падчас спеву сціхіраў мы чулі заклік Царквы, звернуты да кожнага з нас: змяніцца «лепшым ператварэннем». Гэта значыць, мы павінны ў сваім зямным жыцці змяніцца да лепшага. І без гэтага перамянення ад жыцця грахоўнага да жыцця ў адпаведнасці з запаведзямі Божымі, да духоўнага жыцця, да жыцця ў Хрысце немагчыма спадзявацца на выратаванне і магчымасць заўсёды быць са сваім Госпадам. Ісус не выпадкова Перамяняецца, і Перамяняецца не па Боскай, а па Сваёй Чалавечай прыродзе, тым самым паказваючы, што кожны з нас можа і павінен перамяніцца ў сваім зямным жыцці. Вось аб чым нам сёння нагадвае Святая Хрыстова Праваслаўная Царква. Вось якія думкі і пачуцці павінны авалодваць кожным з нас не толькі сёння, у дзень вялікага свята, але і ва ўсе дні нашага зямнога жыцця.

Дай Бог, браты і сёстры, каб благадаць Божая прасвяціла нашы сэрцы і душы, каб усе мы ў гэтым зямным жыцці дасягнулі перамянення, без якога немагчыма выратаванне, каб кожны з нас не па імені, а па сутнасці свайго жыцця быў хрысціянінам, быў сапраўдным сынам або дачкой свайго Бога. Гэтага чакае ад нас Гасподзь, да гэтага нас заклікае Святая Царква. І дай Бог, каб Маці Божыя была неадступнай Хадайніцай і Заступніцай за нас, бо Яе малітвамі Гасподзь яшчэ церпіць нас, пасылае усім нам Свае шчодрыя і багатыя міласці. Будзем памятаць, што толькі той зможа ўдастоіцца перамянення, хто мае веру цвёрдую, як камень, якую меў Пётр; змірэнне і пакорнасць, якія меў апостал Іакаў і бязмежную любоў да Хрыста, якую меў апостал Іаан. Памолімся да Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста, да Яго Прачыстай Маці, да ўсіх святых апосталаў, каб іх малітвамі Гасподзь дапамог кожнаму з нас у нашым зямным жыцці дасягнуць пачэснага Перамянення ў славе Сваёй. Амінь

## ПРОПАВЕДЗЬ НА АСВЯЧЭННЕ ПЛАДОЎ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Для многіх хрышчоных і быццам бы веруючых людзей Праабражэнне, на жаль, дагэтуль застаецца ўсяго толькі яблычным Спасам, хоць нам трэба цвёрда засвоіць, што ні яблыкі, ні вінаград да яго ніякага дачынення не маюць. Проста ўсе плады новага ўраджаю не толькі ў новазапаветнай Царкве, але і яшчэ ў старажытным Ізраілі прыносіліся ў храм для благаславення. Людзі раней жылі перад Богам, перад Ім імкнуліся хадзіць – і ўзнікалі звычаі, якія гэта адлюстроўвалі: зямля прыносіць плады ў адпаведнасці з Промыслам і воляй Божай, а чалавек у знак падзякі прыносіў гэтыя плады у храм. Яблыкі ў духоўным сэнсе не звязаныя з Праабражэннем, проста яны да гэтага свята паспяваюць. Для многіх жа з нас прынесці яблык, яго асвяціць, а потым асвячонае з'есці, становіцца самым галоўным у свяце і засланяе

сэнс духоўнай урачыстасці, якую перажывае Царква. Ёсць нешта бясконца абражальнае ў так званым «народным» найменні гэтага свята: Яблычны Спас. «Спас» – Збавіцель, Гасподзь наш Ісус Хрыстос, Сын Божы, Які «нас дзеля чалавек і нашага дзеля выратавання», стаў Сынам Чалавечым, «нас дзеля чалавек» зведаў страшную і ганебную смерць на Крыжы і, у трэці дзень уваскрэшаны, не можа быць ні «яблычным», ні «мядовым» і ніякім іншым. Калі ўжо цяжкім грахом па нашых хрысціянскіх паняццях з'яўляецца згадванне імя Божага дарэмна – гэта значыць, дарма і не да месца, то наколькі ж большы грэх ні з чым не адпаведнае злучэнне імені нашага Збавіцеля, хай нават з важнымі для працаўнікоў сельскай гаспадаркі, але, безумоўна, другараднымі для Царства Нябеснага, падзеямі збору ўраджая.

А ужо што да асвячэння пладоў, якое святая Царква здзяйсняе асобай малітвай у дзень Праабражэння, то ў гэтым выпадку мы ўсё, здаецца, проста забылі аб сэнсе таго, што адбываецца, або, як Гасподзь гаварыў: «не ведаюць, што робяць» (Лк.23:34). І яшчэ добра было б, каб мы прыносілі ў храм плён сваёй працы: цыбулю, скажам, або пятрушку, выгадаваную на сваім агародзе, як ахвяру, як падарунак Богу ў падзяку за атрыманы ўраджай – дык не: прынясуць заморскія яблыкі, набытыя ў краме, паставяць на столік, дачакаюцца акраплення святой вадой ды і панясуць дадому! Вось так ахвяра! І паступова забываецца ў нашым, некалі праваслаўным народзе, вялікі цуд на гары Фавор, які папярэднічаў вялікім выпрабаванням на гары Галгофе, затое з года ў год памятаецца ўсімі людзьмі, і царкоўнымі, і не вельмі, што самае галоўнае ў гэты дзень – яблыкі асвяціць! Навошта, пытаецца? Таму, што дзяды нашы так рабілі, а тое, што мы самі ўжо даўно ніякіх яблыкаў не вырошчваем, дык гэта і не асабліва важна: галоўнае – традыцыю выканаць! Так праз дзве тысячы гадоў спраўджваюцца над намі словы Хрыстовы, звернутыя да захавальнікаў Старазапаветнага Закона, да фарысеяў: «такім чынам вы скасавалі запаведзь Божую дзеля падання вашага» (Мф.15:6).

Мы можам быць альбо удзельнікамі Праабражэння, альбо застацца са сваімі яблыкамі і больш, на жаль, ні з чым – хоць яны

і асвячоныя благадаццю Божай праз акрапленне святой вадой. Але, пакаштаваўшы іх, мы сваю душу не выратуем, таму што немагчыма выратаваць душу ніякай ежай, нават асвячонай. Можна піць вёдрамі святую ваду і тонамі ёсць святыя просвіркі, можна асвяціць усе плады ў свеце, а потым іх з'есці, але «Царства Божае не ежа і піццё, але радасць у Святым Духу». Таму тое, чаго патрабуе ад нас Гасподзь, і тое, чаму вучыць нас Святая Царква і чаму ў Царкве ўсё павінна служыць, ёсць набыццё ў сэрцы благадаці Духа Божага, а не насычэнне, хай і святочнае.

Не ў ежы і віне свята. Хоць у Царкве ўсё так прамудра ўладкована, каб і вока наша радавалася, і цела наша падлагоджвалася, і ўся прырода наша сваткавала свята, але ўсё ж такі Царства Нябеснае не ад свету гэтага.

Не з нас з вамі гэта пачалося. І самі апосталы, якія былі сведкамі трагічнага і выдатнага цуду на горы Фавор, апынуліся нявартымі даверанай ім таямніцы. Зусім як мы з нашымі яблыкамі, яны прыняліся "клапаціцца і турбавацца пра многае" (Лк.10:41), і ў той самы час, калі Майсей і Ілія, «явіўшыся ў славе, гаварылі пра адыход Яго, які Ён меў здзейсніць у Іерусаліме» (Лк.9:31), гаварылі Сыну Божаму аб будучай Голгофской пакуце, апосталы марылі аб пабудове нейкіх недарэчных «шатроў»! Яны да такой ступені клапаціліся і мітусіліся аб «зямным», што голас Айца павінен быў ацверазіць іх напамінкам аб сэнсе таго, што тут адбываецца: «Гэта ёсць Сын Мой Узлюблены, Якога Я ўпадабаў; Яго слухайце» (Мф.17:5).

Давайце і на самой справе станем слухаць нашага Бога, давайце і мы за жыццёвым і паўсядзённым не забудзем аб святым і вечным. Давайце будзем памятаць, што мы закліканыя нашым Богам асвячаць першым чынам не яблыкі, над якімі не працавалі рукі нашы, але сэрцы і душы, датуль, пакуль, як не сказаў нам сёння сведка дзівоснага цуду на Фаворы, апостал Пётр: «дакуль не пачне віднець дзень і не ўзыдзе ранішняя зорка ў сэрцах вашых» (2 Пятр.1:19).

Дай Бог, браты і сёстры, каб благадаць Божая прасвяціла нашы сэрцы і душы, каб усе мы ў гэтым зямным жыцці дасягнулі пе-

рамянення, без якога немагчыма выратаванне, каб кожны з нас не па імені, а па сутнасці свайго жыцця быў хрысціянінам, быў сапраўдным сынам або дачкой свайго Бога. Гэтага чакае ад нас Гасподзь, да гэтага нас заклікае Святая Царква. І дай Бог, каб Маці Божыя была неадступнай Хадайніцай і Заступніцай за нас, бо Яе малітвамі Гасподзь яшчэ церпіць нас, пасылае усім нам Свае шчодрыя і багатыя міласці. Будзем памятаць, што толькі той зможа ўдастоіцца перамянення, хто мае веру цвёрдую, як камень, якую меў Пётр; змірэнне і пакорнасць, якія меў апостал Іакаў і бязмежную любоў да Хрыста, якую меў апостал Іаан. Памолімся да Госпада і Збавіцеля нашага Іісуса Хрыста, да Яго Прачыстай Маці, да ўсіх святых апосталаў, каб іх малітвамі Гасподзь дапамог кожнаму з нас у нашым зямным жыцці дасягнуць пачэснага Перамянення ў славе Сваёй. Амінь.

## ПРАПАВЕДЗЬ У ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ СВЯТЫХ НАВАМУЧАНІКАЎ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Клапатлівая маці наша – Хрыстова Праваслаўная Царква – з гэтага нядзельнага дня пачала рыхтаваць кожнага з нас да ўступлення ў збавіцельныя і карысныя для душы нашай дні Святога і Вялікага посту. Царква ў сённяшнюю Нядзелю нагадвае нам апавяданне Хрыста Збавіцеля, якое называецца “Прытча пра мытара і фарысея”. Яна вельмі кароткая і ўсім нам добра вядомая.

Якія высновы, патрэбныя нам, мы можам зрабіць з пачутай сёння прытчы пра мытара і фарысея? А высновы гэтыя наступныя: для таго, каб наша пакаянне было сапраўды шчырым, мы павінны змірыцца перад Богам. Мы павінны зразумець адну простую ісціну: нават тое, што мы – праваслаўныя, што мы, у адрозненне ад многіх іншых, прыходзім на богаслужэнні ў нядзельныя і святочныя дні, што мы, магчыма, часцей за іншых ставім свечкі ў царкве, што мы ведаем Закон Божы, – яшчэ не выратоўвае нас і не

гарантуе нам збаўленне. Таму што знешняя фармальная рэлігійная абраднасць – не вышатоўвае. Выратоўвае душу яе ўнутраны змест.

Калі пост не будзе аздоблены пладамі пакаяння, то і поснае абмежаванне ў ежы і іншыя аскетычныя подзвігі будуць дарэмнымі. Ды мала таго: такі "пост" прынясе нам шкоду, узмоцніўшы ў нас гардыню і самаўпэўненасць. Гэта ўласцівасць усіх цялесных подзвігаў і бачных добрых спраў. Калі мы, здзяйсняючы іх, мяркуем прыносіць ахвяру Богу, а не вымаліваць сабе ацаленне ад смяротнай хваробы граху, то добрыя справы і подзвігі нараджаюць ў нашай душы душазгубную гардыню.

Усё наша няшчасце заключаецца ў адной сумнай памылцы: як і фарысей у сённяшняй евангельскай прытчы, замест таго, каб параўноўваць сябе з ідэалам Закону Божага, мы параўноўваем сябе з іншымі людзьмі. І за гэтым хітрым параўнаннем перастаем бачыць свой асабісты абавязак перад Богам, затое яскрава, выразна і аб'ёмна бачым грэх нашага брата. Фарысей забыў, што Закон – не мэта, а сродак яе дасягнення. А мэта – Любоў! Мэта – Бог! Мэта – вяртанне да Бога, абожанне, Царства Нябеснае!

Вось чаму так небяспечна для звычайнага грэшнага чалавека, якім, безумоўна, з'яўляецца і евангельскі фарысей, і кожны з нас, становіцца бачанне чужых грахоў: яно стварае згубную ілюзію ўласнага пераўзыходжання над іншымі. Калі просты, самы звычайны чалавек – не адораны ад Бога ніякімі асаблівымі талентамі, не апантаны ніякімі асаблівымі грахоўнымі заганамі, – калі такі чалавек угледзіцца ў цяжкія саграшэнні сучаснай цывілізацыі, яму, бедалазе, і сапраўды можа раптам падацца, што свет звар'яцеў, а ён сам пасярод яго – адзіны праведнік. А таму яму не сябе трэба ўдасканальваць, не па сваіх грахах плакаць, а гневацца на ўсіх грэшнікаў свету адразу і змагацца з недасканаласцю і грахом усяго сусвету. Давайце будзем памятаць, што гэты грэшны свет ні на кроплю не стане лепш, калі кожны з нас не паспрабуе перамагчы зло ў сабе. А па прычыне таго, што мы ў сваім пыхлівым стане замыкаемся, нібы ў панцырнай абалонцы або шкарлупе, і адгароджваемся ад усяго свету, нам становіцца напляваць на ўсіх – і на ўсю краіну, і на тых, хто жыве ў суседнім пад'ездзе, на нашай лесвічнай

пляцоўцы, а пасля і на родных, і на сваякоў. Застаецца адно толькі пяшчотна любімае "я", якому мы служым, якое суцяшаем, якому дагаджаем.

Чалавек скажае сваю ўласную сутнасць і з істоты, якая здольна зразумець і спазнаць Бога, далучыцца да Яго, ператвараецца ў самаўлюбёную пачвару, якая атручвае жыццё ўсім навокал, бо такі чалавек заўсёды выкарыстоўвае ўсіх вакол сябе ў сваіх асабістых карыслівых інтарэсах. І таму развальваюцца сем'і, атрымліваюць няправільнае выхаванне дзеці, таму такое абыякавае стаўленне да сваіх працоўных або службовых абавязкаў. Усё прыходзіць у заняпад, у хаос, і жыццё паступова ператвараецца ў пекла.

А пачатак парадку і ладу – Гасподзь Бог. Як гарманічна і цудоўна Гасподзь стварыў свет! І калі мы далучаемся да Бога зноў – таму што ўсе мы з'яўляемся людзьмі, якія некалі адпалі ад свайго Стваральніка, – то ў нашым свеце, ў нашай душы, у нашай свядомасці, у нашым розуме, у нашых сем'ях пачынае панаваць радасць, гармонія, цішыня, спакой і любоў. Царква – гэта школа любві, і вучыцца ёй трэба з гэтай прытчы пра змірэннага грэшніка і ганарыстага праведніка. Калі мы жадаем дасягнуць Царства Божага, мы павінны быць у стане мытара.

Мытар адчуў сваю духоўную галечу, і Бог яму быў неабходны, каб хоць чым-небудзь прыкрыцца, хоць у што-небудзь апрануцца, каб "не быў бачны сорам галізны" яго (Адкр.3:18). Мытар адкрыты Богу і стаіць перад безданню Божай міласэрнасці, і ў гэтым надзея на яго будучае бясконцае ўзбагачэнне благадаццю Божай.

Пакаянне – гэта не толькі прызнанне сваёй віны перад Богам, але гэта яшчэ рашучасць і жаданне змяніць сваё жыццё. А каб гэта пакаянне было чыстасардэчным і глыбокім, неабходна набыць вельмі важную станоўчую рысу і дабрадзейнасць, якая называецца змірэннем. Духоўная галеча і ўбогасць духа, пра якую кажа Збавіцель у Сваёй Нагорнай пропаведзі, – гэта і ёсць тое самае змірэнне, дзякуючы якому для чалавека адкрываецца Царства Нябеснае.

Прытча пра мытара і фарысея паказвае, наколькі жудасным можа быць укараненне ў зле. Усё пачынаецца са страты адчуван-

ня рэальнасці, са страты страху Божага. Кожны чалавек, які жыве духоўным жыццём, ведае, што можна страціць страх Божы, згубіць благадаць Божую.

Менавіта пра гэта казаў Збавіцель у згаданай сёння прытчы перад тым, як выкрыць старазапаветных кніжнікаў і фарысеяў – тых, хто стаяў на чале тагачаснай царквы і хто прывёў гэту царкву да поўнага краху і разбурэння.

Гэта прытча Госпада мае дачыненне не толькі да Старога Запавета. І з хрысціянамі адбылося нешта падобнае да таго, што здарылася некалі з іудзеямі.

Старажытны Рым прышоў у заняпад, калі стаў апантаны нячыстымі заганамі. Тое ж здарылася з цягам часу і з Канстантынопалем – сталіцай вялікай праваслаўнай дзяржавы Візантыі.

У 1901 годзе Гасподзь адкрыў праведнаму Іаану Кранштацкаму, што чакае Расію за памножаныя грахі таго часу: святы Іаан убачыў рэку крыві і шмат чалавечых трупаў, занядбане цэркваў Божых, мноства забітых за веру святароў, манахаў і міран, сабак, якія жэрлі целы памерлых ад голаду людзей. Мы ведаем, што ўсё гэта збылося ў нашай гісторыі, як спраўдзіліся прадказанні старазапаветных прарокаў пра падзенне Іерусаліма. І Гасподзь папярэджвае, што будзе яшчэ горш.

Сёння Гасподзь кліча нас адстойваць Ісціну Праваслаўя. Кліча нас сёння Хрыстос: заклікае быць падобнымі да святых навамучанікаў, узнагароджаных за цярпенне і вызнанне веры вянцамі славы.

Будзем пільнымі, узлюбленыя: цяпер час адступлення ад Бога. Свет усё больш і больш адступае ад евангельскіх асноў веравучэння і маральных устоеў жыцця чалавецтва.

Святыя айцы любілі казаць і шмат разоў казалі, што хрысціянін, які застанецца верным Богу ў самыя страшныя апошнія часы, на судзе Божым будзе вышэй за старажытных вялікіх падзвіжнікаў! Гэта шмат разоў казалі святыя айцы, толькі не трэба баяцца, а неабходна памятаць, што Бог верных Яму ў крыўду не дае! Будзь верны Богу – і Гасподзь цябе захавае ад усіх бед, якія насоўваюцца на сусвет! Канешне, нельга не здрыгануцца, разумеючы, да чаго

рыхтуе сябе і да чаго імкнецца чалавецтва, але памятайце, што Гасподзь здолее абараніць Сваіх вернікаў! Толькі б мы былі заўсёды верныя Богу, а Ён заўсёды будзе нашым Заступнікам, Ахоўнікам і Абаронцам!

Не забывайце пра тое, што не Бог карае нас за нашы грахі, а мы самі, выходзячы за межы тых умоў, што ствараюцца для нас законамі Божымі, клічам на сябе бяду. Але як у нас саміх знаходзіцца прычына нашых бедаў, так і ў нас саміх утрымліваецца сродак да ацалення грахоўных немачаў – пакаянне.

І нам неабходна памятаць, што праз прыняцце Святога Прычасця мы можам пакаяннем ачысціць усё, што скажона грахом у нашай душы. Пакаянне дадзена нам Богам як сродак супраць нашага грэхападзення.

Будзем маліцца, каб Гасподзь даў нам дух сапраўднай праваслаўнай малітвы і ўвёў нас у радасць Свайго Уваскрасення. Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ У ДЗЕНЬ УВАХОДА ГАСПОДНЯ Ў ІЕРУСАЛІМ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Усённяшні дзень, браты і сёстры, мы разам з усёю паўнатою Святой Хрыстовай Праваслаўнай Царквы адзначаем свята Уваходу Госпадняга ў Іерусалім. Гэта свята – адно з самых трагічных святаў усяго царкоўнага года. Гэта – свята радасці, і, разам з тым,– гэта свята смутку: радасці таму, што мы бачым, як Сына Божага сустракаюць натоўпы людзей, сустракаюць радаснымі крыкамі: «Асанна ў вышніх! Благаславёны Той, Хто прыходзіць у імя Гасподняе! Благаславёны Цар Ізраілеў!»; смутку таму, што пройдзе зусім няшмат часу – усяго некалькі дзён – і Гасподзь пацерпіць здраду і здзекі, перанясе пакуты, будзе апляваны і прыбіты да Крыжа і памрэ за нас і дзеля нашага збаўлення.

Увесь трагізм падзеі, якую сёння ўзгадвае Царква, трагізм

уваходу Хрыста ў Іерусалім, у тым, што народ хацеў бачыць у Ім перш за ўсё палітычнага правадыра, вызваліцеля ад Рымскага ўладарства. Але не такім прыйшоў Сын Божы на зямлю. Ён не апраўдаў тых спадзяванняў, якія ўскладалі на Яго іудзеі. І таму ўжо праз некалькі дзён пасля ўрачыстай сустрэчы, калі натоўп вітаў Збавіцеля словамі «Асанна», «Благаславёны Той, Хто прыходзіць у імя Гасподняе», той самы натоўп, падбухтораны фарысеямі і першасвятарамі, якія праследвалі свае мэты, будзе патрабаваць: «Распні Яго! Няхай Ён будзе распяты!»

Так і мы, хрысціяне, вось ужо дзве тысячы гадоў то шукаем Бога, то ўцякаем прэч ад Яго. Так вера ў нашых душах змяняецца здрадай. Так са старажытнасці і да цяперашняга часу ўсё ў той жа самай Царкве ўсё тыя ж самыя людзі – мы, хрысціяне, – то з радасцю крычым «асанна», то з раз'юшанасцю – «Распні Яго»! І наш Бог бачыць і ведае гэта. Ведаў Ён гэта і тады, у Іерусаліме, ведае і зараз. Ён ведаў, чаго чакаў вялікі горад, Ён ведае, чаго чакае ўвесь свет, і таму – плача. Евангеліст Лука піша пра гэта так: «І, калі наблізіўся да горада, то, гледзячы на яго, заплакаў па ім...» (Лк.19:41). Гасподзь наш плача па нас з вамі, і гэтыя слёзы Хрыста – горкі ўкор нам усім, і адначасова, як гэта не дзіўна, гэтыя слёзы Бога нашага – знак надзеі. Бо толькі ўчора Гасподзь плакаў па памерлым Лазары, і вось – Лазар жывы! Значыць, і ў нас ёсць надзея на жыццё, значыць, і для нас не ўсё яшчэ страчана.

Толькі, лікуючы і радуючыся з гэтай нагоды, нельга забываць, навошта наш Бог і Збавіцель ідзе ў Іерусалім. Ён ідзе туды паміраць. Увесь жах той падзеі, якую мы сёння святкуем, таксама і ў тым, што ніхто з тых, якія стаяць уздоўж гэтага невялікага шляху, нават не здагадваецца і не ведае, што асляня вязе Сына Божага на Галгофу. На смерць. Прыгадайце, як Хрыстос разам са Сваімі вучнямі і сябрамі толькі яшчэ пачаў Свой шлях з-за Іардана да Іерусаліма, зрабіў яшчэ толькі першыя крокі да Крыжа, і побач не было чужых і выпадковых людзей, а былі толькі свае – тыя, якіх любіў Ён, і тыя, хто любіў Яго. Самыя блізкія з тых, каго Ён браў з сабою на Фавор, хто быў пасвечаны ў самыя заветныя таямніцы, Іакаў і Іаан, пасля прамых слоў Збавіцеля, што аддадуць Яго на смерць, будуць

здзеквацца з Яго, будуць Яго біць і пляваць у твар, і заб'юць Яго, – Іакаў і Іаан просяць свайго Настаўніка, як мы сёння сказалі б, пра «цёплыя месцы». «Дай нам сесці аднаму праваруч, а другому леваруч у славе Тваёй!» І Гасподзь яшчэ раз кажа сваім вучням пра Сваю смерць і пра тое, што толькі гэтым – толькі Крыжам, толькі пакутамі – можа падзяліцца з імі.

Людзі з пальмавымі галінкамі ў руках там, ля сценаў Іерусаліма, і мы, што стаім у храме з галінкамі вярбы, якія трымаем у сваіх руках замест пальмы, чаго чакаем ад Госпада Ісуса, чаго мы просім у Яго зараз, калі пачынаецца пакутніцкі шлях Збавіцеля нашага на Крыж? Што просяць у Хрыста тыя натоўпы іерусалімскіх грамадзян і кожны з прысутных сёння ў храме? Просяць толькі здароўя, шчасця, дабрабыту, спакойнага і бестурботнага жыцця. «Цёплага месца», інакш кажучы. І зусім няважна, у якія канкрэтныя формы гэтыя агульныя формы ўвасабляюцца. Іерусалімскія гараджане таксама хацелі простага чалавечага шчасця, звычайных рэчаў: свабоды ад рымскіх акупантаў, рэлігійнай і нацыянальнай свабоды, і хлеба (так, а чаму б і не), і жыцця для сябе і сваіх дзяцей (а хіба гэта забароненыя рэчы?). Яны хацелі таго ж, чаго хочам і мы. І гэтыя жаданні не былі незаконнымі. Таксама як цалкам законнымі з'яўляюцца нашы малітоўныя звароты і просьбы да Бога. Толькі вось бяда: ніхто з тых, хто крычаў «асанна», не зразумеў, што для таго, каб уваскрэснуць для новага жыцця, для таго, каб вызваліцца ці то ад акупацыйнай улады рымлян, ці то ад палону сваіх уласных грахоў і страсцей, неабходна прыкласці пэўныя намаганні, неабходна працаваць да крывавых мазалёў, неабходна памерці за свабоду, неабходна распяцца разам са Хрыстом. Неабходна піць з Чашы, з якой п'е Ён Сам.



Грамадзяне іерусалімскія гэтага не зразумелі. Не прайшло і пяці дзён, як тыя, хто ўзрушана крычаў «Асанна!», настойліва пачалі патрабаваць: «Распні Яго! Няхай Ён будзе распяты!»

Нам неабходна помніць пра гэту страшную памылку. Нам, хто стаіць у храме з галінкамі вярбы ў руках і тым самым сведчыць, што ён гэтак жа, як і яны, сустракае Хрыста, неабходна ўстрымацца ад іх памылковых поглядаў і перакананняў. Нам неабходна зразумець, што нашымі грахамі, нашай халоднай стрыманасцю, нашым ледзяным і халодным раўнадушшам Хрыстос распінаецца зноў і зноў. Нам неабходна зразумець, што гэта ўжо мы, а не тыя жыхары старажытнай спякотнай Палестыны, якія даўно памерлі, чакаем ад Госпада нашага «цёплага месца», а Ён кліча нас да ўзаемнага даверу і распяцця разам з Ім. Калі мы гэта не ўсвядомім і не аддадзім нашаму Збавіцелю, цалкам давяраючы Яму, свае сэрца, сваё жыццё, свой лёс, не баючыся і не жахаючыся пры гэтым нічога, што нам наканавана Промыслам Божым, – баюся, што ў хуткім часе і мы закрычым: «Распні Яго! Няхай Ён будзе распяты!» Таму што для таго, каб саграшыць, зусім не абавязкова ўголас патрабаваць смерці бязвіннага, на самой справе заклікаць да распяцця. Дастаткова проста забыць пра яго. Жыць так, быццам бы і не было ў гісторыі жудаснай падзеі на Галгофе, жыць так, як жывуць мільёны людзей, нават не абцяжарваючы сябе пытаннем: «Чаго чакае, што хоча ад мяне Бог?»

Мы павінны выразна ўсведамляць, што тыя падзеі, якія мелі месца ў старажытным Іерусаліме дзве тысячы гадоў назад, не адышлі ў нябыт, а адбываюцца ў духоўным жыцці кожнага веруючага хрысціяніна. Таму не выпадкова Святая Царква з году ў год вяртае нас да тых падзей, каб мы былі не проста іх назіральнікамі, а каб былі саўдзельнікамі іх. І тут вельмі важна вызначыцца, з кім усё ж такі мы: або з тымі, хто сёння ўрачыста сустракае і вітае Хрыста, а ўсяго праз некалькі дзён будзе патрабаваць Яго смерці, або з тымі, хто да самага канца пранясе з Хрыстом Яго Крыж, хто будзе спачуваць Яму і перажываць за Яго падчас укрыжавання і не пакіне Яго тады, калі ад Яго адвярнецца і адрачэцца ўвесь свет.

З кім мы ў гэтым жыцці? Кожны чалавек павінен адказаць на

гэтае пытанне. Мы з Хрыстом тады, калі сапраўды імкнемся выканаць Яго запавет, быць годнымі Яго вучнямі. Мы са здраднікамі Хрыста тады, калі праз тыя шматлікія грахі, што здзяйсняем у сваім жыцці, зноў і зноў здраджваем свайму Госпаду, нават не спрабуючы вырвацца з ліпкага павуціння гэтага грахоўнага света.

Мы бачылі, як дагаджэнне людзям прывяло іудзеяў да духоўнай катастрофы. Але і мы часта праслаўляем Бога, імкнучыся дагадзіць людзям, праслаўляем таму, што «усе так робяць». Хіба не бываем мы падобныя да народа ізраільскага ў сваёй зменлівасці і непастаянстве? Нам скажуць праслаўляць – мы праслаўляем, нас прымусяць знішчаць – мы знішчым, у што нам загадваюць верыць – верым, нават калі ў душы не верым і не згаджаемся з гэтым. «Мы як усе», – кажам мы, апраўдваючы свае паводзіны і дзеянні. Чаму мы так робім? – У імя спакойнага забяспечанага жыцця, дзеля ўлады, каб узабрацца на вяршыню сацыяльнай піраміды. За поліўку з сачавіцы мы гатовы прадаць сябе і нават забіць Бога.

Мы не вінавацім нашых дзядоў, якія разбуралі храмы, бо ім сказалі, што Бога няма. Хіба сёння мы іншыя? Сёння нам дазволілі верыць. А калі зноў забароняць? Ці многа сярод нас знойдзецца тых, хто не будзе разам з раз'юшаным натоўпам крычаць: «Распні, распні Яго! Няхай Ён будзе распяты!»

«Госпадзі, дапамажы нам ніколі не адвярнуцца ад Цябе, як было гэта з народам ізраільскім, не здрадзіць Табе, як зрабіў гэта Іуда, а прыняць Цябе як Збавіцеля! Дапамажы нам быць адданымі Табе ва ўсе дні нашага жыцця!»

Няхай збавіць нас Гасподзь ад маладушша і ўмацуе нас, каб маглі мы ісці за Ім ва ўсе часы, а сэрцы нашыя няхай напоўніць благадаццю Сваёю, каб шукаць нам нябеснага, а не зямнога, вечнага, а не пераходзячага, і праслаўляць Бога нашага цяпер, заўсёды і на векі вякоў. Амінь.

*Пропаведзь у Вялікі Чацвер*

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Мы сабраліся на Тайную Вячэру Хрыста, каб разам з апосталамі прычасціцца прачыстага Цела і пачэснай Крыві Збавіцеля, каб стаць далучанымі да Госпада, каб Цела Бога, Які ўчалавечыўся, стала нашым целам, і Кроў Яго стала нашай крывёю.

"Той, хто спажывае Цела Маё і п'е Кроў Маю, ува Мне знаходзіцца, і Я ў ім". У гэтых словах Гасподзь кажа нам пра дзве рэчы: пра Яго знаходжанне ў нас і пра наша быццё ў Ім. Гасподзь жыве ў нас, таму што Ён стаў чалавекам, прыняў чалавечую плоць. Падчас Свайго ўчалавечання Ён прыняў плоць не абстрактнага чалавецтва, але кожнага канкрэтнага чалавека: Ён прыняў плоць кожнага з нас. А мы жывем у Ім, таму што прымаем у сябе Яго плоць – чалавечую плоць Сына Божага, Які стаў Сынам Чалавечым, тую самую плоць, якую Ён успрыняў ад нас, але якая, злучыўшыся з Яго Боскай прыродай, стала цалкам абожанай. Праз гэта ўзаемнае прычасце мы становімся "у Ім", а Ён – "у нас": узнікае існая, анталагічная сувязь паміж намі і Богам. Перашкода паміж Богам і людзьмі, створаная рукамі чалавечымі, знішчана рукамі Божымі; яна разбураецца ўчалавечаннем Бога і Яго Тайнай Вячэрай, калі Ён прапанаваў нам у спажыванне Самога Сябе.

Калі мы благаслаўляем, пераламляем і спажываем хлеб і віно, мы не проста ўспамінаем, што адбылося тады ў Сіёнскай святліцы. Мы сілай Святога Духа становімся разам з апосталамі саўдзельнікамі і Тайнай Вячэры, і Галгофскай Ахвяры, і славутага Уваскрасення.

Спажываючы Цела і Кроў Хрыста, мы злучаемся з Богам цялесна і духоўна, прымаем у сябе Бога, Які дзеля нас і нашага збаўлення стаў чалавекам, і становімся супольнікамі вечнага жыцця, нябеснага хлеба, новага піцця і новай Пасхі, якая ёсць Сам уцялесніўшыся Гасподзь Ісус Хрыстос.

Мы павінны памятаць, што, прымаючы ў сябе Цела і Кроў Бога, мы бярэм на сябе вялікую адказнасць за ўласную будучыню. Бо, калі не будзе праз нас "свяціцца" Імя Божае, калі Цела і Кроў Хрыста, якія мы прымаем як святло, стануць для нас агнём пякучым, тады гора нам, таму што будзем падобнымі мы да Іуды-здрадніка.

Хіба не ў тым сэнс пякельных пакутаў, што чалавек знаходзіцца з Богам, але сама прысутнасць Бога становіцца для яго непераносным цяжарам, нясцерпнай пакутай? І ці не было менавіта такой пакутай для Іуды само знаходжанне яго на Тайнай Вячэры? Бо душа яго была раздвоенай: нейкай часткай душы ён, магчыма, яшчэ заставаўся з Госпадам, іншай жа часткай ужо аддаўся дыявалу: седзячы за адным сталом з Настаўнікам, ён ужо выношваў ў сэрцы думку здрадзіць Яму.

І ў кожнага з нас ёсць толькі два шляхі, па якіх мы можам ісці, і яны акрэслены ў Святым Пісанні. Першы шлях – гэта шлях паслядоўнікаў Хрыста, якія ішлі за Ім і ў Гефсіманію, і на Галгофу, гаравалі побач з Яго Магілай, а потым падзялілі з Ім радасць Яго Уваскрасення. Другі шлях – гэта шлях Іуды, які не ідзе за Хрыстом, а спяшаецца да першасвятароў і старэйшынаў іудзейскіх, каб выдаць свайго Настаўніка. Пра гэты страшны ўрок мы не павінны забываць.

Нават калі мы прычашчаемся часта, нават калі старанна рыхтуемся да Прычасця, мы павінны памятаць аб тым, што раздвоенасць ў справе Божай недапушчальная. І, падыходзячы да Святой Чашы, мы павінны ўсім сэрцам, усім розумам, усёй сваёй душой і нават целам жадаць злучэння з Госпадам. Мы павінны жадаць ўсё жыццё аддаць Богу, кожнае дыханне, пачуццё, кожную думку, кожнае дзеянне прысвяціць Яму. Толькі тады мы будзем Яму годнымі супольнікамі, толькі тады, падобна да Прасвятой Багародзіцы, станем храмам Божым, толькі тады дасягнем абожання, да якога кожны з нас пакліканы.

Пра гэта абожанне і кажа нам уся сённяшняя служба. Прымаючы ў цяперашнім жыцці пад відам хлеба і віна Цела і Кроў Хрыста, мы спадзяемся, што ў будучым жыцця прычасцімся Бога яшчэ больш поўна, яшчэ больш дасканала.

Райскае блажэнства ў тым, што людзі знаходзяцца ў Богу, і Бог у іх, і гэта адзінства з Ім з'яўляецца для іх крыніцай няспыннай радасці, невычэрпнай весялосці, невымоўнай асалоды. Што ж тычыцца тых,

хто не варты гэтага блажэнства, дык Бог жыве ў іх, але яны – па-за Ім, і менавіта гэта становіцца для іх крыніцай няспыннай пакуты.

Будзем памятаць пра ўсё гэта і, прымаючы Святыя Хрыстовыя Тайны, будзем "разважаць" пра Цела і Кроў Госпада. Будзем рыхтавацца да Святога Прычашчэння не толькі захаваннем посту і чытаннем малітваў, але перш за ўсё ўсім нашым жыццём, усімі нашымі справамі, прысвячэннем саміх сябе Богу.

З выключнай сілай і відавочнасцю здзяйсняецца наша злучэнне з Хрыстом, а ў Ім і адзін з адным, – у таінстве Цела і Крыві Збавіцеля падчас здзяйснення Літургіі, у якой Ён прыносіць Сябе ў ахвяру "за ўсіх і за ўсё". І ў гэтым яе сусветны, усеагульны і ўсеабдымны характар: яна ўтрымлівае ў сабе ўсе нашы беды і нягоды, барацьбу і знясіленасць, падзенне – але, разам з тым, і перамогу выратавальнай любві Божай.

Прыняўшы ж у сябе Святыя Дары, будзем насіць іх у сабе годна, з глыбокай павагай, падобна да таго, як Прасвятая Багародзіца насіла ва ўлонні Сваім Хрыста.

Будзем прасіць Бога, каб нам да канца зямных дзён прычашчацца Святых Хрыстовых Тайнаў, каб у смяротны наш час мы не пазбавіліся Святога Прычасця і каб у вечным жыцці змаглі прычашчацца Бога "у невячэрнім дні Царства Яго". Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ ПЕРАД ПЛАШЧАНІЦАЙ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Адбылося тое, дзеля чаго Бог стаў чалавекам, дзеля чаго Сын Божы стаў сынам чалавечым: Збавіцель памёр на Крыжы.

Чалавек сваёй непаслухмянасцю пазбавіў сябе быцця разам са сваім Творцам – Тым, Хто дае жыццё, і апынуўся ў свеце, у якім пануюць пакуты і смерць. Чалавек захварэў. Грэх – гэта не столькі віна, не столькі злачынства супраць Закона Божага і яго парушэнне, колькі хвароба душы. І вось, каб ацаліць гэту хваробу, Бог

успрымае наша чалавечае цела, каб аднавіць яго ў першасным – непашкоджаным, чыстым – выглядзе.

Бог, Сам Адзінародны Сын Божы, добраахвотна прыйшоў у наш пакутуючы ад шматлікіх грахоў і зла свет, добраахвотна сышоў у бездань чалавечага болю і пакутаў, стаўшы праз гэта далучаным да людскога гора. У чалавеку Ісусе Бог сышоў да нас, аб'яднаў нас з Сабою, паказаў нам Сваю бязмежную любоў, адчыніў нам уваход у царства любові і святла. Хрыстос атаясамлівае Сябе з намі настолькі, што згаджаецца ў Сваім чалавецтве страціць пачуццё адзінства з Богам – з крыніцай жыцця вечнага, больш за тое – з вечным жыццём у Самім Сабе, – і далучыцца да нашай смяротнасці. Вечнасць, Якая згаджаецца памерці смерцю гэтага часовага свету. Той, Хто ёсць само Жыццё, у любові і спачуванні добраахвотна аддаецца смерці, якой Ён не ствараў, але якая завалодала светам і атруціла жыццё ў ім. Смерць паглынае жыццё, але ў смерці Хрыста яна сама аказваецца паглынутай Жыццём…

Вось якое ператварэнне здзяйсняе Хрыстос, добраахвотна прымаючы пакуты, добраахвотна аддаючы на іх Сябе: пакуты – нешта такое недарэчнае ў свеце, праяву бессэнсоўнасці і марнасці жыцця, увасабленне абсурднасці існавання – Хрыстос напаўняе Сваёй верай, Сваёй любоўю, Сваёй надзеяй, а гэта значыць – сэнсам; пакуты – са знішчэнне жыцця – Хрыстос робіць магчымасцю нараджэння ў жыццё сапраўднае, духоўнае, прыняцце пакутаў – уваходжаннем у веру, надзею і любоў, перамогай духу, уваходжаннем ў Царства Божае.

Мы пачынаем разумець, што не выкарыстанне Бога ў сваіх асабістых інтарэсах з'яўляецца прызначэннем Царквы, а, наадварот, наша служэнне Богу – вось сапраўдны змест царкоўнага жыцця. Гэта ўжо не спроба збегчы ад цяжкасцей – гэта прыняцця жыцця з усімі яго клопатамі, турботамі, хваробамі і нястачамі ў духу сапраўднай пакоры волі Божай, гэта прыняцце свайго ўласнага жыццёвага Крыжу, пасланага нам Яго Прамудрым Промыслам.

Канешне, прыняцце і нясенне нашага ўласнага крыжу патрабуе мужнасці. Мы можам праяўляць мужнасць на кароткі час, але не здольныя зрабіць яе пастаяннай жыццёвай пазіцыяй.

Ні Крыж, ні Уваскрасенне не могуць быць зразумелыя асобна адзін ад аднаго. Калі мы не гатовы прынесці ў ахвяру Хрысту сваё жыццё, калі мы палохаемся смерці, калі замест таго, каб прынесці сябе ў ахвяру Госпаду, мы імкнемся пазбегнуць гэтага – то мы не маем нічога агульнага з Хрыстом, Які ўсяго Сябе аддае нам. І тысячы хрэсных ходаў не дапамогуць, калі мы не зразумеем, што Крыж Хрыста – гэта наша пуцяводная зорка, гэта той жыццёвы арыенцір, на які павінны мы арыентавацца ў сваім існаванні.

Зараз, пакуль яшчэ цягнецца зямное жыццё кожнага з нас, ёсць яшчэ магчымасць выправіць любую памылку, амыць пакаяннымі слязьмі любое сваё грахоўнае падзенне, любую здраду Хрысту. Будзем удзячныя Госпаду, Які дзеля нашага збаўлення перанёс пакуты і смерць і Уваскрасеннем Сваім падарыў нам Жыццё Вечнае. Амінь.

## ПРАПАВЕДЗЬ ПЕРАД ПЛАШЧАНІЦАЙ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У Вялікую Пятніцу Царква ўспамінае святыя, збавіцельныя і страшныя пакуты і смерць Госпада Ісуса Хрыста. Святая Царква выносіць для нашага пакланення Святую Плашчаніцу. Перад намі ў магіле чалавечай плоццю ляжыць шматпакутны Сын Дзевы.

Падыходзячы да Святой Плашчаніцы, кожны з нас павінен усвядоміць сваю долю адказнасці за ўсё тое, што здарылася.

Але ж мы тады не жылі?

А калі б цяпер на нашай зямлі з'явіўся Гасподзь – няўжо хто-небудзь з нас можа падумаць, што ён быў бы лепшы за тых, якія тады Яго не пазналі, не палюбілі Яго, адмовіліся ад Яго і, каб пазбавіць сябе ад асуджэння сумленнем, загубілі крыжовай смерцю?

Нам часта здаецца, што тыя людзі, якія тады гэта здзейснілі, былі такімі страшнымі. А калі мы ўгледзімся ў іх вобраз – што мы бачым?

Мы бачым, што яны былі сапраўды страшныя, але нашай жа абыякавасцю, нашай маладушнасцю. Яны такія ж, як мы: іх жыццё занадта малое і нікчэмнае для таго, каб у яго ўсяліўся Бог.

Паглядзіце на Пілата: чым ён адрозніваецца ад тых служыцеляў дзяржавы, Царквы, грамадскасці, якія больш за ўсё баяцца чалавечага суда і адказнасці і якія для таго, каб сябе застрахаваць, гатовы загубіць чалавека – часта ў малым, а часам і ў вельмі вялікім? Як часта з-за страху адказнасці, мы дазваляем легчы на чалавека падазрэнню, што ён злачынец, што ён – ашуканец, амаральны і г.д. Нічога большага Пілат не зрабіў: ён імкнуўся захаваць сваё месца, ён стараўся не падпасці пад асуджэнне сваіх начальнікаў, хацеў, каб яго не ўзненавідзелі свае ж падначаленыя, імкнуўся пазбегнуць бунту. І хоць ён і прызнаў, што Ісус ні ў чым не вінаваты, але ўсё ж такі аддаў Яго на пагібель ...

Пілат сваёй уласнай воляй абраў зло. Быў адзін момант, калі ўсё залежала ад яго, і ён гэта ведаў, і свядома пайшоў супраць сумлення, супраць праўды ...

Няма дня, калі б мы не стаялі перад выбарам і не мелі б дадзенай кожнаму з нас звыш улады, у адпаведнасці з голасам сумлення, якое ніколі не падманвае, ведаць праўду – і або выбіраць яе, або адмаўляцца ад яе. Гэта свабода, гэта магчымасць выбару робіць саму нашу веру судом над намі.

І вакол Яго столькі такіх жа людзей; воіны – ім было ўсё роўна, каго асудзілі на смерць, яны былі за гэта "не адказныя"; гэта быў іх абавязак: выконваць загад ...

А колькі разоў з намі здараецца тое ж самае? Мы атрымліваем распараджэнне, якое мае маральнае вымярэнне, распараджэнне, адказнасць за якое будзем несці перад Богам, і гаворым: "Адказнасць не на нас ..."

Пілат вымыў рукі і сказаў іудзеям, што адказваць за ўсё будуць яны. А воіны проста выканалі загад і забілі чалавека, нават не задумаўшыся пра тое, хто Ён: проста асуджаны ...

А хто аддаў Хрыста на распяцце? Выключныя зладзеі? Не – людзі, якія не хацелі рызыкаваць нічым. Для якіх зямны дабрабыт і адносная стабільнасць жыцця сталі больш важнымі за сумленне і

праўду, за ўсё – толькі б не пахіснулася хісткая раўнавага іх рабскага дабрабыту. А хто з нас гэтага не ведае па сваім жыцці?

Можна было б ўсіх так перабраць, але хіба не відаць з гэтага, што людзі, якія забілі Хрыста, – такія ж, як і мы? Што яны былі натхнёныя тымі ж страхам і страсцямі, якім падпарадкаваныя мы?

Адзін епіскап расказваў гісторыю пра святара, які пасля рэвалюцыі, калі пачаліся страшныя ганенні на Царкву, спалохаўся, убачыўшы, як забіваюць тысячы вернікаў, і адрокся ад веры. Але яго не пакінулі ў спакоі: схапілі і павялі ў царкву, каб ён перад сабраўшымся народам, перад сваімі духоўнымі дзецьмі сказаў, што ўвесь час іх ашукваў, што Бога няма і што Хрыстос не ёсць збаўленне. І калі ён прыйшоў у храм, то ўбачыў Распяцце і пачаў плакаць, устаў перад ім на калені і стаў цалаваць Крыж. Ён памёр мучанікам.

Узгадваецца апавяданне архіепіскапа Мелітона, у якога я быў іпадыяканам, калі вучыўся ў духоўных школах у горадзе на Няве. У часы "хрушчоўскіх" ганенняў на Царкву практыкавалася адрачэнне ад Хрыста свяшчэннаслужыцеляў. На святароў і іх сем'і аказваўся моцны ціск. Гэта былі, як правіла, шантаж, пагрозы або проста спакусы. У роспачы некаторыя святары пакідалі Царкву. Адрачэнне павінна было быць публічным. На літургіі, перад прычасцем, святар выходзіў на амвон, здымаў з сябе фелонь, кідаў яе на зямлю і казаў прыхаджанам, што ён больш не верыць у Бога. Настаяцель аднаго з гарадскіх храмаў паклікаў да сябе рэгента хора і сказаў яму, што перад прычасцем не трэба выконваць ніякіх песнапенняў, таму што будзе адбывацца адрачэнне. Калі гэты святар выйшаў на амвон, хор гучна пачаў співаць песнапенне Вялікай Пятніцы "Сёння Іуда пакідае Настаўніка і абірае дыявала..." Настаяцель задрыжаў, перахрысціўся і вярнуўся ў алтар. Ён прайшоў праз здзекі, але застаўся святаром.

Захавалася апавяданне адной манашкі. У гады ганенняў на Царкву яна была духоўнай дачкой епіскапа Аўгусціна, які жыў у Маскве.

І вось якое паслушанне, акрамя малітоўнага правіла, даваў Уладыка сваім духоўным чадам: трэба было кожны дзень хадзіць на Мікалаеўскі вакзал, каб сустракаць цягнікі са зняволенымі. Ваго-

ны гэтых цягнікоў адрозніваліся ад іншых: яны былі з кратамі. І на свой страх і рызыку неабходна было, прайшоўшы праз канвой, падысці да арыштантаў і перадаць ім розныя цёплыя рэчы і прадукты. “Мне асабліва было шкада ўзбекаў, – расказвала манашка. – Што будзе з імі там, на поўначы, куды павязуць іх вагоны, і мы імкнуліся хутка, абыходзячы канваіраў, уручыць ім рукавіцы і іншыя цёплыя рэчы”. Звярніце ўвагу, што гэтым дзяўчатам дарагія былі і людзі іншай веры, аб якіх таксама балелі іх сэрцы, і якім яны імкнуліся хоць як-небудзь дапамагчы. Гэта было іх жыццё, гэта быў іх подзвіг. У гэтым бачылі яны сваё хрысціянскае прызначэнне і азарэнне тым Боскім святлом, якое гарэла ў іх сэрцах. І яшчэ яны хадзілі кожную ноч у Бутырскую турму, садзіліся на халодную лесвіцу і чакалі трох гадзін ночы. Так у цемры і на марозе яны здзяйснялі сваё малітоўнае правіла, а ў тры гадзіны займалі чаргу на наведванне зняволеных. У іх у турме нікога не было, а чаргу яны займалі для тых людзей, хто не мог прыйсці ноччу, каб запісацца, і раніцай яны аддавалі сваю чаргу тым, для каго немагчымасць убачыць сваіх блізкіх была б катастрофай.

Вядома, можна было б сказаць, што не абавязкова ім было ўсё гэта рабіць, таму што іх быццам бы не тычылася, што здзяйснялася ў свеце. Яны маглі шукаць адмысловага Боскага азарэння праз малітву і быць глухімі і сляпымі да таго, што адбываецца ў свеце. Ну, везлі арыштаваных на поўнач – на ўсе Божая воля! А ім што?

Але хрысціяне ніколі не былі сляпымі і глухімі ў адносінах да таго, што робіцца ў свеце! Хрыстос не быў такім!

Гэтыя ўспаміны не выпадковыя. Мы павінны выдатна разумець, што тыя падзеі, якія адбываліся дзве тысячы гадоў таму назад у Іерусаліме, не адышлі ў мінулае, а адбываюцца і сёння ў духоўным жыцці кожнага веруючага хрысціяніна. Таму не выпадкова Святая Царква з года ў год вяртае нас да гэтых падзеяў, каб мы былі не проста іх пабочнымі назіральнікамі, а каб усе мы былі ўдзельнікамі іх. І тут нам вельмі важна вызначыць, з кім мы ўсё ж такі: з тымі, якія крычаць “Няхай Ён будзе распяты!” і патрабуюць смерці Хрыста, ці з тымі, якія да канца будуць несці з Хрыстом Яго Крыж, якія будуць разам з Ім, калі Ён будзе так страшна пакута-

ваць на Крыжы, якія будуць побач з Ім, калі ўсе адвярнуцца ад Яго. З кім мы ў гэтым жыцці? Вельмі важна кожнаму чалавеку адказаць на гэтае пытанне. Мы з Хрыстом тады, калі сапраўды імкнемся выканаць Яго завет і быць сапраўднымі Яго вучнямі. Мы з тымі, хто здрадзіў Хрысту, тады, калі праз тыя грахі, якія мы здзяйсняем у сваім жыцці, мы зноў і зноў здраджваем свайму Госпаду, нават не спрабуючы вырвацца з ліпкага павуціння гэтага грэшнага свету.

Канешне, прыняцце і нясенне свайго ўласнага жыццёвага крыжа патрабуюць мужнасці. Мы можам на імгненне праявіць мужнасць, але не здольныя зрабіць яе сваёй пастаяннай жыццёвай пазіцыяй.

Ні Крыж, ні Уваскрасенне нельга зразумець асобна адзін ад аднаго. Калі мы не здольныя аддаць сваё жыццё Хрысту, калі мы палохаемся смерці, калі замест таго, каб прынесці сябе ў ахвяру Госпаду, мы імкнемся пазбегнуць гэтага, – у нас няма нічога агульнага з Хрыстом, Які аддае нам усяго Сябе.

І тысячы хрэсных ходаў не дапамогуць, калі мы не зразумеем, што Крыж Хрыста для веры – узор, якім мы павінны кіравацца ў сваім жыцці.

Апостал вучыць нас, што хрысціянін уяўляе сабой храм Божы, у якім жыве Сам Гасподзь. Кожны з нас павінен задаць сабе пытанне: “Ці хрысціянін я? Жыве ў маім сэрцы Хрыстос ці я асудзіў Яго на смерць у сваёй душы?” Пра гэта павінны ма разважаць, калі сёння будзем падыходзіць да Святой Плашчаніцы і маліцца перад ёй.

У хвіліны слабасці, дапушчанай Пятром, Гасподзь звярнуў на яго Свой позірк. І ў позірку гэтым не было ні гневу, ні асуджэння, ні дакору, а была толькі бязмежная любоў і вялікае спачуванне. І гэты позірк Хрыста трапіў у сэрца Пятра і зрабіў у ім тую змену, пасля якой пачалося яго новае жыццё – жыццё вялікага прапаведніка і першавярхоўнага апостала, які аддаў сваё жыццё за Хрыста.

Зараз, у сваім зямным жыцці, у кожнага з нас ёсць яшчэ магчымасць выправіць любую памылку, амыць пакаяннем любое наша грахоўнае падзенне, любую нашу здраду Хрысту.

“Уваскрэсні, Госпадзі Божа мой...”, – моліцца сёння Царква, і

гэта крык душы кожнага з нас. Абудзі, Госпадзі, душу маю, мёртвую ад грахоў, здымі камень з сэрца майго, выгані воінаў цемры, якія жывуць ува мне, "не забудзі ўбогіх Тваіх да канца". Прыпадзем са страхам і трымценнем да Хрыста-Жыццядацеля і ўсклікнем, звяртаючыся да Яго: "Уладыка, устань і ўсім нам дай Уваскрасенне". Амінь.

## ПРАПАВЕДЗЬ У ДЗЕНЬ УЗНЯСЕННЯ ГАСПОДНЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння мы з вамі адзначаем свята Узнясення Гасподняга. Надышоў час вяртання Богачалавека – Сына Божага, Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста – туды, адкуль Ён сышоў да нас. Адбылося гэта на саракавы дзень пасля Уваскрасення Хрыстова, калі, па словах евангелістаў, Гасподзь "узнёсся на неба і сеў праваруч Бога" (Мк.16:19; Лк.24:51; Дзеян.1:9).

Гэтую падзею трэба разумець не як цялеснае перасяленне Госпада ў нейкія там сферы бачнага неба, а як узнясенне Госпадам нашай чалавечай прыроды (у тым ліку і цела) у непасрэдную блізкасць да Бога Айца. Мы памятаем, што словы "неба", "нябёсы" на мове Бібліі азначаюць нястворaную, нематэрыяльную, спрадвечную сферу быцця Божага. Аднавіліся дачыненні чалавека з Богам, аднавіліся ў значна больш дасканалым выглядзе, чым тыя, якія былі ў яго пры першапачатковым тварэнні. Адкрыццё гаворыць, што Сын Божы ўвайшоў не ў бачную нябесную прастору, а ў вечную славу, якая Яму была ўласціва яшчэ да стварэння свету. І здзейсніў гэта Гасподзь для таго, каб адкрыць для людзей, з'яўляючыся Хадайнікам за іх перад Богам Айцом, уваход у Царства Нябеснае і ўвесці разам з Сабою ў славу адкупленае Ім чалавецтва.

Святое Пісанне гаворыць пра Узнясенне як пра вяртанне Сына туды, дзе Ён быў раней, – да Айца, але гэта вяртанне адбы-

ваецца ужо з прынятаю на вечныя часы плоццю. Тым самым стан адзінства Сына з Айцом распаўсюджваецца і на Яго чалавечую прыроду. Чалавечая плоць, праслаўленая і абожаная, узышла на неба і стала далучанай да вечнай славы і сілы Сына Божага.

У Хрысце на неба ўзнесены Чалавек, чалавек мае дачыненне да нябеснай праўды, і гэта значыць, што Ён вярнуўся да Бога, да ведання Бога, і ў Ім – да адзінага сапраўднага, а таму вечнага жыцця. Сваім Узнясеннем Гасподзь паказвае і нам, што наша чалавечая прырода – гэта значыць, тая самая чалавечая плоць, з якой мы і складаемся, узносіцца на прастол Божы. Дасягненне стану поўнага адзінства з Богам цяпер магчыма для ўсіх, хто верыць у Хрыста. Збавіцель вярнуўся туды, адкуль быў пасланы, але Ён не пакінуў гэты свет і зямлю. Ён застаўся са Сваімі вучнямі ў Царкве, якую заснаваў, у Еўхарыстыі, якую пасля Яго смерці і Уваскрасення Яго вучні штотыднёва здзяйснялі, узгадваючы пра Яго. Ён застаўся ў Духу Святым, Якога Ён паслаў Царкве, і Дух гэты да гэтага часу знаходзіцца ў Царкве, уваходзіць у нашыя сэрцы і дае нам адчуванне і пачуццё новага жыцця. Каб падараваць яго нам, Гасподзь прайшоў праз пакуты і смерць. Хрыстос сказаў: “Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку”, і ўся радасць хрысціянскай веры – ад усведамлення гэтай прысутнасці Яго побач з намі. Свята Узнясення – гэта свята неба, адчыненага для чалавека. Дзе тая мэта, да якой мы павінны імкнуцца? А мэта гэтая не што іншае, як Царква Хрыстова. Вось тое духоўнае неба, якое тут, на зямлі, усталяваў для нас і дзеля нашага збаўлення Гасподзь наш Іісус Хрыстос. Як жа мы павінны любіць Царкву Хрыстову! Як мы павінны імкнуцца сюды, каб тут, менавіта тут, падчас нашага ўдзелу ў богаслужэннях і Таінствах, якія адбываюцца ў святых храмах і ў якіх нам шчодра падаецца выратавальная благадаць Святога Духа, адбылася наша сустрэча з Госпадам. І канешне, усе мы ўбачым Госпада пры канцы свету. Другое прышэсце Хрыста будзе нагадваць Яго Узнясенне – гэта значыць, Гасподзь зноў з’явіцца перад намі бачным для ўсіх вобразам у Сваім праслаўленым целе. Апостал Павел кажа, што ў апошні Дзень Прышэсця Хрыстова “вернікі ўзятыя будуць на воблакі на сустрэчу з Госпадам у паветры” (1Сал.4:17). Значыць, з імі адбудзецца нешта падобнае да таго, што адбылося з Самім Госпадам на гары Елеонскай... Вось пра што нам сёння зноў і зноў нагадвае Святая

Хрыстова Праваслаўная Царква, адзначаючы свята Узнясення Госпада і Збавіцеля нашага Іісуса Хрыста. Але не толькі сёння кажа нам пра гэта Царква. За кожнай літургіяй мы чуем зварот: "Угару ўзнімем сэрцы!" Будзем імкнуцца да таго, каб нашыя сэрцы заўсёды былі звернуты туды – да неба, да нашага Госпада. Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ У ДЗЕНЬ СВЯТОЙ ТРОІЦЫ, ПЯЦІДЗЕСЯТНІЦЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

У Старым Запавеце Пяцідзесятніца – гэта свята штогадовага ўспаміну ўзыходжаня Майсея на вяршыню гары Сінай, дзе ў некай невыказнай, містычнай тайне з'віўся яму Бог і заключыў з ім Запавет, і даў яму Запаведзі, і абяцаў яму збаўленне. Бог адкрыў Свой закон, Свае запаведзі, Бог раскрыў чалавеку Сваю задуму пра яго, Бог паказаў чалавеку шлях узрастання ў паўнату ведання жыцця і дасканаласці.

У Новым Запавеце Пяцідзесятніца – гэта свята, звернутае да будучыні, калі адбудзецца канчатковая перамога Божая, здзейсненая Ім у Сваім стварэнні.

У свята Пяцідзесятніцы мы ўспамінаем падзею, якой завяршылася справа выратавання роду чалавечага. У гэты дзень Гасподзь паслаў на Сваіх вучняў Святога Духа, Які сышоў на іх у выглядзе вогненных языкоў полымя.

Хрыстос вучыў пра Царства Божае – і вось яно раскрылася! Хрыстос абяцаў, што Дух Божы адкрые Ісціну – і вось гэта адбылося. Свет, гісторыя, час, жыццё – усё асветлена апошнім светам, усё напоўнена канчатковым сэнсам. У свеце пачаўся апошні і вялікі дзень Гасподні!

Адкрыццё Божае ўводзіць нас у найглыбейшую таямніцу жыцця Бажаства, калі паказвае Бога адзіным па Сутнасці і траічны ў Асобах.

Бог адзін па Сутнасці, траічны ў Асобах. Іншымі словамі, пры безумоўнай адзінкавасці і непадзельнасці Сваёй прыроды Бог існуе ў трох розных Асобах.

Таямніца цудоўнага "Саборнага жыцця" унутры Бога ёсць тое, што называюць Таямніцай Троіцы. Троіца – гэта слова, якое абазначае і "тры", і "адзін". Трэба верыць, што ў Богу адзіная Боская прырода раскрываецца ў трох асобных Асобах. У гэтым адзінстве Іпастасей, якія захоўваюць Свае асабістыя ўласцівасці, блажэнна ззяе Любоў, якая і спалучае Іх у непадзельнае быццё.

Таямніцу, што Бог адзін, але Траічны ў Асобах, адкрыў Ісус Хрыстос. Ён адкрыў нам таямніцу ўнутранага жыцця Бога, даў нам магчымасць зазірнуць у глыбіню гэтай таямніцы. Ён адкрыў нам і тое, што "Бог ёсць Любоў". Адна вялікая таямніца дапамагае нам наблізіцца да другой. Бог ёсць Любоў таму, што Ён Траічны ў Асобах; Бог траічны ў Асобах таму, што Ён – Любоў. Бог ёсць Адзінства Трох Асобаў, так цесна злучаных паміж сабой у Любві, што Яны – Адно, застаючыся ў той жа час living рознымі Асобамі. Гэтыя тры Асобы – Айцец, Сын і Дух Святы. Гэта тое, што на царкоўнай мове называецца Троіцай. У Богу адна Сутнасць раскрываецца ў трох Асобах. Любоў Божая – бязмерная, таму Асобы Прасвятой Троіцы па ўсемагутнасці іх узаемнай Любві ёсць адзін Бог, Які мае адну Сутнасць і жыве адным жыццём. У Прасвятой Троіцы як Тыя, Хто любіць, так і Тыя, Каго любяць, ёсць сама дасканаласць, бо кожная Асоба Прасвятой Троіцы ёсць Бог. І Айцец – Бог, і Сын – Бог, і Дух Святы – Бог. Прасвятую Троіцу можна назваць самым дасканалым адзінствам у любві або саюзам любві, таму што дасканалыя Тыя, Хто любіць, і дасканалае Іх пачуццё любові. Бог ёсць любоў, і любоў Божая не можа распаўсюджвацца толькі на створаны Богам свет: яна ў Святой Троіцы накіравана і ўнутр Яе жыцця. Тры Боскія Асобы, Якія маюць спрадвечнае быццё, свет убачыў з прышэсцем і ўцялесненнем Сына Божага (сціхіра ў дзень Пяцідзесятніцы).

Канешне, зразумець гэта нялёгка! Але гэта тое, што вынікае з вучэння Хрыста і можа быць выражана нашай чалавечай мовай. Ён прыйшоў у свет як Сын Айца Нябеснага і як роўны Яму: "Я і

Айцец Адно...” “Я Сын Божы...”, “хто бачыць Мяне, той бачыць і паслаўшага Мяне Айца...” Ён таксама гаворыць і пра Трэцюю Асобу: “Дух Святы, Якога Айцец Мой пашле ў імя Маё, навучыць вас усяму”.

Гэта Ён, Дух Святы, скончыць справу Хрыста ў душах Яго апосталаў. Ён сыйдзе на апосталаў і пераменіць іх у дзень Свайго Сашэсця.

Дагмат аб Прасвятой Троіцы гэта таямнічы дагмат, недасягальны для чалавечага розуму. Для чалавечага розуму вучэнне аб Прасвятой Троіцы супярэчлівае, таму што гэта таямніца, якая не можа быць выражана рацыянальна.

Невыпадкова айцец Павел Фларэнскі называў дагмат аб Прасвятой Троіцы “крыжам для чалавечай думкі”. Для таго, каб прыняць догмат аб Прасвятой Троіцы грахоўны чалавечы розум павінен адмовіцца ад сваіх прэтэнзій на здольнасць усё пазнаваць і рацыянальна тлумачыць – гэта значыць, што для спасціжэння таямніцы Прасвятой Троіцы неабходна адмовіцца свайго разумення. В.Н.Лоскі гаварыў, што Вучэнне аб Троіцы “не толькі аснова, але і найвышэйшая мэта багаслоўя, бо... зразумець таямніцу Прасвятой Троіцы ў яе паўнаце – значыць увайсці ў Боскае жыццё, у само жыццё Прасвятой Троіцы.”

Такім чынам, калі ў хрысціянскім вучэнні гаворыцца пра Трыадзінства Божае, то гаворыцца аб таямнічым, схаваным у глыбіні Бажаства ўнутраным жыцці Божым, паказаным свету ў часе, у Новым Запавеце, зыходжаннем ад Айца ў свет Сына Божага і дзеяннем цудатворчай, жыццяпадацельнай і выратавальнай сілы Суцешыцеля – Духа.

Таямніца ўнутранага жыцця Бога – гэта таксама таямніца нашых чалавечых жыццяў. Таямніца Прасвятой Троіцы з’яўляецца адной з найвялікшых таямніцаў хрысціянства. Нягледзячы на тое, што асобныя няяўныя спасылкі на яе можна знайсці яшчэ ў Старым Запавеце, для чалавецтва, якое жыло да Хрыста, у тым ліку і для богаабранага народа, яна была закрыта. Адкрыццё пра таямніцу быцця Божага, пра тое, што Бог ёсць Троіца, прынёс у свет Сын Божы і перадаў яго Сваёй Царкве. Нават пасля пры-

шэсця ў свет Збавіцеля таямніца Святой Троіцы адкрываецца не ўсім, а толькі членам Царквы Хрыстовай, якія праз яднанне з Хрыстом становяцца далучанымі да таінства блажэннай Троіцы. Усе, хто знаходзіцца за межамі Царквы, нават калі яны дасканала будуць вывучаць багаслоўскія трактаты, у якіх раскрываецца вучэнне Царквы, не змогуць спасцігнуць таямніцы быцця Божага так, як члены Царквы, нават калі апошнія спецыяльна не вывучалі багаслоўя. "Ніхто не можа ясна і поўна спасцігнуць розумам і выказаць словам догмат аб Прасвятой Троіцы, колькі не чытай Пісання Божага", – піша прападобны Сімяон Новы Багаслоў.

Таямніца Святой Троіцы пазнаецца вопытным шляхам. Яне разумецца хутчэй не розумам, а перажываецца сэрцам. Самастойна познать гэтую таямніцу немагчыма нікому: далучэнне да яе магчыма толькі пры ўздзеянні і прасвятленні Духам Святым. Для таго, каб Дух Святы наведаў чалавека і ўклаў у яго сэрца веданне таямніцы быцця Прасвятой Троіцы, чалавек павінен мець веру і ачышчанае ад грахоўных заганаў сэрца, бо ў Дабравесці Хрыстовым гаворыцца: "Блажэнны чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць". Гэтыя ж умовы неабходныя для пазнання таямніцы ўчалавечання Сына Божага, таямніцы Царквы і ўвогуле справы выратавання паўшага чалавецтва.

Свята Святой Троіцы мае сваёй мэтай натхніць хрысціяніна жыць духоўнымі інтарэсамі. Пяцідзесятніца – гэта дзень новай сустрэчы Боскага Суцешыцеля з прагнучай наталення чалавечай душой, якая можа зноў піць з крыніцы жывой вады і напаўняць сябе самымі ўзвышанымі і высакароднымі пачуццямі. У гэты дзень благадаць Божая, быццам вогненнае полымя, знішчае яго саграшэнні; быццам алей, змякчае яго сэрца; быццам святло, прасвятляе яго думкі; быццам пахучае міра, асвячае ўсю яго сутнасць. Благадаць дае яму духоўныя сілы, каб жыць ва ўстрыманні, рабіць дабро, любіць Бога, дапамагаць тым, хто побач з ім. Ранейшую збянтэжаннасць і азлобленасць яна ператварае ва ўнутраны спакой і радасць, як сведчыць пра гэта, зыходзячы са свайго ўласнага вопыту, старац Сілуан Афонскі: "З благадаццю Божай лёгка жыць, усё добра атрымліваецца, усё люба і радасна сэрцу, душа знайшла спачын

у Богу і адчувае сябе, быццам бы ў прыгожым і цудоўным садзе, у якім жыве Гасподзь.”

Будзем імкнуцца, каб ва ўсім нашым жыцці і ва ўсіх нашых справах праяўляліся плады Духа Святога, які жыве ў нас: любоў, радасць, спакой, доўгацярплівасць, ласкавасць, міласэрнасць, вера, сціпласць, стрыманасць. (Гал.5: 22-23).

Дай Бог, браты і сёстры, каб кожны з нас, як у свой час і апосталы Хрыстовы, мог успрыняць у сэрцы сваім гэту благадаць Усесвятога Духа для таго, каб разам з гэтай благадаццю ісці па сваім жыццёвым шляху, ісці ўпэўненымі крокамі і цвёрдаю хадою, ведаючы, што разам з намі Гасподзь.

## ПРОПАВЕДЗЬ НА УСПЕННЕ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння Царква ўзгадвае смерць той, чый Сын, паводле веры нашай, перамог смерць, паўстаў з мёртвых і нам дараваў абяцанне апошняга ўваскрасення і ўрачыстасці жыцця неўміручага. Прыгадваюцца словы адной з цудоўных малітваў, звернутых да Божай Маці. Малітвы, у якой Марыя названая «світанкам таямнічага дня» . Быццам святло гэтага світанку льецца са свята Успення, сама смерць становіцца жыццём і ўрачыстасцю жыцця. Смерць становіцца «світанкам таямнічага дня».

Успенне Прасвятой Багародзіцы ёсць таямніца Промысла Божага – таінства канчатковага разбурэння брамы смерці. Па словах прападобнага Антонія Вялікага: «Як целу, якое цалкам разаўецца ва ўлонні, неабходна нарадзіцца, так душы, калі яна дасягне вызначанай Богам мяжы, неабходна выйсці з цела». Так, нават душам людзей святых і праведных перад іх ўсяленнем у Царства Айца Нябеснага неабходна прыняць пякучыя лекі смерці як апошняга ачышчэння, бо і на іх асядаў жыццёвы пыл.

Але мы не дарма гаворым таксама і пра тое, што Успенне,

як столькі раз нагадвае нам пра гэта апостал Павел, ёсць часовы сон нашага цела да дня ўваскрасення. І вось, святкуючы Успенне Божай Маці, мы не толькі верым, што Яна паўстане з мёртвых ў апошні дзень, як мы ўсе, але мы ведаем дакладна (ведаем з апостальскага падання, з досведу Царквы), што Яна ўжо і целам уваскрэсла і ўвайшла ў тое жыццё, якое нам адкрыецца ў канцы часоў.

Таму і мы можам святкаваць сёння з поўнай радасцю дзень Успення Божай Маці, калі Яна вызвалілася ад межаў зямнога быцця, калі Яна выйшла з вузкіх граняў распуснага свету і ва ўсёй славе, ва ўсёй невыказнай Сваёй прыгажосці, у Сваёй чысціні стала перад тварам Сына Свайго і Бога, перад тварам Бога і Айца. Радасць наша можа быць дасканалая, без слёзаў, без гора. Гэта ўрачыстасць жыцця, але гэта для нас таксама і сведчанне аб тым, што ўваскрасенне – не пустое слова, уваскрасенне – не іншасказанне, што ўсе мы, у адпаведнасці са словам Божым, паўстанем з мёртвых і ўвойдзем у паўнаце нашага чалавецтва – і душой, і духам, і целам – у вечнасць, у радасць вечную Госпада нашага.

Тую, Якая ўсю Сябе аддала Хрысту, да канца ўзлюбіла Яго, Ён сустракае ў гэтых светлых дзвярэй памірання – і смерць становіцца радаснай сустрэчай, і жыццё перамагае, і над усім пануе радасць і любоў. Яна – Марыя, Дзева, Маці – адна з нас.

Смерць тут пераможаная знутры, вызваленая ад усяго таго, што напаўняе яе і жахам, і безнадзейнасцю. Можна сказаць: сама смерць становіцца жыццём і перамогай жыцця. Смерць становіцца «світанкам таямнічага дня». І таму ў гэтым свяце няма смутку, няма надмагільнага рыдання, няма гора: толькі святло, толькі радасць. Нібы для кожнага з нас, хто падыходзіць да гэтага непазбежнага парога, адчыняюцца ўжо дзверы, і з іх ззяюць промні будучай перамогі, будучага Царства Божага.

Дзень Успення Божай Маці называецца ў нашай Святой Хрыстовай Праваслаўнай Царкве «днём Багародзічнай Пасхі». І як у дзень Пасхі Хрыстовай радуецца наша сэрца, радуецца ад таго, што Хрыстос паўстаў з мёртвых і Ён з'яўляецца Пачаткам

і нашага жыцця, і нашага ўваскрасення, гэтак жа ў дзень свята Успення Божай Маці няхай радуюцца нашы сэрцы, радуюцца ад таго, што ў Маці Божай мы маем найвялікшую Заступніцу і Хадайніцу перад Яе Сынам, радуюцца аб тым, што як Гасподзь уваскрасіў Сваю Маці, і Яна Сваім Прачыстым целам цяпер знаходзіцца перад Прастолам Божым і моліцца за ўсіх нас, гэтак жа ўваскрэснем і мы з вамі.

Услаўленне Багародзіцы складаецца не толькі і не столькі ў тых славаслоўях, якія мы здзяйсняем у Яе гонар і ў дні Яе святаў ды і кожны дзень, малітоўна звяртаючыся да Яе. Сапраўдным усхваленнем Божай Маці з'яўляецца наша з вамі жыццё, а для таго, каб навучыцца сапраўднага хрысціянскага жыцця будзем часцей углядацца ў вобраз Прасвятой Дзевы Марыі. І ўглядаючыся ў Яе вобраз, у першую чаргу, мы павінны навучыцца самаадданай, цвёрдай любові да Бога і любові да ўсіх людзей, што знаходзяцца побач з намі. Так мы павінны любіць Бога і людзей, як Бога і людзей любіла Прасвятая Багародзіца. Разам з тым, углядаючыся ў Яе вобраз, мы павінны навучыцца змірэннаму перанясенню шматлікіх цяжкасцяў і выпрабаванняў, якія вольна або мімаволі сустракаюцца на нашым жыццёвым шляху, бо колькі бедаў і выпрабаванняў зведала Прасвятая Багародзіца!

Будзем, узіраючыся на вобраз заўжды Дзевы Марыі, вучыцца пакорнаму нясенню тых шматлікіх пакутаў і хвароб, якія сустракаюцца на нашым жыццёвым шляху, памятуючы пра тое, што той, хто вытрывае да канца, будзе збаўлены. І, вядома ж, браты і сёстры, узіраючыся на вобраз Прасвятой Дзевы, будзем вучыцца Яе змірэнню, Яе лагоднасці, бо тая духоўная вышыня, на якую ўзышла Божая Маці, першым чынам, была дасягнутая той пакорай і змірэннем, якія Яна здабыла ў Сваім зямным жыцці. Яна Сама сведчыла пра гэта, і мы вельмі добра ведаем гэтае сведчанне, бо яно прыведзена ў Святым Пісанні. Маці Божая гаворыць: «спагляну Ён на пакору Рабы Сваёй (Лк. 1:48). Не ганарыцца мы павінны, не ўзосіцца, не думаць пра сябе вельмі высока, а са змірэннем і пакорнасцю несці той жыццёвы крыж, які дадзены кожнаму дзеля нашага выратавання. Калі мы ўсяму гэтаму наву-

чымся ў сваім зямным жыцці, тады можна будзе сказаць, што мы з'яўляемся сапраўднымі дзецьмі Прасвятой Багародзіцы. А тое, што мы – Яе дзеці, а Яна – наша Маці, мы таксама добра ведаем са Святога Пісання: калі Гасподзь і Збавіцель наш Іісус Хрыстос знаходзіўся на голгофскім Крыжы, то Ён уручыў Ёй Іаана Багаслова, сказаўшы Дзеве Марыі, што ён – Яе сын, а Іаану Багаслову сказаў, што Яна – яго Маці. І Святая Царква ў гэтай падзеі убачыла ўсынаўленне ўсяго чалавецтва ў асобе Іаана Багаслова Прасвятой Багародзіцы.

У Спадарыні нашай Багародзіцы ўсе мы, слабыя, грэшныя і нявартыя людзі, здабылі Шчырую Малітвенніцу, Шчадралюбную Заступніцу, Наймагутнейшую Памагатую. Царыца Нябесная, родная нам па чалавецтве, пераўзышла славаю ўсе сілы ангельскія – з'явілася Першай па Богу і пасля Бога.

Мы спадзяемся, што малітвамі Богамаці Гасподзь ацаліць нашы душы, утаймуе нашу наравістую і свавольную волю, прывядзе наш розум «у паслухмянства Хрысту» і Яму аднаму вядомымі шляхамі прывядзе нас да выратавання і жыцця вечнай. І калі са свайго боку мы будзем імкнуцца прынесці Госпаду наша змірэнне, падобнае да таго, што мела Прасвятая Дзева, то гэтае спадзяванне, без усякага сумнення, не пасароміць нас.

Як жа нам не радавацца, не лiковать духоўна ў гэты выратавальны дзень свята Успення Прасвятой Багародзіцы, як жа не замілоўвацца, пазіраючы на пачэсны вобраз Яе, як не схіліцца перад Яе бязмернаю любоўю да нас, нявартых!

Няхай перапоўніцца і наша сэрца чыстаю і ўдзячнаю любоўю да Найблагаславеннейшай Уладычыцы нашай заўжды Дзевы Багародзіцы і няхай ўсклікнуць вусны нашы разам з усёю Святою Праваслаўнай Царквою Хрыстовай: «Благадатная, радуйся! З Табою Гасподзь, Які пасылае свету Табою вялікую міласць». Амінь.

# ПРАПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ ПЕРАД УЗДЗВІЖАННЕМ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Набліжаецца вялікае свята – Уздзвіжанне Пачэснага і Жыватворнага Крыжа Гасподняга. І Царква ў набліжэнні гэтага свята, у апошнюю Нядзелю перад яго надыходам, нам сёння прапаноўвае кароткае евангельскае чытанне, у якім гаворыцца аб тым, як усемагутны Бог так палюбіў свет, што Сына Свайго Адзінароднага аддаў, каб «кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае».

Так палюбіў Бог свет, менавіта такой любоўю, што Ён, Свяцейшы Бог, нас, грэшных людзей, якія нічога не варты без Яго, без Крыжа, ратуе Сваёю смерцю, паміраючы за нас. І цяпер, калі Ён бярэ на Сябе нашы грахі, смерць не мае над намі ўлады. Цяпер Крыжам Хрыстовым радасць прыходзіць ўсяму свету.

Бог ёсць Любоў. Таямніца сутнасці Божай – гэта таямніца Любві. А самая галоўная, самая вялікая любоў Госпада – гэта Яго Крыж. Крыж і распяцце – аснова нашай веры, аснова нашага жыцця.

Наша вера – гэта вера хрэсная, і хрысціянства – гэта рэлігія Крыжа і Уваскрасення. Збаўленне было нам даравана менавіта з Крыжа.

Гасподзь добраахвотна прыняў крыжовую смерць, паказваючы гэтым, што сіла Божая пераўзыходзіць немач чалавечую. І Ён уваскрэс, каб мы ведалі, што Гасподзь перамагае ўсякае зло, якое ёсць у свеце, але перамагае Ён яго там, дзе мы імкнемся быць Яму вернымі да канца. Каб мець любоў, трэба стаць новым чалавекам: замест эгаістычнага – самаадданым.

Мы з вамі можам выратавацца, толькі калі ідзем хрэсным шляхам ўслед за Хрыстом, таму што ў нас саміх жыве дух Божы, але жыве ў нас таксама і тая самая сапсаванасць чалавечая, якая прывяла Збавіцеля на Крыж.

Гледзячы на запаведзі Божыя, мы бачым, як многа нам трэба для таго, каб іх панесці, шмат такога, чаго мы менавіта не жадаем, – не тое, што не можам. І многія, гледзячы на гэта, адмаўляюцца ад таго, каб ісці ўслед за Хрыстом – адмаўляюцца цвёрда, спакойна і свядома.

Проста здзейсніць тры зямных паклона і пацалаваць дрэва Крыжа – не прынясе ніякай карысці чалавеку, калі яго розум, яго сэрца не ўбачыць тое, што намалявана на гэтым распяцці.

Лягчэй проста пастаяць у храме са свечкай і гэтым абмежавацца, чым цярпець пэўныя нязручнасці, імкнучыся выканаць запаведзі Божыя. Калі ж мы нягледзячы ні на што, імкнемся быць са Хрыстом, то нас чакае Крыж, які мы бярэм на сябе і ідзем следам за Ім у выглядзе ўсіх тых выпрабаванняў, якія нам трэба будзе зведаць на гэтым шляху.

А што нас чакае пасля Крыжа? За Крыжам будзе Уваскрасенне, але толькі для тых, якія ішлі і неслі свой крыж да канца.

І мы з вамі будзем старацца ісці гэтым шляхам, каб не пазбавіцца збаўлення, дадзенага нам праз Крыж. І перш за ўсё ў тых жыццёвых абставінах, у якіх мы з вамі знаходзімся, будзем думаць пра тое, якая ёсць воля Божая, як нам яе выканаць, як раней жылі набожныя і разумныя людзі, а калі яны жылі ў іншую эпоху, то чым адрозніваецца тое, што было тады, ад таго, што зараз? І калі мы ўбачым, што воля Божая – гэта не тое, чаго нам самім хацелася б, і ўсё ж прымаем яе, то гэтым мы прымаем свой Крыж, дадзены нам Хрыстом дзеля нашага ж збаўлення.

Няхай мы яшчэ мала што разумеем ў Евангеллі, але прыйдзе час, і мы самі скажам разам з Апосталам: «А я не жадаю хваліцца, хіба толькі крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста, Якім для мяне свет распяты, і я для свету».

## ПРОПАВЕДЗЬ НА УЗДЗВІЖАННЕ КРЫЖА ГОСПОДНЯГА

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Свята Уздзвіжання Крыжа Госпадняга вельмі старажытнае. Нам вядома, што яно святкавалася ўжо ў пятым стагоддзі, а ўсталявана з нагоды вялікай радасці – здабыцця Крыжа, на якім быў рапяты Гасподзь наш Ісус Хрыстос.

Стагоддзямі ў гэты дзень у саборах архірэй, акружаны шматлікім духавенствам, пасярэдзіне храма, уздымаў высока над

вернікамі крыж і ахінаў ім усе чатыры бакі свету, а хор у гэты час гучна спяваў: «Госпадзі, памілуй!».

Гэта было свята хрысціянскай імперыі, якая нарадзілася пад знакам Крыжа ў дзень, калі імператар Канстанцін убачыў Яго ў відзенні і прачытаў словы: «Гэтым пераможаш...». Свята перамогі хрысціянства над царствамі, культурамі і цывілізацыямі, свята таго хрысціянскага свету, які распаўся, страчваецца на нашых вачах.

Так, і ў цяперашнім годзе, як і кожны год, будзе здзяйсняцца гэты ўрачысты старажытны абрад. І будзе радасна спяваць хор: «Крыж цароў дзяржава, крыж – прыгажосць сусвету». Але вакол храма будзе грукатаць вялізны горад, абыякавы да гэтай урачыстасці, ніяк з ёю не звязаны. Мільёны людзей будуць працягваць жыць сваім паўсядзённым жыццём і яго інтарэсамі, клопатамі і турботамі, радасцямі і нягодамі, і не будуць мець ніякага дачынення да таго, што адбываецца ў храмах. Дык як жа адважваемся мы паўтараць гэтыя словы перамогі, паўтараць зноў і зноў пра Крыж, што ён – несакрушальная перамога?

Трэба прызнаць, што многія хрысціяне не ведалі б, мабыць, што адказаць на гэтыя пытанні. Многія хрысціяне як бы звыкліся з тым, што Царква загнана на задворкі жыцця. Многія хрысціяне здаволеныя тым, што ім дазваляюць «выконваць свае абрады», абы толькі яны паводзілі сябе ціха і паслухмяна і не перашкаджалі свету будаваць сваё жыццё – без Бога, без Хрыста, без веры, без малітвы. Яны, гэтыя стомленыя хрысціяне, ужо амаль і не памятаюць, што сказаў Хрыстос у ноч, калі ішоў Ён да распяцця: «У свеце гора зазнаеце, але мужайцеся: Я перамог свет» (Іаан.16:33).

Калі мы адзначаем гэта свята Уздзвіжання Крыжа, калі паўтараем старажытныя ўрачыстыя словы перамогі, то робім гэта не для таго, каб толькі ўспамінаць падзеі мінулага. Мы павінны больш глыбока задумацца над сэнсам самога гэтага слова – «перамога» – у хрысціянскай веры.

Верагодна, толькі зараз, пазбаўленыя знешняй велічы, якая здавалася нам сімвалам, знакам перамогі, мы аказваемся здольнымі зразумець, што, магчыма, і не было ўсё гэта сапраўднай перамогай.

І будзем мець мужнасць спытаць сябе: ці не таму і загінулі ўсе

гэтыя хрысціянскія царствы і культуры, ці не таму паражэннем абярнулася перамога, што аслеплі мы, хрысціяне, да апошняга сэнсу, апошняму зместу галоўнага сімвала.

Калі мы ўзіраемся на Крыж Хрыстовы, мы павінны бачыць у ім ні што іншае, як ззяючы сцяг нашай перамогі, сцяг нашай веры. Крыж – той ахвярнік, той прастол, на якім дзеля нас і дзеля нашага выратавання пацярпеў Гасподзь і Збавіцель наш Ісус Хрыстос. Вось чаму мы з вамі і выказваем глыбокую пашану Крыжу Гасподняму, вось чаму праваслаўныя хрысціяне так ушаноўваюць Жыватворчы Крыж.

Шанаваць Крыж, уздзвігаць яго, спяваць пра перамогу Хрыста, – гэта, перш за ўсё, – верыць у Распятага.

Крыж, які быў некалі прыладай ганьбы і страшнай кары, стаў сцягам нашай перамогі, сцягам нашай веры. Для нас з вамі Крыж Хрыстовы – гэта, найперш, сведчанне той Божай любові, якой усіх нас узлюбіў Гасподзь.

Распяцце Сына Божага – гэтае дзеянне свабоднай любові Божай, гэта дзеянне свабоднай волі Збавіцеля Хрыста, які аддае Сябе на смерць, каб іншыя маглі жыць – жыць вечным жыццём, жыць з Богам. Хрыстос добраахвотна аддаў Сваё жыццё для цябе і для мяне, за кожнага з нас, таму што кожнага з нас Ён любіць, таму што кожны з нас так Ім умілаваны, што цана яму – усё жыццё, і ўвесь жах, і ўся пакута, і ўся смерць Хрыстова.

Гасподзь узлюбіў нас так, што нават Сына Свайго Адзінароднага аддаў, каб усякі, хто веруе ў Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае, атрымаўшы гэты дар праз Крыж Збавіцеля.

І гэтаму ўсяму знакам з'яўляецца Крыж. Любоў і вернасць выпрабоўваюцца не словамі, нават не жыццём, а аддачай свайго жыцця, адрачэннем ад сябе, такім поўным, такім дасканалым, што ад чалавека застаецца адна толькі любоў, з-за якой ён гатовы нават узысці на крыж.

Дай Бог, каб для нас з вамі Крыж Хрыстовы стаў знакам усяго нашага жыцця.

Гасподзь бачыць людзей, якія не прынялі Яго як Нябеснага Цара, а захацелі прыстасаваць Яго для сябе, зрабіўшы царом

зямным. Не для знешняй перамогі прыйшоў у свет Хрыстос: Яму прапанавана было Царства, і Ён адмовіўся ад яго. У момант здрады Яго на смерць, Ён сказаў: « Няўжо вы думаеце, што я не магу ўмаліць Айца Майго паслаць легіёны ангелаў, якія абаранілі б Мяне? «. Але ніколі не быў Хрыстос больш Царом, чым тады, калі, акружаны зласлівым і ўлюлюкаючым натоўпам, ішоў ён да Галгофы, нясучы на плячах Крыж Свой. Ніколі не была так відавочная царскасць Яго і сіла, як у той момант, калі вывеў Пілат Яго, апранутага ў барвовую вопратку, асуджанага на смерць злачынцу, з цярновым вянком на галаве, да ашалелага натоўпу і сказаў гэтым людзям: «Гэта Цар ваш!».

Вось тут уся таямніца хрысціянства, і таму перамога яго – у радаснай веры, што ў Тым, ад Каго адвярнуліся амаль усе, Каго асудзілі на смерць і распялі, заззяла ў свеце любоў Божая, адкрылася Царства, над якім ніхто не мае ніякі ўлады. Толькі прыняць Хрыста павінен кожны з нас, прыняць усім сэрцам, усёй верай, усёй надзеяй. Інакш усё роўна не маюць сэнсу ніякія знешнія перамогі.

І, магчыма, нам патрэбна было гэта знешняе паражэнне хрысціянскага свету, трэба было гэта збядненне веры і адхіленне ад яе, каб ачысціліся мы ад усякай зямной ганарыстасці, ад надзеі на знешнюю сілу, на знешнюю перамогу, каб ачысцілася наша бачанне Крыжа Хрыстова, які ўзносіцца над намі і над светам, нават калі мы і свет не бачым гэтага.

Калі мы пакланяемся Крыжу, мы як бы бяром Яго на сябе, мы вырашаем ісці за Ім, а шлях Хрыстос нам паказаў: « Вазьмі крыж свой і ідзі за Мной». Узяць свой крыж і ісці ўслед Хрысту, распяцца разам з Ім – вось сапраўдны шлях хрысціяніна. З гэтага пачынаецца хрысціянства. Яго пачатак – адхіленне сябе, барацьба з грахом, які жыве ў нашым сэрцы, і распяцце разам з Хрыстом на дадзеным кожнаму з нас Госпадам крыжы. Каб спазнаць Крыж Хрыстоў, трэба панесці свой крыж.

І няхай усё наша жыццё будзе нясеннем гэтага крыжа – знака перамогі і рашучасці так жыць і так паміраць, як паміраў Гасподзь. Вось пра што ўсе мы з вамі яшчэ і яшчэ раз павінны вельмі сур'ёзна

падумаць, каб і жыццё наша з вамі хрысціянскае была сур'ёзным, было не фармальным, а было менавіта тым, якім чакае яго ўбачыць Гасподзь і Збавіцель наш Іісус Хрыстос. Няхай дапаможа ўсім нам, браты і сёстры, прасвятая сіла Жыватворчага Крыжа Господня несці свой жыццёвы крыж, і няхай дапаможа гэтая прасвятая сіла Жыватворчага Крыжа ўсім нам быць годнымі хрысціянамі.

Крыж узносіцца і перамагае, нягледзячы ні на што. І ў якіх бы ні быў чалавек прыцемках, наколькі б знешне не святкавала ў свеце зло, сэрца ведае і чуе: «Мужайцеся: Я перамог свет».

## ПРОПАВЕДЗЬ У НЯДЗЕЛЮ ПАСЛЯ УЗДЗВІЖАННЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння, у Нядзелю пасля свята Уздзвіжання Пачэснага і Жыватворнага Крыжа, згодна з богаслужбовым Уставам Праваслаўнай Царквы, падчас літургіі павінна быць прачытана Евангелле пра самаахвярнае нясенне свайго ўласнага жыццёвага крыжа, якое патрабуецца ад кожнага чалавека, што імкнецца ісці за Хрыстом.

Гасподзь нікога гвалтам не прымушае ісці за Сабой, але кожнаму пакідае свабоду ўласнага выбару – ісці ці не ісці ўслед за Ім.

За Хрыстом з радасцю пайшлі апосталы, мучанікі, прападобныя, праведныя. Усе святыя ад старажытных часоў да сучаснасці з радасцю ахвяравалі дзеля Яго ўсімі асалодамі свету гэтага, самім сваім жыццём, і не былі ашуканыя ў сваім спадзяванні на Бога, атрымалі ў спадчыну ад Яго вечнае Царства Нябеснае і клічуць усіх нас да сябе.

“Адмоўся ад сябе, – кажа Гасподзь, – і вазьмі крыж свой, і ідзі за Мной”. Што значыць, адмовіцца ад сябе? Святыя айцы лічаць, што гэта значыць адмовіцца ад сваёй грэшнай волі, сваіх заганных схільнасцей і ўсякіх грахоўных жаданняў. Кажучы іншымі словамі, адмовіцца ад сябе азначае скарыцца перад воляй Божай.

“Вазьмі крыж свой і ідзі за Хрыстом”. Узяць свой крыж і ісці ўслед за Хрыстом, распяцца разам з Ім – вось сапраўдны шлях хрысціяніна. З гэтага і пачынаецца хрысціянства. Яго пачатак – адмаўленне ад сябе, барацьба з грахом, які, на жаль, жыве ў сэрцы кожнага з нас, распяцце разам з Хрыстом на сваім уласным жыццёвым крыжу, які дадзены кожнаму з нас Госпадам. Каб зразумець таямніцу Крыжа Хрыста, неабходна панесці свой крыж.

Возьмем свой крыж: будзем цярпліва пераносіць уласныя жыццёвыя выпрабаванні, хваробы, крыўды і абразы – усе праявы зла, якое пануе ў свеце гэтым і якое ўскладае на кожнага з нас свой крыж. Не станем наракаць на жыццё і лёс, а пойдзем за Хрыстом, бадзёра несучы свой крыж. Будзем жыць, працаваць з напружаннем сіл, з верай, з адданасцю волі Нябеснага Айца, ва ўсім выконваючы Яго святую волю, Яго запаведзі.

“Хто страціць душу сваю дзеля мяне, – гаворыць Збавіцель у сённяшнім Евангеллі, – той уратуе яе”. Гэта значыць, хто аддасць жыццё сваё за веру і Хрыста, той уратуе душу сваю для вечнага блажэннага жыцця.

Мы павінны ўсвядоміць простую ісціну: Царства Божае, гаворыцца ў Слове Божым, дасягаецца пэўнымі высілкамі і руплівай працай над сабой, якой могуць спадарожнічаць розныя спакусы і выпрабаванні, і толькі той, хто прыкладвае пэўныя намаганні, здольны яго дасягнуць. І ў гэтым і ёсць наша ўласнае годнае нясенне жыццёвага крыжа.

Вялікі і цяжкі гэты подзвіг! Але наперадзе ідзе Усемагутны Крыжаносец Хрыстос! Глядзіце на Яго! Ідзіце за Ім!

Калі на гэтым шляху, стомленыя і знясіленыя, мы ўпадзем пад цяжарам крыжа, Ён Сам падыдзе да нас, падыме і дапаможа несці гэты крыж!

Таму, калі мы пакланяемся Крыжу Хрыстову, няхай з глыбіні нашага сэрца выльецца шчырая малітва з просьбай, каб Гасподзь дапамог нам сілаю Пачэснага і Жыватворчага Крыжа Свайго годна несці і наш уласны жыццёвы крыж. Амінь.

# ПРОПАВЕДЗЬ НА ПАКРОЎ БОЖАЙ МАЦІ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Пакроў Божай Маці – гэта Яе маленне за нас, якая нашу слабую, нямоглую, грэшную малітву даносіць да Прастола Божага, таму што Яна Сама нашы малітвы ўздымае на Сваіх Матчыных руках і складае іх каля ног Хрыста.

Пакроў Божай Маці – гэта Яе любоў да нас, тая любоў, якая ўмацоўвае нас у бедах і няшчасцях, асушваючы нашы слёзы, тая Яе любоў і міласць, якая дапамагае нам здзяйсняць наша вечнае выратаванне.

Над кім распасцерты гэты Пакроў Божай Маці?

Мы ведаем са слова Божага, што Царква Хрыстова – гэта Цела Хрыстова, што Гасподзь Іісус Хрыстос – Галава гэтага Цела, Галава Ім заснаванай Святой Царквы. І Пакроў Божай Маці, распасцерты над Царквой Хрыстовай як Целам Госпада Іісуса Хрыста, знаходзіцца і над кожным членам гэтага містычнага Цела – кожным сынам і дачкой Святой Хрыстовай Царквы.

Божая Маці заўсёды з тым, і Пакроў Яе заўсёды над тым, хто адданы Яе Сыну, хто ідзе па Яго клічу шляхам вечнага выратавання. Бо Яна як Маці Сына Божага па целе бліжэй за усіх да Прастола Усявышняга. Яна, па словах святіцеля Іаана Залатавуста, – першая Пераемніца дарункаў Божых і першая, Хто раздае гэтыя дарункі і благаславенні людзям, якія шукаюць дапамогі Божай у сваіх патрэбах.

Гісторыю Багародзіцы Царква ведае з вуснага Padання, якое ўзыходзіць да ранніх хрысціянскіх абшчынаў апостальскіх часоў і дайшло да нас праз перадаванне з вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне. Шанаванне Божай Маці грунтуецца на першапачатковым у хрысціянскай абшчыне разуменні адмысловага значэння Прасвятой Дзевы ў збаўленні чалавечага роду, на Яе асабістай святасці, якая пераўзыходзіць святасць любога з людзей і нават ангелаў.

У момант Благавешчання Прасвятой Багародзіцы, адклікаючыся на зварот Бога да людзей, Дзева Марыя ад імя ўсяго чалавечага роду і для яго выратавання адказала згодай. Без гэтага Бог не мог прыйсці ў свет і стаць чалавекам. І калі ў Назарэце Архангел Гаўрыіл з'явіўся Дзеве Марыі з добрай весткай аб тым, што ад Яе народзіцца Сын Божы, Яна адказала з пакорнасцю волі Творцы. Гэта быў Яе асабісты адказ на Божы заклік. Але Яна – адна з нас. І падобна таму як мы праз агульначалавечую салідарнасць і пераемнасць звязаныя з Адамам і са здзейсненым ім грахом, гэтак жа мы звязаныя і з Багародзіцаю, чые словы прагучалі ад імя ўсяго чалавецтва. Калі б не было гэтага адказу, не было б Уцялеснення Сына Божага і Сына Чалавечага. Без Сваёй Прачыстай Маці і супраць Яе волі Ісус Хрыстос не змог бы адкупіць грахі свету.

Божая Маці здолела так узлюбіць Свайго Сына. Яна Яго любіла як маці і пакланялася Яму як Богу. І ніколі Яна не была перашкодай на Яго крыжовым шляху. Нідзе ў Евангеллі вы не знойдзеце месцы, дзе Божая Маці Яго спыняе, падобна Пятру, гаворачы: Не дазволь, каб з Табой гэта (гэта значыць – крыж і смерць) здарылася... Пятру Хрыстос адказаў: Адыдзі ад Мяне, ты Мне супернік і вораг, ты думаеш аб чалавечым, а не аб Божым... Божая Маці, Дзева Багародзіца, ніколі не стаяла перашкодай на гэтым шляху. Яна дала Яму прайсці ўвесь крыжовы шлях, і на Галгофе Яна не сказала ні аднаго слова, не вымавіла ўслых ні адной малітвы, якая б ішла насуперак волі Айца і волі Сына. Стаяла, ні словам не абараніла Свайго Сына ад катаў, ні словам не спыніла ганьбавальнікаў і абгаворшчыкаў, ні словам не звярнулася да Айца, не заклікала: «Пашлі ж, Госпадзі, дапамогу Тваю, і рассеюцца Твае ворагі!..» Не, Яна, ў поўным адзінстве злучаная да канца з воляй і любоўю Свайго Сына, аддавала Яго на смерць, каб жылі іншыя.

А іншыя – гэта хто? Гэта мы, людзі. Са стагоддзя ў стагоддзе жылі людзі таму, што паверыў у нас Гасподзь і палюбіў нас. І гэтая смерць Ісуса на крыжы, і гэтае сапраўднае паміранне Божай Маці каля Крыжа Хрыста – усё гэта здзейснілася дзеля кожнага з нас.

Кожны з нас перад іконай Божай Маці можа сказаць: «Так, Маці, Ты аддала Свайго Сына на смерць, не ведаючы мяне, або,

ведаючы які я, як я буду непаслухмяным Яму, – але Ты аддала Яго, каб я мог паверыць у Божую любоў і мог выратавацца Крыжом Гасподнім...»

Праваслаўная царква шануе Прасвятую Дзеву вышэй за ўсіх створаных істот, не толькі людзей, але і ангелаў. Як Маці Сына Божага па чалавецтве, Яна пераўзыходзіць благадаццю і набліжанасцю да Бога, а, такім чынам, і годнасцю, усе іншыя істоты. І таму Святая Царква лічыць Яе вышэйшай за Херувімаў і Серафімаў. Прасвятая Дзева Марыя з'явілася самай дасканалай прадстаўніцай чалавечага роду, якая цалкам аддала Сябе Богу. Чалавечая прырода ў выніку Яе свабоднага асабістага выбару дае сваю згоду паслужыць уцялесненню Бога. Яна аддае сябе Богу цалкам у непаўторнай асобе пэўнага чалавека. Згода Дзевы Марыі зрабіла магчымай сустрэчу чалавечай волі з Божай. Абсалютны давер да Яго Любові. Ніякага эгаізму – поўная паслухмянасць Богу, дасканалае яднанне з Богам, максімальная рэалізацыя ўсіх жыццёвых магчымасцяў. Самая набліжаная да Бога праз усынаўленне Ёй роду чалавечага, Прачыстая з'яўляецца як бы звяном паміж Творцам і створаным светам.

Заступніцтва Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы навучае нас жывому спадзяванню на Промысел Божы і на Яе міласцівае і магутнае хадайніцтва за нас. Яно пераканаўча сведчыць нам, што пад жыватворнымі і выратавальнымі для нас уздзеяннямі і ўплывамі Божага Промыслу праходзіць усё наша жыццё, пераконвае ў тым, што Прачыстая Дзева, таксама як і ўсё святыя, прымае самы жывы ўдзел у нашым лёсе, пазбаўляючы нас ад вялікіх бед і зла і пасылае нам звыш нябеснае благаславенне і дапамогу.

Заступніцтва Богамаці і святых праяўляецца па-рознаму. Яно з'яўляецца ў падаванні нам зямных выгод, у захаванні нашага жыцця і ў незлічоных дабрадзействах, якія праліваюцца на нас ад Бога і натхняюць любіць, дзякаваць і ўслаўляць Яго ад усяго сэрца і ад усёй душы. Яно з'яўляецца і ў самых жальбах і бядотах нашых, якія навучаюць нас цярпенню, спадзяванню на Бога і адданасці Яго Усесвятой волі. Яно з'яўляецца, нарэшце, і ў звышнатуральнай дапамозе.

Глыбіня пакаяннага пачуцця скрухі аб грахах, прычынай якога з'явілася бяда, якая найшла на грэкаў, была такая вялікая, што Царыца Нябесная Сама паспяшалася з'явіцца да вернікаў і суцешыць іх.

Прачыстая распасцерла свой амафор над горадам, які знаходзіўся ў бядзе, над народам, у якога не засталося іншай надзеі, акрамя Царыцы нябеснай, – і Яна явіла яму сваю дапамогу.

## ПРОПАВЕДЗЬ У ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ СВЯЦІЦЕЛЯ І ЦУДАТВОРЦА МІКАЛАЯ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

Сёння, калі Святая Хрыстова Праваслаўная Царква адзначае памяць свяціцеля і цудатворца Мікалая, усе мы, перапоўненыя любоўю і глыбокім шанаваннем да гэтага ўгодніка Божага, аднаго з самых вялікіх падзвіжнікаў веры і набожнасці, сабраліся ў гэтым святым храме. І мы шчаслівыя таму, што адзін з прыдзелаў нашага сабора носіць імя свяціцеля Мікалая Цудатворца. Свяціцель Мікалай з'яўляецца нябесным апякуном, хадайнікам, малітвеннікам і заступнікам за ўсіх нас, вернікаў гэтага сабора. І усе мы, без сумнення, можам сведчыць, што ён – адзін з самых дзейсных нашых памочнікаў, якія стаяць перад Прастолам Божым і моляцца аб нашым выратаванні.

«Правіла веры і прыклад лагоднасці» – гэта словы трапара свяціцелю Мікалаю. І вось свяціцель Мікалай – гэта правіла, эталон, той ідэал, на які мы павінны арыентавацца і звяраць па ім сваё жыццё.

Як некалі, звяртаючыся да апостала Нафанаіла, Гасподзь назваў яго сапраўдным ізраільцянінам, у якім няма крывадушнасці, так і сёння ў асобе свяціцеля Мікалая Збавіцель дае нам прыклад сапраўднага хрысціяніна, у якім няма фальшу. А хіба магчыма фальсіфікацыя нашага рэлігійнага, духоўнага жыцця? Адказ на гэта пытанне нам дае Евангелле.

Пасля Хрышчэння Збавіцеля, паводле Евангелля, Ён адасобіўся ў пустыні: ”Тады Ісус быў узведзены Духам у пустыню, на спакушэнне ад дыявала. І, пасціўшы сорак дзён і сорак начэй, урэшце адчуў голад. І прыступіў да Яго спакуснік і сказаў: калі Ты Сын Божы, скажы, каб камяні гэтыя сталі хлябамі. А Ён сказаў яму ў адказ: напісана: «не хлебам адным будзе жыць чалавек, а ўсякім словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых». Тады бярэ Яго дыявал у святы горад і ставіць Яго на крыле храма, і кажа Яму: калі Ты Сын Божы, кінься ўніз; бо напісана: «Ангелам Сваім накажа пра Цябе, і на руках панясуць Цябе, каб не спатыкнуўся Ты аб камень нагою Тваёю». Сказаў яму Ісус: напісана яшчэ: «не спакушай Госпада Бога твайго». Зноў бярэ Яго дыявал на вельмі высокую гару, і паказвае Яму ўсе царствы свету і славу іх, і кажа Яму: усё гэта Табе дам, калі ўпаўшы паклонішся мне. Тады кажа яму Ісус: адыдзі ад Мяне, сатана; бо напісана: «Госпаду Богу твайму пакланяйся, і Яму аднаму служы». Тады пакідае Яго дыявал, — і вось, Ангелы прыступілі і служылі Яму.» (Мф. 4:1-11).

Адказы Ісуса вельмі важныя, бо даюць магчымасць унікнуць ў сэнс служэння Госпада і зразумець, якую сістэму каштоўнасцяў прынёс Ён свету.

1. Такім чынам, першая спакуса – хлебам. Ты адчуваеш голад, ты жадаеш есці? – Ствары цуд, каб камяні сталі хлябамі. Але Гасподзь адхіляе гэтую спакусу, бо Яго місія не ў тым, каб вызваліць чалавека ад клопату аб пражытку. Гэта зусім не азначае, што Хрыстос адмаўляе каштоўнасць матэрыяльнага пачатку жыцця. Бо ў іншым месцы Святога Пісання Ён навучае нас словамі Сваёй малітвы: «Хлеб наш надзённы дай нам сёння» (Мф. 6:11). Не каштоўнасць хлеба адмаўляе Гасподзь, а перакананне, паводле якога матэрыяльны пачатак з'яўляецца найвышэйшай і абсалютнай выгодай у жыцці чалавека.

Дасягненне матэрыяльнага дастатку не ёсць ні абсалютная мэта чалавечага існавання, ні выражэнне паўнаты нашага быцця, ні знак шчасця, пры якім чалавек гоніць ад сябе думку пра Бога, гоніць ад сябе думка аб сваёй адказнасці за жыццё.

Секулярызацыя, якая адбываецца зараз у нашым жыцці, свед-

чыць пра іудаізацыю хрысціянства. У чым гэта выяўляецца? У пераважнай і ўсёпаглынальнай увазе сучаснага хрысціянства да зямных каштоўнасцяў. Ужо ў першых стагоддзях узнікла ерэтычнае вучэнне аб тым, што Хрыстос прыйшоў для таго, каб на гэтай зямлі заснаваць тысячагадовае Царства асалоды, дабра і справядлівасці. Гэтая ідэя працягвае жыць і развівацца і ў цяперашні час. Можна без перабольшання сказаць, што яна з'яўляецца галоўнай рухаючай сілай хрысціянскай актыўнасці ў свеце. Гэтая ідэя мае іудзейскае паходжанне. І Калі Хрыстос сказаў: "Не можаце служыць Богу і мамоне", – то сучасныя хрысціяне з гэтым рашуча не згодны.

Ідзе працэс, які не новы ў гісторыі, з якім мы сутыкаліся і ў хрысціянстве ў цэлым, і ў гісторыі Царквы – працэс, у асноўным, несвядомай падмены хрысціянства паганствам, падмены хрысціянскай духоўнасці паганскай.

У Царквы адна і адзіная мэта – выратаванне чалавека ад духоўнага рабства граху і далучэнне яго да Бога праз набыццё богападобных уласцівасцяў, самымі галоўнымі з якіх з'яўляюцца змірэнне і любоў.

Звядзенне ж асноўнай задачы Царквы да рашэння зямных «гарызантальных» задач і прывядзе хрысціянаў да непрыметнага прыняцця антыхрыста.

У 80-я - 90-я гады XIX стагоддзя, епіскап Феафан Затворнік пісаў: «Праз пакаленне, магчыма, праз два, вычарпаецца наша праваслаўе...».

Праз паўтара пакалення пасля прарочых слоў свяціцеля Феафана наступіў 1917 год. Рэвалюцыя, як карова языком, злізала ўсю тую прыгажосць, якая не была заснавана на камені правільнага хрысціянскага жыцця.

Зараз адкрыўся яшчэ адзін і, магчыма, апошні перыяд у жыцці нашай Царквы. Яе лёс будзе залежаць ад таго, па якім шляху пайдзе тое яе адраджэнне, аб якім зараз так шмат гаворыцца. Што пераможа і стане першасным у ім: знешняя прыгажосць, колькасць манастыроў, храмаў, архірэяў, святароў, духоўных школ і г.д., – або лад правільнага духоўнага жыцця і, першым чынам, у манастырах, сярод манаства і духавенства.

2. Ці будуць нашы духоўнікі старэйшымі братамі, добрымі дарадчыкамі, як піша свяціцель Ігнацій, або пойдуць па шляху правадыроў таталітарных сект, якія патрабуюць абсалютнага паслухмянства сабе як Богу? Святар, на жаль, разумеецца па-пагански: толькі як здзяйсняльнік пэўных сакральных дзеянняў, як жрэц, а не па-хрысціянску – як, перш за ўсё, духоўны кіраўнік паствы.

Іншая спакуса, з якой наблізіўся дыявал да Ісуса: «Калі Ты Сын Божы, кінься ўніз, і тады ўсё паверыць, што ты сапраўды Хрыстос". Гэта значыць, пераконвай з дапамогай сілы, пагадзіся на трук дзеля таго, каб уразіць людзей і авалодаць іх воляй. Але Гасподзь адмаўляе гэтую спакусу.

Фанатызм – адна з самых яркіх характарыстык паганскага стану духу. Фанатызм, у адрозненне ад перакананасці, дыхае нянавісцю, пагардай да іншадумцаў. У ім няма любові да чалавека. А што можа быць горш за гэта?

У чым вытокі фанатызму? Яны, напэўна, першым чынам у тым, што мы ўсё менш звяртаем увагу на духоўны бок жыцця, што наша хрысціянства зводзіцца да выканання толькі знешніх царкоўных рытуалаў. Самае ж галоўнае пры гэтым можа цалкам знікнуць з нашай свядомасці. Знешні бок царкоўнага жыцця мае сэнс і прыносіць карысць толькі ў тым выпадку, калі ён злучаецца з выкананнем запаведзяў Евангелля і пакаяннем, калі спрыяе пазнанню сябе, змірэнню, усведамленню сваёй няздольнасці стаць хрысціянінам без дапамогі Божай. Калі хрысціянін выконвае толькі знешні бок царкоўнага жыцця, займаецца дабрачыннай дзейнасцю, а пры гэтым па запаведзях Хрыстовых не жыве, то з ім здараецца найвялікшая бяда ў жыцці: ён абавязкова ўбачыць сябе праведнікам. Выдатна сказаў пра такога хрысціяніна свяціцель Феафан: «Сам дрэнь дрэнню, а ўсё паўтарае: я не такі, як іншыя людзі». Святы Ісаак Сірын гаворыць, што збаўленне даецца не дабрачыннасцям, а змірэнню, якое нараджаецца ад іх, і калі змірэння не будзе, то марныя ўсе дабрачыннасці і ўсе праявы знешняй набожнасці. Нельга забываць, што Хрыста прысудзілі да самой жудаснай кары скрупулёзныя выканаўцы царкоўных звычаяў – «праведнікі», а не грэшнікі, якія бачаць сваю грэшнасць і каюцца ў ёй. Фанатызм і ганарыстасць – слупы паганства.

Пімен Вялікі сказаў: «Чалавек той, хто спазнаў сябе». А пазнанне сябе – гэта пазнанне таго, што я ўвесь апантаны страсцямі, іх палонны, якім яны кіруюць і мучаюць. І той, хто не зразумеў, што сам ён не можа з імі справіцца і што яму патрэбны Бог Збавіцель, да Якога і трэба звяртацца ад усёй душы, той не здольны да духоўнага адраджэння, той не можа быць хрысціянінам.

Правільнае духоўнае жыццё змірае чалавека. Гэта самае галоўнае. Але той, хто не змагаецца з сабою, хто выконвае толькі знешнія царкоўныя правілы жыцця, становіцца на шлях вырошчвання ў сабе славалюбства, самаўзвышэння, ганарлівасці і ганарыстасці, з якіх і нараджаецца фанатызм. А хрысціянінам становіцца толькі той, хто змірыцца і ўбачыць, што яму патрэбны Хрыстос-Збавіцель.

Свяціцель Ігнацій пісаў: «Славалюбства і самаўзвышэнне, ганарыстасць і ганарлівасць любяць вучыць і павучаць. Іх не хвалююць наступствы дадзеных парадаў! Яны не думаюць, што могуць нанесці незагойныя раны недарэчнымі рэкамендацыямі, якія прымаюцца неспрактыкаваным пачаткоўцамі са шчырай даверлівасцю. Ім патрэбны поспех, якой бы ні быў якасці гэты поспех! Ім трэба зрабіць ўражанне на пачаткоўца ў веры і маральна падпарадкаваць яго сабе! Ім неабходна пахвала чалавечая! Ім трэба праславіцца святымі, разумнымі, празорлівымі старцамі, настаўнікамі! Ім трэба наталіць сваю прагную гардыню!» І дадае: «Тыя старцы, якія бяруць на сябе ролю старца... па сутнасці, не што іншае, як душазгубнае акцёрства і ўбогая камедыя, іх выява думак, іх розум, іх веданне – самаспакушэнне і дыявальскі духоўны падман...»

Свяціцель Божы Ігнацій павучае нас: «Тыя, якія сапраўды будуць працаваць на ніве Божай, разважліва схаваюць сябе ад людзей і не будуць здзяйсняць пасярод іх знаменняў і цудаў. Яны пойдуць шляхам духоўнай працы, раствoранай змірэннем, і ў Царстве Нябесным стануць вялікімі айцамі, якія праславіліся рознымі цудадзеяннямі». Гэта надзвычай важнае ўказанне нам! Сцеражыцеся шуму, сцеражыцеся паказной святасці, сцеражыцеся ўсяго таго, што пазбаўляе вас змірэння. Там, дзе няма змірэння, там няма і быць не можа праўдзівага дагаджэння Богу.

3. І, нарэшце, спакуса трэцяя, і апошняя. Узвёўшы Госпада на высокую гару, князь свету гэтага прапаноўвае пакланіцца яму, а за гэта атрымаць уладу над усімі царствамі зямнымі. Гэтая спакуса бязмежнай уладай, магчымасцю загадваць іншым і падпарадкоўваць іх сваёй волі. У гэтым выпадку ўсе магчымасці дзяржаўнага, палітычнага, эканамічнага ўздзеяння, а таксама нябачная ўлада над розумам і сіла прамога прымусу маглі б быць ужытыя для дасягнення мэты прышэсця Хрыста. Але Гасподзь Ісус Хрыстос адмаўляецца прыняць такую ўладу. Тым самым Ён сцвярджае, што збаўленне і паўната жыцця не могуць быць здабытыя сілаю ўлады.

Таямніца беззаконня цалкам процілеглая таямніцы хрысціянскай набожнасці. Знішчэнне веры ў Хрыста-Збавіцеля як Бога – адна з асноўных задач нястомнай дыявальскай працы.

Некаторыя ўпэўніваюць сябе і нас, што Праваслаўе – гэта нейкая нацыянальная ідэалогія. Мы ж павінны ведаць, што Праваслаўе – гэта пошук жыцця ў Богу, і што ўсялякае дзяржаўнае і нацыянальнае ўладкаванне жыцця для нас другаснае. Ёсць тэндэнцыя ператварыць Праваслаўе ў ідэалогію, якой можна было б замяніць марксізм. Жыццё нярэдка злучае незлучальнае.

Іншыя кажуць, што Праваслаўе – гэта наша культурная спадчына. Мы ж павінны ведаць, што Праваслаўе – гэта не стварэнне культурных формаў, а сакральнае спасціжэнне і набыццё дара Духа Святога. Жыццё Царквы не вызначаецца моцнымі свету гэтага. Царква павінна выразна сведчыць пра сваю прысутнасць у грамадстве, аднак пры гэтым не ператварацца ў нейкую мірскую сілу і свецкую ўладу.

На жаль, шмат у каго з сучасных людзей моцна развіта цалкам не правільнае ўяўленне пра хрысціянства і пра Хрыста. Многія прыходзяць у царкву і ўспамінаюць пра Бога для таго, каб у іх жыцці ўсё было гладка, ціха, мірна і паспяхова. Але пры гэтым яны забываюць, што шлях хрысціяніна – гэта шлях нясення свайго жыццёвага крыжа. Гэта значыць, заўсёды – шлях выпрабаванняў, заўсёды – барацьба са шматлікімі спакусамі; барацьба і з дыяваламі, які змагаецца супраць нас; барацьба і з самім сабою – з тымі

страсцямі і заганамі, якія жывуць у нас; барацьба і з тым злом, якое вакол нас у свеце.

Палягчаецца дзейнасць разбуральніка ў Царквы яшчэ і агульным рэлігійным здзічэннем людзей. А у такім стане, калі няма супраціўляльнасці розным хваробам, любая з іх, нават самая бяскрыўдная, можа стаць смяротнай. Наш час прынёс ў Царкву яшчэ больш злосны раскол і шматлікія падзелы. Вораг дасягае мэты: тыя, хто завуць сябе праваслаўнымі хрысціянамі, каму запаведана адзінства веры ў Хрысце, раздзіраюць рызу Хрыстову, кіруючыся палітычнымі меркаваннямі бязбожных валадароў свету гэтага. Самы ж страшны спосаб багаборніцтва і знішчэння Праваслаўнай Царквы ў цяперашні час – гэта скажэнне сапраўднага хрысціянства і падмена яго лжывым.

І мімаволі ўспамінаецца слова вялікага свяціцеля Феафана Затворніка, які, сваім празорлівым позіркам прадбачыўшы будучыню, гаварыў, што надыдзе час, калі будзе ўсё павярхоўна: усё царкоўнае, усе чыны, усе парадкі, уся знешнасць, уся служба – усё будзе, а за ўсім гэтым, гаварыў вялікі іерарх, – поўная здрада духу Хрыстову... Сцеражыся ж, хрысціянская душа і захоўвай сваю веру. Помні, што многія і многія зараз надломваюцца .

Мы не ведаем, што чакае Царкву ў будучыні. У пачатку ХХ стагоддзя ніхто не здагадваўся, што будучае стагоддзе стане такім страшным для Царквы, што яна пройдзе праз нябачаныя дагэтуль ганенні. І сёння, гледзячы ў ХХІ стагоддзе, мы не ведаем, што чакае Царкву. Некаторым падаецца: час ганенняў мінуў, Царква заваявала трывалае становішча ў грамадстве, наступіла «свабода сумлення». Але не трэба спакушацца – часы змяняюцца хутка. Сёння ўся краіна ўслаўляе Хрыста і ўсклікае: «Радуйся, Цар Іудзейскі», – а заўтра, можа быць, гэты ж самы народ адрачэцца ад Хрыста, аплюе Яго, будзе ўзводзіць паклёпы на Яго і, падобна да ізраільскага натоўпу, усклікаць: «Хай Ён будзе распяты!... Кроў Яго на нас і на дзецях нашых.»

Менавіта так адбылося ў гады рэвалюцыі: людзі, якія ў дзяцінстве хадзілі ў царкву і вывучалі закон Божы ў школе, пасталеўшы і страціўшы веру, сваімі рукамі кідалі ў вогнішча свя-

тыя іконы, удзельнічалі ў апаганенні мошчаў і разбурэнні храмаў.

Што б ні здарылася ў будучыні з Царквой і з усімі намі, не будзем разбягацца ў страху, а мужна сустрэнем выпрабаванні. Будзем памятаць, што пакуты ў жыцці гэтым у параўнанні з жыццём вечным нікчэмныя і кароткачасовыя.

Захавай унутры сябе свет Звыш, увайдзі ў сябе, умацуй Царства Божае ўнутры сябе – у гэтым задача хрысціяніна, браты, у сучасным становішчы, – у гэтым тая сіла Хрыстовых воінаў, аб якую разбіваюцца ўсе напады ворагаў на нас. Мы жывем у шчаслівы час, у які як ніколі ясна, што свет змагаецца з Хрыстом і імкнецца знішчыць на зямлі саму памяць пра хрысціянства. Пры гэтым асабліва важна, што ўсё значэнне гэтай барацьбы і яе цэнтр раскрываецца не ў чым-небудзь знешнім, а, перш за ўсё, у нашых сэрцах: менавіта ў іх ідзе сапраўдная барацьба паміж Богам і светам.

Успомніце, што Гасподзь гаворыць: «Царства Божае ўнутры вас ёсць». Калі гэта так, то і царства дыявала прыходзіць у свет таму, што мы яго носім у нашых сэрцах.

Будзем пільныя, узлюбленыя, зараз час адступлення ад веры. Трэба клапаціцца аб тым, каб быць нам вернымі Госпаду, асабліва зараз, у гэты страшны час. Святыя айцы любілі гаварыць і шмат разоў казалі, што хрысціянін, які захавае вернасць Свайму Госпаду ў гэтыя страшныя апошнія часы, у адпаведнасці з судом праўды Божай, будзе вышэй, чым старажытныя вялікія падзвіжнікі! Будзь верны Богу, і Гасподзь цябе захавае ад усіх бедаў, якія будуць у свеце!

У асобе святіцеля Хрыстова Мікалая мы бачым суцэльнае прыпадабненне Хрысту-Збавіцелю. Звярніце ўвагу, на іконах святіцель Мікалай малюецца з Евангеллем, і гэта сведчыць пра тое, што ён дасягнуў святасці менавіта шляхам выканання евангельскіх запаведзяў. Ён будаваў сваё жыццё ў адпаведнасці з Евангеллем. Менавіта таму яно стала такім выдатным, паўнавартасным і сапраўды хрысціянскім і паказала ўзор таго, якім павінна быць жыццё хрысціяніна. І для нас Святіцель – і правіла, і прыклад.

Будзем маліцца яму, каб ён ніколі не пакідаў нас сваёй прысутнасцю, будзем звяртацца да яго не толькі ў трагічныя моманты нашага жыцця, але і паўсядзённа будзем памятаць пра тое, што

ёсць на нябёсах такі вялікі хадайнік, малітвеннік і заступнік за нас, грэшных. Наш вопыт паказвае, што ён адказвае нават на малазначныя нашы да яго звароты, а таму не будзем саромецца і ўсякі раз, у любой патрэбе будзем звяртацца да святіцеля Мікалая, тым больш, што дзверы нашага сабора заўсёды адчыненыя, і ікона яго перад намі. Святы ойча Мікалай, малі Бога за нас! Святіцель Божы Мікалай, дапамагай усім нам годна выконваць наша хрысціянскае прызначэнне! Амінь.

## ПРОПАВЕДЗЬ У ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ САРАКА МУЧАНІКАЎ СЕВАСЦІЙСКІХ

У імя Айца і Сына і Святога Духа!

З дапамогай Божай мы дажылі да трэцяга тыдню Вялікага посту. Наступная за ім нядзеля называецца Нядзеляй крыжапаклоннай, у якой мы будзем здзяйсняць у Царкве пакланенне Крыжу Хрыстову.

Крыж – гэта вялікая незразумелая для свету таямніца. Таямніца, якую пазналі мучанікі, пазналі прападобныя, пазналі вызнаўцы веры – пазналі ўсе святыя і ведалі нашы набожныя продкі.

Гэту таямніцу пазналі тыя, хто, паводле слова Збавіцеля, адмовіўся ад сябе, узяў крыж свой і пайшоў за Ім. Гэту таямніцу ў далёкім IV стагодзі пазналі сорак мучанікаў Севасційскіх, памяць якіх мы святкуем ў гэты дзень.

Гэта было даўно, у IV стагоддзі. Яны былі воінамі рымскага войска і вызнавалі хрысціянства. Начальнік войска запатрабаваў у іх адрачыся ад Хрыста. Яны адмовіліся, і тады іх распранулі і пагналі ў возера. Стаяла халодная сакавіцкая ноч, возера было пакрыта лёдам, дзьмуў пранізлівы вецер. Для спакусы на беразе была пабудавана лазня. Святыя мучанікі стаялі ў вадзе да самай поўначы, мужна пераносячы пакуты. Толькі адзін з іх не вытрымаў і пабег у лазню, але на парозе яе ўпаў мёртвым.

Тады святло нябеснае заззяла над возерам і на галовы трыццаці дзевяцi мучанікаў апусціліся зіхатлівыя вянцы. Убачыўшы гэта, адзін з вартавых скінуў сваё адзенне і пабег да возера з крыкам "я – хрысціянін!", такім чынам дапоўніўшы лік мучанікаў да сарака.

Вось як бераглі святыя мучанікі сваю веру ў Хрыста: ніщто не магло спыніць іх у руху за Госпадам.

Імёны мноства старажытнахрысціянскіх мучанікаў і вызнаўцаў веры гісторыя не захавала – іх ведае толькі Айцец Нябесны, Які ўзнагародзіў іх подзвігі вянцамі святасці. Блажэнныя жыхары неба, цяпер яны чуюць малітвы хрысціян, якія церпяць жыццёвыя цяжкасці і выпрабаванні, і моляцца за іх перад Прастолам Усявышняга.

Праваслаўную Царкву падвяргалі ганенням і ўціску на працягу многіх стагоддзяў – і арабы, і крыжакі, і манголы, і туркі, і бальшавікі ў Савецкай Расіі.

У любую эпоху "усё, хто жадаў жыць набожна", былі гнаныя ад ворагаў Хрыстовай Царквы, гнаныя ад уладаў, гнаныя ад фальшывых братоў.

Гісторыя нашай Маці-Царквы ведае смерць мітрапаліта Філіпа ад рук ката, мітрапаліта Арсенія (Мацяевіча), якога, пазбавіўшы сану і манаства, замарылі голадам у сырых сутарэннях Рэвельскага замка, смерць ад голаду свяціцеля Гермагена і зняволенне патрыярха Нікана.

У XX стагоддзі эстафету пакутніцкага подзвігу ўспрыняла ад старажытных хрысціян Руская Праваслаўная Царква. Лютасць рымскіх язычнікаў пацьмянела ў параўнанні са злосцю багаборцаў навейшага часу, якія, натхняемыя сатаной, спрабавалі знішчыць хрысціянства катаваннямі і карамі.

Подзвіг, падобны да севастыйскага, у 1919 годзе здзейснілі сорак два рускіх святара, замучаныя катамі ў снягах пад Перм'ю. Там жа прыняў смерць за Госпада свяціцель Феафан Салікамскі. Каты распранулі святога старца і апускалі яго ў палонку, пакуль цела не пакрылася скарынкай лёду. Такім прыкладам смерці нашых мучанікаў няма ліку.

Гісторыя Рускай Праваслаўнай Царквы XX стагоддзя – гэта гісторыя бесперапынных ганенняў: пакаранні 20-х і лагеры 30-х

гадоў, шаленства хрушчоўскай адлігі, здзекі і прыніжэнні наступных дзесяцігоддзяў.

Як і першахрысціянская воіны-мучанікі, тысячы вызнаўцаў веры доблесна прынялі смерць за Хрыста Збавіцеля і ўвайшлі ў Царства Божае. Іх святымі малітвамі выстаяла наша Царква-Маці, якая цяпер узнімаецца з руін.

А што адбывалася ў нас, слабых хрысціян? Мноства вернікаў адракліся ад Хрыста тады, калі ніхто не мучыў іх, нават не пагражаў ніякімі пакутамі. І пабаяўшыся страху там, дзе не было страху, людзі аб'яўлялі сябе няверуючымі.

Сёння нас ніхто не прымушае адракацца ад Хрыста. Мы самі адпадаем ад Бога, трапляючы ў расколы.

Дух Царквы – гэта дух пакоры і змірэння. Узор пакоры – Сам Хрыстос, які нясе на Галгофу Крыж.

Дух расколу – сатанінская гардыня, якая не пераносіць, каб хто-небудзь быў вышэй за яе. Расколы заснаваны на ганарыстасці, на супрацьпастаўленні сябе Царкве. Адна з прычын расколу – абражанае самалюбства. Кожны раскольнік лічыць, што ён несправядліва пакрыўджаны.

Свяціцель Кіпрыян піша: "... свавольны і непакорны розум не мае ў сабе святла, і вераломства, якое сее разлад, не трымаецца адзінства". "Свавольны і непакорны розум" не мае святла, ён заўсёды незадаволены, заўсёды наракае; ён бачыць чужыя няпраўды, шукае чужых грахоў і сілкуецца імі, як магільныя чэрві – гнілыя трупам. Ён не дзякуе Богу, так як увесь свет ўяўляецца яму выставай вырадкаў, паслухмянасць для яго смешная, пакорнасць незразумелая, таму ён не мае спакою і міру той зямлі, на якой растуць кветкі благадаці. Свяціцель Грыгорый Багаслоў піша, што грэшнік хоча, каб яго грахі здаваліся чымсьці Боскім, а «свавольны розум» хоча, каб яго бесперапынныя нараканні і асуджэнне здаваліся барацьбой за праўду.

Ці такімі павінны быць дзеці Царквы, асвячонай крывёю Хрыста і падзвіжнікаў Яго, якія пацярпелі за веру? Мучанікі ў горы, у спакусах, у цяжкіх выпрабаваннях, у страшных пакутах любілі Бога ўсёй душой; спакусы і цяжкія катаванні не маглі адлучыць іх

ад любві Божай, а мы, жывучы ў спакоі і дабрабыце, не любім Бога, Добрага Уладыку, – кажа прападобны Яфрэм Сірын, і яго словы гучаць горкім дакорам нам, сённяшнім хрысціянам.

А вы ведаеце, якія страшныя словы сказаў Гасподзь Ісус Хрыстос пра тых, хто адракаецца ад Яго? Хто пасаромеецца Мяне і Маіх словаў у родзе гэтым распусным і грэшным, таго пасаромеецца і Сын Чалавечы, калі прыйдзе ў славе Айца Свайго са святымі ангеламі (Мк.8:38; Лк.9:26).

Нераскаяны грэх расколу яшчэ страшнейшы за грэх самагубства (самазабойца губіць толькі сябе, а раскольнік – сябе і іншых, таму яго вечная доля цяжэйшая, чым у самазабойцы). Мы, няшчасныя маладушныя, павінны няспынна прыносіць шчырае пакаянне!

Нам трэба часцей успамінаць пра подзвіг хрысціян, якія папярэднічалі нам на шляху за Хрыстом, для таго, каб самім годна і ў сённяшні дзень, і у кожны дзень і гадзіну нашага жыцця праслаўляць Хрыста і хоць бы ў малой ступені спазнаць таямніцу Крыжа Гасподня. Крыжа – пераможцы дыявала, Крыжа – непераможнай сілы, якая пераўзыходзіць усе сілы гэтага свету, тыя сілы, рабамі якіх мы так любім быць, якім мы так любім служыць.

Гледзячы на подзвіг Севасційскіх мучанікаў, на подзвіг усіх прападобных і вызнаўцаў веры, на подзвіг ўсіх праваслаўных хрысціянаў, якія адвеку імкнуліся за Хрыстом, звернемся яшчэ раз да слоў апостала Паўла: «Маючы вакол сябе такое воблака сведкаў, скінем з сябе ўсякі цяжар і грэх і з цярпеннем будзем праходзіць праз поле змагання, якое ляжыць перад намі, гледзячы на Пачынальніка і Спраўцу веры, Ісуса, Які, замест прызначанай Яму радасці, зведаў крыж, пагардзіўшы ганьбаю, і сеў праваруч трона Божага »(Яўр.12: 1-2). Амінь.